**Сяргей Дубавец. МАЙСТРОЎНЯ. Гісторыя аднаго цуду.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012. – 464 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі *Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*
Рэдактар *Вінцук Вячорка*

Сучасныя фотапартрэты майстроўцаў – *Арцём Канцавы*

Усе інтэрвію запісаныя на працягу 2010 году.

Поўныя тэкставыя і гукавыя вэрсіі перадачаў сэрыі «Гісторыя аднаго цуду» на Радыё Свабода ў сеціве гл. тут: http://www.svaboda.org/archive/vostrayabrama/latest/597/621.html

На 1-й старонцы вокладкі выяўлены ініцыял М з выданьняў Францішка Скарыны.
На франтысьпісе выяўлены пробны адбітак мэдаля да Гуканьня Вясны. Яўген Валасевіч, 1983 год.


FOL

ISBN 978-0-929849-45-4



Майстроўня на Гуканьні Вясны ў Заслаўі. 24 красавіка 1982 году. На пярэднім пляне аўтар і Вінцук Вячорка, за імі Хрысьціна Крукоўская, Вераніка Надтачэева, Віялета Ефіменка і ўсе



100-я ўгодкі Івана Луцкевіча ў майстэрні Аляксея Марачкіна і Віктара Маркаўца, вул. Дзімітрова, Менск. 1981 год. Першы супольны сход майстроўцаў і старэйшых адраджэнцаў.
Зьлева направа стаяць: Зянон Пазьняк, Валянцін Собаль, Аляксей Марачкін, аўтар, Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Разанаў, Уладзімер Басалыга, Мікола Купава, Яўген Кулік; сядзяць у сярэднім шэрагу: Віктар Казлоў, Вольга Дзёмкіна, Ірына Марачкіна, Алена Сокалава, Арына Вячорка, Ірына Крук, Зьміцер Санько, Леў Мірачыцкі, Валеры Грыцук; сядзяць у ніжнім  шэрагу: Генадзь Мацур, Вінцук Вячорка, Ігар Марачкін, Фэлікс Янушкевіч, Віктар Маркавец



Гуканьне Вясны ў Заслаўі. 24 красавіка 1982 году. Сьпевы на хорах музэю (б. Кальвінскага збору).
Вінцук Вячорка, Наталя Лазоўская, Галіна Кунцэвіч, Арына Вячорка, Ірына Крук, Ігар Марачкін, Сяржук Сокалаў-Воюш

Прэм'ера народнае драмы «Цар Максімілян» у актавай залі філялягічнага факультэту БДУ. 1981 год.
Сярод гледачоў Васіль Сёмуха, Уладзімер Караткевіч, Генадзь Мацур




Прэм'ерная Афіша «Цара Максіміляна». Алена Каравай, 1981 год

Нататка ў газэце «Літаратура і Мастацтва» 5 чэрвеня 1981 году, першая згадка Майстроўні ў прэсе

Фотарэпартаж агенцтва БЕЛТА ў газэце «Вячэрні Мінск» 20 красавіка 1983 году. Аўтар Яўген Казюля

# СТУДЭНЦКАЯ «МАЙСТРОЎНЯ»

Малады студэнцкі тэатральны калектыў «Беларуская драматычная майстроўня», які год назад створаны на філфаку БДУ, паставіў беларускую народную драму «Цар Максіміліян».

Імкненне самадзейных акцёраў знішчыць бар'ер між сцэнай і залай, непасрэднасць ігры, што ідзе ад народнай традыцыі, — усё гэта захапіла гледачоў. На прэм'еры прысутнічалі пісьменнікі У. Караткевіч, В. Сёмуха, А. Разанаў, тэатразнавец Г. Колас. Пасля спектакля адбылася зацікаўленая гаворка гасцей са студэнтамі.

Фота У. КУПРЭЕВА.



Вінцэнт Вячорка ў ролі Адольфа.







# ПРЫВІТАННЕ, ВЯСНА ЯСНАЯ!

Сплеценая з саломкі птушка — традыцыйны сімвал вясны — стала і сімвалам вялікага веснавога свята, што адбылося ў мінскім парку імя Янкі Купалы. Яго арганізатары і актыўныя ўдзельнікі — члены маладзёжнага клуба «Беларуская майстроўня» Палаца культуры Белсаўпрофа. Сотні мінчан і гасцей горада прыйшлі ў гэты сонечны дзень у парк, каб паслухаць народныя песні, прыняць удзел у карагодах, гульнях і танцах, паглядзець старадаўнія веснавыя абрады.

«— Ах ты, вясна, ты красна,  
А што ж ты нам прынесла?  
— На зямельку травіцу,  
На травіцу расіцу,  
На лясочак лісточак,  
На дзеўчын вяночак...»

НА ЗДЫМКАХ: 1. Выступаюць члены маладзёжнага клуба «Беларуская майстроўня». 2. Веснавым карагодам. 3. Удзельніца свята студэнтка факультэта журналістыкі БДУ Ларыса МАЛАШЭНЯ. 4. Вось гэта краса!

Фота Р. Казюкі (БЕЛТА).





Гуканьне Вясны ў парку Янкі Купалы, Менск. 17 красавіка 1983 году.
Лада Шчасная і Янка Медзьвядзёў

Гуканьне Вясны ў парку Янкі Купалы, Менск. 17 красавіка 1983 году.
Віялета Ефіменка, Люся Капітула, Аліна Садоўская, Вера Лазоўская, Ларыса Малашэня, Наталя Лазоўская, Гэнік Лойка, Вінцук Вячорка, аўтар, Сяргей Мурашка, Сяргей Харэўскі (ззаду, трымае птушку), Яўген Валасевіч, Сяргей Шупа, Сяржук Цімохаў, Янка Медзьвядзёў

Купальле ў Вязынцы. 4 ліпеня 1982 году.
Ірына Крук, Тацяна Гаранская, Яўген Валасевіч, Ігар Марачкін, Сяржук Сокалаў-Воюш, Аліна Садоўская



Гуканьне Вясны ў парку Янкі Купалы, Менск. 17 красавіка 1983 году. Сяржук Цімохаў, аўтар, Яўген Валасевіч, Вінцук Вячорка, Ігар Міклашэвіч, Сяргей Мурашка, Мікола Сасноўскі, Сяргей Шупа, Міхась Талочка, Янка Медзьвядзёў, Гэнік Лойка

Каляды ў Заслаўі. 1981 год. Ірына Крук, Сяргей Запрудзкі, Алена Амельчыц



Трокі. 1980 год. Першая сустрэча будучых майстроўцаў – выпускнікоў мастацкай школы-інтэрнату і студэнтаў БДУ.
Стаяць Янка Медзьвядзёў, Гэнік Лойка, Мікола Купава; сядзяць Галіна Кунцэвіч, Генадзь Сокалаў-Кубай, Сяргей Кныш, Арына Вячорка



Вечарына паэзіі Максіма Багдановіча на журфаку БДУ, сьнежань 1981 году. Сяргей Трусевіч, Віялета Ефіменка, Ларыса Малашэня, Тацяна Сапач, Ігар Гермянчук, аўтар

Нёманскае падарожжа на надзіманым плыце. 5 жніўня 1983 году. Вёска Магільна. Ігар Гермянчук, Алесь Суша, аўтар





Гуканьне Вясны ў Заслаўі. 24 красавіка 1982 году

Каляды ў Заслаўі. 1981 год. Вінцук Вячорка, Алена Амельчыц, аўтар, Віялета Ефіменка, Сяргей Шышпар

Прэм'ера народнае драмы «Цар Максімілян» у актавай залі філялягічнага факультэту БДУ. 1981 год. Кат Брамбэўс (аўтар) адсякае галаву непакорнаму царскаму сыну Адольфу (Вінцук Вячорка)





5 жніўня 1981 г. ● «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА» ● 3

● СВЕТ ЗАХАПЛЕННЯЎ ●

# ПАЧЫНАЕЦЦА НОВАЯ ПЕСНЯ

В. ТРЫГУБОВІЧ.

НА ЗДЫМКУ: Ларыса Сімаковіч (злева) на Купаллі ў Заслаўі.

Фота В. Драчова.

«Голас Радзімы» 11 сакавіка 1982 году. Публікацыя Тацяны Антонавай з фотарэпартажам С. Крыцкага пра Каляды, ладжаныя Майстроўняй у Заслаўі. На загалоўным фота Сяржук Цімохаў у ролі Каляднай Казы, Арына Вячорка, Вінцук Вячорка. Адзін з прамянёў каляднае зоркі бел-чырвона-белы

Артыкул пра Ларысу Сімаковіч у «Чырвонай змене» (5 жніўня 1981 году, аўтарка Валянціна Трыгубовіч). На фота Віктара Драчова з заслаўскага Купальля: Ларыса Сімаковіч, Наталя Лазоўская, Алена Амельчыц, Ірына Крук, Алена Каравай.



Гуканьне Вясны ў Менску. 17 красавіка 1983 году. Майстроўскае шэсьце пераходзіць вуліцу Янкі Купалы. На пярэднім пляне Ігар Міклашэвіч, Сяргей Шупа, Яўген Валасевіч, Вінцук Вячорка, аўтар, Алена Клімовіч, Аліна Садоўская, Віялета Ефіменка, Тацяна Шчасная, Янка Медзьвядзёў, Люся Капітула

# Зьмест

# Аватар М

Майстроўня дала аватар свабоды, які цяпер заўсёды будзе на мапе Беларусі, разам з выспай філяматаў і філярэтаў, вулканам паўстаньня Каліноўскага, морам Нашай Нівы, гарамі БНР, далінамі Грамады і ТБШ, крыніцамі Саюзу беларускіх патрыётаў, садамі мастакоў, музыкаў і паэтаў, якія выраслі ў нежывых, як на Месяцы, пустынях русіфікацыі і дэспатыі ды ператваралі мёртвы ляндшафт у родны кут.

Майстроўня стала аватарам пакаленьня:

М – мова
А – айчына
Й – вырай
С – сьвята
Т – талака
Р – цьвёрдасьць
О – націск
Ў – адметнасьць
Н – наша
Я – мы

Майстроўня была аватарам, увасабленьнем на зямлі звычайнага цуду.

А рэшта – проста гісторыя.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# Прадмова

Гэтая гісторыя пачалася на Каляды напрыканцы 1980-га. Так безнадзейна пуста было на Цэнтральнай плошчы ў Менску, так халодна й цёмна, што раптоўны натоўп калядоўнікаў, які ўваліўся ў гэтую халодную цёмную пустату, выглядаў ці то дурным жартам, бо тады не жартавалі, ці то збоем у адзінстве часу й месца, ці то праўдзівым цудам. Беларуская ідэя, якую доўгія дзесяцігодзьдзі сапраўдныя патрыёты захоўвалі й сьпелілі ў падпольлі ды ва ўласнай душы, вырвалася на прастору жыцьця, каб захопліваць усё новых прыхільнікаў, аж пакуль іх не набярэцца досыць, каб у Беларусі сталася Беларусь.

Магчыма, гэта была маленькая рэвалюцыя, бо датуль нічога падобнага не здаралася. Але ў той рэвалюцыі не было ані наўпраставага пратэсту, ані супрацьстаяньня, ані разбурэньня. Было менавіта нараджэньне – станоўчае, заўзятае і не зусім усьвядомленае. Бо студэнты зь Беларускай Майстроўні, што выйшлі на Цэнтральную плошчу ў Менску, і не маглі да канца ўсьведамляць, ува што ўрэшце выльецца іхны чын. Эўфарыя перапаўняла іх сэрцы.

Магчыма, гэта была кандэнсацыя высілкаў папярэдніх пакаленьняў, калі зь іхных мрояў, пакут і працы сабралася першая кропля, што зараз ператворыцца ў ручаіну, а ўрэшце – у паўнаводную раку. Падпольнае існаваньне нацыянальнай ідэі – фрагмэнтарнае, асяродкі ўзьнікаюць і зьнікаюць, нараджаюцца і занепадаюць або зьнішчаюцца ўладамі. А варта ідэі выйсьці з падпольля, як яна

пачынае «авалодваць масамі» і ператвараецца ў «матэрыяльную сілу».
Так ці інакш, Майстроўня стала першай грамадзкай арганізацыяй, а беларушчына разам з Майстроўняю – грамадзкай зьявай, ужо не элітарнай і не дысыдэнцкай, а адкрытай для ўсіх «людзей з вуліцы».
Гэтую гісторыю я хацеў назваць апокрыфам. Але ж і кананічнага расповеду пра той цуд на Каляды не існуе. Ніякай афіцыйнай вэрсіі папросту няма. Як няма ў нас увогуле афіцыйнай вэрсіі нараджэньня новае незалежнае Беларусі, быццам і насамрэч яна ўпала аднекуль зь неба. Быццам датуль ніхто пра яе ня мроіў, ніхто яе не набліжаў, ніхто не прысьвяціў ёй свайго жыцьця, а ўсё адбылося неяк само сабой, амаль выпадкова, «у выніку распаду СССР».

## ШТО ВЫ РАБІЛІ НАПАЧАТКУ 1980-х?

Сапраўды, для многіх яно так і выглядае. І сярод гэтых многіх – сёньняшнія правіцелі Беларусі. А спытайцеся ў іх – што яны рабілі тады, напачатку 1980-х, калі ніякай незалежнай краіны яшчэ не было? Ці марылі яны пра яе, ці нешта рабілі для таго, каб яна такой стала, ці спрыялі тым, хто набліжаў яе нараджэньне? У большасьці выпадкаў адказ будзе – не. Як правіла, усё магчымае рабілі наадварот, каб яе не было. І толькі пасьля, калі гісторыя павярнулася іначай, ухапілі яе, пачалі славіць і самабытнасьць яе, і незалежнасьць, так і не зразумеўшы толкам, што гэта чыясьці мроеная і ўсяго жыцьця вартая Бацькаўшчына, а ня проста «кусок зямлі».

Зрэшты, у гэтай кнігі няма задачы некага дакараць ці з кімсьці змагацца. Задача большая – сабраць сьведчаньні.
Зразумела, што аўтарытарная сыстэма паралізуе волю людзей да ўдзелу ў тварэньні гісторыі. Але самая вялікая небясьпека для краіны і нацыі – менавіта ў адсутнасьці гісторыі, заплечча, агульнага разуменьня таго, адкуль мы прыйшлі, адкуль наша незалежнасьць і адкуль узяўся гэты самы аўтарытарызм.
Вось чаму я паклікаў вас у халодную цёмную пустату менскай Цэнтральнай плошчы на Каляды 1980 году, дзе адбыўся цуд – выхад беларускай ідэі з інтэлігенцкіх кабінэтаў і майстэрняў на вуліцу.
Хто памятае, гэта быў беспрасьветны час брэжнеўскага застою. І нават самых заўзятых беларускіх патрыётаў не-не дый наведвала думка пра тое, што будучыні няма, настолькі ўсё схопленае цэмэнтам русіфікацыі, настолькі безаблічнае вакол насельніцтва і настолькі далёкае ад беларушчыны расьце маладое пакаленьне, што ўся надзея хіба што на цуд. Настрой быў як у Караткевіча ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Роспач абуджала фантазію пісьменьніка. Роспач пустаты і адсутнасьці пераемнікаў. І чым цямнейшая была пустата, тым большая была роспач і тым буйнейшая была фантазія пра цуд і цудоўную перамену, пра збаўцу, ажно пра Хрыста, які прызямліцца ў Гародні:
«І ад жаху, голаду, сечаў і знакаў нябесных зразумела было: наступаюць апошнія часіны, сьмерць лютая людзтву і выміраньне. Тыя часіны, калі, можа, ня толькі на развод людзей не застанецца, але і аднаго, каб плакаць над трупамі. Тыя, калі застаецца толькі і спадзявацца, што на вышэйшы розум».

## МАЙСТРОЎНЯ, ЯКАЯ ЎЗЬНІКЛА «З ПАВЕТРА»

Падобны настрой перажывалі тады многія творцы. І насуперак гэтаму працягвалі свой чын. Быццам думалі: што ж, калі толькі цуд можа зьмяніць сытуацыю, трэба рабіць цуд. І з патроеным натхненьнем пісалі свае карціны й раманы. Акурат на пачатак 1980 году прыпадае неверагодная па тым часе мастацкая выстава да юбілею Міколы Гусоўскага, якую Аляксей Марачкін назваў пераломнай. А ў кастрычніку таго ж году загінуў у аўтакатастрофе Машэраў, што кіраваў савецкай рэспублікай 15 гадоў. Магчыма, і ў гэтым здарэньні быў нейкі знак пераменаў?

Тым сьнежным кастрычніцкім днём я даслужваў сваё савецкае войска і стаяў у ачапленьні вакол Дому ўраду, куды людзі цягнуліся да труны незразумелага куміра, і ніякіх пераменаў не прадчуваў. Тады мы й блізка не спадзяваліся на нейкія перамены, што адбудуцца аб'ектыўна й рацыянальна. А ўсякі спадзеў зьвязвалі толькі з сабою. Што, зрэшты, характэрна для юначае філязофіі ўвогуле.

Такім чынам, гаворка пойдзе пра цуд нараджэньня, пра Беларускую Майстроўню, пра тое, як яна ўзьнікла, нібыта з паветра, і як пасьля, быццам вусьце, падзялілася на мноства іншых ручаінаў і ўрэшце ператварылася ў цэлы нацыянальны рух.

За тры дзясяткі гадоў склалася традыцыя пачынаць расповеды пра яе так. Жылі сабе на філфаку БДУ студэнты Вінцук Вячорка і ягоныя сябры. І сустрэлі яны аднойчы Ларысу Сімаковіч, маладую кампазытарку, і пачалі сьпяваць абрадавыя песьні ў ейнай апрацоўцы. І з гэтымі песьнямі пайшлі на вуліцу. Да іх далучыліся студэнты-мастакі з Тэатральна-мастацкага інстытуту, а потым і зь

іншых навучальных установаў далучацца сталі. Упершыню ў Беларусі на гарадзкі брук прыйшлі Каляды, Гуканьне Вясны, Купальле. І ладзіліся яны самахоць, без афіцыйнага кіраўніцтва. Паміж сьпевамі майстроўцы гралі народную драму «Цар Максімілян», а яшчэ лекцыі ўсякія арганізоўвалі з гісторыі і культуры, на раскопкі археалягічныя выбіраліся і проста ў вандроўкі па родным краі, а тады ў розных іншых установах пачалі выступаць, а тады па кватэрах сталі хадзіць і бацькоў агітаваць, каб аддавалі дзяцей у беларускія садкі ды школы... А пакуль яны ўсё гэта рабілі, стала іх ужо ня пяцьдзесяць чалавек, а пяцьдзясят, а як на сьвяты дык і сотні зьбіраліся.

Усё ў гэтай гісторыі праўда. Але гісторыя была б няпоўная, калі б мы не ўлічылі, што гэта была гісторыя нараджэньня цуду, а ня проста нейкай там суполкі ці арганізацыі. Дык вось. Рэч у тым, што Вінцук зь сябрамі стаў правадніком таго агульнага зрушэньня, якое ў той час няяўна адбывалася ў паветры і ў душах па ўсёй Беларусі. Акурат у пачатку 1980-х у розных гарадах зарадзілася ідэя сваіх майстроўняў, дзе таксама браліся за тое, каб выходзіць зь беларушчынай на вуліцы.

Інакш кажучы, калі б так склалася і не нарадзілася Майстроўня на філфаку, дык яна ўсё адно нарадзілася б у іншым месцы. Сам час яе клікаў, і яна прыйшла.

# Гэнік Лойка



*Аднак пачну я нашую гісторыю не зь філфаку, а з мастакоўскага асяродку, дзе ўзьнікненьне маладзёвага руху, сьвядома ці не зусім, але рыхтавалася папярэднікамі.*
*Гэнік Лойка сёньня – знаны скульптар. Напэўна ж вы чулі пра ягоныя Легенды зь пяску, калі Гэнік «адкопваў» велізарныя постаці легендарных герояў беларускай гісторыі...*
*Для Гэніка нашая гісторыя бярэ пачатак у мастацкай школе, у «Парнаце», афіцыйна – Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве.*

**Лойка**: Быў такі настаўнік Генадзь Сокалаў-Кубай. Тры гады працаваў у нас у школе, пасьля яго турнулі. Пачаў з таго, што на дошцы напісаў:

якія асацыяцыі выклікаюць у вас вось гэтыя даты. Напішэце на паперцы. А мы... «Ну, это что-то связано с Петром Первым...» А там – нашыя даты. Ён кажа: бачыце, вы нічога ня ведаеце. І пачалося. І ён з намі так працаваў, што калі з тых курсаў выйшла па два-тры чалавекі нацыяналістаў, дык у нас так даво-о-олі загаварылі па-беларуску.

## ТАЯМНІЦА СОКАЛАВА-КУБАЯ

*Важная дэталь, якая мае непасрэднае дачыненьне да цуду: са словаў Гэніка вынікае, што ані да іхнага курсу, ані пасьля выхаваўчы ўплыў Сокалава-Кубая не даваў такога плёну.*

**Лойка:** Вось што цікава. Сокалаў-Кубай нас выпусьціў і ганарыўся тым, што гэтулькі выпусьціў. Пасьля ён у «кульку» працаваў. Там ужо студэнты, здавалася б, можна казаць такія рэчы – шчыра, сур'ёзна, глыбока… Ажно не, у яго ўжо болей там не выходзіла. Пытаюся: ну як вы тут, можаце навучыць? Не, ужо не паддаюцца. Гэта нейкія хвалі ці што... Такі час. Проста людзі нараджаюцца зь нейкай формай, у гэтую форму ўкладваецца нацыяналізм – і пайшло. А ў іншых можа такой формы проста няма. І колькі ні ўкладвай, так і не загарацца.

*А як яшчэ, калі не праз форму, скульптар растлумачыць тое, што робіцца ў сьвядомасьці чалавека... Між тым на старэйшых выхаванцаў Сокалава-Кубая Гэнік пазіраў з зайздрасьцю, там была нейкая таямніца.*

**Лойка:** Мы ўжо тады чулі: у гэтых хлопцах нешта асядае, і яны ўжо нешта даказваюць... І да нас дайшло, і мы на ўроку дырэктара, на гісторыі

таксама нешта – пырсь-пырсь, эмоцыі, аргумэнтаў няма. Дырэктар зразумеў, што нехта тут ваду муціць, знайшоў і турнуў гэтага чалавека. Але мы ўжо навучыліся. Мы ведалі кожную харугву з тых, што былі ў Грунвальдзкай бітве. Што я загаварыў па-беларуску, гэта натуральна, я зь вёскі. Костка Алесь гарадзкі хлопец, але з рабочага раёну, з Чыжоўкі. Дзіўна, што перайшоў на гэта Кныш Сяргей. Ён мянчук і такі інтэлігент увесь... Коршун Сяргей. У клясе гэта быў самы дужы хлопец і самы аўтарытэтны. Радзівонаў Андрэй. Медзьвядзёў, таксама хлопец зь вёскі. І дзяўчаты. Мая жонка, Алена Каравай. Калі быў апошні іспыт па беларускай літаратуры, мы вырашылі – давай будзем гаварыць па-беларуску, і сталі гаварыць.

Іспыт быў у жніўні, цэлае лета было на падрыхтоўку. І Сокалаў-Кубай нас завёз у Вільню. Паехалі Галька Кунцэвіч, Яўген Валасевіч, Таццяна Храмянкова, Козік каторая. Рыта Рыбачок – набралася нацыяналізму ў Львове.

Было сьвята песьні. Ходзім на гэтае сьвята. Сокалаў-Кубай кажа: зараз вас пазнаёмлю, тут студэнты таксама прыехалі зь Беларусі. Студэнта завуць Вінцук Вячорка. А для мяне Вінцук як званочак зьвініць, такое прыгожае імя. Я пасьля пытаюся ў мамы: «А ці ведаеце вы імя Вінцук, ці было такое ў нашай мясцовасьці?» – «Ой, гэта задрыпаны дзед вунь там на хутары жыў, такое імя гадкае!»... Карацей, пазнаёміў нас з гэтым хлопцам, ён з жонкаю быў, з Арынай.

І памятаю: стаім на мосьце, я сабе наляпіў чырвоную Пагоню на белую майку. Мне кажуць – ня трэба. Але я ўжо ведаў пра Пагоню і з Пагоняй ішоў.

## ДАВАЙЦЕ НЕШТА РАБІЦЬ!

Паступілі мы ў інстытут. На «бульбе» падыходзіць Ігар Марачкін (а на «бульбе» чуваць, дзе мова, хто гаворыць) і кажа, што трэба неяк зьбірацца ўсім нам, трымацца адным кулаком. Калі прыехалі вучыцца, сабраліся. Цяпер як падумаеш – неверагодна, каб сабраліся студэнты дзеля нейкай ідэі... Гэта ж ня піва піць.

Гена Мацур сядзіць, Сяргей Цімохаў, Рыгор Сітніца. Мацур і Цімохаў на курс старэйшыя за нас, Сітніца яшчэ старэйшы. Рыгор Панцялееў. Мацур так акуратна гаворыць, з паперкай, там нейкія плянчыкі. А я – першы курс... Гэта ж трапляеш у дарослае жыцьцё!..

Прыйшлі госьці. Вінцук Вячорка і яшчэ нейкі высокі хлопец – Сяргей Запрудзкі. Мы вырашылі рабіць насьценгазэту, а Вінцук кажа: давайце разам нешта рабіць. У нас на філфаку ёсьць сьпеўкі. Будзем Каляды сьпяваць, народныя песьні адраджаць. Прыходзьце на філфак.

Прыходзім. Заходзім у аўдыторыю, а там стаіць Ларыса Сімаковіч. Дык яна ж вучылася ў нас! Знаёмыя людзі. Нейкі патлаты з жоўтымі валасамі – Сокалаў-Воюш – у кажуху сядзіць. Ларыса кажа: давайце сьпяваць. Выцягнула з нас першыя ноткі, і панеслася далей, і пакацілася. Гэта былі першыя сьпеўкі.

*І гэта быў самы-самы пачатак таго нефармальнага маладзёвага руху, які потым разрасьцецца ў многія суполкі па ўсёй краіне. Але ў той дзень, пра які гаворка, адбылося нешта беспрэцэдэнтнае. І таму, відаць, магчымае. Бо як да гэтага ставіцца, яшчэ ня ведалі ні ідэалягічныя, ні адміністрацый-*



Гуканьне Вясны ў Заслаўі. 24 красавіка 1982 году. Гэнік Лойка з Аленай Амельчыц у цэнтры, за ім відаць Андрэй Радзівонаў і Андрэй Ясінскі

*ныя, ні рэпрэсіўныя органы. Студэнты сабраліся сьпяваць...*

**Лойка:** Там на філфаку былі тры Сяргеі, Вінцук. Вакол іх зьбіраюцца іхныя аднакурсьнікі: Ірына Крук, Алена, Вераніка – гэта ўсё філфак. Пасьля Дубавец прыцягнуў Віялету Ефіменку, за ёй, напэўна, Сапач пацягнулася, там Суша зьявіўся. Так вось набіраліся.

## ЯК ПАЎСТАВАЛА МАЙСТРОЎНЯ

Калі цяпер глянуць, дык сапраўды дзіўна – як гэта студэнты самі сабраліся, самі зарганізаваліся, і «дарослага» няма нікога. Хаця Люся Капітула мне казала: ты глядзі, вамі кіруюць, будзь асьцярожны! Хто кіруе? Недзе ёсьць мастакі, Марачкін, Купава, запрашаюць нас паўдзельнічаць у выставах... Але як гэта «кіруюць»? Мы самі тут кіруемся.

Ірына Крук мела сяброўак – Вэрцю Лазоўскую (яна і сваю сястру прывяла) і Капітулу Люсю. Вэрця пасьля прывяла і сваіх архітэктарак. Мы, мастакі, хадзілі да архітэктараў, дапамагалі ім дыплёмы рабіць. Журналісты... Два фізыкі прыйшлі – Ігар Міклашэвіч і Сяргей Санько. А там была хваля «французаў» з «заммоваў»... Юля Лыскова ў палітэхнічным вучылася. Як яна прыйшла да нас? Напэўна, праз Садоўскага... Ці яшчэ раней?.. Віялета, Вэрця, Наталя, Юля – гэта касьцяк тых сьпевак. І ўтварыліся такія цёплыя дачыненьні, што без Майстроўні ўжо жыць немагчыма...

*На свае гады Гэнік зусім не выглядае, быццам застаўся такім самым хлапчуком, якога запомнілі майстроўцы.*

**Лойка:** Усе кажуць, што я вельмі добра захаваўся і што выглядаю на 18 гадоў. І я тут жа расказваю дзяўчатам рэцэпт маладосьці: у 18 гадоў я перайшоў на беларускую мову. Так што не губляйце часу...

## «ОЙ, ТАКІ ЎЖО БЕЛАРУС»

У мяне два разы быў пераход на іншую мову. Першы раз я прыехаў дадому ў вёску ўвесь рюскі... Сьмяюцца зь мяне. А я зь іх сьмяюся. Усё нармальна. А тут ужо прыяжджаю і па-беларуску гавару. Зноў сьмех: ой, такі ўжо беларус. Відавочна, такая беларуская мова не арганічная для вёскі. Ясна, гэта інтэлігенцкая мова, тут немагчыма гаварыць толькі сялянскімі словамі, патрабуецца большы лексыкон, і яна становіцца літаратурнай мовай. І ўжо гаворыш у вёсцы на літаратурнай мове.

Мае бацькі нармальна ўспрымалі. Хаця вось дзед, дапусьцім, ён зьбіраў песьні ў свой час, сшыткі

пісаў, нейкія кніжкі чытаў... Баба папаліла, бо гэта «чорныя» кнігі... Баялася, напэўна, бальшавікоў. Але ён такім займаўся, і ўсё было польскае. Вось ён лічыць сябе палякам, а я прыяжджаю зь беларускай мовай. І вось мы робім вулей разам, пчол даглядаем, і ўжо калі я яму раскажу баляду Міцкевіча «Сьвіцязянка» ўсю на польскай мове, яму так добра, ён мяне прыняў як свайго. Таму што я ведаю і польскую мову.

А з бацькамі канфлікту не было. Бацька, праўда, казаў, што я... у пашпарце ж напісаны ўсе – палякі, бо каталікі... казаў, я не дазволю табе перапісвацца беларусам у пашпарце... Хаця ў іх той польскасьці... Часам прасьпяваюць «ешчэ Польска не згінэла», «пся крэў», і на гэтым усё.

Мама памятае вершыкі па-беларуску, у школе вучыла, ну там чатыры клясы з горам папалам прайшла, і памятае вершыкі. А гэта, аказваецца, вершыкі Багушэвіча. І настаўнік быў, ён казаў: называйце мяне настаўнік, вучыў па-беларуску. Так што мы і бацькам ня верылі, спрачаліся з бацькамі.

## Я – ГЭНІК ЛОЙКА. ГЕНІК – ТАКОГА ІМЯ НЯМА

Я Гэнік Лойка. У нас такое імя ёсьць. Гэнік, Гэнюсь, у суседняй вёсцы ёсьць Ґенюсь. А Генік – няма такога імя. Мама кажа, што каб Гэнікам называцца, трэба было б, мабыць, Гэндрыкам запісацца ў пашпарце. Але ж там у тыя часы ніхто пра гэта ня думаў. Напісалі так, як сказалі запісаць. Так што мяне завуць Гэнік Лойка, маю 47 гадоў, родам зь вёскі Мікелеўшчына, Мастоўскі раён, жыву ў Менску. Нарадзіў траіх дзяцей.

*Пасьля таго як Майстроўня падзялілася на мноства новых суполак, Гэнік працягваў удзел у менскай «Талацэ». З 2000-га году стаў вядомы пленэрамі гіганцкіх скульптураў зь пяску пад бела-жоўта-белым сьцягам. На пытаньне пра самыя яскравыя падзеі жыцьця Гэнік задумляецца ненадоўга.*

**Лойка:** Напэўна, Майстроўня. Яна задала тон гэты – нацыяналізм... Усё абсыпалася, а нацыяналізм застаўся назаўсёды. Мне здаецца, што Майстроўня – гэта ўсё ж такі пачатак.

# Вераніка Курцова (Надтачэева)



*Уявіць Майстроўню безь Веранікі немагчыма. Зрэшты, як і бяз кожнага з тых, што ў 1980-м запалілі калядную зорку. Кожны быў адметны вобразам і характарам. І паходжаньнем.*

**АДРАДЖЭНЬНЕ БАБУЛЯЎ І ЎНУКАЎ**

*Ад каго ў сваім родзе кожны з нас пераймаў захопленасьць беларушчынай? Як правіла, не ад бацькоў. Бацькі – занятыя людзі, яны бачылі нас толькі й выключна ў сацыяльнай пэрспэктыве. Таму ў майстроўцаў на глебе беларушчыны з бацькамі здараліся канфлікты.*

*Найчасьцей цуд беларушчыны даставаўся ад бабуляў, якія не выракаліся сваёй вясковай культуры і бачылі нас, унукаў, у пэрспэктыве вечнасьці.*

*Яшчэ жывая была беларуская вёска, дзе захаваль-*

*ніцамі традыцыі, культуры і мовы былі перадусім жанчыны. Нашыя вясковыя бабулі распавядалі нам фантастычныя казкі, так блізкія нашай прыглушанай генэтычнай памяці, што ўсё пераварочвалася ў дзіцячай душы і дзіця пачынала шукаць сваю чалавечую тоеснасьць у горадзе. А яе там не было...*

## З КОЖНЫМ ЗДАРЫЛАСЯ СВАЁ

*Яшчэ да таго як мы сабраліся ў Майстроўню, нешта здарылася з кожным з нас, у кожнага сваё.*

*Увосені 1978 году мне прыйшла позва з ваенкамату. А літаральна за тыдзень да таго, як зьявіцца на зборны пункт, я ўзяў магнітафон з фотаапаратам і паехаў у Мазырскі раён, трыста кілямэтраў ад Менску. Там у вёсцы Мялешкавічы жыла мая бабуля Хвядора.*

*Тады я сабе самому ня змог бы патлумачыць, што раблю і навошта. Ці то канец сьвету мусіў наступіць разам з прызывам, ці то нейкі канец мяне самога, ранейшага. Я быццам хапаўся за ўласную тоеснасьць, баючыся ў жыцьцёвых пераменах згубіць яе назаўсёды.*

*Бабуля паклікала суседак, і яны сьпявалі ўвесь вечар і яшчэ паўночы. Назаўтра я вярнуўся ў Менск з запісамі й здымкамі. І з упэўненасьцю, што цяпер сьвет не перакуліцца.*

*А бабулі, як наўмысна, цераз адну сьпявалі старыя рэкруцкія песьні, нібы падкрэсьліваючы маштаб магчымых пераменаў, бо ў іх фігураваў тэрмін ня два гады вайсковай службы, а ўсе дваццаць пяць.*

*А праз два гады тыя песьні ведала й сьпявала ўжо ўся Майстроўня.*

*Як гэтая перадача адбываецца сёньня, калі амаль няма ўжо традыцыйнае вёскі? У гарадзкіх бела-*

*рушчына перадаецца ўнукам тады, калі найперш перадаецца дзецям. А для гэтага бацькі павінны бачыць сваіх дзяцей у пэрспэктыве вечнасьці. Інакш кажучы, бацькі мусяць браць на сябе таксама й функцыі колішніх бабуляў, выступаючы захавальнікамі традыцыі, культуры й мовы.*

*Былым майстроўцам у гэтым сэнсе прасьцей, бо ім удалося збудаваць свой мост ад казачнае вёскі да цяперашняе гарадзкое рэальнасьці. Але пераход у кожнага майстроўца адбываўся па-свойму.*

*Зусім нетыповая гісторыя і ў Веранікі, цяпер Курцовай, а тады Надтачэевай. Сёньня Вераніка вывучае беларускія дыялекты, яна вядучы навуковы супрацоўнік у Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук. Таму і пра вёску свайго паходжаньня Залесьсе кажа найперш як спэцыяліст.*

**Вераніка:** Гэта Чачэрскі раён Гомельскай вобласьці, унікальны край, і я магу сказаць дакладна, што гэта найстаражытнейшы па сваіх моўных асаблівасьцях рэгіён Беларусі.

*Замуж Вераніка выходзіла ў роднай вёсцы. І запрасіла на вясельле Майстроўню. Мы прыехалі з рашучым намерам зьдзівіць вяскоўцаў сваёй сьпеўнай праграмай. Але выпала нам перажыць і вялікае расчараваньне і яшчэ большае захапленьне. Бо калі вясковыя жанчыны пачалі сьпяваць, майстроўцы парабілі круглыя вочы – нас не чуваць! Мы штосілы пяём, а выглядае, быццам толькі раты разяваем. Гэткая роўная й моцная была гукавая плынь і такая суладнасьць у шматгалосьсі, што ўражаньне засталося на ўсё жыцьцё.*

**Вераніка:** Частка майго жыцьця прайшла не ў Беларусі. Але там было беларускае асяродзьдзе й маўленьне. Сваякі па бацькавай лініі займаліся

навукаю ў Маскве, і дух нацыянальны яны захоўвалі.

## ЛЕГЕНДЫ ВЕРАНІЧЫНАГА РОДУ

Па бацькавай лініі ягоныя пра-пра- былі вельмі таленавітыя. Яны вучыліся ў Рагачоўскай гімназіі. Тады ўжо Беларусь была далучаная да Расеі. Нехта зь вялікага начальства прыяжджаў, і гэтых дзяцей, як шэдэўр мясцовы, высьвецілі: паглядзіце, тут такі патэнцыял, такая пэрспэктыва... Дзяцей забралі ў Маскву. І яны на дзяржаўны кошт бліскуча скончылі Маскоўскі ўнівэрсытэт.

Але сувязі з родным краем не губляліся. На свае грошы мой прадзед Крупенькін трымаў мясцовую школу. І ў школе быў музэй традыцыйнага мастацтва. Вяскоўцы мне з гонарам гаварылі пра тыя часы: «А ты знаеш, вось каб дзедаву школу не спалілі, ведаеш, што там было б!..» А спалілі школу тыя, чые дзеці вучыліся ў гэтай школе. Я так разумею, гэта быў мясцовы люмпэн…

Другая легенда, зьвязаная зь нашым родам па бацькавай лініі – што былі яны эталённа прыгожыя мужчыны: як кажуць, вось гэта беларус! Мне і жанчыны і мужчыны гаварылі: о, каб ты бачыла свайго прадзеда!

Я вельмі рана пачала чытаць. Асабліва любіла Паўстоўскага. І мяне ўразілі словы, што чалавек, які ня ведае роднай мовы, – дзікун, ён злачынны ў сваёй сутнасьці. Яго ў прынцыпе не цікавіць ні мінулае, ні сучаснасьць, ні будучыня...

Праблема беларускай мовы ўвесь час падымалася ў дзедавай сям'і. Дзед як бы падштурхоўваў, паступова вёў да беларускасьці, казаў: я так марыў

пра сваю школу, дзе ўсё навучаньне было б па-беларуску. Ты чула, як там людзі размаўляюць?

...І я ўвесь час задумлялася – як так можа быць, што чалавек дзікун з-за таго, што ён ня ведае роднай мовы? А тут жа вакол не было ніякага беларускага асяродзьдзя...

*Фантастычныя Веранічыны дзяды, але ня менш фантастычныя й бабулі.*

**Вераніка:** Бабулька па матчынай лініі... чым яна мяне ўражвала – яна падрабляла чалавечыя галасы! Пачынала гаварыць, і рэгістар быў галасоў пятнаццаць. Я слухала і кажу: давай, давай, перадай, як той... І яна магла ня проста перадаваць чалавечы голас, але й калі сьпявала, захоўвала інтанацыю. Па радыё сьпявала Валянціна Пархоменка, а гэта наша сваячка па бабульчынай лініі. І бабуля слухала й казала: ай Валя, ай мая дзяўчынка, ды ты ж ня так узяла... І пачынала выпраўляць.

Гэта бабуля Тацянка. А яе сваячка і блізкая сяброўка – бабуля Сафея – звалася ведзьмай. Яна магла зачараваць. Расказвалі мне такое дзіва: аднойчы ў Купальскую ноч яна пайшла на поле і зрабіла завой. Чалавек ня можа завой разьвязаць. Нейкая пошасьць найдзе на ваш род. І вось прыйшла бабуля Сафея на поле і ператварылася ў сьвіньню. Я кажу – дзе доказ? Бачылі, таму што яна хадзіла на капытах. Ці іншае. Нібыта спаймалі яе за валасы, як русалку, і адрэзалі валасы. І потым яна аніколі не здымала з галавы чэпчык. Паколькі яна валодала чараўніцтвам, яе хацелі пакараць...

Бабулькі Сафеі няма ўжо. Яе аблічча ў традыцыйнай вопратцы зьмешчана ў кнізе «Беларускае народнае адзеньне» Міхася Раманюка.

## ВЕРАНІЧЫНА МАЙСТРОЎНЯ

*Шлях Веранікі да Менску і да філялягічнага факультэту выглядае так.*

**Вераніка:** Я нарадзілася ў вёсцы, але жыла там мала. Вярнулася, пераехала ў Гомель, там вучылася ў пэдагагічным вучылішчы, а потым паехала ў Менск.

*А вось як пачыналася Веранічына Майстроўня.*

**Вераніка:** Гэта быў спантанны эмацыйны ўсплёск. Я шчыра не магу сказаць, што была нейкая перадумова, каб мы сабраліся. Ну не было. І вось мы ўсе разам неяк аказаліся ў гурце, і быў Вінцук Вячорка. Ён быў лідэрам прыродным і інтэлектуальным. І прысутнасьць Вінцука спрыяла таму, што мы аб'ядналіся.

Я была праз увесь час у Майстроўні, пакуль мы вучыліся.

*Пытаньне «Чым вы займаліся ў Майстроўні?» выклікае ў Веранікі непадробнае зьдзіўленьне.*

**Вераніка:** Як гэта чым? Мы займаліся ўсім тым, што адпавядала духу Майстроўні. У аснове – «майстрыць» – гэта ствараць. То гэтым мы й займаліся. Займаліся сьпеўкамі, а калі называць глыбінна, займаліся абуджэньнем нацыянальнага духу і вяртаньнем да сваіх каранёў. Каб ладзіць сьвяты, рабіць Каляды, трэба было мець мужнасьць. Якія гэта былі часы, скажыце, калі ласка?! 1990-я? Не. І хоць быў невялікі ўзрух пасьля адлігі 1960-х, але не такі, каб ты быў абсалютна свабодны ў сваім дзеяньні. Хочаш ня хочаш, а ідэалёгія сябе ўвасабляла праз адпаведную сыстэму.

*Майстроўскі цуд Вераніка тлумачыць проста: у Майстроўні было адчуваньне свабоды.*



Каляды ў Заслаўі, 1982 год. Вера Лазоўская, Вераніка Надтачэева і Алена Амельчыц

**Вераніка:** Ты адчуваў, што займаесься нечым асаблівым. Ты мог гаварыць па-беларуску і не адчуваць сябе белай воронай. Мог павярнуцца і з гонарам сказаць: ну што, зайздросьціце? Далучайцеся! Калі, напрыклад, ішлі абра́зы, я вельмі спакойна казала: я бачу, што я вам падабаюся. І людзей гэта шакавала. Мала таго што па-беларуску, вуха рэжа, а тут – давайце пазнаёмімся!.. Усякае напружаньне здымалася.

*Пра тое, што Вераніка, як, зрэшты, і іншыя майстроўцы, здолела выбудаваць для беларушчыны мост ад прадзядоў-бабуляў зь іхнае традыцыйнае вёскі ў сёньняшні ўнівэрсалізаваны горад, сьведчыць*

*і ўдзел у падзеях Плошчы 2006 году, калі Вераніка ў апошні момант вывела сваю сям'ю з амонаўскай аблогі.*

**Вераніка:** Я пытаю ў сына: сынку, давай сёньня ня пойдзем. – Мама! Ты ж вучыла, што лёс Беларусі ў нашых руках, як гэта мы ня пойдзем?! Уся сям'я пайшла. Мы ўкалелі ўшчэнт, і я кажу: давайце сыдзем... Я да амонаўца: «Ох-ох-ох! Міленькі, дай я пайду!..» І мы ўсе высьлізнулі. Усё было падрыхтавана, каб зьнішчыць, стаптаць, размазаць... Але мы ўсе дні былі разам на Плошчы, і гэта было нармальна. Я не магла кінуць сваіх дзяцей. Ну як? Калі я іх вучыла – і я скажу: ай, дзеткі?.. Гэта нонсэнс.

# Зьміцер Колас



*Нашаніўцы пачатку дваццатага стагодзьдзя адчувалі за плячыма катастрофу трох антырасейскіх паўстаньняў. У нас за сьпінаю была катастрофа сталіншчыны й мінулае вайны. Перад сабой яны бачылі поле татальнае русіфікацыі, і помста, што перапаўняла іхныя маладыя сэрцы, гатовая была стаць галоўным матывам іхнага чыну. Тое самае напрыканцы 1970-х у сваім татальна русіфікаваным полі ўяўлялася пра сябе й нам. Эпоха завяршалася чарговаю катастрофаю – у гарадах Беларусі не засталося ніводнае беларускае школы, улада варожа ставілася да любых праяваў грамадзянскае пазыцыі, а над усім і ўсімі вісеў дамоклаў меч КГБ.*

*Падпольны складнік увесь час спадарожыў легальнаму існаваньню Майстроўні. Але пераважна гэта былі нарады вузкага кола пра тое, як унікаць кантролю з боку ўладаў і КГБ, а найперш – як заваёўваць новых прыхільнікаў. Ідэя нелегальнага друку пасьля машынапіснага «Люстра Дзён» 1979–1980 гадоў была пакуль адкладзеная. І калі ў 1982-м Зьміцер Колас паехаў у Вільню, каб сустрэцца з аднакурсьнікам, які вяртаўся ў Парыж, а значыць, можна было нешта «перакінуць» на Захад, мы адправілі зь ім стос нумароў «Літаратуры і Мастацтва», адкуль на Радыё Свабода маглі б даведацца, што ў Беларусі нешта заварушылася і пачынаецца новая эпоха.*

*Сёньня Зьміцер Колас – знаны перакладнік усясьветнае клясыкі на беларускую мову і выдавец. Майстроўцы ведалі яго перадусім як стваральніка майстроўскага тэатру.*

### 1980

**Колас:** Я скончыў Менскі інстытут замежных моваў і працаваў перакладнікам у Сырыі, па разьмеркаваньні. Там адпрацаваў усяго год і вярнуўся дадому. Прыйшоўшы працаваць лябарантам на журфак, пазнаёміўся зь Сяргеем Дубаўцом, а пазнаёміў нас Віталь Тарас, які тамсама вучыўся.

Лябарантам па працы з замежнымі студэнтамі адпрацаваў я літаральна некалькі месяцаў, таму што гэта, як высьветлілася, зусім не маё. Хадзіць і пасьвіць студэнтаў з афрыканскіх і азіяцкіх краінаў даволі цяжка. Тады адбылася страшная панажоўшчына паміж нэграмі і арабамі. Гэта быў кашмар. Увесь паверх пераламаны, пабіты, шкло, мэбля, кроў ракой па падлозе. І я на другі дзень падаў заяву аб звальненьні.

## «ЦАР МАКСІМІЛЯН»

Калі я прыйшоў у Майстроўню, там ужо была задума паставіць «Цара Максіміляна» і нават прайшло некалькі рэпэтыцыяў. Быў запрошаны рэжысэр, малады хлопец, відаць, з рэжысэрскага аддзяленьня Тэатральна-мастацкага інстытуту. Я яго імя ня памятаю, таму што ён больш і не прыходзіў. Майстроўцы як даведаліся, што ў мяне бацька з тэатрам зьвязаны, сказалі: на фіга нам гэты рэжысэр, ты й будзеш рэжысэрам. І мне давялося займацца абсалютна неўласьцівай мне функцыяй. У мяне ніякага досьведу не было, але чамусьці ўсім гэта падабалася.

*Гэта лёгка зразумець: майстроўцы свайго распазнавалі найперш паводле моўнай прыкметы, а пасьля ўжо – паводле прафэсійнай. Калі на сьпеўках у асобе Ларысы Сімаковіч мова і прафэсіяналізм супадалі, дык запрошаны збоку рэжысэр тэатру быў расейскамоўны. А ў Зьмітра Коласа ўся сям’я была зьвязаная з рэжысурай: бацька Георгі тэатразнаўца, брат Уладзімер кінарэжысэр, дый сам Зьміцер ужо займаўся перакладамі п’есаў.*

**Колас:** Ролі былі ўжо збольшага разабраныя, але пэўныя перасоўваньні адбываліся. Спачатку, па-мойму, я выконваў ролю Жыда, а пасьля Лекара-аптэкара: Я доктар-лекар, з-пад Ніжняга рынку аптэкар, я зубы працінаю....

*Выбар для пастаноўкі менавіта «Цара Максіміляна» – частка майстроўскага цуду. Старадаўняя народная п’еса была поўная алегорыяў нашай рэальнасьці. Цар Максімілян, прываблены «кумірыцкай» ідэалёгіяй, выракаецца ўсяго свайго, а калі ягоны сын Адольф пратэстуе і кажа: «вашыя багі ня вар-*



Пастаноўка «Цара Максіміляна» ў Заслаўі. 17 траўня 1981 году. Зьміцер Колас у ролі Доктара-Лекара ажыўляе Цара (Сяргей Запрудзкі). На заднім пляне відаць: Янка Медзьвядзёў, аўтар; сярод гледачоў Андрэй Радзівонаў, Наталя Лазоўская, Анатоль Бяляўскі, Сяржук Цімохаў, Генадзь Мацур

*тыя маёй нагі», бацька загадвае пакараць Адольфа сьмерцю. Загадкавыя «агенты ўплыву», якія зьяўляюцца на сцэне ў розных экзатычных вобразах, выглядалі насьмешкаю з той канспіралягічнай атмасфэры, якую ў студэнцкіх асяродках ствараў КГБ.*

**Колас:** Чатыры пастаноўкі мы зрабілі. Першая – гэта была прэм'ера, яна адбылася ў актавай залі філфаку.

*На прэм'еру майстроўцы запрасілі Ўладзімера Караткевіча. «Цар Максімілян» стаў візытоўкай студэнцкага тэатру Майстроўні. Газэта «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што на прэм'еры, апроч Уладзімера Караткевіча, прысутнічалі Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў і тэатразнаўца Георгі Колас. Гэта важна, бо калі са старэйшымі мастакамі майстроўцы мелі дачыненьні ад самага пачатку, дык салідарнае слова прызнаных літаратараў пачулі, бадай, упершыню.*

**Колас:** Была на Купальле яшчэ пастаноўка ў Заслаўі, дзе ішоў дождж, мы правялі ноч у «доме культуры», мокрыя ўсе, сохнучы. Але гэта была выдатная рамантыка, бо нягледзячы на ўвесь гэты дождж, было вогнішча, празь яго скакалі, быў цудоўны настрой...

Былі яшчэ пастаноўкі. Адна ў парку Чалюскінцаў, на яе былі запрошаныя рэжысэры самадзейных тэатраў з усёй Беларусі, якія акурат прыехалі ў Менск на нейкія свае сэмінары. А мы рабілі паводле старых традыцыяў: перад спэктаклем хадзілі па ўсім парку, пераапранутыя ў сцэнічныя строі, і гукалі-зьбіралі людзей... Парк, вольны дзень, народ гуляе, а тут дзейства нейкае вясёлае адбываецца, ну чаму б не прыйсьці, не пазырыцца на ўсё на гэта.

Народу было шмат, але тыя рэжысэры пасьля спэктаклю нас моцна крытыкавалі, больш за ўсё адзін рэжысэр, здаецца, з Калінкавічаў, на прозьвішча Колас, бэсьціў нас за тое, што мы не туды голас пасылаем, ня так становімся адносна гледача...

А чацьвертая была ў тэхнікуме ці вучэльні. У маленькай залі, куды прыйшлі ўсе навучэнцы. Мы туды з калідора забягалі, бо не было адкуль больш. Але дзіва, што было гэта ўспрынята хлопцамі з вучэльні з сапраўднай цікавасьцю.

*«Максімілянам» рэпэртуар не абмежаваўся. Да 90-х угодкаў Багдановіча Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў сцэнічную фэерыю, якая таксама ставілася ў перапоўненай народам залі філфаку. Максіма граў Сяргей Запрудзкі, Бядулю – Уладзімер Сіўчыкаў.*

*Зьміцер Колас то зьяўляўся ў Майстроўні, то зьнікаў зь яе, і калі зноў зьяўляўся, тады ажывала і майстроўскае тэатральнае жыцьцё.*

**Колас:** На жаль, мая эпапэя з Майстроўняй была раптоўна перарваная. Мяне забралі ў войска ажно на палову году. З войска я вярнуўся, адбыўшы шэсьць месяцаў у Рызе. Прадалі мы там падводную лодку алжырцам. Прыехаў экіпаж, іх навучалі, як ёю карыстацца. Мы там жартавалі: пагружацца навучым, а ўсплываць жыцьцё прымусіць...

У студзені 1982 году я вярнуўся. І тады змог нарэшце пайсьці працаваць паводле спэцыяльнасьці – выкладаць у інстытут замежных моваў. Дзе тады вучыліся таварышы Шупа, Істомін...

*Праўда, пэўнага адказу наконт таго, хто запрасіў іх у Майстроўню, Зьміцер ня мае.*

**Колас:** У справе перакладаў гэта я ім сказаў – ёсьць альманах «Далягляды», ідзеце да спадара Сёмухі, які імі апякуецца. А наконт Майстроўні ня па-

мятаю, бо тады Майстроўня разраслася настолькі, што было цяжка кантраляваць, хто там ёсьць, каго няма. Але тэатральная частка тады аднавілася, і мы запрасілі майго брата Ўладзімера, каб дапамог. І была спроба паставіць «Лысую сьпявачку». Я й пераклаў яе. Мы доўга рэпэтавалі-рэпэтавалі... Але прэм'ера не адбылася.

## «ЛЫСАЯ СЬПЯВАЧКА»

*Трэба сказаць, рэпэтыцыі былі вартыя прэм'еры. Яны праходзілі пры мностве гледачоў. Тут сам працэс быў цікавы.*

**Колас:** У нас было куды хадзіць, каб адвесьці душу. Я быў там пан Марцін. Той, які прыходзіць нібыта ў госьці да пана і пані Сьмітаў. І ён нібыта там сустракае сваю жонку...

Гэта тэатар абсурду, і дыялёг будуецца на паўтарэньні аднаго й таго ж з падняцьцем на наступны ровень. Там як у распаўсюджаных з XIX ст. беларускіх анэкдотах. Расейская песенька «Всё хорошо, прекрасная маркиза» – гэта насамрэч беларускі жарт часоў вайны з Напалеонам. Калі пачынаецца з таго, што ў пана спалілі маёнтак, і каб яму пра гэта не казаць, расказваюць, што «ў вас сабачка памёр», пасьля конь, таму што сабачка бег і стайня загарэлася, і г.д., і г.д. У беларускай вэрсіі гэты жарт нашмат круцейшы, бо там сканчаецца ня проста пажарам. Чаму пажар – таму што нехта памёр ад разрыву сэрца, а разрыў сэрца – таму што нарадзіла ваша дачка, а чаму нарадзіла – таму што швадрон гусараў у вас на пастоі стаяў... Карацей, той самы прыём раскручваецца да поўнага абсурду. І тое загарэлася, і гэта загарэлася, і птушкі загарэліся,

і рыбы загарэліся, вада ўжо загарэлася, гарыць, гарыць, гарыць!..

*Выбар п’есы Эжэна Ёнэско для майстроўцаў быў арганічным працягам выбару старадаўняга беларускага «Цара Максіміляна», бо і праз першае і праз другое мы з аднолькавым посьпехам маглі перадаць сваё стаўленьне да навакольнага сьвету.*

*Пачаўшы гаворку з гістарычнай праекцыі майстроўскага цуду на нашаніўскі пачатку мінулага стагодзьдзя, я паспрабаваў сабе ўявіць студэнцкі тэатар сёньня. І «Цара Максіміляна»... Не сумняюся, што сёньня п’еса была б забароненая. Бо занадта выразна чыталіся б алегорыі першай асобы краіны і недарэчнай «кумірыцкай» ідэалёгіі, якую выкладаюць цяпер бедным студэнтам. Зрэшты, і пасьля 1984 году, калі Майстроўня перастала быць Майстроўняй, такія алегорыі чыталіся б просталінейна. І да 1980 году таксама. Выходзіць, што майстроўскаму цуду спрыяў сам час, дакладней, нейкі празор у часе, у эпосе таталітарнага застою, калі толькі й было магчыма гэтаму ўсяму адбыцца. І гэты шанец быў выкарыстаны.*

## Арына Вячорка



*Пачатак Майстроўні можна лякалізаваць да аднаго шчасьлівага выпадку, які здарыўся ў нацыянальным мастацкім музэі, дзе Вінцук і Арына Вячоркі спаткаліся з кампазытаркай Ларысай Сімаковіч. Арына падкрэсьлівае выпадковасьць гэтай сустрэчы.*

**Арына**: Мы зь Вінцуком прыйшлі на лекцыю Надзеі Высоцкай па гісторыі беларускага мастацтва, якую яна чытала ў мастацкім музэі. І на гэтай лекцыі такая маленькая, яркая, са звонкім голасам дзяўчына задавала Высоцкай тонкія пытаньні па-беларуску. А для нас беларуская мова была прыкметай, што гэта свой чалавек. Пасьля лекцыі мы высьветлілі, што яна студэнтка кансэрваторыі і ведае беларускую народную музыку. Мы адразу

сказалі: о! а вы ня можаце нам дапамагчы, навучыць нас беларускім песьням, каб пакалядаваць?

Яна згадзілася. Яна была так уражаная, што мы гаворым па-беларуску…

*У гісторыі Беларускай Майстроўні менавіта гэты эпізод быў тым электрычным разрадам, калі запалілася новая зорка і нарадзілася новая рэальнасьць.*

## ПАМІЖ МАТЭМАТЫКАЙ І ФАЛЬКЛЁРАМ

**Арына**: Пакалядаваць была даўняя ідэя. Калі мы былі на «бульбе», я зьбірала песьні беларускія…

*Нічога дзіўнага для студэнта-філёляга. Але Арына паступіла на мэханіка-матэматычны факультэт.*

**Арына**: У Вінцука была фальклёрная практыка, па-першае. Па-другое, мы сябравалі зь Сяргеем Дубаўцом, які паказваў запісы сваёй бабулі. І гэта ўсё на нас зь Вінцуком зрабіла вялікае ўражаньне. Тады і ўзьнікла ідэя пакалядаваць. Хто канкрэтна прапанаваў, цяпер цяжка сказаць, бо ідэйны кацёл быў агульны.

Тое, што ўсе нашыя шляхі раптам скрыжаваліся ў Майстроўні, гэта ўжо ад Бога. Калі мы сустрэліся і маса беларускасьці перавысіла пяць-шэсьць чалавек, мы ўжо распрацоўвалі пляны і праграмы пошуку падобных людзей. І калі мы раптам чулі, што нехта гаворыць па-беларуску, ішлі адразу знаёміцца. І на дзевяноста адсоткаў гэта быў посьпех. Мы ўжо арганізоўвалі вялікія сьвяты з выхадам на вуліцы гораду і зьбіраньнем мноства людзей.

Я нарадзілася і расла ў Менску. На ўсё лета мяне адпраўлялі ў Вяліж Смаленскай вобласьці, адкуль мае дзяды. У Вяліжы мы, дзеці, за лета набывалі

беларускі дыялект. І калі вярталіся, бацькі месяц вытручвалі з нас вяліскія слоўцы і вымаўленьне.

## УНІЯТ З КРЭЙСЭРУ «АЎРОРА»

Бацька казаў: запомніце, дзеці, вы з рускай сям'і. А прозьвішча – Поўзік... Мой брат напісаў радавод Поўзікаў да 18 стагодзьдзя. Ніякага расейскага паходжаньня яны ня маюць. Многія мае продкі былі ўніятамі, уніят служыў на крэйсэры «Аўрора». Гэты род прыйшоў у Смаленшчыну, хутчэй за ўсё гэта былі перасяленцы-паўстанцы. У канцы 18 ст. паўстанцаў гналі этапамі ў Сыбір, і яны «ўпалі» на мяжы Смаленскай вобласьці. Гэтыя Поўзікі «ўпалі» ў вёсках пад Вяліжам. Нашыя радавыя вёскі – Ляхі, Курмялі і Саксоны.

А мама ў мяне шляхцянка, яе прозьвішча Лапа. Зь віцебскай шляхты. Мама жыла побач з уніяцкай царквой і ўніяцкімі могілкамі…

Вяліж – памежнае мястэчка, заснаванае Вітаўтам, у ім адлюстравалася гісторыя Беларусі. Там і ў мове захаваліся архаічныя формы. Быў хадзіўшы, быў рабіўшы – людзі дагэтуль так гавораць…

Два гады таму я прыяжджаю, іду, на рэчку гледзячы, села на бервяно. Сядзіць дзядок. Вы адкуль? Я зь Беларусі. О, у вас жа там такі прэзыдэнт харошы. Я раззлавалася, кажу: гэта вы тут, рускія, думаеце, што ў нас прэзыдэнт харошы! Дзед кажа: а чаму гэта мы тут рускія? Мы тутэйшыя. Я: а якое ж у вас прозьвішча? Дзед: Даўгяла…

*У Менску Арыніна захапленьне беларушчынай пачалося пасьля знаёмства з аднаклясьнікам Вінцуком Вячоркам у чацьвертай менскай школе. Юначыя захапленьні ў тыя часы часта прыводзілі да канфліктаў з бацькамі. Нічога дзіўнага ў тым не*

*было. Бацькі выступалі ці то сутворцамі, ці ўдзячнымі ахвярамі, ці маўклівым апірышчам дзяржаўнай сыстэмы татальнае несвабоды.*

## ІРЫДЗІЙ ПАЛАДЗІЙ

*Арынінага дзеда расстралялі ў часы сталіншчыны ў 1937-м. Даведку пра расстрэл Васіля Поўзіка, які праходзіў па 58-м артыкуле (антысавецкая агітацыя), можна знайсьці ў інтэрнэце. З тых часоў сям'я і баялася якой-кольвек нефармальнай грамадзкай актыўнасьці. Бацька Арыны працаваў загадчыкам катэдры у Беларускім тэхналягічным інстытуце. Звалі яго Паладзій Васілевіч.*

**Арына**: Паладзій – імя па сьвятках. Мяне ў школе так дражнілі – Ірыдзій Паладзій. У пашпарце Ірына. А Арына, Вінцук – гэта мы самі надавалі сабе формы імёнаў. Такая магія беларускай справы.

*Неўзабаве меней стала і канфліктаў у сем'ях. Але… Канфлікты пачалі заціхаць толькі тады, калі рухнула старая сыстэма і бацькі перажылі эвалюцыю поглядаў, а дзеці – самі сталі бацькамі.*

*30 гадоў таму на мэхмаце БДУ Арына Вячорка стварыла суполку «Пагоня».*

## МІКЛАШЭВІЧ, САНЬКО, ВАЎЧОК, САКАЛЬЧЫК…

**Арына**: Я не філялягіня. Я вучылася на мэханіка-матэматычным факультэце і сябравала зь фізыкамі. Пісала канспэкты, выступала на сэмінарах, іспыты здавала па-беларуску. Хоць усё навокал было парасейску.

Я стварыла суполку «Пагоня» (гэта не маё было рашэньне, а Майстроўні) і зрабіла сустрэчу фізыкаў і матэматыкаў. У нас была супольная аўдыторыя на трэцім паверсе. Прыйшлі Ігар Міклашэвіч, Сяргей



Пастаноўка «Цара Максіміляна» ў Заслаўі. 17 траўня 1981 году. Сяржук Сокалаў-Воюш, Алена Панцялеева, Сяргей Запрудзкі, Алена Амельчыц, Арына ў ролі Пажа

Санько, Ніна Ваўчок, яшчэ Пётра Сакальчык з мэхмату...

Мы выпусьцілі газэту «Пагоня». Павесілі на мэхмаце, потым на фізфаку. Гэта быў 1981 год.

Усё было выдатна. Мяне зарэгістравалі ў камітэце камсамолу. Старшынём быў Брыгадзін. Далі зялёную вуліцу, падтрымалі выкладчыкі. Прарэктарам быў Шушкевіч, паперы ў яго падпісвалі. У

нас на мэхмаце працавалі прафэсіяналы. І для іх чалавек, які займаўся беларускай культурай, быў толькі плюсам. Я на палітынфармацыях распавядала, дзе што беларускага адбываецца. Мала таго, мы былі пад уплывам дэмакратызацыі ў Польшчы, і я казала, што гаворыць Радыё Свабода, а што пішуць афіцыйныя газэты. Прасіла дыскутаваць на гэтыя тэмы.

Усё было добра, пакуль… Тацяна Сапач прыйшла і пабачыла, як выдатна на мэхмаце падтрымліваецца беларуская справа, і захоплена напісала пра нас у газэту «Беларускі ўнівэрсытэт».

І тады прыйшлі гісторыкі з чацьвертага паверху ў наш дэканат і камітэт камсамолу і сказалі, што Пагоню насілі фашысты на рукаве. Ад чаго нашыя ўсе былі ў шоку. Бо тады выкладчыкі былі вэтэраны Вялікай айчыннай вайны. Па-другое, што гэта за прапаганда Радыё Свабода і дэмакратызацыя такая? І мне вынесьлі вымову па камсамольскай лініі.

## КАНЕЦ ІДЫЛІІ

*Пад канец 1982 году нешта зламалася ў ідылічным існаваньні Беларускай Майстроўні. Пачаліся выклікі майстроўцаў на «гутаркі» ў КГБ, суворыя вымовы, набліжалася мясарубка лёсаў, якой у наступныя гады стане разьмеркаваньне. Але вось жа выпала тады на два гады такая адліга, калі пра самавольныя майстроўскія акцыі ўхвальна пісала афіцыйная прэса…*

*Першы налёт адбыўся якраз на насьценны друк. На мэхмаце закрылі «Пагоню». На факультэце журналістыкі мы таксама атрымалі суровыя вымовы па камсамольскай лініі. Да юбілею СССР у сваёй*

*даўжэзнай, на дзевяць аркушоў ватману газэце мы надрукавалі артыкул Леніна «Аб нацыянальнасьцях і аўтанамізацыі». Гэты тэкст правадыра не трапляў у шырокую ратацыю з-за таго, што Ленін там крытыкуе ідэю стварэньня СССР і называе яе заўчаснай... Камітэт камсамолу БДУ ў пачатку 1983-га нагадаў мне сабачае вясельле, дзе стаяў суцэльны бязглузды брэх і немагчыма было ўставіць слова. Падобны лёс чакаў і газэту майстроўцаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце.*

**Генадзь Мацур**: Мы пастанавілі газэту выпускаць. Мы вешалі яе ў раме ў галоўным корпусе. Стараліся прысьвячаць нумары гістарычнай падзеі ці асобе. Але апошні нумар быў пра пажар у Мірскім замку, гэтыя жахлівыя фоткі. Мы – у абарону Мірскага замку. Дапамажы! Гэты нумар стаўся апошнім, бо прыйшлі з адміністрацыі й зьнялі ўсю гэтую газэту, і пасьля гэтага яна не выходзіла.

*Застаецца загадкай адліга 1980—1982 гадоў. У таталітарным грамадзтве адлігі звычайна зьвязаныя са сьмерцю найвышэйшага кіраўніка. Машэраў загінуў у кастрычніку 1980-га. Выходзіць, зь ягонай сьмерцю й пачалася тая беларуская адліга. А Брэжнеў памрэ ў лістападзе 1982-га. Зь ягонай сьмерцю яна скончыцца…*

**Арына**: На той час беларуская культура фактычна памірала. Ніводнай беларускай школы ні ў водным горадзе не было. Увесь фольк пускалі на сцэну толькі ў апрацоўках. Працэс ужо амаль дайшоў да правільнай кропкі, і тут раптам аднекуль зьявіліся маладыя людзі й пачалі з нуля – ствараць. Для нас было важна, колькі людзей гаворыць пабеларуску, прыходзіць да нас, заангажаваныя ў нашую беларускую справу. Мы ставілі мэту беларусі-

заваць саму Беларусь. І там было больш таемнага, чым яўнага. Тое, што мы рабілі – гэта быў айсбэрг. І Майстроўня – гэта была вяршынька айсбэргу.

Беларушчына мяняла нашыя прафэсіі. Ад тэхнічных спэцыяльнасьцяў пераходзілі ў гуманітарны стан. Фізыкі й матэматыкі вывучалі беларускую гісторыю і культуру.

У мяне быў цудоўны выкладчык Уладзімер Пятровіч Мешчаракоў. Ён прасоўваў усё беларускае ў сябе на катэдры. Ён мною заапекаваўся, дазволіў пісаць працы з гісторыі матэматыкі на катэдры пэдагогікі. І я напісала першую працу «Ян Сьнядэцкі», а потым «Пэдагогі й матэматыкі Віленскага ўнівэрсытэту». Дзе я магла такую працу абараніць?.. Мне не дазвалялі ў асьпірантуру паступіць, а ён праз два гады мяне знайшоў, «паступіў» у асьпірантуру…

*Гісторыя Арыны Вячоркі ў кожным наступным эпізодзе жыцьця была зьвязаная з абранай у юнацтве справай. Але атрымаўся ўнікальны шлях – які некаму падасца ўцёкамі ад рэальнасьці ў сярэднявечча. Хоць гэта той самы шлях да сябе і свае тоеснасьці, толькі з больш глыбокай пэрспэктывай.*

**Арына**: Я заснавальніца і прадусар рыцырскага руху ў Беларусі і музычны прадусар старадаўняй этнічнай і клясычнай музыкі. Стаяла ля вытокаў гурта «Стары Ольса». Гэта працяг маёй дзейнасьці ў рыцарскім руху, дзе я як жанчына заспэцыялізавалася не на баях, а на танцах і музыцы.

# Генадзь Мацур



*Гэта не прафэсійнае аб'яднаньне. Некалькі філёлягаў, мастакоў, журналістаў, а таксама архітэктары, матэматыкі, географы, эканамісты, фізыкі... Бывае, флюід патрапіць да маладых рабочых, і тады прыходзіць Мікола Сасноўскі. Ці да лекараў – і зьяўляецца Анатоль Лягуцкі. Словам, адусюль – па адным, па некалькі чалавек.*

## МЕНШАСЬЦЬ, ЯКАЯ НАСАМРЭЧ БОЛЬШАСЬЦЬ

*А ў Майстроўні – зусім не аднародным утварэньні – відаць, наколькі яны ўсе розныя. Характарам, паходжаньнем, абранай прафэсіяй. Толькі ўзрост аднолькавы. Але захапленьне беларушчынай яднае іх нагэтулькі моцна, што ўсе астатнія адметнасьці, аказваецца, нічога ня значаць. Ім добра быць разам.*

*Яны падсьвядома адчуваюць сябе далучанымі да вялікай і сьветлай місіі. А што ў сваёй студэнцкай групе іх толькі двое-трое, дык, можа быць, гэта зусім натуральны адсотак актыўных у грамадзтве – той меншасьці, якую называюць маральнаю бальшынёю.*

*Зрэшты, трэба яшчэ прыглядзецца да астатніх – колькі сярод іх унутрана хацелі б далучыцца да нашых двух-трох. Толькі вось нешта ім замінае. Можа сарамяжлівасьць, а можа страх, а можа яшчэ штосьці, у кожным выпадку неістотнае. Але ж прыцягальная сіла флюіду такая моцная, што іншы раз самага сьціплага ды сарамяжлівага ў прыродзе сваёй чалавека можа вылучыць у лідэры.*

## СЬЦІПЛЫ ЛІДЭР

*Мастак Генадзь Мацур – чалавек надзвычай сьціплы ў паводзінах, і вельмі цяжка ўявіць, каб у ім прачнуўся правадыр. Але. Калі Гэнік Лойка, паступіўшы ў Тэатральна-мастацкі інстытут, прыйшоў на першую таемную сходку студэнтаў, ведзеных флюідам беларушчыны, дык менавіта Генадзя Мацура ён прызнаў у якасьці ідэоляга, які гэтым усім кіруе. Зрэшты, і пасьля, калі мастакі аб'ядналіся ў Майстроўні зь іншымі, мы ўспрымалі Генадзя як нефармальнага лідэра маладых мастакоў.*

*Сёньня Генадзь прызнаны графік і дызайнэр. Усяго, што ён аформіў, так шмат, што, напэўна, няма ў Беларусі чалавека, які б вочна ці завочна ня быў знаёмы зь ягонай працай, стылем і вобразамі. Але пачнем з самага пачатку.*

## ДАВЕР І ПРАВІЛЬНЫ ЎКЛАД ЖЫЦЬЦЯ

**Мацур**: Я з 1960 году. Нарадзіўся на Віцебшчыне, у Чашніках. Пражыў там з бацькамі 15 гадоў. Бацькі мае працавалі на папяровай фабрыцы. Мы жылі, і цяпер мама жыве, на цэнтральнай вуліцы, на Ленінскай, як яны ўсе называюцца, але на ўскрайку. І там рэчка ў нас свая за гародамі цячэ, гарод. Вясковае жыцьцё...

*У Генадзевых згадках дзяцінства ёсьць дзьве канстанты, якія пасьля праяўляцца ў ягоным выбары на карысьць беларушчыны. Першая – гэта давер. Другая – правільны ўклад жыцьця. Абедзьве канстанты – з дому, ад бацькоў.*

**Мацур**: Мне здаецца, што яны мне давяралі і цяпер давяраюць. Калі я зьбіраўся паступаць у вучылішча пасьля васьмі клясаў, ўсе настаўнікі казалі: ён гэтак добра вучыцца, але школу ня скончыў… Бо з васьмі адпраўлялі самых недарэкаў. Бацька мяне ўратаваў ад гэтага, сказаў: ён ужо дастаткова даросьлы, каб прымаць рашэньні. Такія былі ягоныя словы. Такі давер быў... Для іх можа і нечакана было, калі я перайшоў на беларускую мову, але таксама яны паставіліся да гэтага з даверам. Маўляў, значыць, ёсьць там такое жыцьцё.

У менскім асяродку беларускасьць была найперш, і ў гэтым нельга было сумнявацца, гэта было правільна. Таму нам здавалася, што людзі, якія блізкія, беларусы, – гэта самыя лепшыя людзі. Яны нічога кепскага ня могуць зрабіць, яны крыштальна чыстыя, абсалютна правільныя. Давер быў, можна было з чалавекам шчыраваць, шчыра яму расказаць – пра ўсё. Каб нават нешта страшнае мне пра некага казалі, я б, напэўна, не паверыў.

*Беларушчына трымалася на даверы, і выбар на карысьць беларушчыны быў правільны. Мабыць, таму, што натуральна вынікаў з таго ўкладу жыцьця, у якім гадаваўся чалавек.*

**Мацур**: Гэта нейкі ўклад і нейкія традыцыі. Напрыклад, бацька мой ніколі ня лаяўся. І ў бабуляў уклад быў такі правільны. Ня ведаю, ці гэта хрысьціянскія традыцыі, ці можа народныя.

...Потым захацелася мне стаць мастаком. На гэта паўплываў мой школьны настаўнік Анатоль Варчэня, ён прыехаў зь Віцебскага пэдынстытуту. І да восьмай клясы я ўжо трывала ўсталяваўся ў думцы, што буду мастаком. Вычытаў, што ёсьць мастацкае вучылішча ў Менску, і паехаў паступаць.

## УСЕ МАЕ СЯБРЫ З НАШАЙ ГРУПЫ – БЕЛАРУСЫ

А дыплём мы рабілі цэлай суполкай. Сяргей Цімохаў, Пётра Русак і Генадзь Драздоў. Гэта быў праект рэканструкцыі Маламажэйкаўскай царквы, у Мураванцы. Гэта канец вучылішча.

Як мая беларускасьць пачалася? Пералом адбыўся, калі да нас прыйшоў выкладаць Віктар Маркавец. У вучэльні нейкія лекцыі пачаліся, мы слайд-фільмы глядзелі, нешта абмяркоўвалі. У выніку ўсе мае сябры, выхадцы з гэтай групы – усе яны беларусы.

Праз Маркаўца мы пазнаёміліся і з Марачкіным, і зь іншымі мастакамі, і пачалі хадзіць да іх на госьці ў майстэрні. Яны нас звалі на агульныя справы, першыя выставы – Цётцы прысьвечаныя, Міколу Гусоўскаму. Мы дапамагалі, суполкай рабілі гэтыя выставы. Я ўжо ў першай выставе ўдзельнічаў



Пастаноўка «Цара Максіміляна» ў Заслаўі. 17 траўня 1981 году. Анатоль Бяляўскі, Сяржук Цімохаў, Генадзь Мацур

першым творам сваім, плякатам, прысьвечаным Міколу Гусоўскаму, – гэта 1980 год.

Ужо ў інстытуце мы вырашылі пашырыць кола. Сабраліся ў графікаў і запрасілі, каго ведалі. Гэнік Лойка быў такі, маленькі, які бегаў па інтэрнаце і гаварыў па-беларуску – вельмі гучна. Каго ведалі, хто прыхільнік, хто крыху гаварыў па-беларуску, – мы запрасілі на сход.

Тады пачалі хадзіць нашыя хлопцы ў Майс-

троўню, на сьпеўкі. Гуканьне Вясны, Купальле ладзілі.

На сьпеўкі я... толькі пахадзіў крышку. А потым, паколькі я сарамлівы, ня ўмею сьпяваць, а мяне там прымушалі публічна ноту нейкую браць, а я ня мог, то мне неяк некамфортна стала. Усё астатняе выдатна, а што тычыцца сьпеваў, то... зайздрошчу людзям, якія ўмеюць сьпяваць...

## ПРАЯВЫ ХАРАКТАРУ

*Калі я зноў задаюся пытаньнем – чаму менавіта гэтыя людзі сталі заснавальнікамі Беларускай Майстроўні, дык шукаю і знаходжу ў іхных біяграфіях нейкія ранейшыя «праявы характару». Бар'ерам на шляху станавіўся камсамол, уступленьне ў які патрабавала фармальна самастойнага рашэньня, тут быццам бы зьяўляўся нейкі выбар. Генадзь Мацур у камсамол так і не патрапіў.*

**Мацур**: Беларушчыну сваю я зразумеў, адкрыў у вучылішчы. Яна была са мной заўсёды, але ўвагі на гэта не зьвяртаў. Але тут мог быць і пратэставы момант. Бо мы, мастакі, заўсёды лічылі, што мы ў нейкай апазыцыі знаходзімся да ўсяго, што ні ёсьць. Асабліва афіцыёз не падабаўся, асабліва моладзі. Камсамольскія сходы ўсякія. Я, між іншым, ня быў камсамольцам. У школе не пасьпеў паступіць. А ў вучылішчы думалі, што я камсамолец, таму што так не бывае. І гэта высьветлілася толькі на разьмеркаваньні, калі пачалі зачытваць характарыстыкі: член ВЛКСМ з такога году. А я ўзяў і паправіў іх, што я ня член ВЛКСМ. І была паўза, і пасьля ціхенька перапісалі дакумэнты і адправілі мяне далей.

## КРЫТЫЧНЫ АБ'ЁМ ІНФАРМАЦЫІ

*Майстроўскі цуд Генадзь тлумачыць тым, што ў пэўным месцы ў пэўны час аб'ём неабходнай інфармацыі дасягнуў крытычнага пункту...*

**Мацур**: Усё, што было зроблена раней, было вынішчана, але ўсё роўна прайшоў час, і нешта аднекуль папрарастала. Нейкая кніжачка знайшлася, нейкі дакумэнт, нейкі чалавек знайшоўся, які захаваў, а потым некаму паказаў... Нашыя старэйшыя мастакі больш сабралі, акумулявалі гэтай інфармацыі. А дзе энэргетыка, інфармацыя, там і людзі новыя зьяўляюцца. І моладзь... Яна падхапіла, бо больш магчымасьцяў было і адукацыі, больш інфармацыі зьявілася.

*Са згадак Генадзя, як і іншых майстроўцаў, вынікае, што сьвядома ці нясьвядома ўзьнікненьне Майстроўні рыхтавалася старэйшымі мастакамі.*

**Мацур**: Я ўсё жыцьцё і сябраваў, і сыходзіўся зь людзьмі старэйшага ўзросту. Зь імі было цікавей ці прасьцей нават. На пакаленьне ці крыху менш розьніца, але вось гэтае пакаленьне – Марачкін, Маркавец, Кулік і ўся суполка, што ля іх. Я дык праз іх прыйшоў да беларускасьці. Але гэта глеба, а потым пачаўся ўжо ўласны рух. Можа, час стаў іншы, моладзь была менш бітая, менш баялася. Відаць, часы ўсё ж такі пры ўсім сваім камуністычным маразьме былі крышку цяплейшыя. Ці мы нечага ня ведалі, і добра, што ня ведалі, і таму вальней сябе адчувалі.

*Адкуль узялася назва Майстроўні – пра гэта гаворка наперадзе. А сёньня Генадзь Мацур чытае гэтае слова як вобраз вачыма дызайнэра, графіка, каліграфа...*

**Мацур**: Майстроўня для мяне крыху складанае слова, калі выводзіш гэты вобраз. Як ту-ту-ту. Як – рынак будаўнічых матэрыялаў. Прарабы нейкія, тум-тум-тум. І ў прынцыпе яно адпавядае. Гэтая суполка ці рух, ён такі й павінен быць, а па-іншаму не атрымаецца. Нейкія падпарадкаваньні павінны быць, гэтыя слухаюцца гэтага, тут кіруюць... Гэта фантазіі, але я да іх стаўлюся даволі сур'ёзна. Калі слова пішаш, як напішаш, – вобраз створыш... Але ў слова ёсьць яшчэ і свой унутраны вобраз. Бо мы ўсё ж спачатку чуем слова, пасьля прамаўляем і толькі пасьля пішам. А думка абстрактнай не бывае.

# Алена Анісім (Амельчыц)



*Вось занатоўка пра імпрэзу ў 49-й менскай школе зімою 1982 году. Майстроўня прысьвяціла свой выступ Максіму Багдановічу. Як гэта выглядала? У колішнім нататніку так:*
*«У актавай залі сабралі дарослых дзяцей, і тыя пачалі «ёрзаць». Пасьля вечарыны мелася быць дыскатэка, таму чакалі, калі скончыцца «сумнае мерапрыемства». Тым часам Вінцук распавёў пра лёс Багдановіча, чапляючы ўсё што мог да сучаснасьці. Алена адсьпявала купальскую песьню. А зусім сьціхлі дзецi тады, калі «баявым сланом» пачаў чытаць вершы Сокалаў. Гэта быў эфэкт!.. Пасьля былі слайды – архітэктура. Пусьцілі па руках аплікацыю Пагоні. Прайгралі*

*Забэйду («Слуцкіх ткачых») і Данчыка («Зорку Вэнэру»). Распавялі пра Данчыка. Зноў Сокалаў чытаў – ужо свае вершы. Ну і ўрэшце я адсьпяваў «Шарлоту». Потым выскачыў адзін з двух дарослых і барадатых гледачоў (другі, дзед, плакаў на Сокалаўскай «Роднай мове»), аблаяў шкаляроў за няўважлівасьць і касмапалітызм і прачытаў верш «аднаго заходнебеларускага паэта». Вінцук абмяняўся зь ім каардынатамі…»*

*«Адзін заходнебеларускі паэт» пазначаны ў нататніку адмысловым знакам – гэта Ларыса Геніюш. Барадаты чалавек, што выскачыў з залі, пазьней аказаўся паэтам Яўгенам Гучком. А Алена, якая сьпявала купальскую песьню, – гэта Алена Амельчыц, а сёньня Алена Анісім, майстроўская багіня Вэнэра.*

## КУМІРЫЦКАЯ БАГІНЯ

*У Майстроўні Алена кім толькі не была – сьпявачкай, удзельніцай усіх імпрэзаў. Мабыць, найбольш запамінальная яе роля – у пастаноўцы «Цара Максіміляна» яна была Кумірыцкай багіняй Вэнэрай. Кім яшчэ?*

**Алена**: Сьмерцю яшчэ была. Адна ў дзьвюх асобах. «Я, Кумірыцкая багіня Вэнэра, па палёх вандрую, змогі патрабую. Каб цара спаткала, я б яго зрубала…» Ну а словы Сьмерці простыя вельмі. Калі там нехта просіць адтэрміноўкі, хоць бы на гадзіну, – «Ня дам і на хвіліну!»

*Алена кажа, што яе часта параўноўвалі з Сафіяй Ратару. А я, перабіраючы старыя здымкі, угледзеў*

*іншае падабенства – са Стэфаніяй Станютай у маладосьці. І толькі я так падумаў, толькі адкрыў у Вікіпэдыі старонку пра Станюту, як высьветлілася, што Стэфанія Станюта ў дваццатыя гады ў Віцебскім тэатры грала ў тым самым «Цару Максіміляне» і тую самую Кумірыцкую багіню Вэнэру.*

*Між іншым, гэта была адзіная пастаноўка «Максіміляна» на прафэсійнай сцэне і прытым – самы касавы спэктакль Віцебскага тэатру…*

**Алена**: Я са Стаўбцоўскага раёну, або, як старэйшыя кажуць, са Стаўпеччыны. Вёска мая называецца Савані. Ці Савоні – два варыянты. Недалёка радзіма Якуба Коласа. Напэўна, гэта таксама ўплывала на тое, што ў нас у раёне ў прынцыпе шанавалі беларускае слова. Ганарыліся, што зямляк наш адтуль.

Мае бацькі настаўнікі. Бацькі ўжо няма даўно, а маці жыве. Бацька быў філёляг, а маці матэматык. Бацька захапляўся рознымі мовамі. Ён ведаў нямецкую і нават выкладаў яе. Калісь у гімназіі вучыў француcкую. І нават мяне ў шасьцігадовым узросьце спрабаваў навучыць французскай мове. Я вельмі доўга памятала вершык, які тады вывучыла.

А што да беларускай мовы, дык бацька асабліва не падштурхоўваў да гэтага. Ён згадваў, як падчас нямецкай акупацыі адзін з высокапастаўленых нямецкіх афіцэраў, выступаючы перад насельніцтвам, казаў: беларусы, трымайцеся разам, нельга між сабой так варагаваць! І яшчэ ён мне казаў (а цяпер я прачытала гэта ў літаратуры), што ва ўсе часы ні зь якім нацыяналізмам, то бок патрыятызмам, не змагаліся гэтак жорстка, як зь беларускім. І гэтыя рэчы ён мне казаў, калі мне было гадоў 18, калі я

ўжо перайшла на беларускую мову. Ён хваляваўся за мяне.

*Іншы раз мне думаецца, што наша пакаленьне – апошняе такое, калі хто з гораду, хто зь вёскі, але чые бацькі яшчэ памятаюць мінулую вайну ці нават даваенны час, а гэта значыць – зусім іншае жыцьцё на гэтай зямлі. Тое, у якім яшчэ жывуць водгукі й водсьветы 19-га стагодзьдзя і нават сярэднявечча, бо раней людзкі сьвет не тыпізаваўся так хутка, як сёньня. Зь іншага боку, усім нам, у тым ліку й тым, хто паходзіць з колішняй яшчэ жывой і беларускамоўнай вёскі, усё адно давялося ісьці да беларушчыны праз бар'ер расейскае мовы. Спачатку вясковец урбанізаваўся (у нашым выпадку – русіфікаваўся), а толькі потым рабіў ужо сьвядомы выбар на карысьць вяртаньня да сябе і да свайго.*

## ЗНАЙСЬЦІ АРГУМЭНТЫ ЎНУТРЫ СЯБЕ

**Алена**: Пасьля таго як мы сталі сустракацца і разам гісторыю вывучаць, чытаць Ермаловіча ў самвыдаце, тады трэба было вызначыцца і з мовай. І даволі цяжка было гэта зрабіць не таму, што ня ведалі мову, а таму, што ўсе вакол цябе прывыклі лічыць, што ты гаворыш па-руску. Трэба было ўнутры сябе знайсьці пераканаўчыя аргумэнты, і пасьля гэтага нейкі час праходзіў, усе прызвычайваліся, і пытаньняў больш не ўзьнікала.

Якія аргумэнты для сябе я знайшла? Першы аргумэнт жыў у вёсцы. У вёсцы я ніколі не размаўляла па-руску. Калі маладая дзяўчына, скончыўшы школу, зьезьдзіўшы ў горад і пабыўшы там колькі часу, праходзіла і віталася «драсьце», дык усе казалі: ну, ужо зьела гарадзкую булачку. А другі аргумэнт

– нельга быць увесь час раздвоеным. Трэба было ісьці далей. І я пайшла далей.

*Самы час перайсьці да абяцанага мною сюжэту – да мала каму вядомых акалічнасьцяў узьнікненьня Беларускай Майстроўні на філфаку БДУ трыццаць гадоў назад.*

**Алена**: У тых, хто вучыўся на філфаку, была адна гісторыя. Вінцук, Вераніка, Запрудзкі і я. Хлопцы з курсу зьбілі дзяўчыну на «бульбе». «Бульба» скончылася, гэты факт усплыў, і мы, хто быў ці ня быў там, занялі адназначную пазыцыю – хлопцы ня мелі права так сябе паводзіць. Гэта быў 1980 год. Курс раскалоўся вельмі моцна. Сто чалавек, і кожны займаў сваю пазыцыю. Але наша група, якая заняла менавіта такую пазыцыю, давяла справу да таго, каб яна была разгледжаная на ўзроўні ўнівэрсытэту. Хлопцаў было шкада, але іх выключылі. І мы аказаліся па адзін бок барыкадаў.

Другая палова стала на бок хлопцаў. Дзіва, але многія дзяўчаты мелі такую пазыцыю – што хлопцы мелі права падняць руку на дзяўчыну.

І пасьля гэтага… Мы ведалі, што Вінцук уваходзіў у групу маладых людзей, якія цікавіліся гісторыяй Беларусі, іншымі рознымі рэчамі. Але нас запрасілі далучыцца пасьля таго, як мы ясна выказалі сваю пазыцыю менавіта ў той справе. І так на грунце маралі мы далучыліся да беларушчыны.

## ВЫТЛУМАЧЭНЬНЕ ЦУДУ

*Вось і яшчэ адна разгадка нашага каляднага цуду. Студэнты-філёлягі апынуліся з аднаго боку барыкадаў у маральным выбары, і гэтае маральнае аб'яднаньне аказалася найважнейшым, яны сталі міжсобку сваімі людзьмі. Чаму гэта важна? Рэч у*

*тым, што Вінцук і напраўду ўжо абраў свой шлях да беларушчыны, у яго былі сябры сярод аднагодкаў па-за філфакам і сярод старэйшых мастакоў. Яны зьбіраліся разам, чыталі нелегальную літаратуру, выдавалі свой самвыдат, слухалі замежныя галасы… Словам, іхны лёс абяцаў ім дысыдэнцтва і ролю антысаветчыкаў-нацыяналістаў у вузкім коле аднадумцаў. А побач існавалі б іншыя студэнты, нармальныя, якія зусім не зьбіраліся дысыдэнцтваваць, а думалі, як ім уладкавацца ў сталіцы, стварыць сям'ю і проста жыць – нармальна ды наколькі мага шчасьліва. Вось так адны існавалі б сабе, другія – сабе. І ніякага б тады каляднага цуду, ніякай Майстроўні, магчыма, не было б. І той нефармальны маладзёвы рух, які ўзьнік з Майстроўні, меў бы зусім іншы выгляд. І БНФ, які выснаваўся з таго руху, мог застацца вузкім дыскусійным клюбам заўзятых дысыдэнтаў. Адпаведна і фракцыі ў Вярхоўным Савеце не было б, і незалежнасьці…*

*Вядома, гэта ўсё дапушчэньні. І асабіста я схільны верыць, што ня гэтым шляхам, дык іншым беларушчына ўсё адно прабілася б, і незалежнасьць усё адно была б. Але ў рэальнасьці мы маем менавіта гэты шлях. І Вінцук Вячорка са сваёй ужо акрэсьленай дысыдэнцкай праграмай апынуўся побач з зусім нармальнай дзяўчынай Аленай Амельчыц. І маральны выбар іх аб'яднаў. З гэтага моманту дысэнт Вячоркі мусіў адкрыцца для ўсіх ахвочых і набыць прывабны выгляд, які пазьней Вінцук назаве эстэтычным фэномэнам Майстроўні. А пазытыўная жыцьцёвая праграма Алены мусіла ўключыць у сябе і беларушчыну, і дысэнт – ня як ізгойства, а як зусім прымальныя і спалучальныя са станоўчым і нармальным лёсам рэчы.*



«Цар Максімілян». Філялягічны факультэт БДУ, 1981 год. Алена Амельчыц у ролі кумірыцкай багіні Вэнэры і Сяргей Запрудзкі ў ролі Цара

**Алена**: Я ўжо згадвала пра чытаньне Ермаловіча. Але мы скончалі ўнівэрсытэт, трэба было думаць пра ўладкаваньне, пра замужжа. І таму гэтая падводная частка засталася ад мяне ўбаку. Хаця я ведала і адчувала, што, акрамя нашай культурнай часткі, можна і трэба ісьці далей. Ну я, відаць, не была гатовая ісьці далей.

…Наша калядаваньне, калі моладзь ішла ад Караткевіча, ад ягонага дому, і мы ішлі з Калядой, з зоркай, са сьпевамі… Нас запынялі, ня ведалі, хто мы, што мы. Урэшце мы пачулі, як нехта крычыць: ды тут антысавецкая дэманстрацыя!.. Вядома, нават з прычыны свае нефармальнасьці Майстроўня ўжо ўяўляла сабой штосьці несавецкае. І на культурным грунце яна выбівалася з сыстэмы. Фактычна Майстроўня была папярэдніцаю нефармальных грамадзкіх арганізацыяў.

…І ведаеш, што яшчэ самае важнае? Тое, што мы ўсе былі аднагодкі і маладыя. Нам ніхто зьверху не казаў, нас ніхто зьверху не штурхаў. Мы, вядома, пазіралі на мастакоў, але яны нам ня ўказвалі. І гэта было вызначальным – свабода, дух творчасьці.

*Сёньня Алена Анісім – навуковая супрацоўніца акадэмічнага Інстытуту мовы і літаратуры, намесьніца старшыні Таварыства беларускай мовы. На канале ОНТ у ранішнім этэры майстроўская багіня Вэнэра вядзе перадачу «Беларуская мова». Алена перакананая, што менавіта Майстроўня дапамагла ёй раскрыцца ды выявіць свае таленты, акрэсьліць жыцьцёвую філязофію.*

**Алена**: Я ўсюды сябе пачуваю натуральна. І як навуковы супрацоўнік, і як грамадзкі дзяяч у Таварыстве беларускай мовы. Ну вядома, і мама, і дачка, і жонка, і сяброўка.

…Мы ўсе аднадумцы, мы на многія рэчы глядзім аднолькава. Вінцук неяк добра быў сказаў пра некага, што «ён быў ужо тады». Гэта праверка як асобы. Калі ты быў ужо тады па гэты бок, тады, калі ніхто пра гэта ня думаў, а ты ўжо нешта для гэтага рабіў, то гэта прызнаньне, што ты ўжо тады пачынаў быць асобай. І да гэтага часу ты свой.

…Я не прапагандую, я проста жыву, бо іначай ужо, відаць, жыць нельга.

…Самае для мяне вызначальнае, што калі ў мяне добры настрой, мне хочацца сьпяваць беларускія песьні. На кухні дома, мурлыкаць пры кампутары… І адна з прычынаў – тое, што мы ў Майстроўні сьпявалі беларускія песьні.

…Я вельмі шчасьлівая тым, што ў маім жыцьці была Майстроўня. Бо калі такія рэчы ёсьць у маладосьці, можна толькі зайздросьціць самому сабе.

# Сяргей Кныш



*Дзіўная рэч: людзі, якія мелі нахабства напрыканцы 1980 году выйсьці на Цэнтральную плошчу ў Менску зь несанкцыянаванай калядна працэсіяй, у наступным сваім жыцьці сталіся пэрсанажамі амаль непублічнымі. Яны рабілі сваю музыку ў глыбіні сцэны, прапускаючы наперад іншых – фронтмэнаў.*
*Скажыце Сяргею Кнышу, што ён – заснавальнік беларускай рок-музыкі. Зараз пачне аднеквацца, маўляў, героямі былі іншыя, а ён толькі біў у свае барабаны, ну і тэксты песень пісаў. А між тым факты гэтаму аднекваньню супярэчаць.*

## БЕЛАРУСКІ РОК-РУХ

*Трыццаць гадоў таму зь беларускай рок-музыкай адбывалася тое самае, што і з Майстроўняй. Нездарма Кныш і там і там становіцца першым чалавекам. Першым паводле парадку зьяўленьня. Вядома, рок-гуртоў у Менску ў 1980-м годзе была процьма, на адным заводзе «Гарызонт» грала дзесяць камандаў. А яшчэ згадайце легендарных «Песьняроў» ды іншыя знакавыя ансамблі. Толькі ж такой зьявы, як беларуская рок-музыка, не было.*

*Студэнт Тэатральна-мастацкага інстытуту Сяргей Кныш, які «барабаніў» яшчэ ў школе, цяпер граў у сваім студэнцкім гурце «Студыё-7». Адначасова ён стаў адным са стваральнікаў Беларускай Майстроўні. Каб не дзяліць уласную галаву на дзьве часткі, ён прапанаваў сваім расейскамоўным сябрам са «Студыя» граць па-беларуску. Тыя пагадзіліся, і так узьнікла «Бонда», якая пасьля падзялілася на «Краму» і «Ўліс». А колькі было ўсялякіх пабочных утварэньняў – не пералічыць.*

*Беларуская рок-музыка – як зьява – адрозьніваецца ад рок-музыкі, што рабілася й робіцца ў Беларусі, сваёю беларусацэнтрычнасьцю. Толькі так яна здабывае шанец выйсьці на абсягі сьвету не падробкаю пад расейскае ці пад заходняе, а – самакаштоўнаю зьяваю.*

## ФЛЮІДЫ МЕНСКАГА БУЛЬВАРУ

**Кныш**: Жыву ў Менску. Бацька мой рабочы, электрык. Ён з-пад Капыля. Маці працавала таваразнаўцам. Маці ў мяне з Расеі, а бацька беларус. Цяпер яны ўжо на пэнсіі. Так што ніякіх літаратурных ці мастацкіх продкаў у мяне не было.

Былі нейкія задаткі, можа й талент. І бабуля Зіна, маці маёй маці, пачала займацца мною. Вадзіла ў Палац піянэраў у скульптурны гурток і гурток маляваньня. А пасьля – інтэрнат, мяне аддалі туды – гадавацца, як кажуць.

*Сяргей Кныш жыве ў Менску на бульвары Шаўчэнкі. А гэта само па сабе адмысловае месца. Тут і сёньня ў паветры адчуваюцца флюіды, якія проста праменявалі трыццаць-сорак-пяцьдзясят гадоў таму.*

*Менскі бульвар... Колькі ён нарадзіў легендаў, прыгожых мітаў і фантомаў! Недзе тут разьмясьціў свой «пад'езд старых кавалераў» Караткевіч. Акурат тады, калі разгортваліся містыфікацыі «Чорнага замку Альшанскага», у сваёй палутарцы на бульвары пакавалі валізы ў далёкую Каліфорнію продкі Антона Кідзіса, яшчэ да нараджэньня будучага лідэра Red Hot Chili Peppers... Тутсама коўзаліся ў пясочніцы маленькі Артур Клінаў з маленькім Зьмітром Саўкам. Тут баба Зіна вяла за ручку Сярожу Кныша ў гурток лепкі... Ні яна, ні ён яшчэ ня ведалі, што Кідзіс і Кныш створаць свае гурты ў адзін год – у 1983-м адначасова зайграюць «перцы» ў Каліфорніі і «Бонда» ў Менску. Агулам кажучы, яны й граць будуць адну музыку, народжаную флюідамі менскага бульвару...*

## МАЙСТРОЎНЯ. ПАЧАТАК

*У 1970-я Сяргей Кныш трапляе ў мастацкую школу для адораных дзяцей. У «Парнаце» («інтэрнат на Парніковай») ён знаёміцца з Гэнікам Лойкам. А ўлетку 1980-га выкладчык Генадзь Сокалаў-Кубай вязе іх, навучэнцаў, у Вільню.*

**Кныш** (*разглядае стары здымак*): Мы езьдзілі

туды з Кубаём... Гэнік, я... Да Пётры Сергіевіча заходзілі на юбілей. Там яшчэ Марачкін быў, Кулік... Сокалаў-Кубай выкладаў у нас гісторыю мастацтва, шмат расказваў нам, чаго мы ня ведалі. Кніжкі прыносіў, паказваў... І Купава быў тады...

*З той летняй віленскай паездкі, дзе студэнты-мастакі спаткаліся з Арынай і Вінцуком Вячоркамі, пачалося знаёмства, якое і прывядзе ўвосені да стварэньня Майстроўні.*

*У маўчуна Кныша згадкі пра Майстроўню скупыя, але свае.*

**Кныш**: Помню Купальле. Калі мы езьдзілі электрычкамі. Там Яўген Кулік быў. Сядзеў побач са мной каля вогнішча. А яшчэ помню, як запісваліся на радыё. Каляды помняцца, як хадзілі зь мехам ільняным.

Хто хадзіў? Гэнік, я, Медзьвядзёў Ваня... Сушу помню, Герменчука... Аніка-Ваяка быў Андрэй... Цябе помню – ка́та Брамбэўса (*пэрсанажы спэктаклю «Цар Максімілян». – С.Д.*)... Андрэй Радзівонаў і цяпер заходзіць да мяне.

Я тады чытаў шмат гістарычнай літаратуры. Тарасава чытаў, Ермаловіча, вядома ж. Яшчэ тады, калі гэта было надрукавана на машынцы. Нехта прынёс, і мы чыталі. Гэнік чытаў, пасьля мне даваў.

Браў удзел у сьпеўках, у сьвятах у асноўным. Ведаеш, у мяне ні голасу, ні слыху (*сьмяецца*)... Але падабалася, вядома, падабалася.

*Свой удзел у Майстроўні Сяргей Кныш спыніў у 1983 годзе, акурат калі сама Майстроўня рыхтавалася рассыпацца на мноства іншых ініцыятываў. Хоць адкуль яна ўзялася – так і засталося загадкай.*



Сяргей Кныш з бубнам на Калядах 1982 году ў Заслаўі

**Кныш**: Дык яно так і павінна быць, я думаю. Як бы функцыю сваю яна выканала, а далей усе пайшлі сваім шляхам. Атрымалі штуршок. А адкуль узялася – ня ведаю. Можа нешта з космасу прыйшло...

Што Майстроўня дала мне? Як што? Я пачаў пісаць тэксты па-беларуску адразу. Да «Бонды» ў нас быў іншы гурт – «Студыё-7», расейскамоўны... Дык «Бонда» і пачалася, калі перайшлі на мову, калі мы з Варашкевічам вырашылі – давай па-беларуску. Чаму палякі вунь сьпяваюць па-свойму, нармальна ўсё гучыць... Варашкевіч адразу згадзіўся. Але я й

не пераконваў нікога. Проста сышоў чалавек, які нам замінаў. Ну і пайшло-паехала.

А тут яшчэ й Сыс зьявіўся на гарызонце. Ён жа і прынёс назву. Слова самое – бонда. Было некалькі варыянтаў, але выбралі «Бонду».

## «БОНДА»

*Аўтар знакамітага «Народнага альбому» і таксама майстровец Міхал Анемпадыстаў у прадмове да свайго твору піша:*

*«Гаворачы пра стыль у кантэксьце Narodnaha Albomu, нельга не ўзгадаць некаторыя тэксты БОНДЫ, а менавіта тэксты са «свойскай», так бы мовіць, тэматыкай. Найлепшым прыкладам можа быць тэкст «Стэфкі» – песьні этапнай для БОНДЫ і знакавай для ўсяго беларускага рок-н-ролу. Тэкст песьні напісаў Сяргей Кныш, бубнач і аўтар бальшыні тэкстаў гурта».*

**Кныш**: У «Бондзе» – так, у асноўным я пісаў. Я ж ня вершы пісаў, а тэксты. Гэта ж не паэзія. Тэксты для песень. Я іх Варашкевічу аддаваў. І ніколі амаль што ня правілася там нічога. Як пісалася, так і сьпявалася... Адкуль мова? Ну я ў школе добра вучыўся. І цяпер вучысься. Як яе можна аднойчы вывучыць? Гэта ж працэс бясконцы.

Да году 2000-га музыкай займаўся. А пасьля? А вось нешта адвярнула і ўсё. Барабаны паскладваў, у падвале ляжаць. Можа калісьці ў музэй які патрапяць :)

## БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ СЯМ'Я

*Барабаны спачылі на менскім бульвары ў падвале дому, дзе Сяргей Кныш жыве з жонкай і маленькай*

*дачкой. Гэта беларускамоўная сям’я – як, дарэчы, і бальшыня сем’яў колішніх майстроўцаў. Яшчэ адна характэрная рыса такіх сем’яў – адсутнасьць антаганізму, канфлікту бацькоў і дзяцей. Мова ў сям’і яднае, а не становіцца прычынай разладу.*

*У сям’і Сяргея Кныша ўсе гавораць па-беларуску.*

**Кныш**: У сям’і так. Прапанавала Вольга, жонка. Ну і так вырашылі – давай, хаця б у сям’і, з дачкой, будзем і яе прыцягваць, вучыць. Бо хто навучыць, калі разабрацца? Хаця яна й пойдзе ў школу ўвосені...

Дзяржава павінна? Пачынаць усё адно павінны бацькі. Шкада толькі, што садок не займаецца гэтым зусім. Дык таму – бацькі... А што застаецца рабіць?

Жонка выкладае фартэпіяна ў музычнай школе. Яна дачка Біча Міхася Восіпавіча, гісторыка. Ён памёр ужо, на жаль.

## СКУЛЬПТАР, А НЕ БАРАБАНШЧЫК

*У 2000-м годзе Сяргей Кныш разьвітваецца з музыкай і вяртаецца да сваёй прафэсіі – да скульптуры.*

**Кныш**: Ой не. Я не сьпявак, не актор. Толькі барабаншчык. І скульптар.

У мяне выкладаў Анікейчык Анатоль Аляксандравіч. Я лічу, што ён мне шмат даў. Калі я вучыўся ў Акадэміі. Такі быў сур’ёзны дзядзька, прыходзіў кожны панядзелак і казаў кожнаму: што ты зрабіў за тыдзень? І гэтую якасьць, патрабавальнасьць да сябе, я думаю, я трохі ўзяў ад яго...

Цяпер Караткевіча перачытваю. Хачу паўдзельнічаць у конкурсе на помнік Караткевічу. Дык

перачытваю васьмітомнік. У цешчы забраў. І ёсьць задумка зрабіць нешта...

Па-рознаму бывае. Адзін чалавек адразу – 25 гадоў ці 30 гадоў – ужо ўсё сказаў. А бывае наадварот, позна ўсё пачынаецца. Адносна позна...

Люблю сваю справу – скульптуру. Добра, што гэта вярнулася. Усё ж такі скульптар я, а не барабаншчык. Гэта адразу не зразумееш, а зь цягам часу... Можа што яшчэ й вылеплю цікавае.

47 гадоў – яшчэ ня позна, праўда?

## Вера Лазоўская



*Няма мовы ў школе, няма гісторыі – няма й нацыянальнага ўзгадаваньня беларусаў. А ўрокі сьпеваў у нас пачалі адмяняць толькі ў апошнія гады. Ніхто быццам нічога й не заўважыў. Бо гэты індыкатар самы невідавочны. Дзеці сьпяваюць разам – вось што галоўнае. Пасьля яны возьмуць іншыя песьні, у іх будзе невытлумачальны, мэтафізычны навык сьпяваць разам. Гэты індыкатар паказвае на самы глыбокі пласт звыраднеьня нацыі. Пры тым, што ў беларусаў касьмічна багатая фальклёрная спадчына, у нас ніколі не праводзілася такіх масавых сьвятаў песьні, як у літоўцаў ці латышоў.*

## УРОКІ СЬПЕВАЎ

*Вось і трыццаць гадоў таму, калі студэнты стварылі Беларускую Майстроўню, першае, за што яны ўчапіліся, былі сьпевы. Інтуітыўна ўчапіліся. Ім пашанцавала з Ларысай Сімаковіч – прафэсійнай кампазытаркай і хормайстрам, маладой, амбітнай, незвычайна адоранай.*

*Майстроўня ніколі не была тым, што называюць самадзейным хорам ці ансамблем. Песьня спатрэбвалася майстроўцам, каб ладзіць масавыя сьвяты і ўцягваць у працэс сьпяваньня як мага болей народу. А Ларыса глядзела на самых нясьпеўных як на патэнцыйных выканаўцаў і падыходзіла да іх з прафэсійнымі патрабаваньнямі й задачамі. «Матэрыял», натуральна, супраціўляўся. Але канфлікт інтарэсаў прападаў недзе на самым версе, дзе і Ларыса і майстроўцы ставілі перад сабой самыя неверагодныя задачы: яна – кампазытарскія, а яны – публічныя нацыятворчыя.*

*Новая рэальнасьць складалася ня толькі зь іншае мовы ды іншых спосабаў камунікацыі, але і, напрыклад, зь іншага самапрадстаўленьня. Тут Вані і Жэні рабіліся Янкамі ды Яўгенамі. Вера Лазоўская стала ў Майстроўні Вэрцяй.*

**Вэрця**: Мне гэтае імя ў Майстроўні далі, там я ўпершыню яго пачула ад Тацяны Лаўрыновіч – «Шынкаркі».

## ВЕРКА-ЦУКЕРКА

Я памятаю самыя першыя дотыкі да беларускай мовы. Прыехала да бабулі ў Караліну (вёска маёй маці, Чэрвеньскі раён, 30 км ад Менску), і дзеці там чамусьці дражніліся на мяне: Верка-цукерка, Вер-

ка-цукерка. Я ў сьлёзы, мне гадоў 4-5, у хату лячу: мама, дзеці абзываюцца!.. Як абзываюцца?.. Цукерка какая-та... А ўсе дарослыя сьмяюцца: дурніца, гэта ж канфетка! І вось першае беларускае слова, якое я ўведала, – цукерка, і мне так было прыемна, што Верка – цукерка...

Потым, памятаю, гадоў 7-8 мне было, і я прапанавала ў сям'і: давайце адзін дзень размаўляць па-беларуску. Я ня ведаю чаму. Ініцыятыва гэтая заглухла, але ўспамін застаўся.

Потым старэйшыя клясы. Мы вельмі не любілі выкладчыцу мовы. Яна хадзіла ў падраных панчохах, падраны сарафан... Яна на ўроку размаўляла на трасянцы, так брыдка, што не было павагі да чалавека і да прадмету.

## ПАЧАТАК МАЙСТРОЎНІ

Мы ўжо скончылі школу, я вучуся ў інстытуце і сустракаю сваю аднаклясьніцу Ірынку Крук (якая стала Марачкіна), і яна раптам (у менскім тралейбусе!) размаўляе са мной па-беларуску. Я кажу: Ірка, ты што? А яна мне: а мы ў сябе на філфаку вывучылі калядныя песьні і адсьвяткавалі Каляды. Прыходзь, там такая моладзь, такія песьні... Мне слова гэтае было невядомае – што за Каляды?.. Ну і, вядома, я пайшла.

Прыйшла. Было няшмат людзей, але што гэта былі за людзі! Там пабачыла Ірыну Крук, Ларысу Сімаковіч, маладых мастакоў... Янка Медзьвядзёў, Гэнік Лойка, Яўген Кот (Валасевіч), Андрэйка Радзівонаў. Усе былі такія незвычайныя. Вучыліся адначасова і сьпяваць, і па-беларуску размаўляць. І тое, што Ларыса нам давала, было, як у сьне. Як



Гуканьне Вясны ў Купалаўскім парку. 17 красавіка 1983 году. Віялета Ефіменка, Яўген Валасевіч, Вінцук Вячорка, Ларыса Малашэня, Люся Капітула, Аліна Садоўская, Сяргей Мурашка, Вера Лазоўская

быццам нешта даўно-даўно забытае і – настолькі новае.

Першыя дні, тыдні, месяцы я ўсмоктвала як сасьмяглая губка. Усё абсалютна. Словы, гукі, ноты, музыку. Гэтых людзей, іхныя размовы. Тое, што яны абмяркоўвалі і што чыталі. Адкрыўся такі пласт культуры і архітэктуры старажытнай! Мы ж колькі езьдзілі па ваколіцах Менску, па ўсёй Беларусі. Колькі глядзелі разбураных помнікаў. Колькі прыносілася самвыдату, літаратуры... Гэта быў цэлы кантынэнт – тое, што было закрыта за савецкім часам. Ішла вельмі магутная самаадукацыя.

Ты будзеш сьмяяцца... У савецкай школе мы вывучалі «Новую зямлю» Коласа, там ёсьць разьдзел «Дзядзька ў Вільні». І толькі прыйшоўшы ў Майстроўню, я даведалася, што Вільнюс – гэта Вільня наша беларуская. У школе ніхто не казаў, што Вільня – гэта Вільнюс.

## КАНСПЭКТЫ

Я доўга, зь месяц, не магла пераадолець сарамлівасьць. Здавалася, што ўсё ня так кажу. У мяне па-расейску былі выдатныя сачыненьні. Я графаман, любіла пісаць, вельмі шмат чытала па-расейску. У мяне была грамата за школу і я была абсалютна расейскамоўны чалавек. І пераступіць моўны парог было вельмі цяжка.

*Майстроўцы ня мелі ані кіраваньня, ані мэтодыкаў, але на сваіх факультэтах, нібы па камандзе, рабілі тое самае. Журналісты й матэматыкі, фізыкі й мастакі, географы й архітэктары канспэктавалі чытаныя па-расейску лекцыі – па-беларуску. І пасьля залікі здавалі, курсавыя й дыплёмныя пісалі на роднай мове. Звычайна атачэньне вышэйшай савецкай школы пазірала на гэта спакойна або насьцярожана, калі студэнты ламалі базавыя ўстаноўкі русіфікацыі, напрыклад, калі па-беларуску здавалі іспыты па расейскай літаратуры. Да канфлікту не даходзіла. Ці то дзякуючы такту нашых выкладчыкаў, ці то мы пасягалі на такія сфэры, нават думаць пра дакрананьне да якіх яшчэ са сталінскіх часоў было страшна...*

**Вэрця**: Гэта быў трэці курс інстытуту (архітэктурны факультэт БПІ). Лекцыі чытаюцца па-расейску, а я бяру й запісваю іх адразу па-беларуску. Спачатку гэта неверагодна цяжка – сынхронны

пераклад. І я палову словаў пішу адразу па-беларуску, а палову, каб ня страціць думку, запісваю па-расейску, падкрэсьліваю іх, а дахаты прыходжу і ўжо спакойна перакладаю. І такая практыка дала свой плён. Калі мне нарэшце прысьніўся сон па-беларуску, тут я зразумела, што адбыўся пераход, і з гэтага моманту стала спрабаваць публічна казаць па-беларуску.

Я абараняла дыплём па-беларуску, першая, адна, гэта быў ужо 1983 год, а за мною на наступны год – ужо тры чалавекі, тры хлапцы.

За мной шмат людзей прыйшло. Я прывяла сястру, прывяла аднаклясьніцу Люсю Капітулу, яна цяпер жыве ў Піцеры. Са сваёй групы я папрыводзіла шмат людзей на нашыя сьвяты. Потым трое дзяўчатак маіх, архітэктарак, пабраліся шлюбам з нашымі майстроўскімі, у тым ліку, як мы іх звалі, з «французамі», хлопцамі з інстытуту замежных моваў. Арачка, была Кліманковіч, цяпер Мурашка – зь Сярожкам Мурашкам, Рыта Міклашэвіч, была Гвозьдзік, мы яе звалі Цьвічок, і Тацянка, была Глушакова, цяпер Тацяна Істоміна...

## УВА МНЕ 100% МАЙСТРОЎНІ

Ува мне сто адсоткаў Майстроўні. Я працавала доўгі час архітэктарам, рэстаўратарам. Мне было вельмі цікава займацца старажытнай беларускай архітэктурай, культурай. Гэта супала: афіцыйная адукацыя ў Беларускім політэхнічным інстытуце і самаадукацыя ў Майстроўні, і ўсё пад парасонам беларушчыны.

Потым так склалася, што я захварэла на цукровы дыябэт, стала цяжка езьдзіць у службовыя выправы, і паступова ад гэтай працы я адышла.

Ёсьць дачка і сын. Аленка скончыла Эўрапейскі гуманітарны. Пакуль жыла ў Беларусі, да беларускай мовы – аніяк. Толькі калі да трох годзікаў яны гадаваліся... Мой былы сужэнец, беларускі хахол, як я яго называю, па-расейску размаўляе...

Аленка мая паступіла ў Вільню на дызайн і праз год настолькі засумавала па беларускай мове, што стала шукаць беларускамоўнае асяродзьдзе і цалкам перайшла на беларускую. Сынок у большай меры па-беларуску размаўляў і тут. Ён скончыў «лясную школку» – Беларускі гуманітарны ліцэй, які афіцыйна зачынілі ў 2003 годзе.

Безумоўна, з Майстроўні вырасла шмат іншых беларускіх гуртоў. Шмат людзей потым сталі рабіць свае асабістыя праекты. Я перайшла ў гурт «Дзяньніца», які стварыла ізноў жа Ларыса, – чыста фальклёрны сьпеўны праект.

Ларыса Сімаковіч – адна з самых яркіх зорак на небасхіле беларушчыны. І найвышэйшы маральны аўтарытэт, і веды, і сэрца. І тое, што яна вярнула беларускай культуры... Гэта элітнае мастацтва. Чым вышэй, тым менш птушак там лётае. А яна – арліца.

Я пяю ў думках практычна ўвесь час. Столькі мудрасьці ў гэтых песьнях для любой жыцьцёвай сытуацыі.

*Сьпевы былі зьместам усіх майстроўскіх сходаў, вечарынаў у школах ды інстытутах, публічных сьвятаў. Сьпявалі ўвесь час і паўсюль, наўмысна прыцягваючы да сябе ўвагу. Дзе-небудзь у перапоўненым людзьмі вясковым дрыгунку па шляху зь Вішнева ў Гальшаны майстроўскую песьню раптам спыняла старая кабета: А вы тут словы прапусьцілі!.. Якія?.. У адказ пяюньня распачынала свой сьпеў,*

*майстроўцы падхоплівалі, а яшчэ праз момант сьпяваў ужо ўвесь аўтобус. Бывала, у электрычках майстроўцы ўчынялі спаборніцтвы – хто болей песень ведае. За тым, каб не было паўтораў, пільна сачылі. Памятаю і пераможны лік – 130. Усяго год-два канцэнтрацыі, і ты сьпяваеш сто і болей народных песень. Калі перакладаць на Вэрціны словы – атрымліваеш сто мудрасьцяў...*

**Вэрця**: На сьвятах я бачыла вочы, якія сьцякалі сьлязьмі шчасьця ад таго, што нехта ім вяртае чутае. Падыходзілі сталыя людзі. Нам, моладзі, яны дзякавалі за руку, абдымалі, бо мы пяем тое, што яны чулі дзецьмі.

# Мікола Сасноўскі



*Майстроўня ўзьнікла ў студэнцкім асяродзьдзі. Але пачынальнікамі яе былі ня толькі студэнты. Быў сярод пачынальнікаў і Мікола Сасноўскі, які з тых часоў і да сёньня працуе рабочым на Менскім мотавелазаводзе.*

## БАБУЛІН ГАДАВАНЕЦ

**Сасноўскі**: Перад тым як пазнаёміцца з Майстроўняй, я пазнаёміўся са старэйшай інтэлігенцыяй.

Мне давялося ад ваенкамату быць на абсьледаваньні ў лякарні. Ужо тады я пераходзіў на беларускую мову. Там я сустрэўся з мастаком і зацікавіўся, а што ж ён малюе. Ён быў графік. І, аказваецца, ён рабіў накіды да 500-годзьдзя Міколы Гусоўскага, да выданьня кніжкі. Растлумачыў мне, хто такі Гусоўскі. Імя мастака было Фэлікс. Фэлікс Янушкевіч...

*Гэта 1979 год. Налета адкрыецца знакамітая мастацкая выстава, прысьвечаная 500-м угодкам аўтара «Песьні пра зубра», на якой Мікола будзе частым наведнікам. Але заўважце, што яшчэ да сустрэчы зь Янушкевічам Сасноўскі пераходзіў на беларускую мову. Адкуль што бярэцца?*

**Сасноўскі**: Нарадзіўся я ў 1960 годзе ў Менску. Але адразу быў забраны ў вёску і там гадаваўся. Гадоў да сямі, пакуль у школу не пайшоў. Адправілі ў расейскамоўную школу, навучылі правільна разговарівать. У свой час, як наяжджалі бацькі, памятаю, я казаў: баба, а што яны ня так гаворац, як мы? Ой, унучак, ведаеш, яны ж там па-гарадзкому гавораць, па-моднаму. Ня так, як мы тут.

Але мае бацькі зь вёсак, натуральна. Вёскі пад Сьмілавічамі, недалёка ад Менску. У свой час я нават выцечку ладзіў для майстроўцаў у Сьмілавічы, паказаў усё, што там ведаў, радзіму Манюшкі...

Тата мой зь вёскі Гудовічы. Там, дарэчы, у свой час Эдвард Зайкоўскі раскопкі праводзіў на Сьвятой гары. Матуля зь вёскі Смолянка, дзе яе цяпер і пахавалі. Матуля працавала на заводзе, і тата працаваў у ліцейным цэху, ад чаго, відаць, і падарваў здароўе: ён памёр яшчэ ў 35 гадоў.

У Менску я скончыў расейскамоўную школу. І ўсё часьцей прыходзіла мне на одум – як гэта так, я беларус, а роднае называецца чужым, чужое родным?! «Родная речь» у школе ў малодшых клясах.

## СТАРЭЙШАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Пасьля школы я ўжо сьведама размаўляў па-беларуску. І праз гэта пазнаёміўся з інтэлігенцыяй.

Быў 1980 год, Купалаўскае сьвята ў Вязынцы, і я выцягнуў туды сваіх бацькоў. Мы пахадзілі па



У Эўфрасінеўскім манастыры ў Полацку. Мікола Сасноўскі, Сяржук Сокалаў-Воюш і ягоная вучаніца Наталя Дзям'яненка. Другая палова 1980-х

шапіках. У мяне й цяпер сем тамоў Купалы стаяць, купленыя тады. Там пазнаёміўся з Алесем Марачкіным. Віктар Сташчанюк быў, і Алег Бембель, і Генадзь Тумаш. Калі мы спазьняліся на электрычку, першы дабег Алег Бембель і самааддана трымаў дзьверы, пакуль мае бацькі не ўвайшлі...

*У Вязынцы Міколу запомніўся эпізод, які сьведчыць пра пэўнае «кіраваньне працэсам».*

**Сасноўскі**: Нехта, магчыма, той жа Марачкін, сказаў Сташчанюку: ты абмяняйся зь Міколам адрасамі й дай яму што пачытаць.

*Пачатковы імпульс беларушчыны, які майстроўцы атрымлівалі ад сваіх вясковых бабуляў, на добры лад мусіла разьвіць пакаленьне іхных ужо гарадзкіх бацькоў. Але бацькі, як правіла, сваёй уласнай беларушчынай расплочваліся за пераезд у горад, і таму нічога дапоўніць не маглі. Іхную ролю брала на сябе старэйшая інтэлігенцыя – людзі, якія сьвядома абралі беларушчыну прадметам дзейнасьці.*

**Сасноўскі**: Віктар Сташчанюк для мяне самы блізкі з мастакоў быў. Ён памёр у 2007 годзе. Ён багата працаваў у галіне рэканструкцыі Менску, і ўвесь Верхні горад, можна сказаць, – гэта ягоная праца. Праз яго я шмат якія веды атрымаў. І гэтыя веды дазволілі мне ўступіць у спрэчку зь Вінцуком Вячоркам падчас знаёмства з Майстроўняй.

*Мы падбіраемся да ключавога моманту ў гісторыі Міколы-майстроўца: якім чынам ён сустрэўся з астатнімі.*

**Сасноўскі**: Мы паехалі да айчымавай цёткі ў Заслаўе. Я прапанаваў пайсьці на замчышча. А там хлапец у акулярах усё паказвае на Кальвінскі збор ды нешта расказвае. Я прыслухаўся, чую, нешта не зусім так, як я маю інфармацыю. Ну я і ўступіў зь ім

у спрэчку. Яны зацікавіліся. Той хлапец у акулярах быў Вінцук Вячорка, каля яго былі і Сяржук Дубавец, і Сокалаў-Воюш Сяржук, былі й дзяўчаты.

## МАЙСТРОЎСКІ ФАТОГРАФ

Потым, у музэі, ён тады яшчэ быў у Кальвінскім зборы, да мяне падышоў такі патлаты з барадой дый пытаецца: а ты хто і адкуль узяўся? Гэта быў Сокалаў-Воюш. Зайшла гаворка. Ён мяне больш-менш прадставіў людзям. І з таго часу так павялося.

*Дома ў Міколы вялізныя скрыні з асабістымі архівамі. Тут захоўваюцца аўдыёзапісы Майстроўні. А яшчэ – гліняныя мэдалі да майстроўскіх сьвятаў, якія рабілі Гэнік Лойка, Алесь Костка, Яўген Валасевіч; перазьнятыя фотаспосабам кнігі – у тым выглядзе, у якім яны трыццаць гадоў таму «хадзілі па руках»; а найперш – акуратна раскладзеныя ў капэрты многія сотні здымкаў, пераважна з часоў «Талакі» і пазьнейшых, але шмат таксама й майстроўскіх. У Майстроўні Мікола лічыўся сваім, майстроўскім фатографам.*

**Сасноўскі**: Заўважыўшы, што я неяк выпадаю з усіх кантэкстаў на гэтых сьвятах, мне Вінцук Вячорка прапанаваў: Мікола, у цябе фотаапарат, фатаграфуй ты нас. І я заняўся такой практычнай дзейнасьцю ў Майстроўні. Вядома, на аматарскім узроўні.

Вялікае ўражаньне на мяне пакінула Купальле. Першае, на якім я быў. Гэта было ў Заслаўі. Сокалаў-Воюш быў тады княжычам. У яго на галаве быў парык зь яшчэ даўжэйшымі валасамі, хаця і сваімі ён быў не абдзелены. Яму яшчэ каня вызначылі... Напачатку ўсё было файна, цёпла. Потым пайшоў

дождж. І тут ён заяжджае конна і заклікае народ адзначыць Купальле.

І мы, на ўсё забыўшыся, і на дождж, і вымакшы, і ў гразі па калена, але сьвяткавалі. Майстроўня ладзіла сьвята на замчышчы, непасрэдна на валу. Памятаю, як матлялася гэтае божышча, з пап'е-машэ зробленае, на доўгім кіі мацавалася, і калі водбліск полымя на яго клаўся, яно як бы заглядала: а што ж мы тут робім? А яшчэ як убачыў дзяўчатаў, ды абвязаных папарацьцю, я зразумеў, што вось яны, вытокі, вось яна, старажытнасьць!..

У Майстроўні пераважна былі студэнты, натуральна. Я голасу такога ня меў дый наагул на артыста не цягнуў, але...

*Але Мікола адразу ўпісаўся ў суполку і стаў яе неад'емным чальцом. Згадваю, як узрушыў усіх паэтычны дэбют у заводзкай газэце. Мікола пісаў вершы.*

**Сасноўскі**: Даўна-даўна не пішу, і, так лічу, пісаць болей ня буду...

## ВЕРШЫ

У свой час я, слаба знаёмы са станам беларускай літаратуры, пачаў спантанна пісаць вершы, ад душы, дзеля сябе. І калі я паказаў гэтыя вершы сталым літаратарам, яны, вядома, падбадзёрвалі мяне, што ўсё выдатна, але ж ты пачытай і такіх і гэткіх клясыкаў. Я разумеў, што пішу для сябе, а астатнія пра гэта даўно сказалі й сказалі значна лепей. Аўтарытэтны для мяне паэт Алесь Разанаў напісаў: і чым больш мы напішам твораў, падобных адзін на адзін, тым больш мы зьбеднім нашу літаратуру. Гэта мяне шакавала, і я зразумеў, што ня варта...

І потым, я ўсё ж такі чалавек працоўны. Я займаюся нейкай працай, а ў галаву прыходзяць зусім іншыя думкі, і пачынаеш складаць твор. Аднаго разу, калі разарваўся абразіўны круг і, праляцеўшы ля сківіцы, выбіў на сьцяне вялікую дзюрку, я зразумеў, што гэта ўсё праз маю незарганізаванасьць, праз тое, што я рабіў адно, а думаў пра іншае.

Маё раньняе маленства прайшло на вёсцы з маёй прабабулькай:

…Самотай сэрца агарнецца,
Калі успомніш да драбніц
Расінку, што дрыжыць на кветцы,
І водарны той пах суніц...

*Тое вясковае маленства пад Сьмілавічамі ўспамінаецца Міколу як найлепшы час у жыцьці. І ці не ягоных водгукаў ды водсьветаў шукаў ён ў Майстроўні?*

**Сасноўскі**: Ну так. Хаця сёньня трэба сказаць: наўрад ці я б здолеў жыць на вёсцы. Але што там буду спачываць, я для сябе вызначыў адназначна.

Навучаўся я ў школе ня надта. У 1977 годзе паступіў у вучэльню, а ў 1979-м скончыў і пачаў самастойна працаваць. Працую інструмэнтальшчыкам на мотавелазаводзе, выпускаем сельгастэхніку. Цяпер ужо й заводу такога хутка ня стане.

На заводзе ў пачатку 1980-х былі і кпіны, і такое: а ты ведаеш, як гэта будзе па-беларуску? Я зь цягам часу ўспрыняў гэта для сябе як стымул набываць веды. Але, ясная рэч, у маім асяродзьдзі людзі не карыстаюцца беларускай мовай.

*Па-за працай Мікола наведваецца ў менскі клюб мэляманаў, зьбірае калекцыю музыкі ды ў сваёй утульнай кватэры мае ўсё, што трэба для якаснага гуку.*

**Сасноўскі**: Люблю паслухаць музыку. Найбольш люблю традыцыйны, або, як кажуць, мэйнстрымаўскі джаз. А фартэпіяна для мяне – самы-самы інструмэнт. Калі я чую фартэпіяна, асабліва жыўцом, я гатовы на ўсё, каб толькі піяніст не падымаўся, каб хоць што-небудзь граў...

Майстроўня – гэта была зьява спантанная. Тады ж усё было заарганізавана. А людзі цягнуліся адзін да аднаго безь ніякіх фармальнасьцяў... Некаторыя людзі, што пачыналі з Майстроўні, пайшлі ў вялікую палітыку... Ну а простыя людзі... Я лічу, што б і дзе ні казалася, мова – асноўны паказьнік беларушчыны. Чалавек можа нешта ўспрымаць ці не ўспрымаць, але як ён ёсьць беларусам, аб гэтым гаворыць толькі ягоная мова. Сам ён аб гэтым лепш аніяк ня скажа... Людцы, заставайцеся самі сабой. Старайцеся ня здраджваць самі сабе. Ня толькі ў мове, але і ў жыцьці.

# Тацяна Лясьніцкая (Лаўрыновіч)



*Тагачасны Менск выглядаў самым дэнацыяналізаваным горадам краіны. А беларушчына, наадварот, чым далей ад сталіцы, пачувалася больш жывой і натуральнай. І тое, што для майстроўцаў-менчукоў выглядала адкрыцьцём, для іхных аднагодкаў зь вёскі або мястэчка было шанцам скінуць з уласнае беларушчыны правінцыйны комплекс непаўнавартасьці.*

**ПАХОД НА СТАЛІЦУ**

*Прыклад гэтаму – гісторыя Тані Лаўрыновіч зь мястэчка Гальшаны. Самым важным горадам для яе была Вільня, бо гэта гістарычная Віленшчына. І толькі пасьля вайны сталіцай стаў Менск. І Таня*

*адправілася вучыцца архітэктуры ў Менск, у політэхнічны інстытут.*

**Таня**: Кожны прыходзіў у Майстроўню сваім шляхам. Як Вэрця распавядала, для яе гэта было зьнянацку. Для мяне гэтага зьнянацку не было. Беларуская мова ў мяне зь дзяцінства, школа ў нас была беларуская. І на алімпіядзе па матэматыцы ў Ашмянах, а там заданьне давалі па-расейску, дык мне яшчэ трэба было падумаць: числитель-знаменатель...

Выкладчыкі нядрэнныя былі. Адзінае, што ў нас у школе гэта ўсё давалі, але ня выхавалі гонар за гэта. І ўсе імкнуліся, як ехалі ў горад, быць гарадзкімі. І рабіліся рускімі.

*Маладыя людзі зь вёскі, дзе беларускае асяродзьдзе было натуральным, і з гораду ў Майстроўні знаходзілі агульны інтарэс не ў фармальных прыкметах мовы, этнаграфіі і фальклёру, а менавіта ў стаўленьні да беларушчыны. У Тані Лаўрыновіч зьмена стаўленьня пачалася яшчэ да Майстроўні.*

**Таня**: У Гальшаны прыяжджалі на практыку мастакі. Уладзімер Савіч прывозіў. Гэта былі аднагодкі мае: Панцялееў і ягоныя аднаклясьнікі, хто ў Майстроўню хадзіў. Мы ўжо ад іх перанялі тое, што трэба ганарыцца і паважаць. І што Гальшаны трэба любіць. Для нас яны былі проста вёска, мястэчка, сельсавет, калгас і ўсё...

## ЛЮБІ СВАЁ

*Самая кароткая формула нацыянальнага ўзгадаваньня – любі сваё – беларусам заўсёды давалася няпроста. Цяжкасьці сыходзілі ад магутнага русіфікатарскага ўзьдзеяньня суседняй краіны і ад улас-*




Тацяна з уласным партрэтам, які на дзень нараджэньня падарыў ёй майстровец Андрэй Радзівонаў. 1982 год

*ных, выхаваных гэтым узьдзеяньнем начальнікаў. Так было за савецкім часам, так і сёньня.*

*У Беларускай Майстроўні адбывалася зьмена акцэнтаў зь «любі тое, што патрабуе прапаганда», на «любі сваё».*

**Таня**: На трэцім курсе Вэрця заўважыла, што ў мяне такі самы інтарэс. Аднак ужо тады я «Літаратуру і мастацтва» чытала, «Голас Радзімы», гэта былі такія незвычайныя газэты. І на выставы хадзіла. Але адзін у полі ня воін, як кажуць. Як Вэрця ў Майстроўні зьявілася, дык яна й мяне туды заклікала.

Я і заўвагі ёй рабіла моўныя. У мяне цёця была Вера, а бабуля яе называла Вэрця. Я кажу – ты Вэрця. Ёй так спадабалася...

Асяродзьдзе было такое добрае, незвычайнае. Людзі ўсе такія розныя, усе такія цікавыя. І атмасфэра дабрыні, дабразычлівасьці. У гэтым калектыве ні злосьці не было, ні зайздросьці, нельга было сказаць брыдкога слова. Там узаемапавага была.

Майстроўня навучыла весяліцца. Дзе гэта ў моладзі дваццацігадовай, каб карагод вадзіць ці ручаёк і радавацца? А тут проста асалоду атрымліваў ад такіх, можна сказаць, па-дзіцячаму наіўных танцаў.

*Майстроўцы крытычна, нават прыдзірліва ставіліся да ўсяго, што рабілі. Цэлыя дыскусіі разгортваліся вакол тэзы «мы ня ўмеем весяліцца». Як весяліцца так, каб гэта было зусім непасрэдна й натуральна? Вядома, для гэтага трэба пачувацца свабоднымі. І майстроўцы пачуваліся такімі, бо дзеля маладосьці маглі сабе гэта дазволіць, бо, як кажа Генадзь Мацур, былі нябітыя.*

*Майстроўня, якая «не рабіла дрэннай справы», вучылася любіць сваё, што для КГБ выглядала справай бясконца падазронай. Таму майстроўцаў цераз аднаго цягалі на гутаркі, што пасьля абмяркоўвалася ў майстроўскіх кулюарах. Нябітая моладзь, на думку гэбістаў, ня мусіла пачувацца свабоднай,*

*а таму павінна была стаць бітай. Вось чаму «прафіляктычныя гутаркі» адбываліся часьцяком у пагрозьлівым тоне.*

## КГБ

**Гэнік Лойка**: Калі нас пачалі ў КГБ цягаць, я першае, што – пайшоў Вячорку расказаў: што рабіць?.. Кагэбіст, вядома, псыхоляг, кранае за гэта, за тое возьме цябе, пашчупае. Але мне сьмешна, што ён, здавалася б, псыхоляг такі, маёр! – і не знайшоў жылку патрэбную... Кажу Вінцуку: калі кагэбісты такія, давай я пайду штырліцам туды. Ён кажа: можаш рабіць як хочаш, але мая табе парада – ня лезь. Яны кіпцюрык запусьцяць – а там цэлая рука. Адзінае скажу: не прадавай душу д'яблу. Карацей, адгаварыў мяне ад гэтай штырліцкай працы.

*Чаму такая ўсемагутная кантора, як КГБ, не спыніла нараджэньня Майстроўні і ператварэньня яе ў грамадзкі рух? Таму што майстроўцы займаліся вонкава бяскрыўднымі для рэжыму справамі? Ці таму, што нехта ў КГБ проста не захацеў паставіць на Майстроўні тлусты крыж? Сёньняшнія гэбісты выстаўляюць сябе пасьлядоўнікамі тых, што змагаліся супраць самай страшнай крамолы – незалежнасьці Беларусі, пры тым, што сёньняшнія мусяць гэтую незалежнасьць берагчы як вока. Ёсьць вызначаны курс – душыць усё нефармальнае ды несанкцыянаванае, а людзі – яны паўсюль людзі. Адзін выслужваецца, другі незаўважна сабатуе рэпрэсіі, трэці – раіць аб'екту магчымых рэпрэсіяў, каб паводзіўся абачліва. Як гэта было ў выпадку Тані Лаўрыновіч.*

**Таня**: Бацька мяне падтрымаў, яму было цікава, што я хаджу сюды. Я прыяжджала, сьпявала яму

песьні. «Гутата-гулялё...» Я яму ўсё цікавае распавядала, і ён падтрымліваў мяне. Праўда, некалі да яго прыехаў быў сябра, журналіст зь Менску, і ён меў справы з КГБ. Пачуў, што я размаўляю па-беларуску, і задаў пару пытаньняў: ці ведаю я таго, гэтага? Назваў прозьвішчы ўдзельнікаў Майстроўні... І бацьку майго папярэдзіў, і мне сеў лекцыю прачытаў, што – будзь асьцярожная, глядзі, сабе не нашкодзь... Гэта мяне не спалохала, я сама ведала, куды хаджу і з кім падтрымліваю сувязі.

## ДЗЕВЯЦЬ ЗЬВЁНАЎ У ЛАНЦУЖКУ РОДУ

Бацькі – лекары. Бацька мой добры доктар быў, заслужаны лекар Беларусі. Як прыехалі ў Гальшаны, так там і жылі. А карані на Астравеччыне, вёска Спонды. У архіве столькі матэрыялаў! З 1761 году ў нас ланцужок Лаўрыновічаў. Нас ужо дзевяць пакаленьняў – ёсьць генэалёгія. У архіве паразьняла што змагла, у школьны музэй у Гальшаны аддала, у Ашмяны. Мы з стрыечнай сястрой знайшлі зямлю, якая ў прадзеда майго дзеда была. Жэлядзь называўся маёнтак.

*У гісторыі Тані пэрыяд вучобы ў Менску супаў з майстроўскім. Выехаўшы з Гальшанаў у сталіцу, яна па сканчэньні вучобы ў Менск не вярталася. Нягледзячы на новыя геапалітычныя рэаліі, спрацавалі адвечныя дацэнтравыя сілы. Таня выйшла замуж за віленчука Вінцука Лясьніцкага і стала вільнянкаю. Вясельле гулялі ў Гальшанах, куды прыехалі і сябры з Майстроўні.*

**Таня**: Яшчэ кантакты з майстроўцамі падтрымліваліся. Там такі звычай, калі жаніх прыяжджае нявесту выкупляць, яму даецца нявеста фальшывая. І трэба было выбраць нявесту. Вырашылі

Гэніка Лойку. Яму надзелі фату, размалявалі, вусны нафарбавалі. Праўда, замест букету далі мятлу ў рукі. І прыходзіць мой Вінцук, чакае, што яму Тацяну прывядуць, а тут Гэніка. Дык аж сьлёзы цяклі ва ўсіх гасьцей ад сьмеху.

Муж віленчук. Паходзіць зь Меднікаў. Яны ж там па-беларуску размаўляюць. Кажуць – па-тутэйшаму. Маладзейшае пакаленьне – яны вучыліся ў польскай школе, дык больш польскую ведаюць. А старэйшае пакаленьне па-беларуску.

А нарадзіўся Вінцук мой на Віленскай вуліцы, у самым сэрцы Вільні. Вільню ведае – кожны каменьчык. І я ўжо люблю Вільню. Яна мая. І дзеці тут мае. Чацьвёра дзетак. Тры хлопцы і Алінка. Цяпер Алінка паступіла на першы курс мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Радасьць мая, бо бацькі былі лекарамі. Хлопцы працуюць, адзін яшчэ школьнік, малодшы.

## ЭТЫЧНЫ РУХ

*Майстроўня зьмяняла стаўленьне да многіх рэчаў. Нешта яшчэ ўчора няважнае раптам станавілася для цябе найдаражэйшаю каштоўнасьцю. Мяняўся сьветапогляд, а ў прадстаўнікоў пакаленьня зьяўлялася этыка, чаго немагчыма было прыдбаць ані на занятках, ані з газэтаў.*

**Таня:** Зьмянілася стаўленьне, напрыклад, да рэлігіі. Я пачала цікавіцца гісторыяй рэлігіі. Праўда, вера прыйшла пазьней. Этнаграфічныя прадметы зьбіраць захацелася – ткацтва, вырабы... Неяк прыгажэй у гэтым жыць. Гэта і элемэнты інтэр’еру. І ў прынцыпе гэта самы танны спосаб зрабіць свой інтэр’ер арыгінальным. Кожная рэч мае сваю гісторыю.

У нас ёсьць міска-мядніца. Яе Вінцуковай бабулі падарылі габрэі. У Вільні было гета, і габрэі ўцякалі адтуль у лясы. Дзе яны маглі заначаваць? Вядома, на хутарах. І Вінцукова бабуля зь дзедам прытулілі габрэяў. І за тое ў знак падзякі пакінулі бабулі мядніцу. Ручнік ёсьць, мая бабуля ткала, будучы дзеўкай. Яна ткала, а ніткі прала ўжо мая прабабуля. Кожная рэч – сямейная рэліквія.

Артыкулы я падпісваю праз рысачку Лаўрыновіч-Лясьніцкая, бо ў Ашмянскім раёне мяне ведаюць як Лаўрыновіч.

У час Майстроўні мяне называлі Гальшаначкай і яшчэ Шынкаркай. Як мы былі ў Міры на раскопках, вядома, ніхто ня піў, але атрымалася, што аднекуль бутэлька гарэлкі зьявілася. І гэта было чалавек на пятнаццаць, і трэба было падзяліць. Мы пайшлі на палянку. Быў у нас кавалачак сала, кавалак хлеба і тая бутэлька гарэлкі. Мы рабілі бутэрбродзік маленькі і кожнаму па чарзе падносілі выпіць. І гэтая роля – падносіць – выпала мне. І як я нясу, усе сьпяваюць: «Ты, шынкарка маладая, па чом у цябе пляшка гарэлкі?». Пакуль кожнаму данесла, гэтую песеньку дасьпявалі разоў пятнаццаць – то і шынкарка. І пасьля каму скажы Шынкарка-Шынкарачка, то ведалі, што гэта я.

# Міхал Анемпадыстаў



*Калі Міхал Анемпадыстаў прыйшоў у Майстроўню, гэта быў апошні год яе існаваньня. Зьбіраліся тады ў Палацы прафсаюзаў. І сьвяты ладзілі ў самым цэнтры Менску – у Купалаўскім сквэры. Майстроўня ператварылася ў гарадзкі маладзёвы беларускі клюб, станавілася заўважным фактарам грамадзкага жыцьця. Пра яе пісалі ў газэтах і нават здымалі тэлевізійнае кіно. Але гэта было ўжо сонца, якое дагарала. З аднаго боку, усе тут адчувалі, што ці ня кожнага цягаюць на гутаркі ў КГБ, а зь іншага – стала так шмат людзей і кірункаў, што ўтрымацца ў адным цэлым станавілася немагчыма. Ня ўсе, хто хадзіў на даклады, хацелі хадзіць на сьпеўкі, і ня ўсе маглі, як некалі, удзельнічаць*

*у спэктаклі. А яшчэ ж выступалі ў школах, езьдзілі на археалягічныя раскопкі, у фальклёрныя экспэдыцыі, а прытым стваралі сем'і, сканчалі студэнцкія клопаты, выходзілі на працу...*

## КАШКУРЭВІЧ – АНЕМПАДЫСТАЎ – ХАРЭЎСКІ

**Анемпадыстаў**: Я прыйшоў, калі Майстроўня ўжо мела сваю мікрагісторыю і там было досыць шмат людзей. Хведар Кашкурэвіч прывёў мяне першы раз.

*У навучэнцаў менскай мастацкай вучэльні ўсё перадавалася ад аднаго аднаму. Сяргея Харэўскага ў Майстроўню прывёў ужо Міхал Анемпадыстаў. Маўляў, Міхал наведваўся сюды з Кашкурэвічам і Лявонам Вольскім, і аднойчы старэйшы Міхал сказаў малодшаму Харэўскаму, што гэта й ёсьць самае галоўнае. «Што?» – перапытаўся Харэўскі. «Песьня», – адказаў Анемпадыстаў. Хоць сам у сьпеўках ня ўдзельнічаў.*

**Анемпадыстаў**: Што я там шукаў? Тады мы пазнавалі жыцьцё й спрабавалі знайсьці сваё месца ў ім. І адным з такіх месцаў была Майстроўня. Мяне цікавіла ня толькі беларуская мова і народная музыка, – сьпеўная частка для мяне была проста павіннасьцю. Каб дачакацца пярэрвы на даклад. Мне больш цікава было слухаць даклады, было важна гаварыць па-беларуску...

Менская мастацкая вучэльня, на маю думку, была тады кузьняй творчых асобаў. Там была плюралістычная і свабодная палітыка, якую праводзілі настаўнікі. Дырэктар пільнаваў сытуацыю і час ад часу пісаў скаргі ў КГБ. А настаўнікі былі незалежныя людзі.

Калі я прыйшоў у вучэльню, па-беларуску гаварыў адзін чалавек. Хведар Кашкурэвіч. У нас была свая кампанія – Аляксей Дзьмітрыеў, мой сябра. І мы паміжсобку гаварылі па-беларуску. Здаецца, на чацьвертым курсе, у самым канцы, Аляксей, ён больш уparты, публічна перайшоў. Абараняў дыплём па-беларуску і атрымаў тройку. Бо дырэктар сказаў: я ж не магу паставіць добрую адзнаку чалавеку, які дэманстратыўна гаворыць па-беларуску.

*У мастацкай вучэльні ўлады пільнавалі беларушчыну з большым імпэтам, чым у іншых навучальных установах. Магчыма, такая пільнасьць тлумачыцца стэрэатыпным уяўленьнем пра індывідуалізм мастакоў? Але ж той самы індывідуалізм безь ніякага КГБ спыняў любую спробу ўзьнікненьня ў гэтым асяродку якой-кольвек суполкі або руху. Спыняў і схіляў або да самоты, або да пратэсту, або да субкультурных тусовак. А Майстроўня ні першым, ні другім, ні трэцім не была.*

## ПІЯНЭР СЯРОД АЛДОВЫХ

**Анемпадыстаў**: Безьліч усяго была – і гіпі, і пацыфісты, і рокеры, і фашысты таксама тады ўзьнікалі невядома адкуль і чаму. Крызіс адбыўся ў маладзёвай палітыцы ці вырасьлі новыя пакаленьні моладзі, якой – абы-што, толькі не савецкае афіцыйнае.

Мяне цікавілі «пацыфісты». Гэта былі нэагіпі. Так званыя піянэры, маладыя людзі, якія былі ў гэтай Сыстэме (гіпісцкі рух на слэнгу называўся Сыстэмай). Але я своечасова перастаў цікавіцца гэтым рухам. І добра, бо, на жаль, там прысутнічалі наркотыкі, і тых, хто своечасова ня выйшаў, ужо фізычна няма з намі.

КГБ было паўсюдна. Мяне аднойчы міліцыя за доўгія валасы спыніла на вуліцы, завезла ў пастарунак. Прыехалі двое ў цывільным. Яны па кожным маладзёвым руху задавалі пытаньні, бо ясна, што калі чалавек у сандаліях, з доўгімі валасамі й з мастацкай вучэльні, то можна «пажывіцца».

*Інакш кажучы, улады ўспрымалі Майстроўню як субкультуру, дакладней, імкнуліся яе так успрымаць.*

*Пра тое, што гэта проста нацыянальная культура, не магло быць і гаворкі. Для нацыянальнай культуры былі адведзеныя свае нішы – яна або абслугоўвала ўладу, аздабляла яе лёзунгі сваім дэкаратыўным арнамэнтам, або выяўлялася ў вёсках – як прырода ці як утаймаваная стыхія. Пра тое, што стыхія выйшла з падпарадкаваньня і абʼявілася ў сталіцы, нават ня думалі, бо гэта было б дзіва нейкае, цуд.*

## ІМЯ

*У аўтара «Народнага альбому» і знанага культурнага героя сёньняшняй Беларусі незвычайнае ўсё, пачынаючы ад польскай формы імя (Міхал) і рэдкага прозьвішча.*

**Анемпадыстаў**: Прозьвішча ўтворанае ад імя Анемпадыст. Калі паглядзець праваслаўныя сьвятцы, там ёсьць гэтае імя. Яно досыць экзатычнае, гэта я ўсьведамляю. Цяжка кладзецца для вуха, але ўжо калі запомніцца, дык надоўга.

Вельмі па-featureрознаму мяне называлі... Самыя шыкоўныя варыянты былі ў войску. Адна была вэрсія Антыфашыстаў, а другая – Апладысмэнтаў.

У мяне была стрыечная бабуля ў Польшчы, і я час ад часу да яе езьдзіў і быў ці не адзіным чалавекам

у вучэльні, які выяжджаў за мяжу. Гэты факт быў вядомы. Таму спалянізаваная форма й замацавалася – Міхал.

## РОД РАСПЫЛІЎСЯ НА «ЗАХОДНІХ РУБЯЖАХ»

Я мянчук. Жылі мы на бульвары Шаўчэнкі, а пасьля пераехалі на Камароўку. Так што для мяне Менск, безумоўна, родны горад, які я люблю і нават ведаю. А бацькі не менчукі. Мама прыехала са Львова, а тата з Баранавічаў... Дакладней, з Падмаскоўя. У вайну ён быў у Баранавічах, скончыў там школу пасьля вайны з залатым мэдалём. Але паколькі быў сынам рэпрэсаванага, дык ня мог нікуды паступіць. І яму давялося паступаць у інстытут, куды прымалі ўсіх, – у Маскоўскі горны.

У мяне сям'я не беларуская. Маці паходзіць з-пад Варонежа. Іхную сям'ю раскулачылі, саслалі прадзеда й адзінага сына на Салаўкі. Рэшту сям'і – мая прабабуля, а ў яе пяць дачок – усіх гэтых дзевак выселілі ў бліжэйшы населены пункт. Гэта была чыгуначная станцыя, і яны ўсе павыходзілі за чыгуначнікаў. Пазьней, у 1939-м, частку чыгуначнікаў заслалі ў Беларусь на зьмену тутэйшым рэпрэсаваным, а частку пасьля вайны, у 1944-45-м, у Заходнюю Ўкраіну на зьмену тамтэйшым рэпрэсаваным чыгуначнікам. І такім чынам уся сям'я распылілася на «заходніх рубяжах». А частка нават выехала ў Польшчу.

Тата з Рагачова. Яны туды патрапілі падчас першай усясьветнай вайны. А ў 1937-м арыштавалі майго дзеда. 1 верасьня бацька пайшоў у першую клясу, а 6 верасьня арыштавалі ягонага бацьку. І больш ён яго ніколі ня бачыў. З папераў вынікае, што дзеда ўжо ў кастрычніку расстралялі.

## ІЗНОЎ – СТАРЭЙШЫЯ МАСТАКІ

Сутыкаўся зь беларушчынай да вучэльні. Адзін з маіх найлепшых сяброў – Андрэй Занеўскі, ягоны бацька працаваў на архітэктуры ў БПІ. Калі я прыходзіў да іх дахаты, там часам зьяўляліся мастакі беларускамоўныя. І паколькі аўтарытэт гэтага сябравага бацькі для мяне быў вялікі, дык я гэта прыняў як належнае.

Мама працавала на геафаку. Мы зь ёй езьдзілі ў лягер для летняй практыкі студэнтаў. Гэта было за Валожынам, там мова захавалася вельмі добра, людзі гавораць – гаварылі – лепш за Вінцука Вячорку. Калі прыяжджаеш у Ракаў, пачынаецца брукаванка, і тады казалі – ну ўсё, пачынаецца Ракаў, скончылася цывілізацыя. Цяпер я разумею, што гэта якраз былі рэшткі цывілізацыі. Але ўжо пазбаўленай годнасьці. Гэта былі хутары, куды не правялі электрычнасьці...

## УПЛЫЎ ПОЛЬСКАЙ «САЛІДАРНАСЬЦІ»

Калі ўзьнікла Майстроўня – відаць, прысьпеў час – дзіўным чынам у паветры адчувалася, што нешта мяняецца, хаця тут абсалютна нічога не мянялася. Але ў Польшчы ўзьнікла «Салідарнасьць», і, можа, гэта заразна і пераносіцца празь межы...

А мне пашанцавала тады патрапіць у Польшчу. Мы паехалі да стрыечнай бабулі. Пераехалі мяжу, а там усё буяе, усё кіпіць.

## З МАЙСТРОЎНІ Ў ВОЙСКА

Я затрымаўся ў Майстроўні ажно да войска, і па мерках падлетка гэта досыць доўга. Бо тады кожны год – гэта цэлае жыцьцё.

А пасьля было войска. І Майстроўня за гэтай



Міхал Анемпадыстаў у войску

вайсковай заслонай засталася нечым крыху нерэальным. Цяпер выцягнуў лісты, якія ў войска мне дасылалі Вінцук і Сяргей Харэўскі...

У Вінцука ліст на дзесяць аркушаў. Палова – гэта выпраўленьне моўных памылак, як трэба пісаць і скланяць. А астатняе – ён апісвае майстроўскія падзеі, якія адбываліся пасьля майго сыходу ў

войска. І зь лістоў вынікае, што вельмі складана было весьці гэтую Майстроўню. Увогуле дзіўна, як яна там існавала, у Палацы прафсаюзаў, як яе не прыкрылі.

*Мала «старых» засталося ў Майстроўні, – маркоціцца Вінцук у лісьце да Міхала ў войска. І ставіць задачу: Трэба йсьці да тых, што й ня чулі пра Каляды ў Менску, хоць памятаюць зь дзіцячых гадоў гэты цуд – найвясёлае зімовае сьвята беларусаў.*

**Анемпадыстаў:** Але часы мяняліся. Я сышоў у войска ў 1983-м, а апошнія лісты – у 1985-м. За гэтыя два гады цалкам зьмянілася краіна Савецкі Саюз.

Харэўскі піша: усё, зацьверджаны плян рэстаўрацыі Менску, узнаўляюць кляштары, у Траецкім прадмесьці адкрываецца музэй, Татарскае прадмесьце цалкам рэстаўруецца... І гэта забаўна чытаць. Бо цяпер Татарскага прадмесьця няма ўжо, кляштары – дагэтуль невядома, ці зруйнуюць, ці будуць рэстаўраваць, Дамініканскі касьцёл і кляштар так і не зрабілі – там цяпер Палац рэспублікі... Так што час быў цікавы тады.

У лістах ёсьць шыкоўныя фразы, проста браць на цытаты. Сяргей Харэўскі кажа: я ўжо не 15-гадовы юнак, мне ўжо 18...

У 15-18 гадоў, куды б вы ні хадзілі, гэта будзе важным складнікам вашай біяграфіі. Паколькі Майстроўня прапаноўвала іншую культурніцкую і сьветапоглядную мадэль, то гэта вельмі важная частка жыцьця кожнага з нас.

# Ірына Марачкіна (Крук)



*Разам з Майстроўняй у беларускае адраджэньне прыйшло і пераймальне назваў у папярэднікаў. Калі газэта, дык «Наша Ніва», калі партыя, дык Грамада... Зрэшты, і ўсю нацыянальную дзейнасьць называлі па-колішняму – адраджэньнем.*

*Майстроўня мусіла дысэнт ператварыць у рух, вынесьці нацыянальную ідэю на людзі і, натуральна, самапрэзэнтавацца. Тут вымагалася навонкі заявіць пра пераемнасьць, а заадно ўзяць на сябе поўную адказнасьць за тое, што робіш, каб атрымаць права пачувацца ў гэтай дзейнасьці максымальна свабодным.*

*Прапанавала назву «Майстроўня» студэнтка філфаку Ірына Крук.*

**Ірына**: Назву я пазычыла ў адной выдатнай беларускай суполкі. У Вільні была Беларуская Драматычная Майстроўня. Я пра гэта даведалася, калі займалася пэрыёдыкай Заходняй Беларусі, сядзела ў бібліятэчных фондах, нават здабыла дазвол у спэцзахавальнікі, бо тая пэрыёдыка была закрытая для доступу.

*Беларуская Драматычная Майстроўня ў Вільні мясьцілася ў Базылянскіх мурах каля Вострае Брамы, тамсама, дзе і Беларуская гімназія, і Беларускі музэй. Праіснавала яна тры гады – з 1922-га да 1925-га. Дакладна столькі ж, дарэчы, колькі й наша Майстроўня.*

## НАЗВА СПАТРЭБІЛАСЯ ДЛЯ АФІШЫ

**Ірына**: Афіша спэктаклю вымагала неяк назвацца. Я прапанавала – Беларускай Сьпеўна-Драматычнай Майстроўняй. І на першых нашых рукапісных афішах менавіта такая назва была, доўгая. А пасьля засталося адно слова – Майстроўня.

Вінцуку спадабалася, і ён сказаў: усё, гэта тое, што трэба. У той час яго слухаліся вельмі, ён быў нефармальны лідэр.

Мы з нашага курсу, на якім навучалася сто студэнтаў, да 1979 году, другога курсу, знайшлі адзін аднаго. Сабралася кола – Вінцук, Сяргей Запрудзкі, Юрка Зыгмантовіч, Веранічка Надтачэева, Аленка Анісім – Амельчыц у той час.

Калі ўзьнікла ідэя зрабіць Каляды, мы пашырыліся, сталі запрашаць сяброў. Так, да прыкладу, я сваіх найбліжэйшых сяброўак прыцягнула: Верачку Лазоўскую, Наташаньку Лазоўскую, Люсю Капітулу, маю сястрычку Ірыну Шульгіну са Слуцку – гэта з роду Басалыгаў.

## ГІСТОРЫЯ ІРЫНЫ

Прышчэпку беларускасьці я атрымала ад бабулі Агаф'і Пятроўны Няхайчык, якая, нягледзячы на высылку на Ўрал, захавала беларускую гаворку, і ад айчыма Уладзімера Басалыгі, вядомага беларускага графіка. Ён гадаваў мяне зь пяці гадоў і стаў мне сапраўдным духоўным бацькам.

У нашым доме часта бываў Караткевіч ды іншыя пісьменьнікі. Бацька са мной гаварыў па-беларуску, і ў мяне ад сям'і ўзьнікла цікавасьць да беларускай культуры. Я, зусім гарадзкая дзяўчына, якая ў асноўным карысталася расейскай мовай, да дзясятай клясы зразумела: хачу пісаць пра беларускае мастацтва. Ну а паколькі мяне не пусьцілі ў Піцер вучыцца на мастацтвазнаўцу, я паступіла на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту.

*Ірына кажа, што ў Піцер яе не пусьціў тата, бацькі пабаяліся таго багемнага асяродзьдзя.*

*Старэйшыя мастакі, разбуралі ўсе стэрэатыпы пра мастацкую багему, якой паводле гэтых стэрэатыпаў мусілі быць. Яны ў сілу прафэсіі атрымалі большую свабоду, чым у грамадзтве татальнага кантролю мелі іншыя. Іхная творчасьць часьцяком асацыявалася «правільнымі» савецкімі людзьмі з фрывольнасьцю, а занятак мастака – ледзьве не з дармаедзтвам. Там, дзе мастакі, пануе распуста!..*

## КГБ СУПРАЦЬ «БАГЕМЫ»

*Калі Ігар Гермянчук вярнуўся пасьля гутаркі з гэбістам, ён распавёў, што гэбісты шукаюць у старэйшых мастакоў сьведчаньняў распуснага жыцьця. Я з усьведамленьнем важнасьці справы паведа-*

*міў пра гэта Яўгену Куліку, на што той стомлена ўсьміхнуўся. Маўляў, вядомая рэч. Гэбісты шукалі таго, што адпавядала іхным уласным уяўленьням пра мастакоў.*

*Насамрэч усё было роўна наадварот. Старэйшыя мастакі жылі неяк вельмі правільна. Да свае працы ставіліся па-сялянску грунтоўна. І дзеці ў іх гадаваліся такія самыя правільныя, адкрытыя й надзейныя. Тыя правільнасьць і прыстойнасьць цалкам перадалася і Майстроўні. Ці можна Майстроўню нейкім бокам асацыяваць з багемай?*

**Ірына**: Я лічу, што не. Мы былі настолькі цнатлівыя, настолькі чыстыя, рамантычна ўзьнёслыя дзеці.

## ПАДПОЛЬНАЯ ВЕЧАРЫНА

*Яшчэ да Майстроўні Ірына пазнаёмілася зь Ігарам Марачкіным, у часе Майстроўні яны пажаніліся, і тады ж у іх нарадзілася дачка. І пасьля Майстроўні ўсё, чым яны займаліся, адбывалася ў тым самым майстроўскім рэчышчы. Унікальнай была сытуацыя знаёмства.*

**Ірына**: Мы пазнаёміліся ў майстэрні Віктара Маркаўца на падпольнай вечарыне да 80-годзьдзя Міхася Забэйды-Суміцкага. Мяне туды ўзяў бацька, Уладзімер Басалыга. Яўген Кулік сказаў, што трэба Ірыну запрашаць на нашыя спатканьні. Было багата людзей. Я ўпершыню пачула сьпевы Забэйды-Суміцкага. Сам знакаміты тэнар у той час жыў у Празе. Упершыню пачула Данчыка, першую кружэлку «Беларусачка». А ставіў гэтыя пласьцінкі Ягор Марачкін. Мы зь ім перамовіліся толькі напрыканцы вечарыны. Прычым у мяне за сьпінай стаяў мой бацька, за плячыма Ягора стаялі

маці і тата. І адзінае, што ён мне сказаў, – вось табе тэлефон маёй майстэрні, а ты мне дай свой тэлефон. І я яму хуценька напісала свой тэлефон.

*Гэта важны эпізод з тых, якія прывялі да ўзьнікненьня Майстроўні. Цуд яе нараджэньня атрымаўся з таго, што аднойчы сышліся разам многія выпадковасьці, і калі б хоць адна зь іх ня здарылася, усё магло б пайсьці па-іншаму.*

**Ігар Марачкін**: Шлях быў даволі цікавы. Гэта было да Майстроўні. Была падпольная вечарына, і там упершыню я з Ірынай убачыўся. Яна вучылася на філфаку, зь Вінцуком на адным курсе. І пасьля гэтага бацька сказаў, што ведае добрага хлопца Вінцука Вячорку, ён цікавіцца музыкай, беларускай гісторыяй. І можна было б сустрэцца, кантакты наладзіць. Такім чынам, я ведаў Ірыну і ведаў Вінцука напачатку.

*Старэйшы Марачкін прыводзіць на падпольную вечарыну свайго сына, а Ўладзімер Басалыга сваю дачку. Тыя знаёмяцца пры бацьках, і старэйшы Марачкін кажа ім пра Вінцука Вячорку, зь якім ён сустрэўся ў Менскім джаз-клюбе. А дачка Басалыгі вучыцца разам з гэтым Вячоркам. Усё сышлося. У гэтым эпізодзе і зародак Майстроўні, і зародак новай сям'і. А яшчэ – падказка. Калі хочаце, каб вашая справа мела працяг, пазнаёмце сваіх дзяцей зь дзецьмі вашых аднадумцаў.*

## СТРАШНЫ СОН

**Ірына**: Перш чым зайсьці ў майстэрню на Дзімітрова, бацька доўга вадзіў мяне па Ракаўскім прадмесьці, бо быў упэўнены, што за намі ёсьць хвост. І я ўпершыню зразумела, што беларускай справай займацца ня так і бясьпечна.

Сяброўкі з курсу сказалі мне, што на кожнага з нас – на Вінцука Вячорку, на мяне, на Веранічку – у мянтоўцы ёсьць справа. Яны пра гэта ведаюць ад сваіх хлопцаў-юрыстаў. Філфакаўцы раней жылі сумесна зь юрыстамі. А юрысты працавалі ў гэтых органах, на выездах і так далей.

Не магу сказаць, што не было страху. Да мяне падсылалі людзей, агентаў, я ведала, хто гэта. Гэта былі маладыя людзі, якія са мной знаёміліся, запрашалі на спатканьні. Я нават прысьніла сон, што мы Майстроўняй выйшлі на вуліцы Менску, што мы ідзем па праспэкце, што мы спынілі рух транспарту. І за намі ідзе многа людзей. І раптам узьнікае міліцыя і яны перашкаджаюць намісьці. Мы ў вышываным адзеньні. І раптам загад страляць. І па нас страляюць...

## МАДЭЛЬКА

*На кожнае сьвята майстроўцы і майстроўкі апраналіся ў народныя строі. Прыдумлялі хто што мог. А Ірына Крук у Майстроўні вылучалася найбольш стыльнай вопраткай, відаць было, што ўсё на ёй зроблена прафэсійнаю рукою.*

**Ірына**: Мама мая – канструктар-мадэльер. І я зь дзяцінства была мадэлькай. Экспэрымэнтальная лябараторыя паводле народных строяў рабіла сучаснае адзеньне. І ў іх я была асноўнай мадэлькай. Для часопісаў нават і для паказаў. Адтуль у мяне некаторыя цікавыя рэчы былі. А самае галоўнае, было разуменьне, што гэта прыгожа. Што можна апрануць вышытую кашулю і выглядаць незвычайна.

Я так удзячная Майстроўні, што яна навучыла мяне сьпяваць. Вельмі люблю аўтэнтычныя сьпевы,



«Цар Максімілян» у Заслаўі. 17 траўня 1981 году. Ірына ў ролі Бабы

я іх запісвала, запісала сваіх бабак адну і другую. Песьня для мяне – гэта лекі, выратаваньне душы. І я сумую па тым, што мы ня можам зараз пасьпяваць для сябе. Я нават зьбірала майстроўцаў, і мы некалькі разоў сабраліся, але патрэбны лідэр, чалавек з музычнай адукацыяй.

Палову жыцьця я працавала ў розных музэях. Стварыла клюб беларускай сям'і «Сябрына» ў Палацы моладзі ў Менску. І там мне ўдалося зрэалізаваць тыя задумкі, якія мы пачыналі ў Майстроўні. Вечарыны-сустрэчы зь беларускімі бардамі, паэтамі, мастакамі, рэжысэрамі, акторамі, вядоўцамі тэлевізійных праграмаў. Многія музыкі ўпершыню выступілі на маіх вечарынах, як гурт «Рэха» з Андрэем Такіндангам.

І цяпер у мяне вельмі цікавая работа: у «Парнаце», цяпер гэта ўжо называецца каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка, я выкладаю беларускую мастацкую культуру.

А той цуд быў падрыхтаваны нашымі папярэднікамі, мы не ўзяліся проста так на голым месцы, усё гэта насілася ў паветры. Усё гэта мы бралі з нашай паэзіі, з выдатных твораў Караткевіча, з паэмаў Купалы. З твораў нашых беларускіх мастакоў, якія наладжвалі ўнікальныя выставы. Мастакі стваралі ў той час беларускую атмасфэру.

У нас была калегіяльнасьць у Майстроўні. Безумоўна, Вінцук быў лідэрам. Яшчэ адным нефармальным, вясёлым лідэрам быў Сяржук Сокалаў-Воюш. Для мяне было важнае слова і Запрудзкага Сяргея. Але мы прымалі рашэньні калегіяльна. Была павага адзін да аднаго. Ты робіш важную справу і адказваеш за яе – ня проста цябе нехта вядзе некуды.

І кожны, хто прайшоў праз Майстроўню, ужо ніколі ня здрадзіў беларускай мове, беларускаму слову. І мы назаўсёды засталіся сябрамі, нават калі ня бачымся гадамі, гэта ўсё роўна свае людзі, я ім вельмі веру і ведаю, што мы паразумеемся ў галоўных пытаньнях.

# Ігар Марачкін



*Ігар Марачкін кажа, што ў Беларускую Майстроўню яго прывёў бацька. А я думаю – не яго аднаго. У пэўным сэнсе мастак Аляксей Марачкін для ўсёй Майстроўні быў бацькам. Ня толькі таму, што даваў нэафітам чытаць «Адвечным шляхам» Абдзіраловіча. Найперш таму, што ўвасабляў адказнага ў гэтай з усіх бакоў беспрэцэдэнтнай справе.*

**ХТО АДКАЗНЫ?**

*Старэйшы Марачкін бачыўся мне правадыром нефармальнай беларушчыны, тым, хто вядзе, бо лепш за іншых ведае маршрут, ён жа і абароніць у разе патрэбы. Пры гэтым гаворка ідзе не пра канкрэтнага Аляксея Марачкіна, а хутчэй пра ягоны вобраз.*

*Мы адчувалі, што робіцца нешта вялікае, небывалае й неверагоднае, быццам мы ўсе разам ляцім да зор. Але чалавеку ўласьціва азірацца – а што, калі не туды заляцім або ўзьнікне якаясь прыкрая сытуацыя? Мусіць быць той, да каго ты можаш зьвярнуцца. Ты быццам сабраўся ўпершыню скокнуць з парашутам. Ты ведаеш, што й як рабіць, і ня маеш пытаньняў да інструктара. Можа быць, гэта ты сам прыдумаў яму ролю. Але табе важна ведаць, што інструктар побач.*

*Вобраз самага надзейнага і адказнага ствараўся і з аблічча, і з гутарак, і з таго, што старэйшы Марачкін паводзіўся завадатарам сярод іншых мастакоў, а таксама з таго, што ў Майстроўні разам з намі быў Марачкін-малодшы.*

*Ігар кажа, што наўпрост яго бацька не штурхаў да беларушчыны. Але адказнасьць адчувалася заўсёды.*

**Ігар**: Ён, як усе творчыя асобы, рэалізоўваў свае магчымасьці. І мы з маці гэта разумелі. Пастаянна ў майстэрні, пастаянна творы, пляны свае. Але ж я і не скажу, што ён мяне кінуў. Я хадзіў у майстэрню, маляваў. Мне гэта было цікава. І калі я трапіў у маладзёвы асяродак, у Майстроўню, ён хадзіў і падглядаў – а што мы робім? Нават калі мы ладзілі першы выхад на Новы год і нас хацелі «забраць», то бацькі стаялі побач і назіралі. Яны не падыходзілі, але кантралявалі. Ім усё ж такі за нас было боязна. Дзякуй Богу, усіх нас тады адпусьцілі. Іх захапляла, што рух маладзёвы, што мы стварылі Майстроўню.

*Старэйшыя мастакі глядзелі на Майстроўню як на нечаканае зьяўленьне, у якім уцелаўляліся іхныя*

*мары. І таму яны не імкнуліся гэтым авалодаць або кіраваць, інакш цуд зьнікне.*

## НАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ

*Сёньня Ігару самому столькі, колькі тады было бацьку, а ягоным дзецям – колькі тады было самому. Праўда, час стаў іншы, зоркі пералеглі іншым парадкам, і таму нельга сказаць, што дачыненьні бацькоў і дзяцей паўтарыліся тыя самыя.*

**Ігар**: У мяне такі характар, што мне нават нешта забароненае было цікава зрабіць у той момант. Цяпер гэта крыху памянялася. Але дзеці... Ніхто іх таксама не прымушаў. Магчыма, нам, бацькам, хацелася нечага большага, рэвалюцыйнага. Але, зноў жа, у кожнага свой характар. Таму атрымаліся нармальныя беларускія дзеці.

Хрысьціна наша прайшла праз усе беларускія школы, беларускія садочкі, якія Галіна Прыма арганізоўвала. Злат таксама беларускую гімназію заканчваў дзявятую, тады паступіў у наш каледж Ахрэмчыка, які лічыцца, прынамсі афіцыйна, беларускамоўным...

Сёньня я маю 47 гадоў. Мастак. Сябра суполкі «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў. Працую ў мастацкай школцы імя Ахрэмчыка, выкладаю мастацтва, дызайн. Ну і творча працую, еджу на пленэры. Вось такое жыцьцё.

## НЯЗВЫКЛЫ ШЛЮБ

*У 1982 годзе Ігар Марачкін разам з Ірынай Крук зьдзівілі менскую публіку. Ня тым зьдзівілі, што ўзялі шлюб, а тым, што гэта быў першы шлюб у нацыянальных строях.*



Шлюб у нацыянальных строях. 24 ліпеня 1982 году. Дзеці: Алёна Няхайчык, Андрэй Басалыга, Глеб Басалыга, Вольга Басалыга; другі шэраг: Вера Лазоўская, Ірына Шульдава, Вераніка Надтачэева, Ігар ды Ірына Марачкіны, Міхась Баразна, Люся Капітула, Сяргей Запрудзкі, Васіль Шаранговіч, Сяргей Харытонаў

**Ігар**: Ірыне пашылі нацыянальны строй, вэлюм, усё крыжыкам вышыта.

У мяне таксама белая кашуля была, белыя штаны, паясок. І, вядома, гэта быў шок! Мы былі адзінай такой парай. Пасьля мастакі нават шмат карцінаў зрабілі, натхніла іх гэта.

А раней, пасьля знаёмства з Ірынай, было Купальле. Я, зразумела, мусіў быць там, бо арганізоўвалі мастакі… Ведаючы, што ёсьць такая дзяўчына, я давай яе клікаць. А яе не адпускаюць. Куды ты на ноч паедзеш у Вязынку!.. Карацей, мы ўламалі

бацькоў Ірыны. І ў гэтай справе дапамог Яўген Сяргеевіч Кулік. Цэлую ноч мы там былі, да раніцы. Трэба было ў лесе з паходняй даганяць дзяўчыну, выбіраць долю сваю. І я бегаў з паходняй... гэта таксама мяне ўразіла...

## СТАНОЎЧЫ ГЕРОЙ

*У якасьці этычнага ўзору савецкая сыстэма выхаваньня прапаноўвала «Маральны кодэкс будаўніка камунізму», перафармуляваны з хрысьціянскага дэкалёгу. З гэтым ніхто не спрачаўся. Але прыклады не натхнялі. Суцэльныя подзьвігі альбо пакуты. Паміж камуністычным дэкалёгам і рэальным жыцьцём зеўраў правал.*

*Для мяне асабіста станоўчыя героі знайшліся ў нечаканым месцы: сярод старэйшых мастакоў – тых, хто, на думку артадаксальнай савецкай публікі, павінен быў увасабляць у сабе адмоўныя прыклады скрайняга індывідуалізму, распуснай багемы і ўсіх магчымых заганаў. Беларускія мастакі, зь якімі я сустрэўся ў Майстроўні, былі пазбаўленыя як гэтых рысаў, так і снабізму. У іх усё было ў парадку з самаацэнкай, і ў мэтафізыцы яны дзейнічалі як пасьпяховыя прагматыкі. Жыць, аказваецца, можна было не для подзьвігу, не для пакутаў і не для працоўных рэкордаў, а для сваёй культуры, для самавыяўленьня ў гэтай культуры. Выглядае, што ў Беларусі камунізм пасьлізнуўся на мастаках.*

*Жыць як яны зусім не абавязкова. Але істотна ведаць, што ёсьць такія, хто так жыве. У ідэальнай Беларусі ўся гэтая сям'я Марачкіных мусіла б быць на экранах. Як тыя, з каго публіцы хацелася б браць прыклад. Незалежна ад таго, што ты ў самім сабе аналізуеш – які ты беларус, які прафэсіянал,*

*гаспадар, бацька ці сын. Кожная іпастась тут наладаваная пазытыўна.*

*Зразумела, чаму за савецкім часам Марачкіны не маглі патрапіць на экран. Але не трапляюць яны туды і сёньня. Чаму?*

*Каб забыць гісторыю, яе трэба дэпэрсаніфікаваць. Не было нікога, ніхто нічога не рабіў, значыць, нічога й ня здарылася. Тое самае і з сучаснасьцю. Нікога няма, ніхто нічога ня робіць – для краіны, для нацыі, для незалежнасьці, – значыць, і паняткі гэтыя фантомныя. У выніку атрымліваецца, што за нацыянальнай ідэяй ніхто быццам і не стаіць, нікому канкрэтна гэтая ідэя быццам і не патрэбная. Хоць гэта ня так. Сёньня людзей, якія стаяць за нацыянальнай ідэяй, у сотні разоў болей, чым было трыццаць гадоў назад.*

**Ігар**: Улады самі стварылі такі міт, ім гэта не падабалася. Таму што хацелі зрабіць савецкі народ. Беларусь – гэта быў іхны палігон. А нашто мы тут былі з традыцыямі, зь беларускай культурай, зь песьнямі й абрадамі? Мастакоў абвінавачвалі ў этнаграфізьме. Трэба перадавікоў маляваць, важдзей, а вы што робіце?

...А інакш чаго за намі палявалі, і на варанках лёталі, і выглядалі – дзе мы там ходзім, што мы там сьпяваем. Кантроль, вядома, быў пільны.

## 8-МІЛІМЭТРОВАЕ КІНО

*Кінахроніка перадае тую дзівосную атмасфэру. Зьявілася тая хроніка дзякуючы Ігару Марачкіну, які здымаў майстроўскія імпрэзы.*

**Ігар**: Мне дасталася камэра «Кварц» 8-мілімэтровая ізноў-такі ад бацькі. Ён яе купіў яшчэ калі вучыўся ў Акадэміі. А працэс праяўкі я ўжо ведаў.

Сергіевіча жывога ў Вільні адзьняў. На тэлевізію бралі гэтую хроніку, праўда, не згадалі, адкуль матэрыялы...

Я падумаў – можна ж здымаць імпрэзы. Майстроўня пайшла першае Гуканьне Вясны адзначаць у Зялёным Лузе, вогнішча распалілі, пудзіла палілі... Ёсьць гэтая хроніка. Маладыя ўсе, па дваццаць гадоў, такія апантаныя. Нават адчуваецца, што за песьня сьпяваецца. Па рытме, як мы гэтыя карагоды водзім. Можна нават накласьці гук.

Пасьля здымаў вельмі шмат на відэа. Архівіст я ўжо з Майстроўні быў.

## МАЙСТРОЎНЯ НАВУЧЫЛА СЬПЯВАЦЬ

Ларыса Сімаковіч нам галасы паставіла – гэта вялікая яе заслуга. Яна над намі, як над студэнтамі кансэрваторыі, стаяла, вымагала цягнуць ноту, сьпяваць адкрытым голасам. Кажа: што ты схаваў голас унутры, ён павінен выйсьці, не трымай яго.

Першую песьню, якая ў Майстроўню прыйшла са мной і спадабалася іншым, называюць песьняй мастакоў. Па-першае, усе мастакі яе сьпявалі; па-другое, гэта песьня зь Віцебскага рэгіёну, дзе мае бабуля й дзядуля, і там гэтую песьню ўсе ведаюць. «Дробна драбніца, дробна драбніца, дробны дождж ідзе, сабралася бедна басота ды гарэлку п’е». Гэта каронка наша.

Што яшчэ цікава было ў Майстроўні... Я вывучыў беларускі касьцюм (у нас Раманюк выкладаў беларускі касьцюм, сэмантыку арнамэнтаў), навуковую працу зрабіў. І – ва ўнівэрсытэт да матэматыкаў Арына Вячорка запрасіла. Былі слайды, фатаздымкі. І плякацік зрабілі, што Ігар Марачкін праводзіць лекцыю, прысьвечаную арнамэнту.

## МАЙСТРОЎНЯ ПАЗБАВІЛА КОМПЛЕКСАЎ

Што дала Майстроўня – мы можам сьмела пайсьці ў масы, няма бар'еру. Аўдыторыя для мяне – гэта нармальная сытуацыя, я магу правесьці занятк і, выступіць. А напачатку трошкі закамплексаваны быў. Мы ж дзеці таго пакаленьня, усё ж у рамках нас трымалі. А праз Майстроўню рукі разьвязаліся, і ты стаў вольны.

*Сёньня часам даводзіцца пачуць, што Майстроўня так нічога й не дасягнула, маўляў, паглядзіце, што робіцца зь беларушчынай. Маўляў, гукалі вы вясну й не дагукаліся. Між тым сёньняшні дзень ад майстроўскіх часоў аддзяляюць трыццаць гадоў, за якія пасьпела зьмяніцца эпоха.*

**Ігар**: Дагукаліся. Хоць ня думалі, што дагукаемся. Гэта пасьля грымнула. Пачало старэйшае пакаленьне. Мы, моладзь, працягнулі, далі штуршок той жа «Талацэ», і пасьля гэта ўсё стала бурна абрастаць масай людзей, усе гэтай ідэяй захапіліся, а гэта нацыянальная ідэя была.

# Аліна Барысевіч (Садоўская)



*Наймацнейшы аргумэнт на карысьць беларушчыны – засьпяваць. Калі мы разам сьпяваем народную песьню, аблушчваюцца ўсе яшчэ царскія ды савецкія стэрэатыпы, усе аргумэнты пабежнай палітыкі пра беларускую несамастойнасьць або штучнасьць або няздатнасьць. Ня верыце? Паспрабуйце.*
*З супольнага сьпеву паўстала Беларуская Майстроўня.*
*Эўфарыя пяяньня была нагэтулькі моцная, што чым болей народу далучалася, тым больш выразным станавіўся падзел паміж праўдай нацыянальнага абуджэньня і хлусьнёй прапаганды й надуманых стэрэатыпаў.*

## ПРЫНЦЭСА І КАРОЛЬ

*На тых майстроўскіх сьвятах, якія калі-нікалі нагадвалі казку пра брэмэнскіх музыкаў, імпазантны й імпэтны Пётра Садоўскі вольна ці міжвольна становіўся каралём фэсту. У яго і песьня была свая пра «Куру-шчабятуру» – сольны нумар, да якога далучаліся ўсе прысутныя. Разам са спадаром Садоўскім у тых сьвятах брала ўдзел і ягоная дачка Аліна, якая, быццам паводле брэмэнскага сюжэту, упарцілася бацькавым вэрдыктам і паказвала натуру цалкам незалежную і самастойную. Выглядае, што, як і ў кожнай казцы, у гэтай была толькі доля казкі.*

**Аліна**: Мне ўсе казалі: ну вядома, табе добра, у цябе бацька. Гэта было крыўдна. Я йшла з Майстроўняй паўсюль не таму, што ў мяне бацька. А таму што я трохі іншая. Я думала ня так, як усе ў маёй групе. І бацька тут ні пры чым. Хаця, вядома, і пры чым...

Аднойчы ў школе нам далі заданьне напісаць сачыненьне «Мой любімы настаўнік». Як вы думаеце, пра каго я напісала? Пра бацьку. Я так і напісала, што мой найлепшы настаўнік у жыцьці – гэта мой бацька. Але. Калі б я была проста да яго прыдаткам, я б не мяняла сваё жыцьцё.

*Сказаць, што Пётра Садоўскі быў майстроўцам, – значыць, зрабіць вялікі аванс Майстроўні. Бо ён напраўду быў каралём, які рабіў сьвята. Трэба мець на ўвазе, што спадар Садоўскі пры гэтым чытаў нам і зусім афіцыйныя лекцыі на журфаку, і неафіцыйныя ў Майстроўні. Ён чытаў культуру мовы дыктарам радыё і тэлебачаньня, артыстам Купалаўскага тэатру, а таксама ўсёй нацыі ў эма-*



Купальле ў Вязынцы. 4 ліпеня 1982 году. Уладзімер Конан, Пётра Садоўскі, Вераніка Надтачэева, Аліна Садоўская, Лявон Луцкевіч, Алег Бембель

*цыйных артыкулах дзе-небудзь у часопісе «Полымя». Ён заўсёды быў мэтрам.*

*Але тут гаворка не пра караля, а пра наравістую прынцэсу, пра Аліну. Цяперашняе прозьвішча Аліны – Барысевіч. Яна маці. Гадуе двух двухмэтровых сыноў.*

**Аліна**: Пра Майстроўню мне расказаў бацька. Але ідэя, шчыра скажу, мяне мала цікавіла. Мне хацелася музыкі і сьпеваў, бо я вельмі музычны чалавек, я спачатку чую, потым бачу, потым адчуваю. А прывяла мяне туды Віялета.

Бацька мяне пазнаёміў зь Вінцуком і зь Віялетай. І спачатку я прычапілася да Віялеты.

*У падмурку нацыянальнага яднаньня не ляжыць палітыка. Палітыка падзяляе нацыю. І тое, што публічны беларускі рух пачаўся зь песьні, было самым галоўным доказам ягонае правамернасьці.*

## ПЕСЬНЯ Ў АБЦУГАХ ПАЛІТЫКІ

**Аліна**: Я сьпявала. Зь цягам часу пачала вучыць астатніх. І празь нейкі год я ўжо ведала столькі ж песень, колькі Віялета. Мы неяк зь ёй спрабавалі падлічыць, колькі мы ведаем песень, у яе лічба атрымалася за трыста, у мяне за дзьвесьце. Але я магла любую зь іх прасьпяваць няблага.

*Аліну Садоўскую, на некалькі гадоў малодшую за іншых майстроўцаў, цікавіла толькі песьня. Ніякай палітыкі. Але ў грамадзтве, дзе палітыка дамінуе над культурай, любоў да сьпяваньня таксама становіцца палітыкай.*

**Аліна**: Я мелася пайсьці ў Майстроўню яшчэ да паступленьня ва ўнівэрсытэт. Бо я пазнаёмілася ў нас у гасьцях зь Вінцуком і Сяргеем Сокалавым. І мне дужа туды захацелася. Але бацька сказаў: не хадзі, бо ты можаш не паступіць. Цябе заваляць на экзамэнах, калі даведаюцца, што ты зьвязалася зь Вячоркам.

Калі ўжо вучылася на філфаку, я адчувала ціск, што хаджу ў Майстроўню, на мяне касавурыліся, глядзелі неяк ня так, як на ўсіх.

На першым курсе мы вырашылі самі па сабе, без Майстроўні, адсьвяткаваць Каляды. Сабраліся ў сквэрыку каля беларускага тэатру. Але… На вуліцы вырасла магутная постаць дацэнта Рагойшы, які тады, па-мойму, кіраваў партыйнай работай, і камсамольскай багіні Тацяны Сотчанкі. Яны рашуча да нас: няма чаго захапляцца нейкімі там Калядамі, а трэба сядаць за падручнікі, бо хутка сэсія. Гэта быў намёк, што калі не разыдзецеся, сэсію не здасьцё. Безумоўна, мы разышліся.

Ня буду хлусіць, не пагражалі. Усё рабілі далі-

катна. Яны выконвалі даручэньне. На беларускім філфаку баяліся беларускай мовы.

Другі раз на рэпэтыцыі Ларыса Сімаковіч мяне з Наталяй Лазоўскай запрасіла паехаць з хорам сьляпых, якім яна тады кіравала, у Вільню. Бо ў нас добрыя галасы. У Натальлі сапрана, у мяне альт. Ня памятаю, можа я камусьці на факультэце сказала пра гэта. І гэта вельмі хутка дайшло да кіраўніцтва. Мяне выклікалі ажно да дэкана, да Аляксея Арсеньневіча Ваўка, царства яму нябеснае: ці разумееце вы, што гэты чалавек небясьпечны сацыяльна? Што ён паўсюль гаворыць толькі па-беларуску, ці не насьцярожвае гэта вас? Мелася на ўвазе Ларыса, вядома. А першае, што мне сказаў Аляксей Арсеньневіч: а ці ведаеце вы, што яна як кампазытарка не ўяўляе сабой каштоўнасьці? На што я адказала: я сама вырашаю, з кім і як мне праводзіць свой асабісты час. Я еду туды на выходныя. Мне 18 ужо ёсьць. Я была цьвёрдая штучка. Але гэта яшчэ й парода такая – мяне б'юць, а я ўстаю і іду далей.

Паехалі ў Вільню. Я не пабаялася, што мяне выключаць. Я не прапускала заняткі, нармальна здавала залікі.

Выкладчыкі не любілі Майстроўню. Стараліся сярод студэнтаў выхаваць страх да яе, нянавісьць, гэта, маўляў, нейкія фашысты. Адна дзяўчынка да мяне падышла, кажа шэптам: а ты знаеш, што ў нас тут на факультэце ёсьць нацыяналісты? Аказваецца, гэта пра мяне казалі, пра Майстроўню. Гэта беларускае аддзяленьне. Хаця са ста двух чалавек, якія вучыліся на курсе, па-беларуску гаварыла я, Наталя Лазоўская, Марына Лычкоўская, Лена Клімовіч. Усё. Нават дзеўкі, якія зь вёскі, па-беларуску не гаварылі. Гэта лічылася ганебным.

## ПЕРАМЕНА ЎЛАСНАГА ЛЁСУ

*Ужо стаўшы прафэсійным філёлягам, Аліна вырашае крута зьмяніць свой лёс.*

**Аліна**: Я зь пяці гадоў калупалася са сваімі шкляначкамі, бутэлечкамі, гуляла ў аптэку, у доктарку. І я да гэтага вярнулася. Філялёгія была проста этапам. Я адчувала, што гэта ненадоўга, думала, што жанчыне не пашкодзіць адукацыя, зьвязаная зь літаратурай, з гісторыяй, з мовай. Гэта заўсёды спатрэбіцца пры выхаваньні дзяцей. Так і выйшла. Хаця, па-мойму, я была неблагой настаўніцай.

Мне хацелася быць самой сабой. І я сышла туды, дзе мне ніхто не замінае. Я сьціплая мэдычная сястра зь Менску. Якая жыве на пяць даляраў у дзень, але адчувае сябе шчасьлівай.

Я нічога не баюся. Я адпрацавала ў рэанімацыі амаль чатыры гады. Клініка – гэта такая школа жыцьця, калі раніцой цябе клічуць на наркоз і ты прымаеш дзіця на кесаравым сячэньні, бярэш на рукі, бо акушэрка ўжо падае пасьля начной зьмены, а потым ты гэтымі ж рукамі закрываеш вочы хлопцу, якому саданулі па галаве, калі ён ішоў на работу, і ён пражыў пасьля гэтага восем гадзін, бо мы нічога не змаглі зрабіць... тады на жыцьцё трошкі інакш глядзіш.

## БЕЛАРУШЧЫНА АД БАЦЬКІ

Беларушчына – толькі ад бацькі.

Яго грэла тое, што маладзейшае пакаленьне робіць такую справу. Можа быць, як і ўсіх у той час. Бо быў час уздыму. Тады больш хацелася жыць для Беларусі. Цяпер проста хочацца жыць.

Бацька мой вельмі гасьцінны. Ён любіць па-

сьпяваць, пагаварыць. Прычым экспромтам у яго атрымліваецца прыгожа, незанудна. За што я яго люблю, і многія яго любяць. Калі хочацца стварыць добры настрой, запрашаеш добрых людзей. Аднойчы – цяпер для мяне гэта было б шаленства – я запрасіла групу «Мроя» ў школу пасьпяваць для вучняў, а потым іх і яшчэ некалькі вучняў прыцёгла дахаты. І «Мроя» сьпявала ў хаце.

*У 1983 годзе 18-я ўгодкі Аліны Садоўскай адзначала ўся Майстроўня. Прычым адбывалася гэта пад новым дахам – у Палацы прафсаюзаў.*

**Аліна**: І, дарэчы, гэты дах нам прэзэнтаваў мой сусед Іван Канстанцінавіч Берцук, які быў там намесьнікам дырэктара па культурнай рабоце. Ён памясьціў Майстроўню афіцыйна ў Палац прафсаюзаў. Вядома, яго мой бацька справакаваў, але трэба аддаць належнае Канстанцінавічу, ён малайчына.

## ПЕРШАЕ КАХАНЬНЕ

Майстроўня ёсьць вяхой для ўсіх. Гэта нешта такое цёплае, для мяне асабліва, бо там я сустрэла сваё першае каханьне, Сяргея Шупу. Хай яно было нядоўгае, але на тое ж яно і першае каханьне, праўда?

Як сьвяткавалі мае 18 год, памятаю. Мне надаравалі кучу кветак, частка зь іх былі півоні – барвовыя, ружовыя, – а я іх вельмі люблю, асабліва яшчэ нераспушчаныя. І Сяргей Мурашка паднёс мне адзін з букетаў і сказаў: ведаеш, дарагая, ты мне нагадваеш вось гэтую нераспушчаную кветачку. І з гэтага вялікага «веніка» я адну кветку падаравала Шупу.

*Я спытаўся ў Аліны: на яе думку, ці не зашмат патасу ў нашых гаворках пра Майстроўню?*

**Аліна**: Патас абсалютна апраўданы. У той час гэта быў подзьвіг. Выйсьці на вуліцу разам з Майстроўняй, калі ўсе твае аднакурсьнікі сядзяць дома па хатах.

Гэта быў цуд. Роля асобы ў гісторыі. Каб не Вінцук, каб не Віялета Ефіменка, Сокалаў, вядома, каб не Гермянчук... Гэта асобы, якія ўсё стварылі. А мы ўжо цягнуліся за імі хвастамі. Лідэр быў адзін – Вячорка. Яны былі проста асобамі. Прычым яны былі рознымі і настолькі добра ўпляталіся ў гэта.

# Андрэй Ясінскі



*Мой салдацкі прыяцель Андрэй Ясінскі, які разам са мной прыйшоў у Майстроўню пасьля дэмабілізацыі зь Белпалка, так і не ўспрыняў майстроўскага эвалюцыйнага шляху. Ён пад фальклёрна-этнаграфічнай маскай увесь час бачыў групу рэвалюцыянэраў і з гэтага гледзішча ацэньваў іхную дзейнасьць. А Майстроўня ўсё ніяк не хацела ператварацца ў партыю ці партызанскі атрад. Што, на маю думку, было магчыма, але азначала б хуткі канец цуду, які ня меў бы ніякага працягу.*

## ПЕРАВАРОТ ПАВОДЛЕ ЛЕНІНА

**Ясінскі**: Хлопцы хацелі нешта зрабіць, нешта памяняць у дзяржаве. Я разумеў, што рабіць трэба па-іншаму, таму я назіраў за гэтым збоку і ўдзельнічаў настолькі, наколькі прыходзілася.

Я адзін з нашай групы ў інстытуце прачытаў амаль усяго Леніна. І, вядома, там зусім іншая была стратэгія і тактыка, калі хтосьці хацеў рабіць пераварот. Ленін гэта зрабіў удала.

*Трыццаць гадоў таму Андрэй Ясінскі аналізаваў майстроўскую сытуацыю з гледзішча задачаў і таго, ці слушна абіраецца тактыка. Тут трэба рабіць папраўку на час, калі зьмены ў грамадзтве ў маладых галовах маглі асацыявацца толькі з рэвалюцыяй.*

**Ясінскі**: ... А Майстроўня хацела пераменаў. Але ж уся савецкая культура арыентавала нас на рэвалюцыйныя зьмены. Дый хто з маладых думае пра эвалюцыйныя зьмены?

## АНІКА-ВАЯКА

Сяргей Дубавец мяне зацягнуў. Ён служыў-рабіў у палкавой друкарні. А я быў у «спэцназе», спортузвод. Нас выкарыстоўвалі для аховы стадыёну «Дынама» падчас алімпійскіх гульняў. Я цікавіўся і спортам, і, тым больш, Алімпіядай. І калі мы ехалі на стадыён, па дарозе я хлопцам расказваў пра нашых спартоўцаў, хто як выступае, якія шанцы. І ён узяў у мяне інтэрвію, маўляў, ёсьць такі чалавек, які інфармуе народ, і надрукаваў у палкавой газэце.

*У Майстроўні Андрэй сьпяваў і граў у спэктаклі «Цар Максімілян». Яму, кандыдату ў майстры спорту па самба, дасталася роля Анікі-Ваякі, аднаго з ключавых пэрсанажаў. Цяпер ён са сцэны мог параўноўваць майстроўскую тактыку з тым, што вычытваў у Маркса і Леніна.*

**Ясінскі**: Я бачыў, што мяне выкарыстоўваюць, але мне гэта было цікава. Сваю справу рабіў добра – і інтэрвію даваў, і Аніку граў.



Андрэй у ролі Анікі-ваякі. Прэм’ера спэктаклю «Цар Максімілян» на філфаку БДУ. Менск, 1981 год

Я разумеў, што, па-першае, павінны быць матэрыяльныя абставіны – гэта паводле Маркса, а як рабіць – гэта ўжо паводле Леніна – трэба ісьці ў падпольле. І, вядома, ніхто не гатовы быў туды ісьці.

А што рабілі? Пачыналася ўсё з Ларысы Сімаковіч. Ларыса была і душой і сэрцам. Сьпевы – гэта самае сапраўднае, што было ў той час. У музыцы ня схлусіш. А беларуская музыка, яшчэ й з такім захопленым чалавекам, як Ларыса, кранала чалавечыя струны, не абавязкова беларускія ці небеларускія. І выхоўвала. І дысцыпліна там была. Я не сьпявак, але тое, што магу, – з тых часоў.

## ПРЫНЦЫП ДЗЮДО І БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Я ў сваёй сутнасьці касмапаліт. У сутнасьці фізычнай. У мяне адзін дзед з-пад Саратава, саратаўскі татарын. Другі дзед з Бранску. Адна бабка з Украіны, зь Віньніцкай вобласьці, а другая з Койданава, беларуска. Казаць, што Койданава добра, а Віньніца дрэнна, калі гэта ўсё я, ня мела сэнсу. Але ж Сяргей мне казаў, што я павінен размаўляць па-беларуску. А ў мяне па беларускай мове было чатыры. А чатыры было ў тых, хто не наглеў на ўроках, а проста сядзеў спакойна.

Нездарма я займаўся самба. Самба блізкае да дзюдо. А прынцып дзюдо, дарэчы, як і беларускага народу, палягае ў чым? Калі сьнег кладзецца на яловыя галіны, дык галіны моцныя, якія роўна стаяць, пад цяжарам гэтага сьнегу ўрэшце ломяцца. А слабейшыя галінкі гнуцца, сьнег зь іх спаўзае, яны выпростваюцца.

Беларусь за гісторыю прасавалі ўздоўж і ўпоперак, і народ тут прывык цярпець.

Таму і я так ставіўся. Хочаце, каб размаўляў па-беларуску, – калі ласка.

Навучыўся хутка, бо было асяродзьдзе. У свой час нават вершыкі пісаў па-беларуску. Гэта ўжо пазьней было, калі я ў Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры працаваў, з Уладзімерам Коласам.

Кіраўнічы чуеш голас –
зразумела, гэта Колас.

І мова вучылася значна лягчэй разам зь песьняй...

Між іншым, мой бацька скончыў ін'яз, і маці, так што ў мяне лінгвістычныя задаткі былі.

## «ЦАР МАКСІМІЛЯН»

Мы спрабавалі паставіць «Максіміляна» ў нас у наргасе... Дарэчы, яго забаранілі з-за Сяргея Дубаўца. Ён напісаў для аб'явы верш:

Гэй, студэнт,
ці сьпіш ці п'ян,
прачынайся рэзка,
будзе «Цар Максімілян»,
жвавая бурлеска.

І калі я ў галоўным корпусе павесіў гэты заклік, то празь дзень парткам спытаўся: што, у нас студэнты толькі п'юць ды сьпяць? І калі яны пацікавіліся, што гэта за «Максімілян», яго забаранілі.

Ён жа ўвасабляе ўладу. Максіміляна забіваюць, уладу мяняюць. Аніка-Ваяка кажа: скарбы твае крывавыя, незапрацаваныя! Дарэчы, я і забіваў цара паводле сюжэту. «Скарыся, цар, заб'ю!» Як ні круці, а гэта заклік да зьмены ўлады.

## АНІКА ПАКІДАЕ МАЙСТРОЎНЮ

Я і адышоў, бо бачыў, што ня так робіцца гісторыя.

Калі парткам не дазволіў спэктакль у наргасе, гэта быў 1982 год. І калі мяне зноў клікалі – трэба там сыграць, там выступіць, туды зьезьдзіць, – я адказваў: хлопцы, у мяне сэсія, мне трэба па вышэйшай матэматыцы здаваць іспыт. А Вінцук Вячорка казаў: мы дапаможам табе, вось Арына вучыцца на мэхмаце, паехалі. Я кажу: добра, паедзем, але ж вы дапаможаце. Калі прыйшла сэсія, я прыходжу да Арыны й Вінцука дадому. Трымайце слова. Вочы ў іх разгубленыя. Мы з Арынай адышлі. Зразумела, ніякай дапамогі не было. Проста Арына сказала –

так, у яго галава ёсьць. А мне трэба была не «галава», трэба было дапамагчы як бы. І я зразумеў, што людзі больш бачаць сябе ў гэтым кірунку, а не кірунак у сабе. Сябе ў Майстроўні, а не Майстроўню ў сабе. Не Беларусь была асноўным, а самарэалізацыя. У асноўным я кажу пра Вінцука, пра Арыну не кажу, яна жанчына.

Не расчараваньне, я проста бачыў, што матэрыяльных абставінаў няма, каб рабіць пераварот, калі яго рабіць. Калі рабіць, то прафэсійна, і трэба быць прафэсійным рэвалюцыянэрам, а я ня быў гатовы ім быць. Я барэц, але ж не рэвалюцыянэр. Я больш эвалюцыяніст.

*Мы тады фармаваліся, што натуральна ў студэнцкім веку, і фармавалі самі сябе, што было ўнікальнай уласьцівасьцю Майстроўні.*

*Этыка ў нашых размовах матэрыялізавалася, і кожны ўчынак абмяркоўваўся, часта занадта прыдзірліва. Усім працэсам кіраваў Вінцук, а Вінцуком, як мне бачыцца сёньня, кіраваў цуд. Мы ўсе былі зачараваныя цудам, а падпарадкоўваліся канкрэтнаму чалавеку – Вінцуку. Можа быць, асаблівасьці характару, жыцьцёвыя памкненьні, эмацыйнае поле Вінцука калі-нікалі пярэчылі волі цуду. Можа быць, тое, што ён рабіў, яму самому калі-нікалі здавалася неўласьцівым сабе. Але хваля ўздыму ад гэтага тварэньня гісторыі не зважала на ягоныя пярэчаньні. Яна падхоплівала яго і перадавалася ўсім астатнім.*

*На маю думку, аналізаваць учынкі Вінцука Вячоркі ў Беларускай Майстроўні – занятак бясплённы, таму што ніколі ня будзеш ведаць, што аналізуеш: ці паходку канкрэтнага чалавека, ці ходу гістарычнага працэсу.*

## ПАСЬЛЯ МАЙСТРОЎНІ

*Андрэй скончыў наргас, стаў эканамістам і праз усё жыцьцё адчуваў нязручнасьці з-за абвостранага пачуцьця справядлівасьці. Ён і ў наргас пайшоў таму, што хацеў зразумець, чаму даброты ў грамадзтве разьмяркоўваюцца не адпаведна працы. Адказаў шукаў і ў Маркса і ў Леніна, а ўрэшце знайшоў у жыцьці. Сутнасьць чалавечая такая.*

*Ці ня самая яскравая пасада сярод шматлікіх заняткаў Андрэя – праца галоўнага бухгальтара ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Дырэктар ліцэю Уладзімер Колас згадвае пра Ясінскага ў сваёй кнізе «Лёс ліцэя».*

**Ясінскі**: Кім толькі я ні працаваў. І дырэктарам малога прадпрыемства, і галоўным бухгальтарам БГАКЦ, і інжынэрам, і прадпрымальнікам. Словам, працоўнай кніжкі не хапіла, ужо скончылася.

Не, не лятун. Я прымаю, што я такі, і каб далей можна было жыць, згінаюся пад гэтым цяжарам і мяняю працу. Пошук справядлівасьці – гэта рыса характару такая.

Ёсьць дзеці. Ад першага шлюбу сын Андрэй. Ён па крыві ня мой сын, але я яго выхоўваў паўтара году. Вучыцца на эканаміста. Ягонай маці прапрапрадзед быў кіраўніком Слуцкага паўстаньня. Я і прозьвішча ўзяў ад жонкі. Быў Крывашэін калісьці ў Майстроўні, а ўжо больш за 25 гадоў я Ясінскі.

Андрэй служыў тут пад Менскам, на 9-м кілямэтры. І ён ставіцца да ўлады як патрыёт. Як у Штатах вісіць сьцяг і партрэт прэзыдэнта, дык у яго ў пакоі вісіць партрэт Лукашэнкі. Я паважаю ягоны выбар. Ён так ставіцца да дзяржавы. Рэч ня ў тым, што гэта Лукашэнка. Але ён цяпер увасабляе нашую дзяржаву. Як сымбаль.

А дачка ў мяне Наста, яна пераняла ад бацькі байцоўскі характар.

У Майстроўні самае сьветлае, што было, – гэта выступы. І «Максімілян». Гэта Ларыса Сімаковіч, гэта сьпевы, гэта сонечнае сьвятло. Гэта людзі, якія шчыра ставіліся да таго, што рабілі.

# Ларыса Сімаковіч



*У Майстроўні да Ларысы Сімаковіч ставіліся як да цудатворыцы. Сабраліся людзі з вуліцы, у многіх мядзьведзь па вушах патаптаўся, а яна робіць зь іх сапраўдны хор! Народныя песьні ў яе апрацоўцы пачыналі гучаць такімі гукамі, якіх мы проста ня чулі. Уражаньне ўзмацнялася тым, што гукі гэтыя сыходзілі ад нас самых.*

*Праз песьню Ларыса рассоўвала рамкі пазнаньня сьвету, ад чаго шырэйшымі рабіліся нашыя погляды. І гэта быў рэальны набытак на ўсё жыцьцё. Мне цяжка ўявіць сабе майстроўца неталерантнага да іншае думкі або недабрадушнага ці пазбаўленага пачуцьця гумару. Зразумела, што тады ні пра што такое ня думалася – мы проста сьпявалі, але рабілі гэта лепш, чым маглі.*

## МАЙСТРОЎНЯ ЯК ПАЛЁГКА

**Ларыса**: Быў працэс фармаваньня і пошук аднадумцаў, і той момант, калі я іх знайшла. Не, наўрад ці я была сфармаванай асобай. Я й цяпер не да канца сфармаваная (*сьмяецца*).

Я здавала іспыты ў кансэрваторыі, і ў мяне быў такі стымул: я вывучваю столькі-столькі, а ўвечары са спакойнай душой іду на рэпэтыцыю ў Майстроўню. Гэта адчуваньне добра зробленай работы. Як бы ты заслугоўваеш дэсэрт, або падарунак, або нейкую палёгку. Супраць таго вывучанага матэрыялу, а не зусім прыемныя былі прадметы, КПСС ці нешта яшчэ, гэта было прыемна. Было супадзеньне паміж маімі амбіцыямі й тым, чаго па-добраму патрабавала ад мяне жыцьцё і тыя людзі, студэнты.

## ПАЧУЦЬЦЁ СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ

*Мы яшчэ толькі фармаваліся як беларусы, а Ларыса ў нашых вачах ужо была гатоваю беларускаю. Хоць і тут, аказваецца, усё ня так адназначна.*

**Ларыса**: Я так успрымалася? У жыцьці я люблю вучыцца, я заўсёды вучуся. Тады суб'ектыўна я сябе ўспрымала так – вучуся, услухоўваюся, пераймаю.

Адкуль беларушчына? Усё вельмі проста і ад мяне не залежыць. Пачуцьцё справядлівасьці: займаць пазыцыю тых, да каго несправядлівыя. Беларуская мова і цяпер ня з моцных, і цяпер ёй трэба больш дапамагаць, чым расейскай мове.

З-за гэтага пачуцьця справядлівасьці я не магла быць двухаблічнай і, скажам, размаўляць у Майстроўні па-беларуску, а ў кансэрваторыі па-расейску. Падладжвацца, прыстасоўвацца, ісьці на кампрамісы... І, безумоўна, я іспыты здавала па-беларуску.

Цяжка было. Таму што ўсе падручнікі па-расейску, і трэба было перакладаць і ясна выказвацца. І маральна цяжка было. Ты абяззброены, ты мішэнь.

*Асаблівасьць кожнага цуду ў тым, што ён абавязкова сканчаецца, саступаючы месца прозе жыцьця, калі подзьвіг ператвараецца ў будзённую работу. Аказваецца, што дастаць сонца або навучыць людзей з вуліцы сьпяваць прафэсійна было можна, але толькі на хвіліну. Скокнуць вышэй за галаву ўдалося аднойчы, на самым пачатку 1980-х.*

**Ларыса**: Адзін з плённых, чыста прафэсійных вынікаў работы з Майстроўняй, – гэта выснова, што зь непрафэсіяналамі прафэсійнае справы ня зробіш. А на той момант, калі я пачынала, у мяне была абсалютная вера.

Пасьля дзейнасьць Майстроўні пачала арганічна пашырацца. Пачаліся заняткі, вывучэньне мовы, гісторыі. І сьпевы, якія былі адпраўным пунктам, сталі часткай таго, чым займалася Майстроўня. Ну... і ўсё. Гэта перастала супадаць з маім «чырвоным сьцягам», зь якім я спачатку ішла на гэта.

Так, напэўна, павінна быць. Прафэсіянал уздымаецца на вяршыню, каб зь яе ўбачыць наступную.

## ПАЧАТАК

Пачатак памятаю, ні з чым ня зблытаеш. Я шукала матэрыялы з гісторыі, з мастацтва Беларусі, і сьцежка прывяла да Нацыянальнага музэю, дзе Надзея Высоцкая праводзіла свае першыя лекцыі пра абразы́ Беларусі, што на той час было нечым забароненым. Высоцкая распавядала пра тое, што яна толькі што сама зразумела, здабыла. Маленькая заля перапоўненая. І туды ж сьцежка прывяла Він-



Сьпеўкі на філфаку. Алена..., Алена Кубай, Алена... з Мар’інай Горкі, Хрысьціна Крукоўская, Ларыса Сімаковіч, Ларыса Малашэня

цука. І, напэўна, ён задаў па-беларуску пытаньне... Можа быць, я задала. Вінцук таксама абазначыўся беларускамоўнасьцю, што тады было нечым неверагодным. Ня памятаю, хто да каго падышоў. Але калі закончылася лекцыя, мы знайшлі адзін аднаго. Ён быў не адзін, можа быць, Сяргей Сокалаў-Воюш быў, Арына была. Напярэдадні Калядаў гэта было, зімой. Сьнежань. Чамусьці мне выстрэльвае лічба 12. І Вінцук ці хто папрасіў мяне: як бы гэта пасьпяваць калядныя песьні, пакалядаваць. Упершыню. І ці не магла б я гэта зрабіць. Тады ў маю галаву не магла прыйсьці гэтая ідэя. Гэта нечая ідэя, але я на яе згадзілася.

*Асаблівасьць Ларысы Сімаковіч як музыкі ў тым, што яна ўвесь час вакол сябе кагосьці гуртуе, стварае музычныя калектывы, камбінуе і спалучае*

*іхныя магчымасьці. Самая знакамітая сярод такіх – «Госьціца», што існуе ўжо шмат гадоў. І калі Ларыса стварала Майстроўню, у майстроўскія часы, яна кіравала хорам радыё й тэлебачаньня, у яе быў і дзіцячы сьпеўны калектыў, і квартэт «Каралёначкі», які на сьвятах сьпяваў разам з Майстроўняй і выклікаў у майстроўцаў бясконцае захапленьне.*

## АПОШНЯЯ КРОПКА

*Майстроўскі цуд зьдзейсьніўся і, як флюід, пасяліўся ў душах многіх маладых людзей, стаў іхнай жыцьцёвай праграмай. Цяпер яны панясуць яго іншым. Тым часам Майстроўня перастане існаваць. Дакладна вядомая дата гэтага здарэньня – 13 чэрвеня 1984 году. Майстроўня завяршыла свой чын першым у найноўшай беларускай гісторыі пікетам – супраць разбурэньня помніку культуры – будынку ля самай кансэрваторыі, таго самага, дзе калісьці была пастаўленая першая беларуская опэра.*

**Ларыса**: Я па хвілінах памятаю гэта. Была субота. Заняткаў у кансэрваторыі было мала. Цёплы дзень, летняя сэсія наперадзе. І пры выхадзе з кансэрваторыі я ўбачыла гэты гвалт. Як мэталічная «баба» б'е па сьцяне. Далей усё пачынаецца спантанна, на пачуцьцях. Чамусьці мне захацелася вярнуцца ў кансэрваторыю бегма. І на прыступках я сустрэла Ўладзімера Ўладзімеравіча Алоўнікава, рэктара. Я пачала яму расказваць, што руйнуецца помнік. Ён нешта спакойнае мне прамармытаў. І я пабегла ў Палац прафсаюзаў і каго ўбачыла, таму расказала. Алесь Костка быў, Юля Лыскова, Віялета, Вінцук, нас каля дзясятку было. Костка піша плякат: «Руйнуецца помнік гісторыі». І мы ідзем і становімся насупраць гэтай «бабы», якая руйнуе.

Я сказала: хто не рашаецца, хто баіцца, – зараз адыдзіце. Ня памятаю, каб нехта адышоў. Усе засталіся, і так мы стаялі. Стаялі нядоўга...

Напэўна, гэта першы беларускі палітычны пікет. Мы тады ня ведалі, што гэта называецца пікет. Мы, можа быць, і сябе апярэджвалі. На той момант праявілася самае лепшае ў чалавеку – абвостранае пачуцьцё да таго, што зьнішчаюць.

Падышоў міліцыянэр і сказаў, што мы замінаем людзям спаць. Хаця самае позьняе 9 гадзін было, яшчэ сьветла. Нас зноў папярэджвалі. А праз некаторы час насупраць нас спыніўся «козьлік», міліцэйская машына. І нас жорстка-ветліва запрасілі. Прайсьці. І цэлую ноч мы правялі там, куды нас завезьлі. Недалёка ад кінатэатру «Перамога».

А ў мяне сыну сем месяцаў было. І я падыходжу да міліцыянэра й кажу, што ў мяне сямімесячнае дзіця, што мне трэба яго карміць, я вярнуся.

Ня ведаю, чаму ён паверыў і адпусьціў мяне. Я тады жыла на Якубоўскага, даволі далёка. Зьезьдзіўшы дадому, я сказала, што нас забралі, прытым прыхапіла з сабой хлеба й сала, каб пакарміць тых, хто там. Я вярнулася, пакарміла людзей гэтым салам, яны ўсе былі задаволеныя, сьпявалі песьні. Гэта была сама маладосьць, сам ажыятаж, нават бравурнасьць у нейкім сэнсе. Якая пасьля скончылася ня лепшым чынам. Тым, што я паляцела з кансэрваторыі.

## ВЫГНАНЬНЕ З КАНСЭРВАТОРЫІ

*Маладая кампазытарка ўжо мела за плячыма адну кансэрваторскую адукацыю харавога дырыжора. І цяпер ізноў паступіла была на першы курс, але ўжо на кампазытара. Але здараецца пікет у*

*абарону тэатру, і Ларысу выганяюць з кансэрваторыі.*

**Ларыса**: Я перажывала ня самыя лепшыя кавалкі свайго жыцьця, наўрад ці яны прынесьлі мне плён. Зноў паступіўшы на першы курс (а не аднавіўшыся), я была зруйнаваная, як той помнік. Можа мне гэты час патрэбны быў, каб выгадаваць сына, можа сцэнар так раскладваўся, але маральна, псыхалягічна, пакуль я не паступіла зноў... разумееце, як гэта цяжка... тым больш з грузам таго, што цябе выгналі.

Тым ня менш мне ўдалося. І цяпер – чым уся гэтая гісторыя з выключэньнем закончылася. Калі я на пятым курсе здавала дыплём па кампазыцыі, і здала на выдатна, Уладзімер Уладзімеравіч Алоўнікаў, які падпісваў загад, каб мяне выключылі з кансэрваторыі, – ён адзін з ініцыятараў быў, – сам падышоў да мяне і, трэба аддаць належнае гэтаму чалавеку, ня кожны на гэта здольны, папрасіў у мяне прабачэньня.

*У музычнай кар’еры Ларысы Сімаковіч было шмат здабытых вяршыняў. Але ёсьць і рэйтынг асабістых дасягненьняў, якія не заўсёды знойдзеш у даведніках. На маю думку, не апошняе месца там займае Беларуская Майстроўня. Што да іншага, дык Ларыса кажа пра трэцюю вышэйшую адукацыю.*

**Ларыса**: Адна з маіх вяршыняў, дасягненьняў – я лічу, што ў мяне ёсьць трэцяя вышэйшая адукацыя. Пяць гадоў з адным выхадным – панядзелкам – я знаходзілася ў сьценах Опэрнага тэатру сярод прафэсіяналаў-танцоўшчыкаў. Валянцін Елізар’еў даваў мне магчымасьць прысутнічаць проста так. Я авалодала балетным станком, авалодала і тэарэ-

тычна і практычна мастацтвам харэаграфіі. І калі я скажу, што дапамагаю прафэсіяналам, вы не паверыце, а я гэта раблю.

## УЯЎЛЕНЬНЕ

Лічыцца, што нарадзілася ў Баранавічах, але сама лічу сябе дамашоўкай, гэта вёска 10 кілямэтраў ад Баранавічаў – Дамашэвічы, дзе нарадзіліся мае бацькі. Матуля была мэдсястрой, у шпіталі працавала. А бацька з трохклясавай адукацыяй царкоўнае школы, як цяпер я разумею, чалавек высокай духоўнасьці, – ён на фабрыках працаваў.

Вёску Дамашэвічы я ведаю. Нават памятаю яркае ўражаньне зь дзяцінства – калядаваньне, як да вокнаў падыходзілі, зорку калядную насілі, сьпявалі... Памятаю пахаваньне сваёй бабулі, галашэньні... Памятаю хату, тры-чатыры гады мне было, вось гэты пах, усё, што зьвязана з выганам каровы, хлявом, там, дзе сьвіньні... Гэта ўсё на ўзроўні паху ёсьць. Што тычыцца людзей, інтанацыі, як гаворацць, пасыл інтанацыйны, галасавы – гэта ўсё блізка.

У мяне быў выпадак. З маёй вёскі прыехалі людзі – не да мяне, я проста апынулася ў той час у тым месцы, дзе яны сядзелі й размаўлялі. І гэты гук мяне ўвёў у транс, сон – ня сон, я не магла выбрацца з гэтага. І я пасьля запыталася, адкуль яны. Яны, аказваецца, з маёй мясцовасьці былі. Гэта ж вібрацыя, нешта прыйшло ў рэзананс зь нечым.

...Вецер на выгане і колер травы, і як яно спалучаецца з колерам дрэва бярвянае хаты. Далей аер, а значыць, трошкі балота, балоцістая вільготная атмасфэра... Сьцяна гэтай хаты, а там далей лес...

# Міклашэвічы



*Ігар Міклашэвіч і Рыта Гвозьдзік пазнаёміліся ў Беларускай Майстроўні. Пазнаёміліся й стварылі сям'ю. Сёньня Ігар – доктар навук, прафэсар, загадчык лябараторыі ў Тэхнічным унівэрсытэце, а да ўсяго яшчэ й пісьменьнік, і аматар горных падарожжаў. Рыта – запатрабаваны архітэктар. Маюць сына Стаха, які стаў мэнэджэрам, і дачку Яважыну – дызайнэра моды, заваёўніцу гран-пры розных fashion-фэстываляў.*

**Рыта**: У мяне муж, дзеці, нармалёвая сям'я. Сабака ў нас яшчэ ёсьць Агрэст, якога з-за ягонага імя ведае ўся Серабранка.

Я дзейны архітэктар, запраектавала ўжо, напэўна, усё што можна: і палацы культуры, і школы, і садочкі, і спартовыя комплексы, і цэрквы.

*Ігар Міклашэвіч выкладае мэханіку, тэорыю хаосу і фізыку. Лекцыі чытае па-беларуску.*

**Ігар**: Асабіста сябе я ўспрымаю ўсё такім жа зацятым з пункту гледжаньня бальшыні. Я як размаўляў па-беларуску, так і размаўляю. Як выклікала гэта праблемы, так і выклікае. Іншая рэч, што гэта перайшло на якасна іншы ўзровень. Было нават прыемна, калі ў адным месцы, дзе мне цяпер даводзіцца працаваць, а гэта напалову ваенізаваная структура, тое, што я размаўляю й лекцыі чытаю па-беларуску, было адзначана як плюс і ўнесена ў плян патрыятычнага выхаваньня курсантаў.

## ГУЛЬНЯ Ў БЮРАКРАТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ

*Ці можна сказаць, што навакольны сьвет зьмяніўся і паварочваецца тварам да беларушчыны, да майстроўскіх ідэалаў, і мову цяпер сустракае ўдзячная аўдыторыя?*

**Ігар**: Не-не-не, нельга казаць пра ўдзячную аўдыторыю. Можна казаць, што мы крыху навучыліся гуляць у бюракратычныя гульні – чаго нам, як здаецца, бракавала ў маладосьці, калі ў нас была мэта, мы не хацелі ні на што зьвяртаць увагу, нягнутка ішлі проста да гэтай сьветлай мэты, і шлях быў лабавы і просты. Але, як ні парадаксальна гэта гучыць, у межах бюракратычнае дзяржавы мы павінны ўмець карыстацца правіламі яе функцыянаваньня.

Калі мы з жонкай вырашылі пабрацца, жонцы трэба было мяняць пашпарт, і яна напісала заяву па-беларуску. Натуральна, у тыя часы гэта выклікала абурэньне таварышаў палкоўнікаў, і ёй сказалі, што ніякага пашпарту з заявай, напісанай па-беларуску, вы ня ўбачыце. Мы напісалі ліст у прэзы-

дыюм Вярхоўнага Савету. Спрацавала імгненна. Літаральна праз два дні тыя самыя палкоўнікі ўжо казалі: вы толькі прыйдзіце, мы ўсё падрыхтавалі і ўсё выдадзім.

*Прыгадваецца першы пікет, калі майстроўцы выйшлі супраць разбурэньня будынку першага беларускага тэатру. Ігар Міклашэвіч тады ўратаваўся дзякуючы сваёй любові хадзіць у горы.*

**Ігар**: У мяне недзе фатаграфіі ёсьць, дзе бульдозэр гэты тэатар руйнуе. Калі я фатаграфаваў пікет, які мы там ладзілі, мяне ў пастарунак забралі, стужку з фотаапарату вырывалі, а я напрамілы бог маліў, што ў мяне там фатаграфіі з гор (а я і сапраўды быў толькі што з гор вярнуўшыся). Яны кажуць: фіг з табой, жыві, залатая рыбка...

## ІМЁНЫ ДЗЯЦЕЙ

*Ігару цікава было б паглядзець, як ставяцца да беларушчыны дзеці майстроўцаў. Ягоныя – цалкам падзяляюць пазыцыю бацькоў.*

**Ігар**: Дачка – адназначна. Яна такая ж зацятая, як і бацька. Яна з усімі па-беларуску. Гэта цяжка, бо выклікае пэўнае адпрэчваньне й канфлікты. І сын таксама не цураецца, вельмі доўга размаўляў толькі па-беларуску, але цяпер праца зьвязаная з кліентамі, а кліент заўжды мае рацыю, і калі будзеш па-беларуску, гэта можа выклікаць фінансавыя праблемы, маўляў, ня буду я з табой супрацоўнічаць.

*Пра тое, што майстроўцы абіралі больш беларускія формы імёнаў, мы ведаем. Калі ж яны стваралі ўласныя сем'і ды зьяўляліся дзеці, дык тут і перамяняць было ня трэба. Абы пагадзіліся сямейнікі.*

**Вэрця Лазоўская**: Я выпісвала цікавыя беларус-

кія імёны, калі яны гучалі ў песьнях. Яшчэ ня выйшаўшы замуж, яшчэ і ў праекце не было ні дзяцей, нікога, а я ўжо выпісвала рэдкія імёны. Ну чаму такое слаўнае беларускае імя – Адам Бабарэка, Адам Міцкевіч, Адам Мальдзіс, вельмі шмат беларусаў годна насіла (і носіць) імя Адам – чаму яго няма ва ўжытку? І вырашыла: калі ў мяне будзе сынок, я яго назаву Адамам. З Аленкай мне не ўдалося супраць сям'і пайсьці, бо ўсе былі катэгарычна супраць, а мне вельмі падабалася імя Юстына.

*Падобную гісторыю прыгадвае Аліна Барысевіч.*

**Аліна**: Багдан і Станіслаў. Багдан у гонар Данчыка. Станіславам назвалі сваякі майго мужа. Бо я хацела Марк. Мне не далі, сказалі, што імя габрэйскае, і мы гэтага не дазволім.

*Але не шанцавала майстроўцам толькі тады, калі яны, ствараючы сем'і, не пачуваліся ў поўнай меры гаспадарамі становішча. Калі ж абодва сужэнцы былі майстроўцамі, усе перашкоды для творчасьці звычайна зьнікалі. Гэтак Арына й Вінцук Вячоркі назвалі дзяцей Радаслава, Францішак, Ружана. Таксама трое дзяцей у Гэніка Лойкі.*

**Гэнік**: Імёны далі цікавыя, дасталі з кніжак... Першага сына хацелі назваць Яраш-Раўбіч (быў у Караткевіча, там ён, праўда, Яраслаў), назвалі Яраш, менавіта так, не Ярош. Каб на ўсіх мовах пісалася Яраш. Пасьля Кіру назвалі так, як бабулю. Гэта даволі рэдкае імя. І трэці – сын Любарт, гэта імя сына Гедыміна, альбо папросту Любаш. Яраш, Любаш і Кіра.

*Чарга даходзіць да сужэнства Міклашэвічаў.*

**Рыта**: Яважына. Яна ў нас такая. Любіць быць не такой, як усе, таму і мова, і імя – яна толькі на ўра. У інтэрнэце набіраеш «Яважына». Гара толькі такая ў

Польшчы ёсьць, і наша дачка – і ўсё. Яна мадэльер, таленавітая, яе па тэлевізіі часьцяком паказваюць, нахвальваюць. Працуе вельмі шмат.

**Ігар**: Імя з кнігі Бірылы «Беларуская анамастыка». Месяц сядзеньня ў бібліятэцы. Знайшоў. Мае бацькі й Рыціны бацькі спачатку па паперцы чыталі. Вучылі. Ну, а цяпер здаецца, што інакш і быць ня можа.

## СТАХ ДЗЕДЗІЧ

*Пісьменьніцкая кар'ера Ігара Міклашэвіча пад псэўданімам Стах Дзедзіч завяршылася на кніжцы «Эпілёг» у 1997 годзе. Пакуль завяршылася. Бо ідэяў шмат, але зусім няма часу. У «Эпілёгу» сьледам за Абдзіраловічам Ігар паспрабаваў убачыць самыя важныя працэсы, што адбываюцца зь беларускім этнасам, падключыўшы досьвед дакладных навукаў. Сярод ягоных прапановаў вылучаецца такая: надаць паўнавартасным беларусам (а гэта, паводле Дзедзіча, пяць адсоткаў грамадзтва) статус нацыянальнай меншыні, што аўтаматычна павялічыць правы мовы, сымболікі, гістарычнае памяці.*

## АДКУЛЬ БЕЛАРУШЧЫНА?

**Рыта**: У мяне бабуля на вёсцы; гэта Шчорсы, вядомае месца. Там размаўлялі ня надта ўжо па-беларуску, але па-беларуску. Таму я не магу сказаць, што гэта было зусім чужародна. Але каб перайсьці на беларускую мову, я паўгоду ці болей чытала газэты, кнігі толькі па-беларуску.

*Ігар Міклашэвіч аднаго прозьвішча з Ларысай Геніюш.*

**Ігар**: Я менскае дзіцё. Першыя мае спробы размаўляць па-беларуску былі яшчэ ў 10-й клясе. Да Ла-

рысы Геніюш ня маю дачыненьня. Але бацька мне зь дзяцінства чытаў і Купалу, і Коласа. «Бывала так: яшчэ ад раньня блінцы пякліся на сьняданьне»... Гэта я памятаю яшчэ са школьных часоў. Бацька быў выкладчыкам у політэхнічным інстытуце. Ён быў сынам дырэктара школы на Стаўпеччыне, сам бацька са Случчыны. Маці з Магілёўшчыны.

Адчуваньне прыналежнасьці да Беларусі, можа, праз вандроўкі прыйшло... Мы, па-мойму, вярнуліся зь Літвы, езьдзілі адпачываць, і мяне зачапіла. Вось у Літве размаўляюць, а ў Беларусі не. Чым мы горшыя? І я пачаў. Гэта было цяжка, асабліва калі ты адзін. Але нейкая там жарынка заставалася. Я ня ведаю, якім чынам я трапіў у Майстроўню. Але мне ўсё там было да душы.

**Рыта**: Мяне ў 1982 годзе запрасіла Вэрця Лазоўская, мы разам вучыліся.

Прыцягвала ў першую чаргу кола цікавых людзей. Там было добра, было нешта новае. Беларускае было новае. І ў Майстроўні гэтага новага можна было хапануць добрую дозу. Новага старога беларускага. Таго, што не выпускалася ў прастору інфармацыйную, эмацыйную.

**Ігар**: Я вучыўся на фізфаку. У нас на фізфаку былі двое зацятых нацыяналістаў, як тады казалі: Сяргей Санько вучыўся на пэдагагічным аддзяленьні, я на вытворчым. Першы раз я трапіў на Майстроўню напярэдадні сьвята, якое майстроўцы ладзілі на філфаку, чыталі Багдановіча. Я выступаў зь вершам «...Над хвалямі сінеючага Ніла».

Сьпевы – гэта было не маё. Ларыса Сімаковіч крывілася, калі я спрабаваў сьпяваць. Але я сьпяваў. І цяпер, калі зьбіраемся кампаніяй, мы песьні пяем пераважна майстроўскія.



Гуканьне Вясны ў Купалаўскім парку. 17 красавіка 1983 году. Літа Шчасная, Аліна Садоўская, Андрэй Лапцёнак, Ігар Міклашэвіч, Лада Шчасная, Рыта Гвозьдзік

## СТВАРЭНЬНЕ СЕМ'ЯЎ

**Рыта**: Кампанія людзей, зь якімі мы ўвесь час сустракаемся – Мурашкі Сяргей і Арка, мая аднагрупніца. Алесь Істомін. Таксама з жонкай, маёй аднагрупніцай. Мы іх пашлюбавалі. Алесю ўжо было шмат гадоў, пад трыццатнік, і ўсё ў кавалерах. І мы неяк сядзелі, кажам – не, знойдзе сабе нейкую маладую дзеўку, што мы зь ёй пасьля рабіць будзем? Трэба шлюбаваць. Я падумала і сказала – я ведаю. У мяне ёсьць кандыдатура. Мы зладзілі спатканьне. Адбылося пасьпяхова, і цяпер у іх ужо двое дарослых сыноў.

Віялета была са Славам. Таксама мы іх пашлюбавалі.

**Ігар**: Слава са мной працаваў.

**Рыта**: Мы пашлюбавалі Істоміных, і я кажу: так, я ведаю, хто будзе наступны. А Слава зь Ігарам разам працаваў. У парашковай мэталюргіі. Давай мы іх. Павінна файная пара атрымацца. Атрымалася.

*Бязьлітасная статыстыка сьведчыць, што Міклашэвічы стварылі ажно тры майстроўскія сям'і.*

**Рыта**: Чаму тры? Дзьве.

**Ігар**: Ну а мы што, не сям'я?

**Рыта**: Ну гэта мы самі, гэта было спантанна. І так атрымалася толькі дзякуючы Майстроўні.

А яшчэ Яўген Валасевіч. Гэта мы ўжо з Істоміным хросныя ягонага сына Адама. Я да канца й не вынырвала з Майстроўні. Таму што наша сяброўскае кола, касьцяк яго складаюць выхадцы з Майстроўні.

Усё ж гэта быў асноўны з разьдзелаў жыцьця. Усё астатняе жыцьцё пакацілася адтуль, кірунак руху дадзены там.

**Ігар**: На фізфаку не зьвярталі ўвагі, на якой мове ты размаўляеш, а зьвярталі ўвагу на тое, што ты кажаш. Так што ў гэтым пляне ўціску я не адчуваў. Больш за тое, я быў актыўным камсамольцам, членам бюро факультэту, займаўся інтэрнацыянальным выхаваньнем і г.д.

Я дзяржаўнік. Пад дзяржавай я разумею Беларусь. Не бягучы лад, а Беларусь. Тое, што добра для Беларусі ў стратэгічным пляне, я лічу, павінна падтрымлівацца. Я не атаесамляю Беларусь зь нейкімі пэрсонамі і ладамі. Для мяне Беларусь гэта аб'ект майго нязьменнага каханьня.

# Віктар Асьлюк



*Многія майстроўцы на філфаку ня толькі наведвалі Майстроўню, але й вучыліся на розных курсах. І, натуральна, клікалі на свае імпрэзы аднакурсьнікаў.*

**Асьлюк**: Я – з позьніх. І калі для кагосьці 17-18 гадоў было ўжо многа, дык для мяне – як 13-14. Мы прыйшлі на філфак на першы курс, і сярод нас былі старэйшыя хлопцы, такія, як Сокалаў.

Сокалаў на пяць гадоў старэйшы за мяне. І ў Майстроўню мяне прывёў ён. Мяне й Мішку Бортніка. Сокалаў тады жыў каля камвольнага камбінату. І ён прывёз нас дадому, раскрыў нейкую канапу, дастаў забароненую літаратуру, выдадзеную ў Амэрыцы, і – паказаў. Мы былі настолькі дурныя,

што нічога не зразумелі. А ён усё чакаў рэакцыі. Відаць, рэакцыя была занадта нэўтральная. Ну, паглядзелі, ну, і добра. Тое самае, як калісьці ў інтэрнаце паказвалі дваццаць даляраў...

Яшчэ адзін чалавек, які павёў далей, гэта быў Вінцук. Восень. Сокалаў быў, Вінцук, здаецца, Запрудзкі, Бортнік быў, я быў. Яшчэ дзяўчаты былі. І мы пайшлі ў Верхні горад, да дому Ваньковіча, старога будынку. І хадзілі, чыталі вершы. Я не чытаў, таму што саромеўся. Сокалаў чытаў. І ў прынцыпе гэта было іхнае выхаваньне нас.

*Выглядае, што Вячорку, Сокалава й Запрудзкага маладзейшыя студэнты-філёлягі, якіх тыя прывялі ў Майстроўню, успрымалі ледзьве не як выкладчыкаў, а паходы ў Верхні горад – ледзьве не як дадатковыя заняткі. І нэафіты – як старанныя вясковыя дзеці – з аднолькавым імпэтам засвойвалі ўсе гэтыя навукі, якія несла ім невядомае датуль сталічнае жыцьцё.*

## «ЦАР МАКСІМІЛЯН»

**Асьлюк**: Мне ў «Цару Максіміляне» далі ролю Рыцара. Бортніку, здаецца, таксама далі ролю, можа, Анікі. Мы рэпэтавалі на філфаку і езьдзілі па школах. Я помню гэтыя школы, часам праяжджаю іх і згадваю – вось тут я першы раз выйшаў на сцэну. Гэта акторскі подзьвіг, бо я і сцэна – гэта было як дзень і ноч. Калі праз дзесяць гадоў я паступіў у Тэатральны інстытут, для мяне галоўны выбар паміж дакумэнтальным і мастацкім кіно залежаў ад таго, што ў дакумэнтальным кіно ня трэба на сцэну выходзіць. Але я памыляўся. Трэба было выходзіць.

Я быў, відаць, дрэнны актор у «Цару Максіміляне». Як успомню, дык аж сорамна. Але... але гралі. Памятаю, нешта крычаў. Я ж Рыцар быў! Мы ўсе крычалі на гэтай п'есе. Гэта была экспрэсія. Гэта кашмар быў, я так думаю...

Можна сказаць, што я быў для Майстроўні нічога, а для мяне яна нечым была. Таму што нейкае прыроджанае нацыянальнае пачуцьцё было з самага дзяцінства.

## «МУСІЦЬ»

У тыя гады ў нас не было расейскай мовы. Вёска была дваццаць кілямэтраў ад Глуску, я з тых мясьцінаў, дзе нарадзіліся Фёдар Янкоўскі і Яўхім Кіпель. Мая баба па прозьвішчы таксама Кіпель. Яны з адной вёскі, я думаю, яны там усе сваякі былі.

Там трасянка пачала ўзьнікаць у 1970-я гады. А ўсе тыя бабы, што былі вакол мяне, гаварылі абсалютна нармальна. Ніколі не было «магазіна», толькі крама. І заўсёды я гэтыя словы ведаў.

Мы пераехалі ў Глуск, і я пайшоў у расейскую школу, там іншых не было. І гэта быў страшны пэрыяд для мяне. Маці й бацька спалохаліся, што я ня буду ведаць беларускай мовы, і пачалі мне паказваць тэксты, для іх гэта чамусьці было важна. А ў школе мяне пачалі ламаць. Пачалі зваць «Мусіць». Бо я ўвесь час казаў «мусіць», а ў Глуску так не гавораць. Мястэчка само габрэйскае, але яно ўжо русіфікаванае было. Я казаў «мусіць» – і ўсе сьмяяліся.

Мая маці тады й цяпер – зусім розныя людзі. Для яе ў 1960-я гады гэта было натуральна. Як так, дзіця ня будзе ведаць беларускую мову? – яна казала, я гэта помню.

А ўжо ў канцы 70-х, калі я вучыўся на беларускай мове, яна казала: я беларускую мову не люблю, яна нейкая такая вясковая. Русіфікацыя не дзесяцігодзьдзямі ішла, яна ішла гадамі, хутка. І мы бачым вынікі гэтага. Маці сказала – а нашто гэта ўсё, трэба гаварыць па-гарадзкому.

## БЕЛАРУСЫ АРУЦЬ І АРУЦЬ

Анджэя Вайду спыталі: адным словам – хто вы такі? Ён сказаў: паляк. Я б таксама сказаў, што я беларус. Пры ўсіх маіх недахопах і невыразнасьцях (тое, што для нашай нацыі характэрна) я прэзэнтаваўся б перш за ўсё беларусам. А ўсё астатняе потым. Бо для мяне ўсе драмы й няўдачы нашай гісторыі й сучаснасьці – гэта асабістая драма. Я як сапраўдны беларус зьліваюся з гэтай мясцовасьцю, з гэтым жыцьцём і хачу выжыць. Я кажу пра прафэсію.

Гэта для мяне важна, і чым далей, тым становіцца важней. Бо трыццаць гадоў – а мы гаворым пра Майстроўню – гэта для некаторых усё жыцьцё. Гэта самае галоўнае. А ўсё астатняе – нішто. Кар’ера, напрыклад.

У мяне дастаткова досьведу, каб зразумець, што кар’еру можна зрабіць. Можна зрабіць на скандале, на адмаўленьні... Я вырашыў усё прасьцей, па-беларуску. Для мяне кар’ера магла б быць важнай, але я ў свой час падумаў, што гэта ня самае важнае. І потым, кіно – гэта не зусім мастацтва. Гэта часам зусім не мастацтва. Гэта проста прафэсія.

Я спрабаваў і яшчэ паспрабую. Але абсалютна ўпэўнены, што ўсё, што буду спрабаваць, будзе зьвязана зь Беларусяй. Я разумею, што для майго кар’ернага росту зьмена краіны жыхарства была б лепшай. Але я на гэта не пайду.



Студэнты-філёлягі і журналісты на вайсковых зборах: Барыс Сачанка, Ігар Дзялендзік, Віктар Асьлюк, Міхась Бортнік, Жора Паўловіч. Слонім, 1984 год

Я чытаў калісьці, чым беларуская вёска адрозьніваецца ад вялікарускай. Гэтыя прыехалі недзе там на Браншчыну, лес спалілі, поле пасеялі. Ай, нічога не расьце... Памянялі месца, жывуць далей. А беларусы аруць свой пясок і аруць. Тыя сьмяюцца: якія дурні! Там жа адзін пясок. А яны аруць і аруць, і жывуць і жывуць....

*Ня стану падрабязна прадстаўляць сёньняшняга Віктара Асьлюка – аўтара больш чым дваццаці фільмаў, ляўрэата фэстываляў. Дастаткова сказаць, што дзякуючы яму многія ў сьвеце ня толькі даведаліся пра Беларусь, але й зразумелі ці адчулі асаблівасьць гэтай краіны й гэтага народу. Сам Віктар перакананы, што кінарэжысэрам яго зрабілі наш нацыянальны заняпад і ўдзел у Беларускай Майстроўні трыццаць гадоў таму.*

**Асьлюк**: Я ня памятаю ўсіх абставінаў, як я паступова адышоў ад гэтага. Магчыма, гэта было зьвязана з тым, што на трэцім курсе Сокалава пачалі выклікаць у гэбэ. Тады курс пачалі трэсьці й цягаць. Нас не цягалі. Першую й другую групы не цягалі, а трэцюю й чацьвертую, дзе вучыўся Сокалаў...

Мы яшчэ езьдзілі ў Заслаўе, але пасьля трэцяга курсу ўжо толькі час ад часу ўдзельнічалі. На першым-другім курсе была гэтая актыўнасьць. А потым, відаць, многа людзей зьявілася. І калі напачатку нас было мала, а потым больш і больш, дык можна было так натуральна прыходзіць ці не прыходзіць.

Я ня быў у блізкіх сяброўскіх дачыненьнях з бальшынёю людзей у Майстроўні. Вось Міша Бортнік, які быў са мною ў Майстроўні, – ён памёр два гады таму. Ён быў і застаецца маім самым лепшым сябрам. Міша шмат зрабіў, ён быў дырэктарам школы, і да яго на пахаваньне прыйшло шмат людзей. І беларускамоўных. Я нават і не чакаў, што ён быў знаёмы зь імі.

На беларускім філфаку па-беларуску размаўлялі асобныя людзі. У тым і выяўлялася мая беларуская натура, што калі я сустракаў Сокалава, я зь ім

гаварыў па-беларуску, а калі я сустракаў Андрэева Толю, зь ім размаўляў па-расейску.

Мы як ні выхоўваем свайго сына... Калі Ян жыў дома, як і Піліп цяпер, які яшчэ ў школу ня ходзіць, у яго не было расейскамоўнага атачэньня. Але вось Ян ходзіць у 23-ю гімназію, здавалася б, беларуская гімназія, але як сябры – адразу пачынае гаварыць па-расейску. І гэта ў мяне таксама было на філфаку. Але для мяне выбар паўстаў пазьней...

Гэта пытаньне выбару. Калі ты яшчэ не разумны, выбару яшчэ няма. А калі ты больш дарослы, выбар ужо быў. І гэта выбар, што дзеці павінны гаварыць па-беларуску.

## СУШЧЭНЯ

Майстроўня не магла зьнікнуць для мяне, бо я ўспамінаў пра яе, і расказваў сваёй жонцы, якая нашмат маладзейшая. Мая жонка, мае дзеці гавораць па-беларуску – гэта ўсё тое ўплывае.

Я ня веру, што гэта можа адбыцца ў трыццаць гадоў – асэнсаваньне таго, што ты любіш, што ненавідзіш, чаго хочаш. Гэта павінна адбыцца ў свой час. І, вядома, гэтыя хлопцы зрабілі на ўсё жыцьцё прышчэпку нармальнага стаўленьня да сваёй нацыі, свайго народу, свайго жыцьця.

...Мы сустрэліся зь Вінцуком на плошчы ў 1996 годзе, калі быў рэфэрэндум. Мы доўга ня бачыліся. Пагаварылі. А праз некалькі гадоў Вінцук перасяліўся і стаў маім суседам. І нейкі час мой Янка і яго малодшая дачка сябравалі. Вінцук жыве нада мной. У яго падлога, а ў мяне столь – у нас агульнае. У нас многа агульнага зь Вінцуком.

Я сапраўдны беларус. Мой знаёмы рэжысэр, які сам родам з Баранавічаў, вучыўся-жыў у Кіеве, а

цяпер жыве ў Нямеччыне і ўдзельнічае ў галоўнай праграме Канскага фэстывалю, сказаў: Ты – Сушчэня. З Быкава, з аповесьці «У тумане». Быў бы маладзейшы, я цябе здымаў бы ў галоўнай ролі.

Я думаю, што я не Сушчэня ўсё ж такі. Гэта проста ў нас ва ўсіх ёсьць гэтая рыса. Мы беларусы, мы заўсёды аром.

## Тацяна Шчасная



*У сям'і Шчасных было пяцёра дзяцей. Старэйшая дачка Нэла – славутая мастачка Нінэль Шчасная, а малодшая Тацяна. Розьніца больш за дваццаць гадоў. Дык вось. У Нэлы была дачка Лада. І калі трыццаць гадоў таму малую Ладу запрасілі на Гуканьне Вясны ў Заслаўе, разам зь ёй паехала і Тацяна. А яшчэ да іх далучаліся дзьве іншыя Тацяніны пляменьніцы – Яня і Літа. Ажно чацьвёра дзяўчат са шляхоцкага роду Шчасных былі ўдзельніцамі Майстроўні, а іхныя сьпевы, строі ды кшталт паводзінаў сталі аздобаю майстроўскага дзіва.*
*Дзіва было ўзаемнае.*

**Тацяна**: Гэта зьява, якая перавярнула жыцьцё шматлікіх асобаў і жыцьцё нашай краіны. Для мяне, напрыклад, жыцьцё зьмянілася кардынальна. Я ўжо была не студэнтка, працавала, была замужам. У мяне ўжо не было такіх матываў, што там маладыя хлопцы і нейкія тусоўкі. Там было тое, што ў мяне было недзе глыбока, пра што мне распавядаў бацька.

*Бацькі Тацяны Іван Шчасны разам з жонкай Марыяй з роду Зяленскіх паводле ўзросту для бальшыні майстроўцаў належалі да пакаленьня дзядоў. Былі носьбітамі той культуры і нацыянальнай прыроды, якую страчвала пакаленьне нашых бацькоў.*

*Зьяўленьне Тацяны Шчаснай у Майстроўні было выпадкам унікальным. І таму, што ўнікальнымі былі яе бацькі. Яны ўжо да вайны былі людзьмі гарадзкімі, больш за тое, належалі да гуманітарнай беларускай інтэлігенцыі, да тых, хто з таўром «нацдэма» падлягаў татальнаму вынішчэньню.*

## ІВАН СЫМОНАВІЧ ШЧАСНЫ

**Тацяна**: Бацька вучыўся ва ўнівэрсытэце напачатку стагодзьдзя. У Пічэты. І ў іх таксама была майстроўня. Ён мне расказваў, як яны Купальле сьвяткавалі. Я была меншая, таму бацька мне ўсё гэта расказваў, старэйшым ён нічога не казаў.

Ён быў выкладчыкам Полацкага пэдтэхнікуму. Выкладаў беларускую мову і літаратуру, быў ва «Ўзвышшы», быў крытыкам, у іх літаратурны гурток быў вельмі моцны ў Полацку. Ну і любілі яго студэнты.

У 1938-м яго папярэдзіў былы студэнт, які сам быў у «тройках». Бацька вяртаўся ўвечары з працы,

і той яго дагнаў, кажа: Іван Сымонавіч, не абарочвайцеся, да раніцы вы павінны зьехаць.

Бацькі ўзялі дзетак і тое, што маглі, у рукі. Матка, бацька, двое малых і ўжо ў праекце трэцяе было. І выехалі за межы Беларусі. Абвінавачвалі яго ў нацыяналізьме. Прыехалі забіраць, а яго не аказалася...

Пасьля вайны ён вярнуўся, яго адразу выклікалі, і ён даў падпіску, што ня будзе займацца беларускаю культураю. І толькі тады дазволілі застацца. Прычым выклікалі не абы-куды. Бацькі набылі дамок у Менску на Маякоўскага, а выклікалі... там стары млын быў ля рэчкі, выклікалі ў дзьве гадзіны ночы на гэты млын. І там ён даваў гэтую падпіску.

Сачылі. Бацька казаў, што і сусед прыходзіў, слухаў, ці гавораць яны па-беларуску. І ў нас дома не гаварылі па-беларуску.

*Майстроўня ўся складалася зь пераемнасьці. І калі ў вёску яшчэ можна было паехаць і наслухацца там жывых песень і жывое мовы, дык навязацца да колішняй кніжнай культуры можна было хіба што ў бібліятэцы. Жывых носьбітаў проста не было. Мы ведалі й наведвалі Зоську Верас і Ларысу Геніюш, але кожны такі аазіс пасярод пяску быў выключэньнем з правілаў дэнацыяналізацыі.*

*Памятаю, зь якім захапленьнем майстроўцы гаварылі пра беларускае адраджэньне пачатку мінулага стагодзьдзя і 1920-х гадоў, пра даўнейшую арыстакратыю ВКЛ, пра яе этыкет і сьветапогляд, што так супярэчылі ўсеагульным стэрэатыпам панібрацтва і ўраўнілаўкі, сярод якіх гадаваліся мы. Мы гатовыя былі адправіцца на край сьвету, каб пабачыць жывога беларускага арыстакрата альбо даваеннага прафэсара-нацдэма. Мы адчувалі,*

*як бракуе нам гэтага складніку пераемнасьці. І тут само здараецца дзіва. У Майстроўню прыходзяць Шчасныя, цётка і тры пляменьніцы. Чаго найболей бракуе, таго найбольш і даецца.*

## ШЧАСЬЦЕ

**Тацяна**: А я меншая, я нарадзілася ў 1955-м. І ў бацькі, відаць, было жаданьне некаму гэта перадаць. І ён паціхеньку, калі ўвечары сядзім... Адчувалася, што для яго гэта балюча. І для мяне ўсё беларускае было зьвязана зь нейкім тленам, сумам, паміраньнем, зь нечым такім.

І раптоўна, яшчэ былі жывыя мае бацькі, у 1980-м, я трапіла на Купальле. А потым Гуканьне ў 1981-м. Мы стаім у царкве ў Заслаўі, і дзеткі маленькія Ларысы Сімаковіч пяюць, жавароначкаў пускаюць, а Зьніч свае вершы чытае. Тут вы ўсе маладыя... Больш за сто чалавек – і ўсе па-беларуску. І мне так заняло, я так разраўлася... Падышоў Мікола Купава: Што такое, хто вас пакрыўдзіў? А я слова сказаць не магу. Большага шчасьця не было ў мяне ў жыцьці.

Я думала: зараз скончыцца гэтае сьвята, вы будзеце жыць гэтым неверагодным жыцьцём, а я буду недзе збоку. І як мне бяз гэтага? Ужо ідзем да цягніка, я да Вэрці падышла і кажу: прабачце, калі ласка, а ці можна мне да вас прыйсьці? Як каб вас ня страціць? Яна запрасіла, сказала, што ў сераду можна прыйсьці ва ўнівэрсытэт, на філфак. І я ўсё адмяніла, і гэта было на першым месцы – Майстроўня, сьпевы – гэта было гадзінаю шчасьця. Я быццам знайшла Радзіму. Для мяне сьвет адкрыўся.

## ПАДСТАНЦЫЯ

Я тады працавала электраманцёрам на падстанцыі, якая запускае энэргію для тралейбусаў. Гэта быў мой бонус, я не баялася, калі нас міліцыянты забіралі, я – рабочы клас. Нашых студэнтаў маглі паперці з унівэрсытэту, калі тэатар руйнавалі і мы ў пікеце стаялі, ці калі мы на Каляды хацелі да Караткевіча зайсьці, і нас там стрымлівалі і забіралі ў міліцэйскія машыны, ці калі на Купальле прыяжджала міліцыя... Мне было лягчэй.

Такая ў мяне была ўпэўненасьць і шчасьце, што гэта ўсіх захлынула маладых. І мае меншыя пляменьніцы разам са мной хадзілі на сьпевы, езьдзілі на ўсе сьвяты і строі рабілі. І ні сямейнае жыцьцё, ні праца ў тры зьмены, ні мая другая навука – я яшчэ вучылася на афарміцеля – нішто не замінала гэтаму.

## «ЭХ, ПАЗРАЗАЮЦЬ ГАЛОВЫ»

А калі мы з пляменьніцамі прыходзілі са сьпевак дадому і вучылі словы і сьпявалі, бацька сядзеў у крэсьле і плакаў. Я казала: тата, ну чаго ты плачаш?

Ён кажа: «Эх, пазразаюць галовы. Гэта яны чакаюць, пакуль адрастуць, як толькі адрастуць, пазразаюць».

Шчыра кажучы, пазьбівалі троху. Ужо не пазразалі, як тады, але пазьбівалі добра.

Мая дачушка Марыська – ёй яшчэ ўдалося скончыць Коласаўскі ліцэй з тымі настаўнікамі, дай Бог ім шчасьця і здароўя. І не было б гэтага, калі б не было Майстроўні. І Ліцэю не было б. Якраз я была цяжарная Марысяй, а з Майстроўні вырасла Тава-

рыства беларускай школы. І мяне пазвалі. Я такая была ганарлівая, што мяне пазвалі ў ТБШ!

## ЛАДА

*Лада Шчасная, як і яе цётка Тацяна, адразу стала заўзятай майстроўкай. Густоўна апранутая ў белыя строі, яна проста прыцягвала аб'ектывы фатографаў на майстроўскіх сьвятах, сьпявала, танчыла ды прамянілася нейкім высакародным і таму незвычайным сьвятлом. Аліна Садоўская і Таня Лаўрыновіч і запомнілі Ладу як арыстакратку.*

**Таня Лаўрыновіч**: Яна вылучалася інтэлігентнасьцю, як багіня была. Такая выхаваная, але простая, без зазнайства. Яна мне паказвала макет гораду, многа-многа маленькіх домікаў з кардону, з чырвонымі дахамі, з балькончыкамі, на балькончыках кветачкі. Ёй гадоў 16-17 тады было. А яна рабіла тое, што дзеці робяць. Толькі чалавек са сьветлым пачуцьцём мог займацца такімі рэчамі.

**Аліна Садоўская**: Ладка была самая маленькая, я старэйшая за яе на тры месяцы. З Ладай хацелі ўсе сябраваць, яна была незвычайная. Побач з Ладаю хацелася быць больш выхаванай. Яна была арыстакраткай.

*Самая маладая майстроўка Лада Шчасная засталася маладой і прыгожай назаўжды. Гэта здарылася напачатку 2007 году.*

**Тацяна**: Лада гэта боль наш. І ён ніяк не сьціхае і ня сьцішыцца, таму што ў яе засталіся маці і дачка. Іх было тры стрыечныя сястры – Лада, Яня і Літа. І яны як родныя расьлі. Усе творчыя вельмі людзі. А я па ўзросьце да іх бліжэйшая, чым да сясьцёр.

Толькі зь цягам часу будзе зразумела, што яна



Гуканьне Вясны ў Заслаўі. 24 красавіка 1982 году. Лада Шчасная, Таня Лаўрыновіч, Вера Лазоўская, Сяржук Цімохаў

зрабіла ў сваім жыцьці. Яна была неверагодны пэдагог. Яна выкладала кампазыцыю і колеразнаўства ў Інстытуце культуры. Я любіла хадзіць на прагляды, дзе яна прымала работы студэнтаў. І апошнімі гадамі ў іх былі прагляды больш цікавыя, чым у Акадэміі. Яны былі больш нацыянальныя, духоўна насычаныя. І для яе студэнты былі яе дзецьмі. У нас тут яны ўсе зьбіраліся, калі дыплёмы былі. Адна студэнтка піша кнігу пра Ладу, таму што для яе, яна кажа, Лада была зьяваю, якая перамяніла яе жыцьцё.

*Мне згадалася майстроўскае Купальле ў Менску на «Інтэграле». Тады ўпершыню быў зладжаны «полечны маратон» – хто каго пераскача. Дакладней – спрынт, бо полька – вельмі энэргічны і «працаёмісты» танец... Уваччу стаіць менская лагчына ў тумане, ноч, вогнішча, народ, скокі і белая постаць Лады ў танцы. Той маратон яна выйграла. Ня толькі зграбная была Лада, але й дужая. І ня толькі дужая, але й прагная да перамогі. Пра што сьведчыць таксама імя, якім яна назвала сваю дачку.*

## НІКА

**Тацяна**: Лада... Яна такой у нас неверагоднай прыгажунькай была, але... Ня даў Бог шчасьця. І калі ўжо яна вырашыла займець Нікошу, у яе знайшлі захворваньне. Сказалі, што трэба пазбаўляцца, а яна адназначна сказала, што гэтага дзіцёнка народзіць абавязкова, і гэтая Ніка была як яе перамога. Ну і потым, на жаль, толькі дзевяць гадоў яна пратрымалася, пацешылася.

Дзяўчо ў нас гадуецца, дзякуй Богу. Галоўнае, што аптыміст. Нягледзячы на ўсё, што яе ў жыцьці напаткала.

## ДОМ

*Пасьля вяртаньня ў Беларусь Івану Шчаснаму забаранілі займацца беларускай культурай, але не маглі забараніць быць самім сабою. І ён збудаваў дом. Сапраўдны дом, які ў безуласьніцкія савецкія часы быў увасабленьнем уласнасьці, як апрычча арыстакратычнага кшталту асобы. А для ўлады наяўнасьць свайго дому лічылася хутчэй адмоўнай характарыстыкай. Спадкаемцы матэрыяльных і духоўных каштоўнасьцяў продкаў выглядалі людзьмі нядобранадзейнымі.*

*Дом у Ждановічах памятае Майстроўню і майстроўцаў трыццаць гадоў таму.*

**Тацяна**: Не хацелася разыходзіцца пасьля сьвятаў, і іх (сьвятаў) было малавата. І прыяжджалі сюды, бо хацелася працягу, хацелася слухаць, самому выказвацца. А мне хацелася, каб мае бацькі ўбачылі, што ўсё ж такі ёсьць гэта, што жыве.

Атрымалася так, што гэты дом маіх бацькоў быў чацьверты за жыцьцё. Гэта ўжо былі людзі, якім за пяцьдзясят, і пятае дзіцё маленькае, і яны не жахаліся пачынаць усё спачатку.

*Сёньня Тацяна Шчасная – гаспадыня ў бацькоўскім доме, ад чаго ёй перадаецца роля апякункі ўсяго немалога роду. Неўзабаве яна ў хатняй майстэрні зможа цалкам прысьвяціць сябе новаму захапленьню. Гэта творы зь лямцу.*

## ВЕХІ ЖЫЦЬЦЯ

**Тацяна**: Самай важнай вяхой было дзяцінства і шчасьце нарадзіцца ў маёй сям'і. І я рана гэта адчула, таму што мне было вольна, цёпла, сьветла. Сёстры былі значна старэйшыя, і яны са мной былі

на роўных, і я дапушчалася за стол на вячэры, якія цягнуліся па пяць гадзінаў, і мне ўсё гэта было цікава.

Нэла ў мяне спытала: дзеля чаго ты жывеш? Я пабегла ў свой арэхавы куст, сядзела і думала, дзеля чаго я жыву. Убачыла промні сонца праз зялёныя лісты, і мне стала ясна, што я на сваім месцы, і я адчула бязьмежнасьць – што ёсьць бязьмежна вялікае і бязьмежна малое, і я сюды накіраваная і павінна адпавядаць гэтаму месцу. Нельга быць злым, кволым, хворым, трэба адпавядаць.

Потым была Майстроўня. Потым страшнае – страта бацькоў, рана, бо я апошняя была. А потым выжыла – дзякуючы Майстроўні і нараджэньню маіх дзетак. Гэта вехі майго жыцьця.

# Янка Медзьвядзёў



*Калі нашую гісторыю ўявіць сабе як эпас, дык сёньняшнія часы ў ім бачацца мне каротка фразай: «народ не сьпяваў». Кіраўнікі і крыўды забываюцца, застаецца істотнае для вечнасьці. Фраза «народ не сьпяваў» азначае, што народ маўчаў.*

### ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ ТАМУ

*Усё гэта – і песьні, і сьвяты – Янка Медзьвядзёў ведаў з маленства, з роднае вёскі. Калісьці кожная вёска ў Беларусі была майстроўняй.*

**Медзьвядзёў**: Я нарадзіўся ў вёсцы Барздоўка, 17 кілямэтраў ад Воршы. Калі зусім малы быў, мамка і кабеты ладзілі Гуканьне Вясны. Я памятаю момант – недзе дзелася мамка! Тады яна прыходзіць, як бы зараз сказаў, расчырванеўшыся. І кажа: гукалі

вясну, ідзі, паглядзі, можа яшчэ стужкі знойдзеш ад вясны. Я паглядзеў у вакно – там гразь. І я не пайшоў шукаць гэтыя стужкі...

*Чым кіраваліся вясковыя людзі, калі гукалі вясну ці калядавалі? Пэўна ж, не рацыянальным рашэньнем, а поклічам свае чалавечае прыроды, зьнітаванае з прыродай краю і з завядзёнкаю, якую мы называем традыцыяй. Калі ж народ перабіраецца ў горад, яго паводзіны кіруюцца ўжо ня столькі прыродай і завядзёнкай, ад якіх ён адарваўся, колькі рацыянальным рашэньнем. Інстынкт самазахаваньня тут можа выяўляцца ў зьберажэньні свае адметнасьці, як гэта адбылося ў балтыйскіх народаў, або ў мімікрыі – я ніхто, я ніякі, я нічым не вылучаюся з фону...*

*Сотні тысячаў беларускіх вясковых дзяцей так і трактавалі сваю ўрбанізацыю – як мімікрыю. І тое, што ў гэтай плыні сям-там траляліся адзінкі з адваротным матывам – захаваць сваю адметнасьць, рацыянальна растлумачыць немагчыма. Калі ў выпадку Янкі Медзьвядзёва зразумець гэта яшчэ можна, бо ён патрапіў у школу-інтэрнат для адораных дзяцей, дык у выпадку тых матэматыкаў і філёлягаў з пэдагагічных аддзяленьняў, што апынуліся разам зь Янкам у Майстроўні, усё гэта інакш як цудам не назавеш.*

## ЛОМКА НА «ГАРАДЗКІ» ЛАД

**Медзьвядзёў**: Мая мама для вёскі, можна сказаць, тэхнічная інтэлігенцыя. Яна была прыбіральшчыцай у сельсавеце. А тата, напэўна, быў загадчыкам клюбу. Ён памёр, калі мне было чатыры гады. Я памятаю, як ён вучыў мяне маляваць, а брат мой старэйшы Юрась маляваў лепей.

Я паехаў здаваць іспыты ў Воршу, і там мяне забраў Рыгор Рыгоравіч Батальёнак.

Мяне мамка прывезла вучыцца ў Менск і перадавала з рук у рукі. Я роў як мядзьведзь. Учапіўся за спадніцу: усё, кажу, не пушчу. А тут ішоў Кірыл Уладзімеравіч Зеляной, ён потым выкладаў у нас гісторыю мастацтва. І ён пачаў мне нешта расказваць, расказваць. І ўсыпіў. Я заснуў. І мамка паехала.

У мяне з гузікам зьвязаная гісторыя парнатаўская. Я кажу: вось гузік адарваўся, халера. Аха-ха, деревня, гузік!.. І быў падзел у клясе. Бо іншы хлопец кажа: да, гузік, мая бабушка так гаворыць. І ў Воршы тады па-расейску мала хто размаўляў. 1970-я гады. У 1972-м я прыехаў сюды.

## Ідыш

*Вясковых хлопцаў у менскіх школах і ВНУ ламалі на «гарадзкі» лад. Прычым хто быў характарам больш просталінейны, тым гэтая ломка давалася больш балюча. У Янкі Медзьвядзёва натура зусім ня простая, што ўрэшце прывяло яго і да выбару прафэсіі рэстаўратара. Разам з расейскай мовай ён засвойваў таксама габрэйскую мову й культуру, безь якой уявіць сабе колішнюю Беларусь немагчыма. А нядаўна, пабываўшы ў Вільні на курсах ідыш, захапіўся таксама й літоўскімі сьпевамі. Яшчэ ў інстытуце выхаваньню гэткае шырыні поглядаў спрыяў выкладчык Алег Хадыка.*

**Медзьвядзёў**: Толькі правучыўшыся тут некалькі гадоў, я зразумеў, што, апрача расейскай і беларускай мовы, ёсьць яшчэ габрэйская. Я габрэя ніколі ня бачыў. Я думаў, што гэта іншыя людзі, а гэта такія ж людзі, як і мы.

Я, напэўна, хутка навучыўся гаварыць па-ра-

сейску. Тут. Вядома, акцэнту не пазьбегнуць, я думаю, ва ўсіх беларусаў, як бы чыста ні гаварылі па-расейску, усё адно ёсьць будова, нават інтанацыя беларуская, беларуска-габрэйская. Вось да нас прыходзіць дзяўчына, яе родзічы па лініі маці зь Яльца, з Расеі. Яна бывала, езьдзіла туды, у Ялец. І, кажа, яе цёткі, сёстры ня ведалі, ці яна пытаецца, ці нешта сьцьвярджае. Скажыце, калі ласка...

У мяне быў выкладчык Алег Уладзімеравіч Хадыка. Ягоныя заняткі назваць лекцыямі было немагчыма. Гэта былі сустрэчы вучняў з настаўнікам. Там можна было размаўляць пра рэчы, якія наўпрост ня тычацца прафэсійных сакрэтаў.

## РЭСТАЎРАЦЫЯ

Якраз у часы Майстроўні ў маім жыцьці гэта зьявілася. Андрэй Радзівонаў, якога ўзялі на практыку ў Мсьціслаў, лісты пісаў, што дужа цікава там. І я ў 1982 годзе паехаў паглядзець, што там такое. А там былі Мікола Залатуха, Уладзімер Ракіцкі, Юрась Маліноўскі. Потым прыяжджаў Алег Уладзімеравіч. І я там, можна сказаць, плаўна перайшоў з Майстроўні ў рэстаўратары.

А пазьней, ужо ў 1996 годзе, мы зрабілі сваю кампанію «Басталія». Мы займаемся рэстаўрацыяй і ўсім астатнім. Напрыклад, яшчэ там, у Мсьціславе, Мікола, Уладзімер, Юрась хадзілі запісвалі беларускія песьні і габрэйскія песьні, вельмі прыгожыя. Я там упершыню пазнаёміўся з габрэйскім альфабэтам, пачаў вучыцца пісаць.

Басталія – гэта Юры Іванавіч, Уладзімер Васілевіч, Сяргей Іванавіч Верамейчык, Вольга Атас. Юры Іванавіч зьехаў у Мсьціслаў. Уладзімер Васілевіч займаўся працяглы час рэстаўрацыяй

Спаскай царквы ў Полацку. Верамейчык зьехаў у Залесьсе з Ласём разам. І там ён дагэтуль. Але яны таксама вучні аднаго настаўніка, Алега Ўладзімеравіча Хадыкі.

## «ПРАТЫКАНЬНЕ ГЛОТАК»

У Майстроўні мяне звалі Янка. Ясь. Сябры проста – Янкель. Я мастак-рэстаўратар, а па адукацыі мастак-скульптар. Настаўнік. Займаемся мы рэстаўрацыяй насьценнага жывапісу, ляпніны, архітэктуры, жывапісам займаемся, скульптурай новай, на заказ, ну і ўсім астатнім. Жыву ў Менску з 1996 году стала.

У Слоніме мы фасады рабілі. У касьцёле Андрэя. Прыехалі студэнты з хабзайні. Я паказваю, як трэба накідваць раствор, каб ён ня звальваўся і ня пырскаў на цябе. Чую ззаду: «Да вообще-то я резчик по дереву». Мне стала сьмешна. Урэшце навучыўся ён, гэты хлопец, тынкаваць. І там, у Слоніме, я «пратыкаў глоткі», навучыў гэтых хабзайцаў сьпяваць.

*Самапрэзэнтацыя Янкі Медзьвядзёва ўключае слова «настаўнік», прычым ня толькі настаўнік мастакоў ці рэстаўратараў ці нават сьпевакоў, а ў самым шырокім сэнсе – настаўнік жыцьця, бо гаворка йдзе пра навуку жыцьця праз мастацтва альбо празь сьпевы. Сьпяваць – ня толькі таму, што гэта прыгожа або што душа гэтага просіць, а таму, што ты як асоба павінен прабіцца, раскрыцца, выявіцца. Зь Янкам, як і з многімі нашымі героямі, гэта адбылося ў Майстроўні.*

**Медзьвядзёў**: Майстроўні і Ларысе Сімаковіч я вельмі ўдзячны за тое, што яна навучыла сьпяваць, і я зразумеў, як гэта прыгожа – сьпяваць разам. І рабіць агульную справу.

Бывае, што трэба проста прымусіць чалавека не сьпяваць, а крыкнуць. У чалавека ўсё там настолькі заціснута, што ў яго крык не навонкі ідзе, а ўсярэдзіну. Імплязіўны.

*Пасьля інстытуту Янка едзе працаваць рэстаўратарам у Магілёў.*

**Медзьвядзёў:** У мяне быў выпадак у Магілёве. Там касьцёл Сьв. Станіслава і побач управа пажарнай каманды. І прыйшлі да нас кабеты салідныя і хлопцы-пажарнікі. Я ім паказаў усё, прасьпяваў «Дзе б ты ні была, кахана». Гэта з «Полацкага сшытку». А тады кажу: давайце вы паспрабуйце сьпяваць. Дзяўчаты і кабеты, яны ля-ля, ля-ля паціху, а хлопцы маўчаць. І я прымусіў аднаго хлопца закрычаць. Дык я бачыў, як у яго вырваўся голас. Гэта быў такі дзікі крык. Фантастычная рэч!..

Голас прабіваецца, але ён будзе такі дзікі, і трэба яго неяк абкультурваць.

Кожны чалавек, які можа засьпяваць, значна лепей сябе адчувае фізычна, чым той, хто баіцца адкрыць рот.

*Выходзіць, калі людзі не сьпяваюць, у іх прападае пастава, яны горш пачуваюцца фізычна, калі маўчаць, бо не выпускаюць свае клопаты навонкі, а трымаюць у сабе, дазваляючы тым клопатам выядаць нутро. Так, прынамсі зь Янкавых словаў, выглядае наступства мімікрыі, калі людзі ўсяляк хаваюць сваю чалавечую прыроду.*

*Беларуская народная песьня зусім не такая брыдкая, як прадстаўляе афіцыйная прапаганда. У жывой беларускай песьні вы ніколі не пачуеце ніякай зыкінскай «задушэўнасьці», ніколі не пабачыце разяўленых, як вароты, ратоў альбо надзетых на твары густа напамажаных «лыбаў». Жывая песьня*



Пастаноўка «Цара Максіміляна» на Заслаўскім замчышчы. 17 траўня 1981 году. Андрэй Ясінскі, Янка Медзьвядзёў, Ірына Крук

*ніколі не падасца вам забаўкай, бо нават за прыпеўкамі ў іх аўтэнтычным выкананьні вы адчуеце дыханьне вечнасьці.*

*Фальш у выкананьні нашых псэўданародных калектываў быў і застаецца не сваім, а расейскім.*

### «МАРГІНАЛ»

*Янка Медзьвядзёў глядзеў на гэтыя рэчы па-філязофску. У Майстроўні ён знайшоў голас, набыў паставу й ператварыўся ў гатовага прафэсійнага сьпевака, а таму ня дзіва, што патрапіў у прафэсійны хор. Сам жа гэтаму хору і даў назву.*

**Медзьвядзёў**: Бывала, што мы проста сядзем

на рыштаваньнях пад скляпеньнямі касьцёла Сьв. Станіслава і пачынаем сьпяваць. Там выдатная акустыка і, які гук ні выдаеш, яно гучыць на касьцёл поўнасьцю. А малады чалавек, які скончыў Казанскую кансэрваторыю, гэта пачуў. Празь месяц ці два ён прыходзіць і кажа, слухайце, я хачу зрабіць у Магілёве хор.

Я кажу, не, я нотаў ня ведаю. Ён кажа, нічога, там такіх будзе таксама. І ў некалькіх канцэртах я ўдзельнічаў. Былі і праваслаўныя, і каталіцкія царкоўныя сьпевы, сьвецкія сьпевы, італьянцаў, Моцарта, усякае сьпявалі.

Дык самае галоўнае, што пачалі прыдумваць назву. І мне прыйшлося давесьці тады, што «Маргінал» – гэта правільная назва, у ёй ёсьць самаіронія, бо хор толькі зьявіўся.

## ЯК У БРЭГЕЛЯ

Мы зьбіраліся на рэпэтыцыі на радыё. Там запісвалі некалькі песень, а потым ішлі ў інтэрнат, памятаю, Вэрця і Наталя з намі ішлі, яны побач жылі. Летні вечар, ужо даволі позна, восем-дзевяць гадзін. Мы ішлі і сьпявалі беларускія песьні. Проста хацелася так.

Для мяне цяпер Майстроўня як міраж. Я памятаю ўсё гэта як удзельнік. Сьпявалі, танчылі, выварочвалі кажухі, я казой быў, зорку насіў. Але для мяне цяпер гэта... ня тое што кіно, «дрым». Не ў тумане, усё вельмі яскрава. Але я не вылучаюся з агульнай масы. Тады гэта было калярова, прыгожа, строі надзявалі, дзяўчаты ў хустках – гэта як карціна. Як у Брэгеля: здалёк паляўнічыя па сьнезе ідуць. Іх там некалькі чалавек, а ўяві: Майстроўня, такі натоўп, і таксама такі каляровы від.

# Ірэна Папурэнка



*Наша высокаадукаванае і ўладацэнтрычнае грамадзтва перакананае ў тым, што «цалкам валодае сытуацыяй», і калі-нікалі з адсутным выглядам праходзіць міма таго, чаму не знаходзіцца рацыянальнага вытлумачэньня. Быццам з усеагульнае згоды ўсе пагаджаюцца, што чагосьці проста не было, замест таго каб прызнаць, што было, але – міма нашае волі й нашага разуменьня.*
*Адбыўся цуд альбо адбылася фатальная трагедыя. Як, да прыкладу, тая страшная трагедыя 30 траўня 1999 году на станцыі мэтро «Няміга».*

## ЭНЭРГЕТЫЧНАЯ ДЗІРА

*Гэтак мы самі забясьпечваем сабе назаўтра новыя цуды і новыя фатальныя трагедыі. Бо, не атрымаўшы адэкватнага тлумачэньня, яны маюць уласьцівасьць паўтарацца.*

**Ірэна**: Адно з самых небясьпечных месцаў, дзе трэба добра падумаць, ці бываць там уначы або калі зьбіраецца шмат людзей. Лінія, якая ідзе празь Нямігу і далей на праспэкт Дзяржынскага – гэта «плютанічная» лінія, якая наносіць удары. Там пастаянна будуць экстрэмальныя сытуацыі, бо там, як сказаў бы Павел Глоба, энэргетычная дзіра. Гэта зьвязана і з тым, што недалёка былі разбураныя татарскія могілкі, і душы несупакоеных людзей хочуць даваць нам нейкія знакі. А мы чамусьці на іх не зважаем.

Нездарма калісьці майстроўцы баранілі гэтае месца й патрабавалі мэтро «Няміга» аднесьці ўбок. Каб абараніць гэтыя могілкі. Мяне міліцыянт, зь вёскі хлопец, біў палкай і гаварыў на трасянцы: «Гавары, сука, па-рускі». А я казала: «Ненавіджу гада». Дагэтуль кажу сыну: ты ведаеш, гэтая міліцыянцкая палка такая балючая, і такія пасьля сьляды на целе застаюцца. Таму атрымала я за спадчыну і палкай. Ну што ж, ну і ладна.

*Мова ў нас – як апазнавальны знак тых, хто хоча ўсё сабе расплумачыць і дзейнічаць у згодзе з гэтымі тлумачэньнямі. Для тых, у каго «сытуацыя пад кантролем», гэты знак – нібы чырвоная ануча для быка, які жорстка глушыць у сабе голас чалавека. Зь іншага боку, мова – гэта знак для тых, хто мысьліць і прагне гэткімі ж думкамі й гэткім жа прагненьнем, што й ты. Ірэна Папурэнка зразумела гэта, калі паступіла на філялёгію БДУ.*

## ВАШЧЫЛКА КРЫЧАЎСКІ

**Ірэна**: У нас была вечарына першакурсьнікаў, дзе расейскае аддзяленьне склала ўсю праграму на беларускай мове, а беларускае аддзяленьне па-расейску. І ў залі выпадкова былі Сяржук Сокалаў-Воюш і Сяргей Запрудзкі. Яны так зьдзівіліся – што гэта за аддзяленьне расейскай філялёгіі прыйшло, якое размаўляе па-беларуску, праграму зрабіла па-беларуску і вельмі ганарыцца гэтым?

І паколькі я была ініцыятарам гэтай праграмы, да мяне падышлі, а яшчэ й Вінцук падышоў Вячорка, і кажуць: а ты адкуль? Я кажу: я вось паступіла, сама я нарадзілася ў Крычаве Магілёўскай вобласьці і ганаруся сваім местам, бо там пачыналася паўстаньне Васіля Вашчылы, і мяне бацькі за мой жыцьцярадасны характар звалі Крычаўскім Вашчылкам... І так мы пасябравалі. Яны ўтрох мяне запрасілі, і так я прыйшла ў Майстроўню.

У нас быў унікальны курс. З гэтага курсу выйшаў драматург і паэт Ігар Сідарук. Гэта мой аднакурсьнік, аднагрупнік, мы дагэтуль зь ім сябруем. Потым Інэса Кур'ян, якая стала перакладніцай з польскай мовы. Наталя Кучмель. Быў у нас яшчэ Сяргей Руткевіч, цяпер выкладае ў Віцебскім унівэрсытэце.

*Учорашнія школьнікі паступаюць на расейскую філялёгію, але першую ж самапрэзэнтацыю робяць па-беларуску. Пры тым, што студэнты беларускай філялёгіі прэзэнтуюцца «як звычайна» – па-расейску. Чаму?*

**Ірэна**: У школе беларуская мова выкладалася, як і цяпер, так сабе. І мы з расейскіх школаў не маглі дазволіць сабе канкурэнцыю зь дзецьмі, якія прыходзілі на беларускую мову зь вёсак.

Мы былі такія вельмі звычайныя, здаецца. А з другога боку, мы ўжо асэнсавана размаўлялі па-беларуску. Сваю першую курсавую, а называлася яна «Народны тэатар „Батлейка“», я абараняла па-беларуску. Камісія была вельмі зьдзіўленая і казала: чаму гэта вы на расейскай філялёгіі абараняеце курсавую працу на беларускай мове па беларускай батлейцы? І я адказала: шаноўная грамада, мне дзіўна, што ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце ў мяне, беларускі, пытаюцца, чаму я абараняю курсавую на роднай мове.

Я атрымала «выдатна», бо ў камісіі былі людзі, якія мяне падтрымлівалі. Гэта быў Васіль Іванавіч Ліцьвінка. Мы зь ім паехалі на Палесьсе і запісвалі фальклёр. А потым я праводзіла першае ў сваім жыцьці Купальле. Сама. Вучыла палешукоў ладзіць Купальле.

*Нездарма бацькі называлі Ірэну крычаўскім Вашчылкам. Дух зьбіральніка іншых на нейкую справу ў ёй выяўляўся на працягу ўсяго наступнага жыцьця. Асабліва калі даводзілася працаваць зь дзецьмі.*

**Ірэна**: Была я спачатку ў вёсцы Забалацьце Талачынскага раёну. Выкладала там, адзіны філёляг на ўсю школу, расейскую мову і літаратуру. А ўсе астатнія выхаваўчыя гадзіны, палітынфармацыі вяла па-беларуску. Да мяне на ўрокі хадзілі настаўнікі, каб паслухаць, ці праўда, што я ведаю яшчэ й расейскую мову. І прыходзілі да высновы, што «наша русіца, не паверыце, дзевачкі, гаварыт па-рускі точна как па-беларускі». Яны моцна дзівіліся: як гэта ў беларускай школе настаўнік расейскай мовы ў жыцьці размаўляе па-беларуску.

Там у мяне быў сьпеўна-драматычны гурток. Мы вельмі сябравалі з вучнямі. І была зіма, як сёлета,



Ірэна на Купальлі ў ролі «чорнае сілы»

маразы, завеі. І вельмі прыгожае было марознае неба, і мы зь дзецьмі валіліся ў сумёты, глядзелі на зоркі і сьпявалі песьні...

А потым у мяне была свая студыя ў горадзе Глыбокім, дзіцячая таксама. Там я паставіла п’есу нашага Сяргея Кавалёва «Драўляны рыцар». Я, нікому не вядомая рэжысэрка Ірэна Папурэнка, была першым пастаноўшчыкам.

Калі я вярнулася ў Менск і наступіла перастройка, я сышла брокерам на біржу і пачынала нейкі свой прадпрымальніцкі шлях. З усімі атрыбутамі тых гадоў. І з рэкетам, і з разборкамі. І гэта было таксама вельмі цікава. А потым я стала астролягам.

## ХАРЦІНА ЎРАНАВА

*Пасьля Майстроўні, калі ўтварылася таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», Ірэна пісала апавяданьні.*

**Ірэна**: У зборніку «Тутэйшых» я Ірэнка Папурэнка, і пісала я ў вельмі цікавым для сябе стылі музычнай прозы. Былі ў мяне джаз-апавяданьне «Кактус», саната восені, амаль летні прэлюд з солам для бас-гітары... А потым, калі лёс мяне закінуў у Маскву, я там закончыла Акадэмію астралёгіі, і цяпер я астроляг Харціна Ўранава. Якая выступае на радыё. Адзіны астроляг, які можа размаўляць пабеларуску на зоркавыя тэмы. Маю задуму ўкласьці турысцкі маршрут «Містычны Менск» – дзе ў нас якія прывіды жывуць, дзе ў нас месца сілы ёсьць, дзе наадварот.

*Дыплямаваны астроляг Харціна Ўранава мае сваё вытлумачэньне майстроўскага цуду. Апроч гэтага, Харціна раскрывае нам іншыя таямніцы пасіянарнасьці – напрыклад, чым была менская Плошча 2006 году, той намётавы гарадок, што на некалькі дзён, нібы маляўнічая кветка, зьявіўся на голым камені пасярод зімы...*

**Ірэна**: Сярод зімы – гэта вельмі магутны знак, знак Казярога. Пад Казярогам знаходзіцца наша дзяржава. Майстроўня таксама знаходзіцца пад знакам Казярога. А гэта знак амбіцыйны і доўгажыхарскі. І таму мы цяпер усе пачынаем адшуквацца.

Сымбаль Казярога – скала. Мы ўсе стаім на нейкай скале, на ўзвышшы, іназіраем за сьветам.

Я як астроляг казала ў прэсе, што адраджэньне будзе адбывацца, пасьля 2012 году зь Беларусі. Тое, што будзе адбывацца – вельмі цікава, бо знак Казярога пазьней за іншыя знакі пачынае разьвіцьцё. Невыпадковыя анэкдоты пра эстонцаў (яны з-пад Казярога), пра іхны тэмпэрамэнт. Яны такія, таксама як і мы, нясьпешныя людзі. З аднаго боку нясьпешныя, а зь іншага – самі сабе розум маем.

Вінцук паводле гараскопу Рак. А «казярожая» дзяржава заўсёды будзе яму чыніць перашкоды.

*Але ж ён быў лідэрам у «казярожай» Майстроўні...*

**Ірэна**: Ну, тады ён быў малады «рачок». А цяпер ён ужо сталы дзядзька. Я яго вельмі паважаю і ганаруся, што ён такі бацька сваіх дзяцей, дзед сваіх унукаў. Вінцук для беларускага адраджэньня зрабіў вельмі шмат. Ён такі быў ідэоляг Майстроўні. Безь яго б усё гэта было прэсна і бяз толку. Рак – гэта звычай, гэта спадчына, гэта народ, гэта памяць аб продках.

*Дарэчы, і самое захапленьне астралёгіяй у Ірэны Папурэнкі – з майстроўскіх часоў.*

**Ірэна**: Я заўсёды гэтым цікавілася. І калі і кібэрнэтыка, і астралёгія былі забароненыя, дык... забаронены плод заўсёды прывабны.

Астралёгія разьвівалася толькі там, дзе была разьвітая навука. І ў Полацку быў такі Васіль Нямчын, які яшчэ раней за Настрадамуса пакінуў свае так званыя «главы». Праўда, чамусьці гэтыя «главы» апынуліся ў архіве Паўла Глобы. І ў мяне заўсёды, як у беларускі, пытаньне: хто дазволіў яму з полацкага

архіву забраць гэтыя «главы» і чаму яны дагэтуль не апублікаваныя шаноўным Паўлам Глобам?..

Францішак Скарына ў «Падарожнай кніжцы» піша, што земскі лекар спачатку на зоркі глядзеў, а потым ужо прызначаў пацыенту лекі. Той жа Сімяон Полацкі, штатны зьвяздар Пятра Першага... Вельмі цікава ўсё гэта, і мне хацелася б гэтую тэму асьвятліць у сваіх ужо краязнаўчых накідах. Цікаўнасьць, якая ў мяне дагэтуль, – гэта ўсё з нашай Майстроўні.

Мне вельмі хацелася жыць весела, і гэта сапраўды ўдавалася ў Майстроўні. Памятаю Купальле ў Мікалаеўшчыне, калі нас акружылі міліцыянты, бо думалі, што мы алькаголь п'ем, каб нас забраць пад гэтую марку. І хтосьці ўцёк, хтосьці пазіраў, як вытрасаюць нашыя валізкі на прадмет гарэлкі. І міліцыянты былі вельмі расчараваныя, што ўсе цьвярозыя, але чамусьці дурнаватыя, бо сьпявалі песьні да раніцы.

Нас было шмат, і мы ўсе дагэтуль такія шматлікія. І нас ужо ў нашых дзецях стала болей, а ў нашых унуках нас яшчэ болей стане.

# Лявон Вольскі



*Калі палітыка – гэта мастацтва магчымага, дык абуджанае грамадзтва – гэта якраз мастацтва немагчымага, неверагодных гістарычных зрухаў і цудоўных пераўтварэньняў. Палітыкі спрабуюць выкарыстаць абуджанае грамадзтва ў сваіх мэтах, але з гэтага нічога не атрымліваецца, бо не супадаюць жанры і сродкі, бо цуд не дае сябе асядлаць. Ён – прамень чыстае энэргіі, што ахоплівае мноства народу. Гэта можна параўнаць з агульным уздымам публікі на рок-канцэрце.*

**«МРОЯ»**

*Зразумела, чаму абуджэньне грамадзтва ў Беларусі ў часы пераменаў ішло пад музыку рок-гуртоў, што зьявіліся тады па ўсёй краіне. Самым заўваж-*

*ным сярод гуртоў, якія запальвалі публіку на майстроўскіх масавых сьвятах, была «Мроя».*

**Вольскі**: З намі вучыўся ў мастацкай вучэльні Сяргей Харэўскі, і ён абяцаў нас пазнаёміць зь нейкімі такімі нацыяналістамі страшнымі, кашмарнымі. Але паколькі мы былі маладымі, нават юнымі людзьмі, мы гэтага не баяліся, гэтых нацыяналістаў.

Майстроўня ў асобах Сержука Сокалава-Воюша, Сяргея Дубаўца, Алеся Сушы і Віктара Івашкевіча да нас сама прыйшла на рэпэтыцыю.

Мы разгубіліся, пачалі адразу граць нейкія стандарты, «Машину времени», нешта яшчэ. А яны кажуць: не, давайце сваё што-небудзь... – сказала «камісія». Мы зайгралі, і Дубавец сказаў: Хлопцы, я вас віншую, гэта сьвядомы рок. Сказаў сваім, ня нам. Мы там былі як малпачкі ў заапарку. А я падумаў: «сьвядомы» – гэта нейкі інтэлектуальны? Маўляў, мы тэксты добрыя пішам. Я тады яшчэ не разумеў, што сьвядомы – гэта беларуская сьвядомасьць нацыянальная.

*Зьяўленьне беларускамоўных рок-гуртоў зь іхнымі мабілізацыйнымі магчымасьцямі было натуральным і неабходным. Музыка, якую слухала моладзь, павінна была загучаць па-беларуску. Але ж «Мрою», як і Майстроўню, ніхто быццам бы для грамадзкіх мэтаў і не задумляў, не арганізоўваў. Усё быццам бы адбылося само.*

**Вольскі**: Мы пачалі паціху самі спачатку, відаць, у нейкіх піярных мэтах, выкарыстоўваць беларускую мову ў песьнях. Бо трэба было адрозьнівацца ад астатніх. Хаця астатніх было паўтары каманды. Але па-беларуску ніхто, апроч «Песьняроў»... Але гэта ўжо іншае было пакаленьне.

І нам падалося, што (вялікую ролю тут Уладзя Давыдоўскі адыграў) трэба перайсьці на беларускую мову. А пераход у творчасьці цягне за сабой незваротныя наступствы, таму мы неўзабаве паміж сабой пачалі размаўляць па-беларуску, апроч Юрася Ляўкова, які прыкрываўся напалову тамбоўскім паходжаньнем. Але ён, пакуль мы служылі ў войску і калі прыйшлі, ужо гаварыў па-беларуску.

Мне было наагул лёгка, бо ў мяне бацька беларускі літаратар. Часта размаўлялі і так па-беларуску. Давыдоўскаму таксама было лёгка, бо ў яго ўсе сваякі зь вёсак. Ды і Алезіс без праблемаў. Раз – і ўсё стала на месцы. Толькі Юрась хадзіў і прабачаўся я пакуль што, я яшчэ потым... Потым ён нагнаў.

*Сярод майстроўскіх «агітацыйных матэрыялаў» музычных запісаў тады было няшмат. Забэйда-Суміцкі, Данчык, Сокалаў-Воюш... Гэта ўсё перапісвалася ды пашыралася. Яшчэ – песьні са спэктаклю «Клемэнс» на словы Алеся Разанава – там, дзе «і гэты час, і гэты лад не назаўсёды, я клічу гром, я клічу град, жыві, нязгода». І тут раптам зьяўляецца рок-гурт, які сам пяе па-беларуску! Уяўляеце, як ухапіліся за яго майстроўцы. Адразу кінуліся запісваць – на самы бытавы магнітафон.*

**Вольскі**: Знайшлі найлепшую кропку, дзе, толькі лежачы на сьпіне й трымаючы мікрафон, найлепей атрымлівалася. Дык Івашкевіч ляжаў на сьпіне, трымаў мікрафон, пакуль мы пісалі. Мы зьбіваліся, гралі па тры дублі. Праграма была дзесяць песень. І вось ён ляжаў гераічна на падлозе ў гэтым інтэрнаце і трымаў мікрафон. Потым быў перакур, ён ішоў курыць з намі, потым вярталіся да гэтай пазыцыі ды зноў пісалі.

«Камісія» часта да нас прыходзіла, правіла

тэксты, навучыла мяне тарашкевіцы. Маладыя мазгі хутка схопліваюць. І з войска я ўжо лісты пісаў тарашкевіцай.

*Такім чынам запісы «Мроі» пайшлі па руках. Але гэтага было мала. Гурт прагнуў выступаць на публіцы. А якраз гэтым і займалася Майстроўня – ладзіла масавыя сьвяты ды выступы ў навучальных установах.*

## КАНЦЭРТ НА МІРАШНІЧЭНКІ

**Вольскі**: Майстроўня нам рабіла канцэрты. З апаратурай тады была катастрофа. Хто што мог прыносіў з хаты, ледзь ня нейкія бытавыя калёнкі. І быў эпахальны канцэрт у школе на вуліцы Мірашнічэнкі ў Зялёным Лузе, дзе паміж песьнямі Сокалаў чытаў вершы. Гэта ўсё запісанае. На шпулях. Іх нельга проста так даваць, бо страшная аматаршчына. Але адчуваецца імпэт.

Ініцыятарам была Майстроўня, шмат было людзей. Гэніка памятаю, нефармалы былі нейкія валасатыя. Нас зьдзівіла: нейкія хіпаны ходзяць у беларускамоўную арганізацыю. Яны баяліся міліцыі ды ўсякіх гопнікаў, у іх былі валасы аж да каленяў, яны іх запраўлялі за каўнер і прыходзілі на Майстроўню, па-беларуску размаўлялі. Яны таксама мелі дачыненьне да арганізацыі, дапамагалі з апаратам.

На канцэрце стаяла вучылка, стаяў завуч, і таму трошачкі запрыгоненыя былі вучні ў актавай залі. Не разумею, як дазволілі ў школе. Цяпер бы не дазволілі.

*Выступ «нефармалаў» сёньня мае адпаведны артыкул у крымінальным кодэксе як «дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі». А тады*

*«нефармалы» толькі-толькі зьявіліся на сьвет, і камсамол усімі сіламі імкнуўся ўзначаліць «нефармальны» рух. Пройдзе некалькі гадоў, і схамянуцца прапагандысты, і пачнуць страляць па «нефармалах» залпамі. Але тады, у самым пачатку 1980-х, як выглядае, у некаторых аспэктах сытуацыя была больш лібэральная за сёньняшнюю.*

## НОВАЯ КАСТА БЕЛАРУСАЎ

**Вольскі**: Да нас пастаянна прыходзілі на рэпэтыцыі гэтыя як мінімум чатыры чалавекі. Потым мы на паседжаньні Майстроўні хадзілі. І мяне зьдзівіла, што там няма атмасфэры камсамольскага сходу, да чаго мы прызвычаіліся. Нязмушаная гутарка, натуральнае грамадзкае жыцьцё. Такое, як недзе ў важдзяленным капіталізьме. У нас нават у фільмах такога не паказвалі.

І менавіта ад гэтых паходаў у Майстроўню і ад таго, што да нас прыходзілі дубаўцы, сушы, івашкевічы... Яны нам казалі: чаго вы толькі між сабой па-беларуску гаворыце, а з чужымі пераключаецеся на расейскую? Нам сказалі – ну, сказана-зьдзелана. І мы пачалі па-беларуску размаўляць у інтэрнаце. І ніякіх нэгатыўных наступстваў не было.

Тое, што да нас прыходзілі гэтыя людзі ды іншыя, – гэта была магутная сіла, гэта адчувалася адразу. Нам давалі літаратуру забароненую, Абдзіраловіча і гэтак далей... У мяне дома схованка была, я там захоўваў гэта ўсё. Потым я перадаваў па ланцугу Юрасю, ён таксама... Усе мы былі далучаныя да гэтай вялікай новай касты беларусаў.

Дакладна мы каранямі з Майстроўні. Правым каранём такім, вялікім. Прынамсі мяне навучылі



Першы выступ «Мроі» пад адкрытым небам. Траецкае прадмесьце, 1983 год. На сцэне Юрась Ляўкоў, Уладзя Давыдоўскі, Алег Дземідовіч, Лявон Вольскі. На пярэднім пляне Вінцук Вячорка

пісаць на нармальнай мове, не такой афіцыйна-паэтычнай. На якую пасьля ўсе перайшлі паэты, нармальныя, прынамсі, паэты.

Ясна, што мы міжсобку гаварылі, што гэты савок павінен быць урэшце зрынуты і што гэта ўсё ў кайданах трымае нашу краіну няшчасную, гаротную нашу Беларусь. Ясна, што мы былі й чэгеварамі й палявымі камандзірамі недзе ў думках. І рэвалюцыянэрамі. І музыкамі таксама.

Гэта быў апошні год мастацкай вучэльні, моцна тхнула войскам, якое насоўвалася.

## КАНЦЭРТ У ТРАЕЦКІМ

І яшчэ Майстроўня зрабіла перад войскам эпахальную для нашага гораду і для нас акцыю – гэта выступ на сьвяце мастацтва ў Траецкім прадмесьці. На Вялікдзень. 1984 год. Памятаю, бо нас забрылі акурат праз два месяцы пасьля гэтага.

Мікола Купава з падачы Майстроўні дапамог нам з апаратам. Мы прыехалі да нейкіх халтуршчыкаў з мастацкага камбінату. У іх была апаратура, і яны нам згадзіліся яе бясплатна даць дзеля гэтых вялікіх мэтаў. Яны спрабавалі таксама па-беларуску размаўляць. Вінцук яшчэ з намі прыехаў. Дзіўна, як мы вазілі гэтыя калёнкі ў грамадзкім транспарце, проста ў звычайным аўтобусе. А тады тэхналёгіі былі яшчэ пячорнага веку. І ўсё гэта было такое агромністае, велізарнае...

І мы стаялі на гаўбцы ў Траецкім і «бамбілі» сваю ўжо больш нармальную, накатаную праграму. І зьбеглася ўся нефармальная грамада траецкая глядзець на гэтых монстраў, якія валасатыя, фарбаваныя нешта граюць па-беларуску.

І гаварылі, што нейкая каманда беларускамоўная выступала і гралі ня проста так, а нават элемэнты былі цяжкога року, страшна сказаць. І нас запаважалі тады. Мы ўжо такія сталі мінізоркі.

Падгруз на імідж быў таму, што не было чаго купляць у крамах, нават калі былі грошы. Нармальнай вопраткі не прадавалася. Або там левайс за трыста рублёў. Я ня мог сабе дазволіць, напрыклад. І ніхто з нас. Таму даводзілася вычварацца, насіць нейкія гальштукі і ўсё такое. І ўсё гэта ў спалучэньні з хаярамі такімі вельмі доўгімі. Фарбаваліся тады ўжо нават...

## ВОЙСКА

Мяне з войска адпускалі раз на два месяцы пасьля значных падзеяў, якія я рабіў для вайсковай часткі (аплякачваньне ўверанай тэрыторыі, напрыклад); гэта блізка было, Слуцак...

Я раз на два месяцы зьяўляўся ў горадзе, і ў Сушы ў мяне была перавалачная база. Я прыяжджаў да яго, пераапранаўся ў цывільнае, у Сушы вісеў гарнітурчык нармальны, а тады ўжо выходзіў у сьвет. Яны яшчэ кучна жылі ў тым раёне Сурганава – Івашкевіч, Суша, Вячорка.

Цікавыя часы былі. Прычым цяпер падумаць: на што людзі разьлічвалі, якая будучыня сьвяціла ўсяму гэтаму без развалу саўка? Я не разумею.

Што я хацеў? Нічога. Падабалася, і рабілі.

# Ніна Здановіч



*Адзіным прафэсійным гісторыкам у Майстроўні была Ніна Здановіч. Рэч ня ў тым, што гісторыкі займалі стасоўна Майстроўні адмысловую пазыцыю. Яны ўвесь час былі разам з майстроўцамі й на той самай ноце. Але да нефармальнага руху далучыліся ўжо на сыходзе Майстроўні. Улетку 1983 году Генадзь Сагановіч створыць у Менскім пэдінстытуце суполку «Нашчадкі». Але гэта будзе ўлетку. А яшчэ ўвесну ў менскім парку Купалы на самым масавым майстроўскім Гуканьні Вясны гісторыкам была толькі Ніна Здановіч. Прычым прыйшла яна сюды праз археалёгію, быццам знайшла тую Майстроўню дзесьці ў культурных напластаваньнях мінулых вякоў...*

## ГУДОШНІЦА

**Ніна**: У Майстроўню я прыйшла з археалягічных экспэдыцыяў, праз рэстаўрацыйныя майстэрні. Там Вэрця Лазоўская была...

Я тады вучылася на гістарычным факультэце БДУ. І спэцыялізавалася на археалёгіі. Таму – раскопкі, экспэдыцыі, розныя людзі... А калі я паступіла ў асьпірантуру, мы ўжо стала з майстроўцамі трымалі сувязь, я рэгулярна хадзіла на рэпэтыцыі. Неяк лягло на душу ўсё гэта.

Датуль я што-нішто чула з гэтага, у мяне сёстры нашмат старэйшыя, і калі наша вялікая сям'я зьбіралася, то заўсёды сьпявалі. А пасьля любоў да гэтага ўсяго, да фальклёру прыйшла праз Майстроўню. Памятаю, як Віялета Ефіменка нас «муштравала», дабівалася якасьці.

Гэта было нязмушана. З вакальнымі дадзенымі ў мяне сярэдне, я такая гудошніца, што называецца. Паўтону туды, паўтону сюды... Як кажа мой муж, цябе нельга ў акадэмічны хор браць.

Я з Слоніма, з заходняй Беларусі. Бацькі пераехалі зь вёскі за два гады да майго нараджэньня. А сям'я вялікая ў мяне. Сем сястрычак і два браты. Таму вёска як бы прыехала разам з намі ў горад.

## КАБ ДЗЕЦІ НЕ БЫЛІ КАЛГАСЬНІКАМІ

У вёсцы бацька ўзяў мацеру за жонку, і пры ёй пасаг быў – пяць гектараў зямлі. А ў 1957 годзе ўтварылі калгас і адрэзалі гэтую зямлю па самы надворак. Засталося, маці казала, ці то дзьве з паловай, ці то чатыры соткі з тых пяці гектараў. А ў бацькі на руках дзевяць дзяцей. Ён сабраўся й паехаў зь вёскі ў горад, бо не хацеў у калгас ісьці.

І прыехаў хаця б на трыццаць шэсьць сотак на ўскрайку гораду ў хату, якой ужо сто гадоў было, у маленькую халупку. З новай хаты, пяцісьценкі, у якой толькі сем гадоў пражылі ў вёсцы. Усё дзеля таго, каб пракарміць дзяцей. Каб дзеці не былі калгасьнікамі, як ён казаў.

*У сям'і Ніны сьпявалі. У сем'ях тыповых мігрантаў у першым пакаленьні сьпявалі таксама – занадта моцна яшчэ звычка сядзела ў генах. Але разам зь пераходам на «гарадзкую» мову людзі пераходзілі й на «гарадзкія» песьні. З усіх сілаў імкнуліся пазбавіцца цьвёрдага «ч», з такой самай упартасьцю пазьбягаючы ў застольлях таго, што сьпявалі ранейшыя пакаленьні. Памятаю зь дзяцінства, што ў менскіх кватэрах учорашніх вяскоўцаў знаходзіўся які-небудзь зашмальцаваны расейскі «Песенник» і як за сталом уся грамада старанна зацягвала пра «белой армии оплот» і «оренбургский платок»... Але ў слонімскіх Здановічаў сьпявалі ранейшыя песьні, што міжволі сьведчыла пра здаровы адпор русіфікацыі, а значыць, і пра пэўную неляяльнасьць да ўлады ў гэтай вялікай сям'і.*

## КАРАТКЕВІЧ

**Ніна**: На мой пагляд, беларускае адраджэньне 1980-х гадоў падрыхтаваў сваімі творамі Караткевіч. Апантаная беларушчынай моладзь была захопленая Караткевічам, гісторыяй, ганарылася сваёй спадчынай. І другое – Майстроўня. Майстроўня дала падпітку душы. Адна рэч мець гонар, а іншая рэч, калі гэтым гонарам можна падзяліцца, калі ён выліваецца празь песьні, праз мэлёдыку.

Кожны майстровец, я мяркую па сабе, у душы гэта нясе праз усё жыцьцё. Празь мяне, напрыклад,

майстроўскія песьні пайшлі ў кожную археалягічную экспэдыцыю, у якой я ўдзельнічала. Вогнішчы па вечарох – гэта неад'емная частка экспэдыцыяў, а там – размовы па душах і песьні пад зоркамі. Мы сьпявалі не «Паруса Крузенштерна», а свае песьні.

Пасьля я гэтым майстроўскім песьням навучыла сваіх сёстраў. А сёстры навучылі сваіх дзяцей. Такі розгалас пайшоў далей.

## ПАШЫРЭНЬНЕ

У маёй дачкі дзесьці ва ўзросьце шасьці-сямі гадоў зьявіліся любімыя песьні менавіта з майстроўскага рэпэртуару. А паколькі яна другой палоўкай палачанка, а я ёй некалі прасьпявала песьню пра царкоўку, пра макоўку, пра гнязьдзечка і пра Полацак, дык памятаю, што гэта была першая песьня, якую яна папрасіла: мама, а прасьпявай яшчэ.

Нам было вельмі цікава. Можа таму, што ў 18, 20, 22 гады гэта ня можа не заварожваць, ня ўцягваць у гэты карагод. Настолькі жыва ўсё гэта памятаецца, і арэлі ў парку, і вербачкі, якімі стараліся дакрануцца адзін да аднаго, і песьні тым больш...

І памятаю твары людзей. Людзі ішлі ў сваіх справах праз парк ці недзе побач... Яны літаральна зьбягаліся ў парк і глядзелі, выцягнуўшы шыі. Такое не забываецца.

## «ТЫ ДУБРОВА, ТЫ ЗЯЛЁНА»

У экспэдыцыях па выходных, калі выяжджалі далёка ад Менску, мы не сядзелі на месцы. Абыходзілі ўсё наваколле. Пешкі. І калі нехта пытаўся, ці далёка да ветрака ці закінутай сядзібы, дык той, хто хадзіў, адказваў: ды недалёка, пяць «Дуброваў». Мы



Гуканьне Вясны ў Купалаўскім парку. 17 красавіка 1983 году. Андрэй Лапцёнак, Яўген Валасевіч, Наталя Лазоўская, Марына Лычкоўская, Ніна Здановіч з птушкаю

мералі дарогу песьнямі. І песьня «Ты дуброва, ты зялёна» была нашай маршавай песьняй. Яна вельмі файна кладзецца на рытм хады. Ніводнага чалавека не сустрэла, каму б яна не спадабалася. Пасьля другога-трэцяга куплету пачыналі далучацца. І яна станавілася нашым гімнам.

*Песьню «Ты дуброва, ты зялёна» я запісаў ад свае бабулі ў Мазырскім раёне ў 1978 годзе. Пазьней варыянт гэтай песьні я знайшоў у пятым томе «Люду беларускага» ў разьдзеле «Нешчасьлівае замуства». Міхал Федароўскі запісаў песьню ў вёсцы Шча́снавічы цяперашняга Ляхавіцкага раёну.*

*Незразумелы тэкст будзе бянтэжыць цябе, твой розум, ты будзеш думаць пра гэта цяпер ужо ўсё*

*жыцьцё. Што гэта ўсё значыць? Чаму менавіта купцы едуць па дуброве? І чаму гэтыя купцы на дуброве дубцы рэжуць? І чаму яны на карэньні агонь кладуць? Можа быць, яны робяць ляда – выпальваюць лес пад пасевы? Але чаму купцы? Можа быць, яны гандлююць зямлёю? А можа... У савецкім войску купцамі называлі афіцэраў, якія з ваенкамату разьбіралі навабранцаў у розныя часткі. Дык можа быць і ў даўнейшыя часы купцамі называлі тых, што праводзілі рэкруцкія наборы?*

*Але далей у нашай песьні ўдакладняецца, што гаворка ідзе пра вяртаньне з вайны. Усе мужы з вайны едуць, майго мужа каня ведуць. Вы салдаты, вы жынеры, дзе вы майго мужа дзелі?.. Ізноў загадка. Пры чым тут жынеры-інжынэры. І чаго гэта яны едуць з вайны разам з салдатамі? А можа быць, гэта апазыцыя заходніх рэаліяў і ўсходніх – салдаты і жаўнеры? І вайна адбывалася ня недзе далёка, а тут, літаральна за даляглядам. Тады салдат – гэта расейскі, царскі салдат. А жаўнер? Калі гаворка больш-менш пра 19 стагодзьдзе, дык гэта ці паўстанец Касьцюшкі, ці паўстанец 1831 году, ці паўстанец 1863 году, каліновец. Калі ж песьня з ранейшых стагодзьдзяў, дык жаўнер адназначна прадстаўляў рэгулярнае войска Вялікага Княства Літоўскага. Магчыма таксама, што ў старую песьню патрапілі рэаліі мінулага, дваццатага стагодзьдзя. А тады калі гэта магло быць? У 1920-м, калі мазырскае Палесьсе было ахопленае супрацьстаяньнем бальшавікоў і войскаў генэрала Булак-Балаховіча. У войску Балаховіча салдатаў называлі жаўнерамі...*

*Праўда, кабеце, якая сьпявае гэтую песьню, усё адно, хто там – салдаты ці жаўнеры, яна пыта-*

*ецца: дзе вы майго мужа дзелі? Дзе вы яго каня ўзелі? Далей чыстая паэзія:*

*Ўзелі каня на дуброві,*
*Ляжыць мілы ў чыстым полі,*
*Ў правай руцэ руж'е дзержыць,*
*А леваю росу берэ,*
*Па сэрданьку палівае,*
*Таварышам прамаўляе:*
*Таварышы, братцы мае,*
*Як пайдзеце ў краі мае,*
*Накажэце жане маёй,*
*Няхай яна мяне не жджэ,*
*Няхай яна замуж ідзе.*

*Раптам актуалізуецца розьніца паміж салдатам і жаўнерам і гучаць фінальныя словы, якія робяць песьню сапраўднай залацінкай:*

*Няхай не йдзе за салдата,*
*Няхай ідзе за жаўнера.*
*За салдатам гора ймецца,*
*Не раз не два наплачэцца.*
*За жаўнерам добра будзе,*
*Яна мяне не забудзе.*

*Што праўда, гэта залацінка ўжо сэнсава адаптаваная. У варыянце, які запісаў Федароўскі, няма апазыцыі салдат—жаўнер, там проста «няхай ідзе за другога», але фінальныя радкі нясуць больш складаны сэнс:*

*Ой, калі ёй да пагорш будзя,*
*Яна мяне спамінаць будзя,*
*Ой, калі ёй да палепш будзя,*
*Яна мяне праклінаць будзя.*

*Гэта значыць, будзе ёй горш, дык і жыцьцё са мной мёдам падасца, а будзе шчасьлівая, дык прыпомніць мне ўсе разам пражытыя дзянькі...*

## КОЛА ГІСТОРЫКАЎ

**Ніна**: Я як з Майстроўні прыйшла ў экспэдыцыі, дык майстроўскія песьні сталі нашымі песьнямі і для Алеся Краўцэвіча, і для Ірыны Ганецкай, Алы Сташкевіч, Генадзя Сагановіча. Нашае кола прыкладна аднаго ўзросту, два-тры гады паміж намі розьніцы. Яны ўжо не хадзілі ў Майстроўню, але майстроўская традыцыя бяз шыльды ўвайшла ў іхнае жыцьцё.

*Гісторык Генадзь Сагановіч на маю просьбу ўдакладніў храналёгію.*

**Сагановіч:** «Нашчадкі» стварыліся ў 1983-м, летам. Летам, калі я ствараў будаўнічы атрад, мы закантактавалі, запрасілі Віялету, і потым да нас прываліла ўся Майстроўня на вясельле. Вясельле было славутае! Здымкаў мора засталося. Мы зладзілі рытуальнае беларускае вясельле – быццам выдавалі дзяўчыну з «Нашчадкаў» за нашага ж хлапца. У строях, ясна. Конь, брычка, шалестуны... Вёска прыйшла, бабулі дапамагалі сьпяваць, наехала зь Менску, словам – фурор быў. І потым на разьвітаньне здымаліся – Майстроўня з «Нашчадкамі».

**Ніна**: Пасьля першага курсу ўнівэрсытэту я трапіла ў першую экспэдыцыю ў архітэктурна-археалягічны будаўнічы атрад, які капаў Лідзкі замак. І ўзначальваў экспэдыцыю Алег Трусаў. У яго, мабыць, вока намётанае, каго выбраць, каго заразіць гэтай хваробай, якая называецца археалёгія. І ён чамусьці выбраў мяне. І спытаў, ці хачу я ўзяць курсавую па археалёгіі. А я ўжо закахалася ў гэтыя чарапкі.

# Алесь Суша



*Можа быць, самым калярытным і ад таго запамінальным пэрсанажам у Беларускай Майстроўні трыццаць гадоў таму быў студэнт журналістыкі Алесь Суша.*

**Лявон Вольскі:** Суша ў Майстроўні быў вельмі яскравы й запамінальны пэрсанаж. Гэта быў такі выразны шляхцюк. Гэта была знакавая постаць.

*Цікава, што той, хто іншым запомніўся найлепей, у Майстроўні «сьвяціўся» найменш, хоць і стала прысутнічаў у жыцьці гэтага руху. Суша не сьпяваў, ня граў у спэктаклях і на публічных сьвятах далучаўся да масоўкі. Сталым наведнікам магло здавацца, што чалавек тут быццам бы ні пры чым, але разам з тым – значны, і што ягоная значнасьць раскрываецца дзесьці на іншым узроўні,*

*у «другім дне» Майстроўні, там, дзе гавораць пра палітыку. Вонкавая нетаропкая засяроджанасьць Сушы, яго прадуманыя словы й той самы шляхоцкі вобраз – усё гэта не пакідала сумневу, што перад табой – фігура ўплыву, адзін з «шэрых кардыналаў» маладзёвага руху.*

*Пазьней Суша стане адным з заснавальнікаў «Талакі» ды аўтарам гучных талакоўскіх акцыяў, ініцыятарам стварэньня БНФ, чалавекам, безь якога ўявіць сабе нацыянальны рух у часы пераменаў немагчыма. Але пачыналася з Майстроўні.*

**Суша**: Пра Майстроўню я даведаўся, калі вучыўся на другім курсе факультэту журналістыкі. Я ведаў, што студэнты нашага факультэту – Тацяна Сапач, Сяргей Дубавец, Ігар Гермянчук ходзяць туды. Цікаўнасьць прывяла мяне на філфак, дзе я ўбачыў сьпеўкі, Ларысу Сімаковіч, Вінцука Вячорку, якога я, дарэчы, і раней ведаў, таму што мы ў адным доме жылі.

*Усяго ў Майстроўні ўдзельнічала дзевяць студэнтаў факультэту журналістыкі – Гермянчук, Сапач, Ефіменка, Малашэня, Дубавец, Суша, Талочка, Вашко і Вашкевіч.*

**Суша**: Кропля ў моры. Але тады здавалася, што гэта ня кропля, а ўжо сапраўдная рэчка.

*Калі ўлічыць, што ніякага мора, ніякай іншай нефармальнай грамадзкай актыўнасьці тады не было, дык і кропля падасца рэчкай. Іншая рэч, што вялікая колькасьць нашых калегаў-студэнтаў чамусьці зусім не імкнуліся далучыцца да гэтай кроплі.*

**Суша**: Для нас гэта рабілася з кожным крокам сэнсам жыцьця, а дня іншых людзей сэнсам жыцьця, магчыма, была кар’ера, магчыма, заробкі,



Майстроўская талака ў Траецкім прадмесьці ў Менску 2 чэрвеня 1982 году. Алена Амельчыц, Вінцук Вячорка, аўтар, Гэнік Лойка, Алесь Суша

магчыма, удалы шлюб. І нельга людзям у гэтым адмаўляць.

Я ніколі ня быў абыякавы да беларускай мовы і пэрспэктываў Беларусі, як бы патасна гэта цяпер ні гучала. І адчуў, што людзі, якія хадзілі ў Майстроўню, – мае аднадумцы.

У маёй сям'і беларуская мова заўсёды шанавалася, я з маленства яе чуў ад бацькі. Іншая рэч, што я вучыўся ў расейскай школе. У школьныя гады адчувалася несправядлівасьць, якая чыніцца да беларускай мовы, але не было яшчэ гарту, каб супрацьстаяць. А ў майстроўскія часы гэта было шмат лягчэй, бо было ўжо кола людзей, асяродак.

Але беларуская мова, вывучаная са школы, як я потым зразумеў, зусім «асфальтавая». І я шмат чытаў, выпісваў словы, выслоўі. Трэба было, як казаў Віця Івашкевіч: каб барада адрасла, трошкі пахадзіць няголеным.

## СТВАРЭНЬНЕ ІДЭАЛЁГІІ

Мы дапамагалі выпрацоўваць адзін аднаму і ўсім асяродкам сыстэму каштоўнасьцяў. Кшталтаваньнем гэтае сыстэмы якраз і была Майстроўня – гэта самае дарагое, што ў Майстроўні было і што прайшло праз усё маё жыцьцё.

*Суша запомніў Майстроўню не маляўнічымі сьвятамі, а тым, што рабілася там, у «другім дне». А там, між іншым, фармавалася ідэалёгія беларускай дзяржавы – такой, якой яна мусіла стаць у будучыні. Можна было зусім асобна любіць родную мову або цікавіцца гісторыяй і зачытвацца кніжкамі Караткевіча, зьбіраць фальклёр і показкі пра асаблівасьці нацыянальнага мэнталітэту. Але трэба было гэта ўсё здабыць, злучыць у адно і зрабіць прыдатным для сучаснага жыцьця, каб паўстала і запрацавала ідэалёгія. І Алесь Суша ў фармаваньні гэтай ідэалёгіі браў непасрэдны ўдзел.*

**Суша**: Жонка можа быць адна, дзьве, тры. А вось радзіма можа быць толькі адна. І мова беларуская можа быць толькі адна. Ёсьць абсалютныя каштоўнасьці, якія кожнаму чалавеку даюцца адзін раз у жыцьці і назаўсёды. І Майстроўня гэтыя ідэалы мала таго што шанавала ў сваім асяродку, яна іх распаўсюджвала і дапамагала іншым людзям выбраць жыцьцёвы кірунак.

Гэта дакладна ня быў чыйсьці праект. І гараскопы тут ня трэба гартаць. Несправядлівасьць,

якая ў першую чаргу адчувалася да беларускай мовы, і загніваньне савецкага ладу рана ці позна павінна было асабліва ў маладзёвым асяродку набыць арганізацыйныя формы. І гэта адбылося якраз на філфаку, дзе беларуская мова – асноўны інструмэнт прафэсіі, і на журфаку, дзе гэта таксама адзін з асноўных інструмэнтаў. І ў Тэатральна-мастацкім... На творчых факультэтах чамусьці студэнты адчувалі гэтую сытуацыю вастрэй. Ці сьмялейшыя былі. Гэта сьпела ў паветры. Калі ня ў гэтым месцы, дык у іншым. Парастак павінен быў прабіцца.

## ПРАТЭСТ

Памятаю сьвята гораду. Майстроўня выступала ў парку Купалы, і хтосьці з гледачоў сказаў: усё гэта выдатна, але ва ўсім гэтым адчуваецца прыхаваны пратэст. Гэта была праўда. У гэтым быў падсьвядомы пратэст, а для некаторых і сьвядомы. Проста не напаказ.

І таксама праўда, што антыкамуністычных выказваньняў мы не дапускалі. Пазьней, калі Віктар Івашкевіч зьявіўся, тады ўжо ўсё было больш адкрыта.

Тады з наіўнасьці браліся за такія справы, якіх не маглі ацаніць як непасільныя. Але многія рэчы й не былі б зробленыя, калі б людзі ведалі, як цяжка гэта рабіць.

Майстроўня, як Янка Запруднік сказаў, зрэшты, ня толькі Майстроўня, але й іншыя палітызаваныя маладзёвыя згуртаваньні, featuresнакірункавыя, стракатыя, – увесь гэты асяродак шмат паўплываў на тое, што Беларусь у 1991 годзе такі набыла незалежнасьць.

Але думаю, што для бальшыні майстроўцаў гэта не было палітызаванае аб'яднаньне. Для меншыні гэта была свайго роду й палітыка.

*Увогуле ў нас усё палітыка. Пакуль тая палітыка не сфармавалася як самастойны жанр грамадзкага жыцьця, датуль і балет палітыка. І Каляды і Купальле могуць трактавацца (і трактаваліся) як антыдзяржаўная дзейнасьць, як пратэст, які трэба спыняць з дапамогай міліцыі. Інакш кажучы, культура, навука, мова ў нас больш палітыка, чым сама палітыка. Таму будуць мець рацыю і тыя, хто называе Майстроўню палітычным аб'яднаньнем, і тыя, хто непалітычным.*

*Алесь Суша ўваходзіў у тыя кулюары, дзе дыскуталіся і непасрэдна палітычныя пытаньні.*

**Суша**: Ну чаго тут сакрэтнічаць, уваходзіў. Абмяркоўвалі палітычную будучыню Беларусі, калі сытуацыя зьменіцца ці пойдзе ў выпадкова-спрыяльным кірунку.

Ня так шмат можна было вырашыць. Можна было вырашыць, дзе канцэрт адбудзецца, напрыклад, або якую насьценную газэту выпусьціць, альбо з кім пазнаёміцца, куды зьезьдзіць. Якое зь бібліятэкі, з аддзелу рэдкай кнігі, вынесьці выданьне, перафатаграфаваць і занесьці назад. А потым раздаваць гэта ўсё чытаць. Што можа мець уплывы на грамадзтва – вось што абмяркоўвалася ў першую чаргу. Гэтыя кансультацыі былі дыскусіямі, у часе якіх крышталізавалася пазыцыя. Пазыцыя, якой мы, сьвядомая моладзь, як мы сябе называлі, трымаемся і якую дэманструем.

*У Майстроўні Алесь займаўся ня толькі аналітыкай ды ідэалёгіяй, але й арганізацыйнай справай. У маім нататніку захаваўся запіс ад 16 красавіка*

*1982 году: «Суша праз сваю знаёмую са школы мэдынстытутаўскую актывістку Лявонаву арганізаваў выступ Майстроўні ў тамтэйшай студэнцкай кавярні „Гензіс“. Там пасьля навуковай канфэрэнцыі сабралі студэнтаў-гасьцей і крыху сваіх. Мы сьпявалі. Вінцук са слайдамі апавядаў пра Беларусь. Танчылі. Цудоўны вечар».*

## ЗАБЫТЫЯ СТРАХІ

**Суша**: Усе баяліся КГБ, сакрэтнічалі, хаваліся, не размаўлялі праз тэлефон, толькі пры сустрэчы. Выяжджалі за Менск, палілі вогнішча, шпурлялі камяні па хмызах, каб там ніхто не сядзеў. Цяпер гэта сьмешна. Я думаю, што ў той час савецкі рэжым быў ужо настолькі кволы, што мы маглі баяцца нашмат меней. Баяліся па інэрцыі. Але гэта я з вышыні ўзросту цяпер кажу. Ясная рэч, былі паседжаньні камітэтаў камсамолу, суворыя вымовы выносіліся за нацыяналістычныя артыкулы. Але што тыя суворыя вымовы, сьмешна проста.

*З вышыні часу натуральна прыглушаецца той страх, які перажывалі многія студэнты перад рэпрэсіўнай сыстэмай трыццаць гадоў таму. У майстроўцаў былі прычыны гэтаму страху не паддавацца. Па-першае, мы былі абсалютна перакананыя ў важнасьці свае місіі, якая ўяўлялася нам бясконца большаю за нас саміх. Па-другое, нас было дастаткова шмат, каб адчуваць сябе пэўнай аўтаноміяй пасярод гэтае сыстэмы. Па-трэцяе, прывабным момантам у дзейнасьці Майстроўні было тое, што ўсё йшло натуральным чынам. Майстроўня фармавала глыбінныя прынцыпы людзей, без чаго дзейнасьць у палітычнай плоскасьці гэтай плоскасьцю й абмежавалася б, засталася б*

*гульнёю вузкага кола студэнтаў у дысыдэнты, а ўрэшце зьнікла б бясьсьледна, як тое адбывалася ў кожнай школе, дзе хлопцы абавязкова гулялі ў шпіёнаў. Але тут была не гульня.*

*Страшыць маглі разьмеркаваньнем у глыбінку. Але што гэта значыла для нас, якія кожны вольны дзень самі даяжджалі да беларускіх глыбінак, нібы да чароўнага краю, дзе ўсё, чым мы жывем у сваім вузкім сталічным коле, было разьліта ў паветры, у людзях і краявідах.*

*Нават непасрэдныя сутыкненьні зь міліцыяй нас толькі спакушалі, як праверка слушнасьці ўсяго, чым мы займаемся.*

*А Суша займаўся шмат чым.*

**Вольскі**: Ён ёсьць асобай, у якой часта зьмяняюцца нейкія вэктары. Сыходзіць то ў бізнэс, то ў журналістыку, то ў самакапаньне. То прадусарствам пэўны час быў захоплены. Чым, дарэчы, паспрыяў выхаду дзьвюх выдатных плытак «Сьвяты вечар» і «Я нарадзіўся тут». Гэта вялікая справа.

**Суша**: Я ніколі ў Майстроўні ня быў сьпеваком. Гэта мой недахоп. Я мог толькі на задніх ролях ствараць фон... Чым мог у свой час дапамагчы беларускай музыцы, я дапамог.

Летась я быў на Купальлі ў Вязынцы. Купальле там ладзіцца дагэтуль штогод. Ладзяць яго ўжо іншыя людзі, студэнты Ўнівэрсытэту культуры, выкладчыкі. І я на гэтым Купальлі з прыемнасьцю сустрэў некаторых майстроўцаў. Праз трыццаць год, выходзіць. І думаю, што сёлета там зноў будзе Купальле.

# Харэўскі і Лапцёнак



*Вобраз забароны «дзецям да 16-ці» неяк увесь час круціўся ня толькі на афішах кінафільмаў з эратычнымі сцэнамі, але й над беларускай ідэяй – прыцягальнай і таму быццам бы забароненай.*

**ДЗЕЦІ ДА 16-ці**

*Акурат у такім грамадзкім паветры Міхал Анемпадыстаў прыводзіць у Беларускую Майстроўню стрыечных братоў Харэўскага і Лапцёнка, якім і 15 гадоў ледзьве споўнілася, ня кажучы пра «наружны від» – зусім яшчэ дзеці. Для Майстроўні гэта быў прэцэдэнт. Людзі ў яе сьцякаліся адусюль, але сама сябе яна ўяўляла студэнцкім аб'яднаньнем, а тут – беларускія піянэры-героі, юныя касінеры, гатовыя зараз і на ўсё...*

**Харэўскі**: Выглядае, што мы былі самыя малыя. Мы з Андрусем прыйшлі на гарышча Палацу прафсаюзаў, дзе Майстроўня зьбіралася. Мы прыйшлі заўчасна, і там сядзеў Вінцук Вячорка. Мы прадставіліся, што мы такія беларускія патрыёты, гатовыя расклейваць улёткі і ўсё зрабіць дзеля свабоды і незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны. Вінцук быў ашаломлены... Бо мы былі зусім зялёныя, нам тады было па 15 гадкоў, і відавочна ён не чакаў такога палымянага наезду і гатовасьці паўтарыць подзьвіг Ігната Грынявіцкага. А па-другое, як пазьней стала зразумела, ён натуральна асьцерагаўся вушэй, праслушкі і дэманстратыўна круціў вачыма, каб мы тут пра гэта не гаварылі.

Зь іншага боку, ён ня мог схаваць радасьці. Усё адбывалася на мяжы правакацыі, але відавочна было, што два зялёныя хлопчыкі не падобныя да правакатараў. Парэкамэндаваў прыйсьці на сьпеўкі. Мы выйшлі, падумалі, блін, якія сьпеўкі! Нам сказалі, што тут зьбіраюцца самыя галоўныя нацыяналісты, а тут нейкія сьпеўкі...

**Лапцёнак**: Я гэтага эпізоду ня памятаю. Я ішоў у фарватэры свайго брата. Я вучыўся ў мастацка-архітэктурнай школе, і, можа быць, творчая атмасфэра на мяжы зь нейкай рэвалюцыйнасьцю, якую мне даваў брат, натхняла займацца нечым на мяжы дазволенага.

*Андрэй Лапцёнак і Сяргей Харэўскі вучыліся ў незвычайных школах. Харэўскі толькі паступіў у мастацкую вучэльню імя Глебава.*

**Харэўскі**: Мы пісалі на стадыёне «Дынама» «Жыве Беларусь!», перадрукоўвалі з «Божым Шляхам» малітву за беларускі народ. І гатовыя былі ўсё зрабіць для свабоды і незалежнасьці Баць-



Гуканьне Вясны ў Купалаўскім парку. 17 красавіка 1983 году. На першым пляне зьлева Тацяна Гаранская вядзе карагод, справа Андрэй Лапцёнак (з птушкай) і Сяргей Харэўскі (у вышыванай кашулі). На другім пляне: Яўген Валасевіч, Вінцук Вячорка, Ніна Здановіч, Андрэй Радзівонаў, Наталя Лазоўская, Пётра Садоўскі, Лада Шчасная, Сяргей Шупа, Ларыса Малашэня, Аліна Садоўская, Сяргей Запрудзкі

каўшчыны. Калі я паступіў у вучэльню, яе скончаў Тодар Кашкурэвіч, там быў Міхал Анемпадыстаў, «мроеўцы». Міхал быў старэйшы і разумнейшы, ён нас крыху прыгасіў, сказаў: ідзіце, паслухайце старэйшых людзей.

*Адрозна ад многіх герояў нашай «Гісторыі аднаго цуду», Лапцёнак і Харэўскі былі якраз раньнімі. І ў Майстроўню прыйшлі ўсьвядомлена. І гэтаксама ўсьвядомлена ўспрымалі ўзроставую розьніцу паміж сабой і тым самым Вінцуком Вячоркам.*

**Харэўскі**: Гэта нам пятнаццаць, а яму дваццаць тры. У нашым уяўленьні дарослы чалавек. Потым, калі я прыйшоў у вышыванай кашулі, ён спытаў – гэта набытая ці самаробная? Я думаю – набытая... гэта што? Яна не куплёная, але й не мая... Ён багата чаму вучыў.

**Лапцёнак**: Гэты час прыпаў на час плоцевага сталеньня. Усё было ўпершыню. Мы толькі вучыліся гаварыць па-беларуску, не было практыкі, і тут асяродзьдзе, дзе людзі проста інакш не гавораць... І першае Купальле, на якім я выпіў першую шклянку гарэлкі, якую мне далі без закусона, гэта была значная падзея для мяне, бо адчуваў сябе мужыком, бацькі адпусьцілі, там сьпевы, дзеўкі, атмасфэра волі.

## «БУДЬ ДОБР, ГОВОРИ ПО-РУССКИ»

*Сьвядомасьць у братоў апярэджвала жыцьцёвы досьвед. Але крытэрам у майстроўцаў была менавіта сьвядомасьць. Таму ніхто й не ўспрымаў іх як дзяцей.*

**Харэўскі**: Я пачаў у вучэльні дэманстратыўна гаварыць па-беларуску. З гэтай нагоды мяне вы-

клікалі да дырэктара Краўчука: «Хоревский, я тоже белорус, но говорю по-русски, и будь добр, в стенах училища говори по-русски». Я зразумеў, што ўжо рука на загрыўку. За намі пачынаюць сачыць, нам за гэта штосьці можа быць. І таму, калі мы дэманстратыўна пайшлі з птушкай па горадзе, сэрца калацілася ад хваляваньня і расьпірала ад уласнай сьмеласьці.

*Гаворка ідзе пра Гуканьне Вясны ў менскім парку Купалы ў 1983 годзе. У Андрэя Лапцёнка сур'езнае сутыкненьне з сыстэмай адбылося крыху пазьней, праз некалькі гадоў, калі ён вучыўся на журналістыцы ў БДУ.*

**Лапцёнак**: Калі мы выпусьцілі газэту «Лірнік» (нас было трох тады – Алесь Ліпай, я і Міхась Талочка), нас тады таксама выклікаў дэкан Слука. Гэта першы курс факультэту журналістыкі быў, 1986 год. Таму што сьмелая газэтка была. На 25 Сакавіка. І ён казаў: хлопцы, што ж вы так падстаўляеце ўсіх? І для нас гэта быў фактычна ультыматум. І так супала, што я ў войска сышоў адразу пасьля гэтага.

## БРАТ ЗА БРАТАМ

**Харэўскі**: Нашыя з Андрэем маці родныя сёстры. Мы зь ім атрымаліся з розьніцай у тры месяцы. Зь пялюшак мы ў вёсцы, у дзедавым садзе былі разам.

**Лапцёнак**: Мы шмат чыталі, чыталі ўсё, што было. У мяне бацька працаваў дырэктарам кнігагандлю, і кніг была вялікая колькасьць. І зь дзяцінства пералапачвалі і беларускую літаратуру, яна была не чужая нам.

Калі брат пачаў гэта ўсё праз сябе прапускаць,

я быў самы блізкі чалавек, які аказаўся побач, і ўсё гэта пайшло на мяне. Як дождж зь неба. Калі нам было ўсяго па 14, гэта было так, што мы ўступаем ў нейкую... даступную ня ўсім прастору.

## БЕЛАРУСКАЯ СЬВЯДОМАСЬЦЬ

**Харэўскі**: У нас была з Андрусем сямейная нацыянальная сьвядомасьць. Бацькі даяжджалі на электрычцы да Міханавічаў. З намі ў горадзе імкнуліся гаварыць па-расейску, а выходзілі з электрычкі...

Тут аднаклясьнікі, зь якімі ў беларускай школе вучыліся, суседзі. І вось літаральна дваццаць кілямэтраў даяжджаюць, выходзяць і гавораць па-беларуску. Бабкі нашыя па-расейску так і не навучыліся гаварыць. Недзе гадоў у 13-14 мы пачалі атрымліваць асалоду ад гаварэньня па-беларуску зь вясковымі раўналеткамі, ад мовы нашых бабак. І ўжо з бацькамі пачыналі падтрымліваць. І бацькі нармальна гэта ўспрымалі. Але да Майстроўні мы ўяўленьня не маглі мець пра бел-чырвона-белы сьцяг, пра Пагоню, пра эміграцыю...

*А пра незалежнасьць?*

**Харэўскі**: Неяк я ў бацькі запытаўся, як мы йшлі полем і жаўрукі заліваліся, а вось калі б Беларусь была сама, гэта было б лепей? Бацька кажа: напэўна было б лепей, але сяброў жа няможна кінуць. Тады падумаў і сказаў: толькі больш нікому такія пытаньні не задавай.

Бацька ціха ў душы ганарыўся. Ён не падліваў алею ў вагонь. Ганарыўся, што нас цікавяць нейкія большыя ідэі – мова, гісторыя, родныя карані. Ён ня бачыў у гэтым бяды, але імкнуўся агарадзіць ад навакольнага сьвету.

Бацькава маці была нонканфармісткай. Баба Наста. Яна была траўніцай, была верніцай. Пра Сталіна казала, што гэта ідал, плявала на партрэты. Усыпала бацьку, калі ён спрабаваў з хаты абразы вынесьці. Яна была ўдава, шмат дзяцей, бедная сям'я, і цудам яе не рэпрэсавалі.

Бабка Наста мне пяяла песьні, дзе згадваліся нейкія маскалі. Нейкія архаічныя калыханкі. «А дзе ж тыя краскі, маскалі пабралі, а дзе ж тыя маскалі... нешта іх там пазабівалі, ішлі туркі на тры шнуркі, а палякі на чатыры, а маскалі сьвет зацьмілі...» І гэта адкладвалася ў самых нетрах. А пасьля ўжо на вясельлях-застольлях зацягвалі гэтыя песьні, а пасьля па дзьве чаркі, а пасьля прыгадвалі, хто кім быў у вайну... Хто быў партызан... Тады клялі партызанаў, бо ў нашай мясцовасьці аніводнага цёплага слова... Прыгадвалі і немцаў. І ўся гэтая вайна станавілася зусім не такой, як нам у школе казалі.

**Лапцёнак**: У дзеда праблемы пачаліся адразу пасьля вайны, бо падчас вайны ён быў старастам у вёсцы. А ёсьць такі перакос у грамадзкай сьвядомасьці, што староста – гэта роўна паліцай.

Але, як распавядалі, выбралі якраз самага надзейнага для аднавяскоўцаў чалавека. Гэта былі мясцовыя выбары, яго не прызначала нямецкая ўлада, людзі самі прапаноўвалі гэтую кандыдатуру. І ясна, што дзед пацярпеў. Ён да 1973 году лічыўся рэпрэсаваным, без рэабілітацыі. І бацька, на той час ужо дзейсны кіраўнік і ясна, што да партыі меў непасрэднае дачыненьне, але не пабаяўся, пайшоў да старшыні менскага КГБ і, карыстаючыся сувязямі, папрасіў за свайго бацьку. Гэта была рызыка на той час. Але пайшлі насустрач.

## ШЛЯХТА І РАЙДУНЫ

*Браты Андрэй і Сяргей маглі б служыць прыкладам закону адзінства і барацьбы супрацьлегласьцяў. Падзел утварыўся па лініі бацькаў. Прычым сацыяльны.*

**Харэўскі**: Параўноўвалі, дзе якія песьні, як каго называюць. Андрусеў бацька зь Бярэзінскага раёну. Іх называлі райдунамі, а мы са шляхты. Гэтыя застольныя размовы, вядома, не праходзілі марна.

**Лапцёнак**: Я не пагаджаюся. Прозьвішчы параўноўвалі. Лапцёнак – не шляхоцкае прозьвішча. Паколькі ў нас маці Баркоўскія, то з маці ўсё ў парадку. А бацька ў яго Харэўскі.

Але ў мяне былі іншыя аргумэнты. Бо Лапцёнкі на той час ужо быў такі досыць вядомы клян, у добрым сэнсе слова. Яны шмат у якіх галінах дасягнулі пэўнага ўзроўню. Я казаў: а мы, Лапцёнкі, затое вось якія!..

**Харэўскі**: У сям'і, адкуль нашыя маці, з засьценку Астравы, людзі лічылі сябе шляхтаю. Нашыя прапрадзеды з прозьвішчам Хмялеўскія і Баркоўскія расьцілі хмель, гэта была даўняя традыцыя. І пастаўлялі на менскі завод, які цяпер «Аліварыя». А за імі далей, у бок Седчы, у бок Пухавічаў і далей жывуць райдуны. Хто гэта такія, мы дазналіся ўжо ў сталым веку. Райдуны – гэта рэгіянальная этнаграфічная група беларусаў, якая цягнецца да Дняпра, за Бярэзіну. Яны былі прыгоннымі. І гэта такія архаічныя рахункі, маўляў, у нас так... Бабка нас не выпускала за весьніцы, не праверыўшы, ці пачысьцілі мы чаравікі, і не сядалі за стол, пакуль не зашпілімся на ўсе гузікі і не прычэшамся. І казала: «Ну вы што, райдуны ці што?»

## СПАВІВАНЬНЕ НА РАЯЛІ

*Пасьля прыходу ў Майстроўню браты становяцца ўдзельнікамі ўсіх майстроўскіх сьвятаў і культурных паходаў. Самы яскравы ўспамін – спэктакль «Клемэнс», які Віцебскі тэатар паказваў у Менскім доме афіцэраў.*

**Харэўскі**: Лета. І мы на электрычцы ад бабці прыехалі адмыслова, набылі тры гвазьдзікі – белы, чырвоны і белы, падбеглі пад Дом афіцэраў, а там ужо віраваў натоўп. Ад хваляваньня ўсё трымцела, і песьні падпявалі: «І гэты час, і гэты лад не назаўсёды». А пасьля нас падхапілі старэйшыя таварышы, і дахаты да Шчаснай паехалі. Там быў Садоўскі, былі акторы, была добрая гулянка, нас бацькі шукалі, куды мы падзеліся. Я памятаю, вярнуўся ў гадзіну ночы, але быў увесь акрылены.

Не было б Майстроўні – не было б «Талакі». Не была б уцягнутая такая маса людзей у арбіту культурнай, асьветнай працы. Майстроўцы выратавалі песьні, якія цяпер выконваюцца. Многім паставілі голас і многіх навучылі беларушчыне. Рэальна рызыкавалі. А калі ўжо пачалі ствараць Народны Фронт, дык амаль усе майстроўцы аказаліся там.

Дубавец нам даваў ад рукі перапісваць: «Зьмянілася ўсё, што магло зьмяніцца, сьвет стаў аднолькавым і нецікавым, цуды, што зьдзіўлялі нашых продкаў, ужо ня цуды. А дзе ж выйсьце? А вось дзе. Майце гонар паўсюдна гаварыць па-свойму, па-беларуску...» Трэба было гэты рукапіс вывучыць на памяць, зьесьці і словы перадаць іншым... Так што адмаўляць палітычны момант не выпадае. Міжволі ў гэта ўсё ўцягвалася ўсё больш і больш людзей.

**Лапцёнак**: Для мяне гэта быў факт, які абвяргаў

міты савецкай імпэрыі. Нацыянальная сьвядомасьць была насамрэч. Хаця шмат хто спрабуе сказаць, што не было.

**Харэўскі**: З Майстроўні запомнілася, як прынесьлі дачку Вячоркаў паказаць народу і на раялі мянялі ёй пялюшкі. І ўсе: Радуся, сюсі-пусі... На раялі. На чорным...

**Лапцёнак**: Між іншым, акрамя палітычнага падтэксту, там сапраўды хацелася сьпяваць. А я ў школе добра сьпяваў у хоры і заўсёды быў на першых ролях, мне было цікава сьпяваць тыя песьні, якія я ведаў ад бабці сваёй, і новыя.

**Харэўскі**: Калі надышоў момант распаду імпэрыі, Беларусь не была такой безабароннай і ніякай, як гэта многім уяўляецца. Была ўжо велізарная колькасьць людзей, якія так ці інакш праз Майстроўню ўжо былі ўлучаныя... Фактычна Майстроўня спраектавала мадэрную Беларусь.

# Віялета Кавалёва (Ефіменка)



Здымак Алены Лявончанкі

*Віялета Ефіменка была ня толькі адным з пазнавальных твараў майстроўскае грамады. Яна пераняла ў Ларысы Сімаковіч кіраваньне майстроўскімі сьпеўкамі. Дамаўлялася пра выступы Майстроўні ў розных установах. Прадстаўляла Майстроўню за межамі гэтага руху. Найболей пісала пра Майстроўню і майстроўцаў у прэсе... Словам, была тым, хто забясьпечваў жыцьцядзейнасьць гэтай аўтаноміі, беручы на сябе кожную работу. Прычым рабіла гэта так, быццам кагосьці падмяняе – часова, на выпадак, на раз ці два. Так было зь пераходам ролі хормайстра да Віялеты ад Ларысы.*

## КІРАЎНІЦА СЬПЕВАЎ

**Віялета**: Ларыса вельмі творчы чалавек, у яе мора ўсялякіх праектаў, і яна не магла займацца Майстроўняй так шчыльна і доўга. Гэта ж рутынная праца, штогод прыходзяць новыя людзі. Ларыса папрасіла мяне раз, другі... Ты спачатку развучы зь імі, а я потым ужо зраблю з гэтага .

*Але ж кіраваць сьпевамі будзе ня кожны. Патрэбныя здольнасьці і досьвед.*

**Віялета**: Аказваецца, я першым сваім вакальным калектывам кіравала, калі вучылася ў сёмай клясе. Мы два гады запар нейкія месцы нават займалі. Узгадала нядаўна.

Я вучылася ў музычнай школе, і дзесьці ў сярэдніх клясах нават бацька з папругай стаяў, бо не хацела страшэнна. Але неяк уцягнулася і не шкадую.

Калі ў школьным хоры кіраўнік правяраў, як хто ведае партыі, дык ён казаў усім маўчаць: толькі тады ён мог пачуць, што я сьпяваю. І казаў: ну, затое чысьценька. Як можна інакш, паказала Ларыса. Я сама зьдзівілася, як можа гучаць голас.

Я ніколі сябе не ўспрымала як кіраўнік сьпеваў у Майстроўні. Усё чакала, ну калі ж хто-небудзь прыйдзе яшчэ. Хто-небудзь з нармальнай адукацыяй, зь ведамі. Ну і засталася вось я.

*Засталася і тады, і пасьля, калі з майстроўцаў утвараліся новыя сьпеўныя суполкі, і калі пераехала ў Канаду.*

**Віялета**: Усё жыцьцё было так ці інакш з гэтым зьвязанае. Тут ёсьць Згуртаваньне беларусаў Канады. І фальклёрны гурт, які называецца «Яваровы людзі». І якім зноў жа на бязрыб'і даводзіцца мне кіраваць.

*Беларускаму адраджэнскаму руху фатальна бракуе мэнэджэраў. Такіх нідзе не рыхтуюць. Віялета ўнікае называць сябе кіраўніцай сьпеваў, бо гэта вузкая спэцыялізацыя. Яна дбае пра ўвесь працэс, у якім сьпевы – толькі частка агульнага руху. Так было ў Майстроўні, так, мабыць, ёсьць і цяпер у Канадзе, бо кола грамадзкіх абавязкаў Віялеты і там шырэйшае. Да прыкладу, выданьне газэты...*

**Віялета**: Я супраць такіх словаў, як «цуд». Ня вельмі люблю высокія словы і залішні патас. Проста ў патрэбны час у патрэбным месцы аказаліся патрэбныя людзі, вакол якіх потым усё гэта і нарасло. Я думаю, што мы ня першыя і не апошнія.

Мы былі на раскопках у Міры, да кагосьці прыехала сяброўка з Расеі. Паслухала нашыя песьні, паслухала, пра што мы гаворым увечары каля вогнішча, і сказала: «Якія вы шчасьлівыя, у вас ёсьць за што змагацца!» Я думаю, у маладосьці павінна быць ідэя, за якую хочацца змагацца. Калі б у Расеі не было голаду і калі б я засталася там, думаю, што я далучылася б да нейкага экалягічнага таварыства, ці нечага яшчэ... А ў нас было настолькі відавочна, што вось рэч, за якую варта змагацца.

## УЦЁКІ АД ГОЛАДУ

*У 1964 годзе бацькі Віялеты ўцяклі ў Беларусь з галоднага Паволжа. Яшчэ адзін зьбег абставінаў, хоць у яго і ёсьць рацыянальнае тлумачэньне.*

**Віялета**: У мяне руская сям’я, бацька зрусіфікаваны ўкраінец. Але апроч украінскіх песень, якія дома часта сьпяваліся, больш нічога ўкраінскага не было. Маці нарадзілася ў Паўночным Казахстане. Яны пераехалі ў Асташкаў на Волзе. Там я нарадзілася.

Літаральна не было чым мяне карміць. У возеры Селігер нельга было лавіць рыбу для сябе, а толькі рыбзаводы мелі права. Ні малака, ні мяса, нічога. І маці, яна фэльчар, убачыла, што ў мяне пачынаецца рахіт. Запанікавала, пачала пісаць сваякам. Цётка ёй сказала: а прыяжджай у Менск, тут ёсьць прадукты. Мне было два гады. Так што іншай радзімы, апроч Беларусі, я ня ведаю. Але да 19 гадоў я неяк схітрылася жыць, не сутыкаючыся ні з чым беларускім. Дзякуй Богу, што бацькі ня вызвалілі мяне ад беларускай мовы, як ім усе раілі. Яны чамусьці сказалі – ай, няхай вучыць.

Хаця калі пачалася Майстроўня, яны мяне абсалютна не падтрымлівалі. Яны былі з тых мінчанаў, каму беларуская мова непатрэбная. «Ты ж руская, навошта табе гэтая калгасная мова. Гэта на тры парадкі ніжэй, чым вялікая руская культура». З гэтым яны жылі, і з гэтым яны, на жаль, пайшлі...

## ПРЫХОД У МАЙСТРОЎНЮ

*Сваё зацікаўленьне беларушчынай Віялета тлумачыць таксама рацыянальна.*

**Віялета**: Пачалося з простага пытаньня. Яшчэ перад Майстроўняй. У мяне спыталіся: ну, вось такі статус цяпер у Беларусі беларускай мовы, і такі – рускай... гэта справядліва? Я ўпершыню задумалася: не, несправядліва. У гэтых катэгорыях я пра беларускую мову ня думала раней. Ну, а потым, натуральна, людзі. Якія ў нас былі людзі ў Майстроўні! Было адразу зразумела, што гэта лепшыя людзі нацыі. Зь першага разу, калі прыходзіш... Я памятаю, Вінцук падышоў, за руку павітаўся, хоць ён мяне першы раз бачыў. Арына. Я адразу разумела, хто яны.



Майстроўскія Каляды ў Заслаўі, 1982 год

Я памятаю дзень, калі я прыйшла ў Майстроўню, 15 кастрычніка 1981 году, як бы ўчора. І я зразумела, што я тут мушу быць і ўсё. Усё астатняе стала нецікава зусім.

*Сяброўскае кола Віялеты ўтварылася ў Майстроўні і ў наступныя гады не зьмянялася. Іншыя згадваюць, што менавіта дзякуючы Віялеце далучыліся і да Майстроўні і да беларушчыны.*

**Віялета**: У мяне з Майстроўні засталіся дзьве найбліжэйшыя сяброўкі – Ларыса Малашэня і Югася Волкава. Ларыса хросная маці Камілкі, Югася хросная Дамінікі. Я хросная Югасьчыных дзяцей. Але калі зь Югасяй я сустрэлася ўжо ў Майстроўні, дык з Ларыскай мы былі знаёмыя зь першага

курсу журфаку, зь першай «бульбы». І няўхільна збліжаліся паціху. Я трапіла ў Майстроўню першая. Ларыска кажа, што я ёй расказвала не адразу, неяк дазавана, сама цяпер думаю – чаму?

Бо адчувалася, што Майстроўня – гэта рэч небясьпечная. І хоць у такіх катэгорыях не фармулявалася тады, але адчувалася, што гэта рэч абсалютна антысавецкая. І трэба добра падумаць, перш чым весьці туды сваіх сяброў. Яны мусяць таксама зрабіць выбар для сябе.

## ЯК ПЕРАСТАЛА ІСНАВАЦЬ МАЙСТРОЎНЯ

*Майстроўня не скончалася ў сябрах. Але як рух яна скончыла сваё існаваньне ў 1984 годзе. Віялета згадвае дэталі гэтага не без шкадаваньня. Бо для яе і для многіх завяршалася частка ўласнага жыцьця. І не было магчымасьці паўплываць на гэты працэс.*

**Віялета**: Адной з апошніх акцыяў быў пікет, калі зносілі будынак першага беларускага тэатру. Пасьля ў Палацы прафсаюзаў нам забаранілі рабіць Купальле. І ўсё. Увосень пасьля гэтага ўжо ніхто не вярнуўся. Не было заключнага сходу, на якім сказалі б – усё, мы распускаем Майстроўню. Яна існавала столькі, колькі ёй трэба было існаваць, і перайшла ў іншыя формы.

Я пераглядала здымкі і знайшла цудоўную рэч. Называецца «Почетная грамота». «Мінскі гарадзкі аддзел народнай асьветы ўзнагароджвае калектыў рэспубліканскага Палацу прафсаюзаў Беларуская Майстроўня за прапаганду беларускага народнага мастацтва сярод школьнікаў гораду Мінску. Загадчык аддзелу Чобатава, 10 студзеня 1984 года».

У мяне ёсьць Статут наш. Калі мы былі ў Палацы культуры Белсаўпрафу, ад нас яго патрабавалі. На

Статуце напісана «Клуб аматараў фальклёру». Я думаю, што гэта быў час, калі нам забаранілі афіцыйна ўжываць слова Майстроўня.

Калі Майстроўня скончылася, а гэта быў роспачны час для мяне, адразу пачало ўзьнікаць шмат розных груповак, арганізацыяў. Надта ж розныя людзі былі ў Майстроўні, і калі колькасьць пераваліла за сотню, то стала відавочна: што каму было больш цікава, так усе й падзяліліся. Я нейкі час спрабавала патусавацца каля маладых літаратараў, нават езьдзіла на сустрэчу ў Іслач, то каля Таварыства беларускай мовы. Я нават была дэлегатам першага ўстаноўчага зьезду БНФ у Вільні. Але зразумела, што не хачу займацца палітыкай. А сьпяваць я хацела заўсёды.

*Такая магчымасьць амаль на дзесяць гадоў адкрылася Віялеце ў сьпеўным гурце «Дзяньніца», які таксама ўтварыўся ў выніку распаду Майстроўні.*

**Віялета**: Мы ж і з мужам размаўлялі адразу па-беларуску, яшчэ як не ажаніліся, а толькі пазнаёміліся. Хоць ён ня быў у Майстроўні, а ў гэты час сядзеў па бібліятэках і рыхтаваў дысэртацыю. Ён інжынэр-мэталюрг. Пазнаёмілі нас сябры. Не было за каго выходзіць замуж. Усе, хто быў у Майстроўні, ужо пераженіліся, наколькі маглі. А калі сустракаесься з кімсьці новым і калі пачынаюць: дзевушка, а пачэму вы разгаварываеце па-беларуску, ну ўсё... Прайшоў той час, калі штосьці хацелася тлумачыць. Альбо ты разумееш, альбо не. І на гэтым усе знаёмствы сканчаліся адразу. А тут чалавек, які размаўляў па-беларуску зь сям’і. У Славы бацька быў у Народным Фронце. Ён скончыў беларускі філфак, быў знаёмы зь беларускімі пісьменьнікамі. Для Славы не было ніякіх праблемаў.

А дзеці... Мы ў сям'і гаворым па-беларуску, і калі я з расейскамоўнымі размаўляю па тэлефоне, а потым, не пасьпеўшы пераключыцца, да іх зьвяртаюся, яны адразу крычаць: мама, не размаўляй з намі па-расейску! Я думаю, што маім бацькам гэта б не спадабалася.

### «КЛЕМЭНС»

**Віялета**: Мне ўзгадваецца спэктакль «Клемэнс», калі прыяжджаў Віцебскі тэатар. Там была песьня «І гэты час, і гэты лад не назаўсёды». А тады мала было чаго сьпяваць, апроч фальклёру. І мы проста абалдзелі. Бо гэта была літаральна песьня для Майстроўні. І я запомніла, і на наступнай жа рэпэтыцыі паказала, сыграла. Мы ту жа вырашылі, што ўсе мусім пайсьці на спэктакль. Мы ўсе прыйшлі з кветкамі, і калі спэктакль скончыўся, з двух бакоў на сцэну пацёк ручаёк з кветкамі. Доўга не хацелі разыходзіцца, стаялі ў сквэрыку каля Дому афіцэраў і сьпявалі гэтую песьню. І міма ішоў Мазынскі. А я тады ня ведала, што гэта Мазынскі. Магу ўявіць: толькі скончыўся спэктакль, стаіць грамада маладых людзей і сьпяваюць гэтую песьню, прычым так сьпяваюць, што ясна: яна дайшла па прызначэньні. Ён спыніўся і пытаецца: а хто вы? А мы вельмі любілі такія пытаньні і адразу казалі: а мы ніхто, мы беларускія студэнты. І ён глядзеў на нас... Гэтыя вочы забыць немагчыма. Гэта калі чалавек адчувае, што ён жыў недарма. Ён кажа: а я галоўны рэжысэр тэатру. А давайце я вас запрашу на наступны спэктакль. Дастае пропуск і кажа: на колькі чалавек выпісваць? Я падумала і кажу: на пяцьдзясят. І ён выпісаў на пяцьдзясят чалавек.

# Алесь Костка



*Стаўленьне выкладчыкаў да Майстроўні было featuresрознае. Нехта падтрымліваў, нехта перашкаджаў, а бальшыня трымала нэўтралітэт.*
*Многія майстроўцы самі сталі выкладчыкамі. Яны адсунулі выбар з трох гэтых мадэляў на другі плян, а на першы паставілі прыярытэт нацыянальнага і чалавечага ўзгадаваньня. Зразумела, як выкладчыкі яны ўступаюць у дачыненьні з сыстэмай. Але колішні майстровец, як правіла, – сам сыстэма. Прычым лепш зладжаная за сыстэму дзяржаўную. Уявіць майстроўца, што кідаецца на ўсе бакі, шукаючы сабе ідэалёгію, немагчыма.*

**Костка**: Я выкладаю ў Акадэміі, на катэдры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Маё жыцьцё паўтараецца. Два заходы ў «Парнат», спачатку ў якасьці вучня, пасьля ў якасьці выкладчыка. Акадэмія – у якасьці студэнта і ў якасьці выкладчыка.

*Для Алеся Косткі прыход у Майстроўню ня стаў адкрыцьцём беларушчыны і беларускай сьвядомасьці. Як і ў жыцьці ўсіх парнатаўцаў, у яго Майстроўня адыграла іншую ролю.*

**Костка**: Мы ўжо былі сьвядомыя. Але там фармавалася надзея на тое, што рэальна могуць адбыцца перамены, і можна ў гэтых пераменах паўдзельнічаць, да чаго мы ўсе былі і гатовыя.

Я быў такі маленькі, кволы, сьціплы і разумны. Прыйшоў і сьпяваў песьні. У мяне слых ёсьць, голасу няма. Мне было проста ўліцца ў сьпеўкі. Трэніравала Ларыса Сімаковіч. Мы сьпявалі песьню «Шчодры вячор». І яна казала: цяпер бярэм нотку «шчо-о-о, шчо-о-о». Кныш Сяргей быў, Воран мянушка. Яна не вытрымлівае: Воран, што ты сьпяваеш! А ён на яе глядзіць так і кажа: шчо... Ну, і навучыліся сьпяваць.

Гэта быў 1981 або 1982 год. Яшчэ раней я пайшоў у войска, і Гэнік прынес мне ў войска песенькі беларускія. Сказаў: на́ табе песенькі беларускія, вучы. Я ведаў, нашто.

Наша парнатаўская тусоўка – гэта выпуск 1980 году. Мы ўжо паезьдзілі па Вільнях, прайшлі лікбез па гісторыі Беларусі. Мы ўжо чыталі Ермаловіча і разумелі, што нам трэба ратаваць нашу Беларусь. Таму – нашто – мы не пыталіся. Мы йшлі і сьпявалі.

1983 год, Гуканьне Вясны ў сквэры Янкі Купалы. Шупа Сяржук граў на флейце. У мяне была скрыпка.

На скрыпцы я граць ня ўмеў, я яе даставаў з футаралу і граў… Бо здольнасьці ёсьць...

## ФЕАФАН, ЛЮДВІК, ЛЕАНАРД

*Алеся Костку як беларуса сфармаваў і выхаваў «Парнат», ролі сваіх бацькоў у гэтай справе Алесь не ўглядае.*

**Костка**: Гэта былі мігранты першага пакаленьня. Яны хуценька злавілі расейскую мову, а беларушчына асацыявалася з калгасам, напрыклад, зь несымпатычнымі суседзямі.

Мамка мая нарадзілася ў вёсцы Грязівец. Там «ряканьне» магілёўскае – дзьвері, ўверьх, Грязівец, вярёўка... Гэта цяпер Чавускі раён. Нарадзілася там, а пасьля немцы іх выгналі ў Магілёў. Мамка пасьля Магілёўскага культпрасьвету паехала ў Бабруйск. Бацька – з Кіраўску. Пасьля дзядзька іх перацягнуў у Менск.

Пры гэтым мой дзядзька вельмі сябраваў з паэтам Алесем Ставерам. «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць...»

Сур’ёзная гісторыя была ў Ставера. Яго хлопчыкам вывезьлі, паводле ягоных расповедаў, у школу абвэру, пасьля закінулі сюды як агента, і ён вымушаны быў здацца... Гэта зь легендаў, я ня ведаю дакладнасьцяў. Ён стаў пісаць вершы, напісаў абсалютна геніяльны радок. І вось гэты Алесь Ставер тусаваўся з маім дзядзькам і многа ўплываў на яго. А дзядзька быў вельмі майстравіты чалавек. Костка Феафан. Яшчэ быў дзядзька Костка Людвік і Костка Леанард – мой бацька.

І вось мой дзядзька, які працаваў настаўнікам працы, пазнаёміўся з настаўнікам працы «Парнату».

Той падказаў, і ўзялі яны хлопца, чацьвертая кляса. А я ў пластыліне сядзеў, не вылазіў з пластыліну.

## КОШАК НЕ ЗАБІВАЎ

Мы былі ўсё ж такі гарадзкія. Мы хадзілі ў стыльных кашульках матросікаў, пастаянна фоткаліся, нейкія мішкі там былі, альтанкі... А беларускай культуры як бы не было. Была бабуля, была яе сястра, якія «рекалі» і цягнулі дыфтонгі беларускія. Пытаньне ўзьнікла пазьней, калі ўжо пачалі вывучаць гісторыю розных народаў – што такое Беларусь? І быў Гэнік Лойка ў пятай клясе... Я, напрыклад, ня мог зразумець беларускага тэксту. Верш быў Купалы, я прызнаўся: Гэнік, я ні фіга не разумею. І Генадзь пачынае мне тлумачыць. І да мяне даходзіць.

У мяне былі паталягічныя няздольнасьці да моваў. Я ня мог вывучыць ніводнай мовы, ні ангельскай, ні расейскай, ні беларускай. Нармальна чытаць я стаў у 16-17 гадоў.

Начытанасьць – яшчэ не паказьнік розуму. Розум праяўляўся ў тым, што я імкнуўся самастойна выпрацаваць сваё стаўленьне да любых зьяваў.

Напрыклад, я ня йшоў з пацанамі забіваць кошку. Мне хапала розуму і нейкіх унутраных момантаў, каб зразумець – гэта акт вандалізму. Хапала розуму вучыць матэматыку. Я быў выдатнік, проста была няздольнасьць да моваў.

## «ПАРНАТ»

*Мастакі прынесьлі з сабой ня толькі масавасьць, але й агульны настрой, а можа быць, і гэты самы цуд, пра які мы ўвесь час тут гаворым. Іншымі*

*словамі, можа быць, «Парнат» – гэта і быў цуд, які папярэднічаў узьнікненьню Майстроўні?*

**Костка**: І тут вялікі паклон ужо нябожчыку Сокалаву-Кубаю. Гэта чалавек, які нам правёў поўны курс лікбезу па нацыянальнай культуры. Гэта быў мудры чалавек. На жаль, такіх малавата.

Сокалаў-Кубай зачапіў нешта ў сэрцы, нешта было разбуджана. І нават ня ім самім, а тым, пра што ён нам расказваў. Я думаю, што гэта генэтычна закладзена – любоў да радзімы.

*Выглядае, што Сокалаў-Кубай распавядаў сваім выхаванцам пра вядомыя, калі не банальныя, на сёньняшні розум, рэчы. Але для парнатаўцаў у тыя часы гэта ўсё гучала як парадокс.*

**Костка**: Мы ведалі, скажам, што да нашай эры была каналізацыя ў Рыме, а тут – пра нашу беларускую цывілізацыю!..

Ёсьць выдатнае дасьледаваньне, якое правёў мой аднаклясьнік Андрэй Радзівонаў. «Парнат» – гэта вельмі цікавы праект паводле канцэпцыі. Сабраць з усёй Беларусі таленавітых дзяцей – і выхоўваць іх зь пятае клясы па адзінаццатую, каб яны атрымаліся мастакамі. Да праекту нібыта мае дачыненьне адна зь беларускіх парыжанак – Надзя Лежэ. І сабраліся абалдзенныя людзі, усе нашыя беларускія мастакі. У годзе 1975—76 яны ўжо спрабавалі ўзьняць пытаньне беларускай мовы як мовы навучаньня. Іх разганялі, рэпрэсавалі, усе пацярпелі за гэта. Сапраўдны ўчынак, варты біблейскага кантэксту.

Мы мала гаварылі, многа малявалі, многа ляпілі. Гэта іншае псыхалягічнае фармаваньне чалавека. Мастакі мала гавораць, асабліва парнатаўцы, але яны вельмі ўважліва глядзяць. І збор візуальнай

інфармацыі нашмат больш эфэктыўны за, скажам, тэкставы аналіз.

Выкладалі нам людзі высокага ўзроўню, мастацтвазнаўцы. Зеляной Кірыл Уладзімеравіч. Гэта чалавек, які вырас у Эрмітажы. Мог ісьці па вуліцы, яго спыні – і ён прачытае лекцыю з гісторыі мастацтва...

Мастакі больш праўдзівыя ў сваёй сутнасьці. І прыярытэт, напрыклад, палітычнай каньюнктуры над сваім праўдзівым поглядам на жыцьцё немагчымы. Калі ён размаўляе па-беларуску, ён будзе пры любых рэжымах гэта рабіць. Калі яны ўбачаць культурны момант, ён для іх будзе важнейшы за палітычны момант.

*У чым адрозьненьне цяперашняй палітычнай дзейнасьці ад той, якая была ў 1980-я і прывяла ўрэшце да незалежнасьці краіны? У тым, што тая дзейнасьць была матываваная культураю. Сапраўды, палітычныя зьмены патрэбныя для разьвіцьця нацыянальнае культуры ў самым шырокім сэнсе слова. Свабода і дэмакратыя – сродкі для гэтага разьвіцьця, для дасягненьня паўнавартасных умоваў існаваньня народу. А сёньняшняя палітычная дзейнасьць культурай не матываваная.*

## ДЗЕЦІ ЛЕПШЫЯ ЗА БАЦЬКОЎ

**Костка**: Затое моладзь цяперашняя, наша моладзь, нашмат болей сьвядомая, чым былі мы. У колькасным і якасным вымярэньні. Для іх няма пытаньня, ці патрэбная беларуская мова, зь якім мы насіліся як зь пісанай торбай. Беларуская мова патрэбная, але – мы на ёй не размаўляем пакуль што, але ўмеем. Яны не прагматыкі, яны больш спакойныя. Нам здавалася тады, што ад нас залежыць



На адкрыцьцё пакою імя Язэпа Драздовіча. Маладэчна, вясна 1984 году. Яўген Валасевіч, Рыгор Панцялееў, Алена Клімовіч, Алесь Костка, Марына Лычкоўская

усё: хто калі ня мы... А тут – жывем сваім жыцьцём, займаемся культурай, паважаем беларускую мову. І дастаткова.

*Майстроўцы мелі перавагі над тымі, хто бярэцца пераадолець моўны бар'ер сёньня. Было адчуваньне місіі, якую яны выконваюць упершыню. Бо ім папярэднічала шматгадовае маўчаньне, назапашваньне нацыянальнай энэргіі, якая іхнымі галасамі вырвалася навонкі. У сёньняшняе моладзі такога запасу няма. Яна, больш спакойная і якасная,*

*прыйдзе да мовы нейкім іншым шляхам. Напрыклад, тады, калі з моўнага пытаньня цалкам зьнікне энэргія барацьбы. Але ці так станецца, невядома. Алена Анісім кажа, што мы можам толькі спадзявацца на гэта.*

**Алена**: Я не скажу за сваіх хлапцоў. Яны вырасьлі як абсалютна самастойныя асобы, але пакуль што яны ў пошуку сябе. Для іх вельмі шмат спакусаў – гэта раз. Па-другое, паняцьце свабоды – яно настолькі шматграннае, што... за мной яны пакуль што не пайшлі. Дык я й сама ні за кім ня йшла з бацькоў. Мне штуршок далі мае аднагодкі. Таму моладзі вельмі важна, каб быў прыклад людзей свайго пакаленьня, свайго ўзросту. Тады гэта дае такі плён, як наша Майстроўня.

*Каб параўнаць сытуацыі трыццацігадовае даўнасьці і сёньняшнюю, варта згадаць першы ў найноўшай гісторыі Беларусі пікет пратэсту, зладжаны майстроўцамі ў 1984 годзе.*

## ПІКЕТ

**Костка**: Прыйшлі на сьпеўкі, а аказалася, што зносіцца першы беларускі тэатар. Мы зь Юляй Лысковай пабеглі дадому, напісалі плякацік «Руйнуецца помнік гісторыі». Прыйшлі, разгарнулі. Прыйшла міліцыя, пасадзіла ў бобікі, і мы пісалі там тлумачэньні. Паўночкі. Пасьля не было куды ісьці начаваць. І вось тады я пазнаёміўся з Алегам Бембелем. Ён мяне прыгрэў на ночку тады, накарміў...

Мы не баяліся каталажак. Нас там ня білі. Ставіліся ня як да нейкіх там бандзюкоў. Напісалі пратаколы. Доўга выпытвалі розныя пытаньні, КГБ, відаць. І на Акадэмію накаталі «цялегу».

Мяне адразу «адмазалі» мае выкладчыкі. За што дэманстрацыя, спыталі? А вось бурылі стары будынак. Ну дык правільна зрабіў. І ўсё. Гэта Тарас Мікалаевіч Паражняк. Яму цяпер восемдзесят зь нечым гадоў.

*Складана параўноўваць майстроўскія часы зь сёньняшнімі паводле свабоды і дэмакратызму. З аднаго боку, тады маглі і «лёгка адмазаць» (хоць мы ведаем, што Ларыса Сімаковіч паплацілася за той пікет вучобай у кансэрваторыі), што сёньня, на думку Алеся Косткі, для студэнта было б немагчыма.*

**Костка**: Нашмат меней шанцаў застацца ў Акадэміі, чым у мяне было. Жорстка адсочваецца палітычная каньюнктура. Студэнту нельга ўдзельнічаць у апазыцыі.

*Інакш кажучы, выкладчык Костка сёньня б студэнта Костку не «адмазаў». Зь іншага боку, у сёньняшняй Беларусі свабоды нібыта нашмат болей, чым было тады. Прынамсі, існуюць альтэрнатыўныя мэдыі і апазыцыйныя арганізацыі. Што да прынцыпаў дзейнасьці выкладчыка, дык яны ва ўяўленьні Алеся Косткі не зьмяніліся з парнатаўскіх і студэнцкіх часоў.*

**Костка**: Са студэнтамі мы сьпяваем песьні. Мы іх возім, напрыклад, ва Ўкраіну. Прыезд ва Ўкраіну нашмат лепей выхоўвае нацыянальную сьвядомасьць, чым любыя захады гадамі на лекцыях. Яны адразу пачынаюць гаварыць па-беларуску ўсе. Пасьля на вогнішчы прыяжджаюць якія-небудзь тынэйджэры з Палтавы і замест таго каб лаяцца матам, сьпяваюць украінскія песьні. Пасьля прымушаюць усіх астатніх сьпяваць свае...

Безумоўна, выкладаю я па-беларуску.

## МЭДАЛІ І ПТУШКІ

*Парнатаўцы ды іншыя мастакі ў Майстроўні бралі на сябе аздабленьне масавых сьвятаў – пісалі афішы, рабілі з гліны мэдалі, птушак і мноства розных іншых дробязяў. А паколькі вобраз з дробязяў і ствараецца, дык ніводную майстроўскую імпрэзу ўявіць бяз гэтага немагчыма, яна страчвае завершанасьць. Праўда, самі мастакі глядзяць на тую сваю працу найчасьцей альтруістычна. Алесь Костка вылучае ў Майстроўні хутчэй яе палітычны складнік.*

**Костка**: Мне падабаецца, што Майстроўня вылілася ўсё ж такі ў палітычны рух. Зьява была, мне здаецца, цудоўная.

Гэта была вельмі яркая і вельмі прыгожая кампазыцыя. Увесь гэты калектыў. І тое, што яны зрабілі. І як гэта перарасло ў «Талаку» і ў іншыя аб’яднаньні...

# Юля Лыскова



*Мая памяць захавала нязвыклы абразок – яшчэ з падлеткавых часоў. У Менску на плошчы, якая тады называлася Цэнтральнай, я бачыў збой маладых людзей, што сьпявалі й танчылі ад захапленьня. Пасярод лета ўпярыў дождж, проста сьцяна дажджу! Дзяўчаты і хлопцы паскідалі абутак ды кружылі басанож па калюгах у імправізаваным танцы...*
*Іхная радасьць была такой адкрытай і прытым інтымнай, што мне здавалася, быццам я падглядаю за імі. Адзін маладзён узяў дзяўчыну на рукі і гэтак круціўся па калюгах пад дзіўную музыку зьлівы... Той патаемны і мройны вобраз танцаў у зьліву застаўся ў маёй памяці назаўжды.*

*Кажуць, што Бог і д’ябал звычайна пасяляюцца побач, а людзі ўсяляк імкнуцца падзяліць іх высокім плотам. Калі трымацца гэтае лёгікі, дык д’ябал у Менску жыве ўнізе – там, дзе станцыя мэтро «Няміга». Там праз усю гісторыю дзеюцца няшчасьці й трагедыі. Ад самай першай летапіснай згадкі пра горад да масавае пагібелі моладзі ў навагоднім пажары 1946 году і да масавае пагібелі моладзі ў 1999-м. Адсюль на гары відзён «плот» з галоўных храмаў трох канфэсіяў – каталіцкай, праваслаўнай і ўніяцкай (Сьвятадухаўскую царкву адбудавалі як канцэртавую залю). Далей Пляц Волі, за якім пачынаецца тэрыторыя Бога – Цэнтральная, або Кастрычніцкая плошча, або плошча Каліноўскага, або проста Плошча. Калі ўвесь горад уявіць сабе як храм, дык тут ягоны мэтафізычны аўта́р. Прычым аўта́р той рэлігіі, якой усе падпарадкоўваюцца незалежна ад канфэсіі і незалежна ад таго, вераць яны ці ня вераць.*

*Вось у гэтым месцы ў 1980 годзе і нарадзілася першае нефармальнае публічнае маладзёвае аб’яднаньне Беларуская Майстроўня. Спачатку яна зьбіралася за квартал адсюль, на філфаку БДУ, які цяпер стаў гістфакам. Потым перабралася ў Палац прафсаюзаў. Тут яна ладзіла свае сьвяты – тыя Каляды на плошчы, або Гуканьні Вясны – ніжэй, у парку Янкі Купалы. Купальле 1984 году ў Купалаўскім парку ёй сьвяткаваць забаранілі, тады ж яе выгналі з Палацу прафсаюзаў, тады ж яна падзялілася на іншыя суполкі і перастала існаваць. А прычынай усяму быў першы ў найноўшай гісторыі пікет пратэсту, які перад тым усім майстроўцы зладзілі каля Кансэрваторыі – пікет супраць зносу будынку*

*першага беларускага тэатру. Ізноў усё адбывалася на Плошчы ці каля яе.*

*Магія месца і магія места, мабыць, сышліся на Цэнтральнай плошчы..*

*І майстроўцы сёньня згадваюць кожны сваё, але зьвязанае з гэтым месцам.*

*Юлі Лысковай згадваецца пікет, пасьля якога Майстроўня як такая перастала існаваць. Але Юля і зьявілася там на самым прыканцы.*

**Юля**: Я была апошні год. Прыйшла ўжо на гэты разьвітальны акорд. Калі руйнавалі тэатар.

Зусім ня памятаю, як я там апынулася. Памятаю, што прымчалася, а там ужо малявалі, мусіць, Костка, плякат: «Руйнуецца помнік гісторыі». Я яшчэ падумала, што палова беларусаў ня ведае, што такое «руйнуецца»... І гэтая «баба» такая страшная была... Калі стары будынак руйнуецца, гэта страшна выглядае. Гэта б'е як па галаве, па целе тваім. А стаяць там зусім ня страшна было. І нас забралі. І міліцыянты нават ня ведалі, што з намі рабіць. Такога не было раней. Яны нас не прыніжалі, нічога. Яны нават дазволілі нам бацькам патэлефанаваць. Я патэлефанавала, сказала, што я ў пастарунку, не хвалюйцеся.

*Міліцыянты ня ведалі, што рабіць, але, ня ведаючы, усіх забралі ў пастарунак. Натуральна, зрабілі тое, на што быў загад, прычым не ад міліцэйскага начальства, а ад тых, хто ведаў, што трэба рабіць. Ведалі ў ЦК КПБ. Там у тыя часы прымаліся такія рашэньні і даваліся такія загады.*

**Юля**: Там і сьмешнае было. Нас адпусьцілі, можа, а пятай, яшчэ транспарт не хадзіў. І ішоў дождж. Я думаю, як я дабяруся да свае Серабранкі? І што ты думаеш? Сюррэалістычны нейкі сюжэт. Ехала палі-

вальная машына і палівала горад. І кіроўца мяне давёз да Серабранкі маёй. І я ў дождж зь міліцыі на палівачцы даехала дахаты...

## АПРАЦОЎКА МЭТАЛУ ЦІСКАМ

Ой, мяне потым выклікалі, зрабілі сход нашай групы. «Які пазор для нашай навучальнай установы! Бо можа вы, Лыскова, і ня ведаеце – ад нацыяналізма да фашызма адзін шаг!» А я й ня ведала. «Парыцалі» гэтак мяне, але потым неяк спусьцілі гэта. Можа, усё ж таму, што гэта была тэхнічная ўстанова, там я адна такая была. І яны таксама ня ведалі, што з гэтым рабіць. Асудзілі мяне, вымову далі нейкую камсамольскую. Тады непрыемна вельмі было. Цягалі па дэканатах, маглі выключыць. Як Ларысу Сімаковіч. Усіх маглі выключыць. Яны ня ведалі, куды павернецца, я думаю.

У нас быў прарэктар разумны і ўплывовы ў тэхнічным сьвеце, Сьцепаненка. Ён даўно ведаў майго бацьку і разумеў, што калі мяне адлічаць, бацька не падасьць яму рукі. Я ўпэўненая, што бацька хадзіў да яго, проста не сказаў мне пра гэта. І Сьцепаненка не захацеў марацца гэтым усім. Гэта быў політэхнічны інстытут. Апрацоўка мэталаў ціскам.

*Пікет 13 чэрвеня 1984 году, які стаў апошняй акцыяй Майстроўні, і сапраўды завяршыўся «апрацоўкай мэталу ціскам». Майстроўня тады налічвала больш за сто ўдзельнікаў, яна ўжо канчаткова сфармавала сваю ідэалёгію, свой «мэтал», і была гатовая да выхаду з фальклёрнай у палітычную сфэру дзейнасьці. Рэакцыя ўладаў на пікет стала апошнім выпрабаваньнем майстроўцаў перад тым, як яны падзеляцца на дзясяткі розных суполак ды ініцыятываў.*

**Юля**: Не люблю высакамоўных словаў, але можа гэта адзінае карыснае, што я толькі зрабіла для людзей. Дачок дзьвюх сваіх нарадзіла, Агату і Дануту, і за гэты будынак выйшла. Па высокім рахунку. Астатняе мы ўсё такое звычайнае робім.

*Юля Лыскова толькі зьявілася ў Майстроўні – і апынулася перад выбарам: чым далей займацца, да якой новай суполкі далучыцца?*

**Юля**: Міхал Анемпадыстаў прывёў мяне. І ў той жа час праз маці маю, якая ў інстытуце замежных моваў выкладала і працавала з жонкай Садоўскага. Мы пераехалі з Камароўкі ў Серабранку, і яны пасябравалі, Садоўскія да нас прыходзілі ледзь ня кожны тыдзень. Мы дагэтуль у сям'і цытуем Садоўскага – «адзін усё поле ня ўгноіш»: гэта, я сьмяюся цяпер, пераклад на беларускую расейскага «и один в поле воин»...

Зь Міхалам мы вучыліся ў адной школе. Ён у паралельнай клясе быў. І сябравалі. Ён творчы чалавек быў, іх там шмат у клясе, хто пайшоў па творчай лініі. У нас агульнае кола было знаёмых: Хведар Кашкурэвіч...

## ТРЫСТА СПАРТАНЦАЎ

Ён прывёў мяне, я і засталася. Але я ўжо папала на момант, калі «зубрам», Вячорку ды іншым, я думаю, сьпевы ўжо нецікавыя былі. Адныя ўжо хацелі ў бой, а другія – яшчэ толькі сьпяваць пачалі.

*Майстроўскі распадзел на тых, хто ірваўся ў бой, і тых, хто хацеў сьпяваць, па-свойму апісаў Гэнік Лойка.*

**Гэнік**: Ня толькі нас разагналі, у нас унутры быў крызіс – што рабіць далей? Ці так сьпяваць,

як дзяўчаткі любяць, усякія сьпеўкі ды прыпеўкі? Ці – як хлопцы. Івашкевіч кажа: давайце зробім ТБШ, Таварыства Беларускай Школы, і ўжо туды ўступяць толькі тыя, хто размаўляе па-беларуску. Ну, я стаў на бок дзяўчатак, сьпеўкі-прыпеўкі. Навошта так цьвёрда, так просталінейна, тут жа ўсё вельмі складана... Гэта я быў студэнтам яшчэ. Цяпер сустракаюся з Івашкевічам і кажу: чаму на Фронце кішыць расейская мова?! А ён кажа: ну, а як ты зробіш? На́, зрабі.

Цяпер ужо мне хочацца радыкалізму. Калі ты гаворыш па-беларуску, ты беларус, не гаворыш – не называйся беларусам. Мне кажуць: а хто ж тады застанецца? І ўсё роўна. У Вінцука Вячоркі ў партыі была ідэя такая. Ён кажа: мы, як фэн, распыляем дабро. А я кажу – не! Партыя павінна быць як вастрыё стралы. Трыста спартанцаў, і даволі будзе.

## «ДЗЯНЬНІЦА»

**Юля**: Мне Майстроўня яшчэ дала «Дзяньніцу». Бо потым мы дзесяць гадоў ці нават болей сьпявалі ў «Дзяньніцы». Там дзякуючы Ларысе Сімаковіч сьпявалі ўсе. І нават калі чалавек ня ўмеў сьпяваць, у ёй была і ёсьць гэтая цярплівасьць і далікатнасьць – яна ўсё адно даставала з чалавека голас, які спатрэбіцца для гэтай песьні.

«Дзяньніца» – гэта тое, што ты выходзіш на сцэну ці на рэпэтыцыі сьпяваеш, і адчуваеш такі ўздым псыхалягічны, эмацыянальны, бо сьпяваеш сваю родную песьню з роднымі людзьмі... Атрымоўваецца гармонія ўсяго. Ні з чым не параўнаць. Дар жыцьця проста.



«Дзяньніца» ладзіць Купальле ў Станькаве пад Менскам.
З 6 на 7 ліпеня 1988 году. Марына Лычкоўская, Віялета Ефіменка, Наталя Васкабойнікава, Юля Лыскова, Марына Мацюш, Югася Волкава, Ліза Лямбовіч (Пятроўская)

Ларыса ў нас напачатку была кіраўніцай. Потым Віялетка была Ефіменка.

Вядома, памятаю, як мы «Дзяньніцай» езьдзілі, сьпявалі на першым зьезьдзе БНФ...

## БЕЛАРУШЧЫНА ЎСЁ АДНО ЗЬ ВЁСКІ

*Юля зусім гарадзкая дзяўчына, і калі задаесься пытаньнем, адкуль яе беларушчына, думаеш пра сям'ю, дзе маці – мовазнаўца і куды прыходзяць па-сяброўску суседзі Садоўскія. Словам, такая ін-*

*тэлігенцкая гісторыя. Але насамрэч усё не зусім так. Беларушчына, паводле Юлі, у яе ўсё ж зь вёскі.*

*Хоць для нашага пакаленьня гэта і незвычайная сувязь.*

**Юля**: У мяне вельмі прагрэсіўная была маці. Яна была антыкамуністка ў душы. Бацька быў звычайным камуністам, без надрыву, на заводзе Вавілава працаваў інжынэрам. Тады ўсе былі камуністамі, амаль усе. А яна была прагрэсіўная.

Мне бацькі ніколі не сказалі «не рабі гэтага». Нават калі тады зь міліцыі прыехала.

Яны ўжо адразу пасьля вайны жылі ў Менску, а бацькі бацькоў родам з Магілёва і зь вёскі Сяліба Менскай вобласьці і потым жылі ў Менску. І перад вайной. І ў нас ніколі не было сваякоў на вёсцы.

Я працавала ў Акадэміі навук, усім сала прывозілі, тварог, яйкі. А я на крамным сядзела...

Бацька вельмі захапляецца рыбалкай, прыроду беларускую бацькі вельмі любілі. Мы штолета езьдзілі, здымалі пакой у якой-небудзь бабулі. Усю Беларусь так праехалі, як малыя былі. На цягніках, на аўтобусах. На рэчкі езьдзілі, на азёры. Я думаю, – адтуль.

Ад бацькоў усё роўна, ад бацькі. Ад вёскі. І потым ад Майстроўні. Можа, яно ў кожным беларусе сядзіць? Можа, трэба ўказ прэзыдэнта выдаць, каб у кожным горадзе зрабілі Майстроўню? Выцягваць зь беларусаў беларускае. Я жартую... Гэта ня можа быць пад прымусам. Будуць людзі апантаныя, энтузіясты, але таксама павінна быць эканамічная падстава для гэтага. Краіна павінна любіць сваіх людзей, любіць беларусаў.

## МВФ

*Пра эканамічную падставу Юля кажа ня проста так. Яна шмат гадоў працуе дарадцай у прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі.*

**Юля**: Гэтае прадстаўніцтва МВФ – з 1992 году, калі мы атрымалі незалежнасьць і краіна ўступіла ў міжнародныя арганізацыі. Мы адны зь першых уступілі ў МВФ. Я падала на конкурс. Пачынала як сакратарка, а цяпер у нас прадстаўнік з Вашынгтону, і я яго дарадца.

*Звычайна, калі заходзіць гутарка пра беларускіх урадоўцаў, даводзіцца чуць не ацэнку іхнае кваліфікацыі, а рэфлексіі, поўныя пэсымізму. Адкуль так шмат пэсымізму?*

**Юля**: Можа ў нас яго шмат, бо ў нас у параўнаньні зь іншымі было шмат надзеяў. Нам здавалася, што – заўтра, сёньня. Сумневаў не было. Але лёгка нічога не даецца, вядома.

Я нядаўна чытала Бураўкіна, здаецца, пра Быкава, што Быкаў ня верыў у беларускі народ. Такое нават чытаць страшна. Але я разумею, што ён меў на ўвазе. Калі б мы былі больш народам, усё было б значна лепей і інакш.

…У Майстроўні было сьвежае паветра. Ларыса Сімаковіч, Вэрця, Таня Шчасная, Гэнік – мы не губляліся, мы ўсе гэтыя гады былі побач.

…Я ня ведаю краіны сярод нармальных, дзе Ларыса Сімаковіч ужо не была б нацыянальным героем, зоркай, якой ганарацца. Яна б па ўсім сьвеце Беларусь праслаўляла, столькі іміджу станоўчага, які так патрэбны цяпер, здабыла б, як цэлае міністэрства. Але ж і мастакоў любіць трэба,

і бізнэсоўцаў, і вяскоўцаў, і настаўнікаў, і вучняў... Можа, людзі больш годнымі былі б.

У Акадэміі навук у нас загадчык лябараторыі быў Ласкаўнёў. А я зусім маладая прыйшла. Ён казаў: Юля, запомні на ўсё жыцьцё, ёсьць такое паняцьце, як памяць любові. Калі ты некага любіў ці кахаў, дык гэты чалавек на ўсё жыцьцё... Гэта пра што майстроўцы кажуць, што ўсе свае. Мы любілі адзін аднога, нам добра было. Гэта нікуды не дзяецца і ня дзенецца.

# Інэса Кур'ян (Азаранка)



*А можа быць, падставай для ўзьнікненьня Майстроўні і аўтарам гэтага прэцэдэнту быў горад, дзе яна ўзьнікла? Ня нацыя дасьпела для самавыяўленьня, а маладая сталіца нацыі ўвайшла ў вобраз і палічыла патрэбным сказаць пра гэта?*
*Такую вэрсію мне падказала гутарка з майстроўкай Інэсай Кур'ян.*

**Інэса**: Я не нарадзілася ў Менску, я нарадзілася ў Лідзе на Гарадзеншчыне, але ў Менску жыву з часу, як стала студэнткай, з 1981 году. А з 2000 году пасялілася недалёка ад старой часткі гораду, ад Ракаўскага прадмесьця. І ўсё, што тут ёсьць, усе закуткі, мяне ўпэўнілі, што Менск мае свой дух. І я ўжо мянчачка. Я ўжо стала патрыёткай Менску.

## ЯК МЕНСК СТАЎ СТАЛІЦАЙ

*Ці магла Майстроўня нарадзіцца ў іншым горадзе? Напэўна, магла, калі б іншы горад быў сталіцаю Беларусі. Бо гэта ня горад даў падставы для ўзьнікненьня руху, а сам праз рух выявіў сваю сталічнасьць або сталасьць.*

*Менск, вядома, стары горад, але сталіцаю ўпершыню ў сваёй гісторыі стаў параўнальна нядаўна, у 1918 годзе, калі тут была абвешчаная БНР.*

*Але сам сабою статус – гэта шыльда, ня болей. Каб горад выявіў сваю адказнасьць за ўсю краіну і ўвесь народ, патрэбныя адмысловыя доказы. Ня офісы правіцеляў і ня іхныя дэкрэты, а ўнутраны зрух душы самога паселішча. Можа быць, гэта і адбылося ў Менску трыццаць гадоў таму?*

## ГОРАД І ЛЮДЗІ – ПААСОБКУ

**Інэса**: У 1981 годзе мне здавалася, што заходнікі больш цывілізаваныя ў параўнаньні са сталіцай. Менчукі правінцыйныя, малаадукаваныя, дрэнна апранаюцца, некультурна выражаюцца. А маленькі горад Ліда быў, як мне падавалася, на галаву вышэйшы. Жыхары Менску заадміністраваныя нейкія. Любяць ярархіі пасадаў, якія займаюць, ганарацца, калі хтосьці «выбіўся ў людзі», любяць распавядаць, якія ў іх былі знаёмствы сярод працаўнікоў «мэрыі» ці там Дому ўраду. А для мяне, «западэнкі», гэта неістотна. Але менчукі такія.

*Калі параўнаць людзкую плынь трыццаць гадоў таму і сёньня, мы амаль ня знойдзем пераемнасьці. Тады, у 1980-м, яна была зусім маладая, а таму агрэсіўная, нават дзікая. Яна сыходзілася раён на раён у масавых пабоішчах, гарадзкі фальклёр распавядаў страшныя казкі пра тое, што ўвесь горад атручаны*

*праз аўтаматы газіроўкі бытавым сыфілісам, або пра павешаных у парку Чалюскінцаў нэграў... Камуністы былі артадаксальныя без усякае меры, і агульны ўзровень пабытовае культуры трымаўся так нізка, што ўся школа хадзіла да аднаклясьніка, прафэсарскага сынка, у новую кватэру дзівіцца на незвычайную рэч – бідэ...*

*Сёньня людзкая плынь паспакайнела і культура побыту паднялася на некалькі парадкаў. Але гэта* ***іншая*** *людзкая плынь, якую нішто ня зьвязвае з той, трыццаць гадоў таму. Мэтафізыка гораду ня стала ёй бліжэйшая. Хіба што перастала быць варожай. Што дае надзею на пацяпленьне дачыненьняў калі-небудзь у будучыні. Для гэтага, між іншым, абрасеенай людзкой плыні давядзецца сфармаваць свае дачыненьні зь менскаю нерасейскаю традыцыяй, якую з крыві гораду, зь яго генаў і духу ня выкінеш.*

*Для Інэсы Кур’ян мастком да беларушчыны стала пальшчызна. І гэта была парадаксальная гісторыя. Бо паступіла Інэса на расейскае аддзяленьне філфаку БДУ.*

**Інэса**: Мне марыўся Кіеў, я хацела быць псыхолягам. Але бацькі лічылі, што гэта задалёка. Таму скіравалі мяне куды-небудзь на філфак. А расейскае аддзяленьне было натуральным выбарам. Бо ў той час сьвет дзяліўся на тых, хто з гораду, і яны чамусьці ішлі на расейскае аддзяленьне, і тых, хто зь сельскай мясцовасьці, яны ішлі на беларускае.

*Парадокс быў у тым, што на расейскім аддзяленьні аказалася Ірэна Папурэнка. Інэса Кур’ян патрапляе ў буру моўных і нацыянальных жарсьцяў ды аказваецца далучанай да нязнаных раней крыніцаў.*

## «СЯМЁРКА»

**Інэса**: Гэта зрабіла Ірэна Папурэнка. Мы зь ёй пазнаёміліся ўвосені, на другім курсе. Мы патрапілі ў інтэрнат БДУ «сямёрку». Гэта быў вулей нейкі вясёлы. Усе марылі быць у «сямёрцы».

У дэканаце сказалі, што месцаў няма, але ёсьць месца ў пакоі з польскімі дзяўчатамі. І мяне пасялілі зь пяцікурсьніцамі з Польшчы. Яны размаўлялі толькі па-польску, і гэтая мова ў мяне ўвайшла проста сваім ходам. І вельмі зацікавіла. Я да сёньня паляністка. Я кандыдат філялягічных навук, абараніла працу з гісторыі славянскіх моваў. Выступаю ў ролі загадчыцы катэдры паляністыкі ў Беларускім інстытуце правазнаўства.

А Папурэнка, відаць, паў-Майстроўні прывяла. Памятаю гэты цырыманіял. Мы былі такімі сьціплымі майстроўцамі, а Ірэна ўваходзіла як свой чалавек, і заўсёды было доўгае пацісканьне рук, абдымкі. А яшчэ Ірэна ўводзіла ў наш беларускі лексыкон новыя словы: не павінна ўсё называцца торбамі, а можна сказаць кайстра. І была добрым настаўнікам.

## ЗА КРОК ДА КАРАТКЕВІЧА

Маё знаёмства з Майстроўняй пачалося з калядаваньня ў спадара Караткевіча на вуліцы Маркса. У цемры вывернутыя на левы бок кажухі, нехта быў там казой... Прыйшлі нейкія людзі, якія выганялі калядоўнікаў з калідору. І ўсе пачалі хавацца за гэтыя калматыя кажухі.

Знаёмства пачалося з таго, што чамусьці гэта забараняюць. Хаця мы ішлі на абрад вельмі цікавы, вясёлы, і спачатку ўсё выглядала вельмі файна. Але

потым у мяне быў нават страх ад таго, што адбывалася. Кагосьці хтосьці кудысьці гоніць, ліхтарамі сьвецяць у вочы...

Да Караткевіча мы так і не дайшлі. Вось такое знаёмства з Майстроўняй – калідорнае, за крок да спадара Караткевіча.

*На першыя Каляды ў сьнежні 1980 году майстроўцы патрапілі да Караткевіча і абышлі ўсе кватэры таго пад'езду. І хоць нехта з жыхароў выклікаў міліцыю, гэта ня зьменшыла агульнага сьвяточнага ўзрушэньня. «Паходы да Караткевіча» паўтараліся на Каляды і ў наступныя гады. Як бачым, не заўсёды ўдала. Што, аднак, не спыняла майстроўцаў.*

## ПТУШАЧКІ ЗЬ ЦЬВЁРДАГА ЦЕСТА

**Інэса**: Я была на Гуканьні Вясны каля кінатэатру «Кіеў». Дзяўчаты нарабілі птушачак зь цьвёрдага цеста. Птушачкі адны былі мяккія і смачныя, іх можна было есьці, а другія цьвёрдыя, закамянелыя, іх трэба было павесіць на матузочак на шыю. Яны запомніліся на ўсё жыцьцё. Я яшчэ пыталася ў дзяўчат, як зрабіць, каб яны такія цьвёрдыя былі, і які сэнс гэтых птушачак.

Праз шмат гадоў, здаецца, у 1995-м, я езьдзіла ў Славенію. Вядомы славенскі антраполяг Божыдар Езэрнік запытаўся ў мяне, што я ведаю пра беларускія птушачкі, зробленыя зь цеста. Мне адразу згадаліся птушачкі з нашага Гуканьня Вясны. І я сказала, што гэтыя птушачкі маюць магічную сілу, вельмі старажытны беларускі абрад. А чаму ён пра гэта пытаецца?

Ён сказаў, што дасьледуе праблему канцэнтрацыйных лягераў і стараецца вылічыць падставы выжываньня там чалавека. У архіўным матэрыяле

нехта апісвае беларускіх вязьняў канцлягеру, жанчын, якія выдаваныя ім порцыі хлеба ператваралі ў птушачак. І гэтыя птушачкі стваралі ў іх там ледзьве не іканастас. Яны для іх былі магічнай сілай. І яму вельмі важна зразумець, якую функцыю маюць у беларускай культуры гэтыя птушачкі. Чаму беларускія жанчыны, ня зьеўшы хлеб, а зьляпіўшы птушачак, выжывалі, нягледзячы на тое, што ня елі.

## МАЙСТРОЎНЯ ЯК ШКОЛА

*Майстроўня спрабавала называцца сьпеўна-драматычнай, але кола дзейнасьці не зьмяшчалася ў гэтыя азначэньні.*

**Вэрця Лазоўская**: І сьпеўна-драматычная, і гістарычная, і моўная. Мы вывучалі там хто літоўскую, хто польскую мову. Я пачала ў Майстроўні польскую мову вывучаць.

**Інэса**: Гэта была школа беларускасьці.

Я цяпер разумею, што гэта былі вельмі маладыя людзі. Спадарыня Сімаковіч была зусім дзяўчынкай. І спадар Вячорка быў зусім, відаць, дзіцём. Калі цяпер яны ўсе яшчэ ў залатым, маладым веку, дык кім яны тады былі? Але яны мелі такі аўтарытэт... Спадарыня Сімаковіч вучыла, як трэба цягнуць ноты, як перастроіць дыханьне падчас сьпеву. Спадар Вячорка быў паліглётам. Калі ён пасьпеў стаць паліглётам, я сабе задаю гэтае пытаньне?

А Генадзь Лойка прадстаўляў верш Юльяна Тувіма «Lokomotywa». Гэта клясыка дзіцячай польскай паэзіі. І я бегла за ім і казала: Генадзь, напішыце мне гэты вершык на паперцы.

І ён знайшоў час, яшчэ раз дыктаваў на памяць Тувіма, я запісвала гэты аграмадны верш, цікавы



Праводзіны зімы на стадыёне «Арляня», Менск. 27 лютага 1983 году. Люся Капітула, Мікола Сасноўскі, Ларыса Малашэня, Ара Кліманковіч, Віялета Ефіменка, Інэса Азаранка, Тацяна Шчасная, Пётра Сакальчык, Хрысьціна Крукоўская, Зьміцер Саўка, Наталя Лазоўская, Марына Лычкоўская, Рыта Гвозьдзік, Літа Шчасная, Аліна Садоўская, Ігар Міклашэвіч

й складаны. І зьберагала сшытак з запісам паводле Лойкі праз гады, бо марыла перакласьці. Пераклала. Толькі ў 2006 годзе. Генадзь, Тувім і «Lokomotywa» – гэта было нешта геніяльнае, якое запала ў маю галаву на ўсё жыцьцё.

На прэзэнтацыю маёй кніжкі – зборніку «Каляровая карова. Анталёгія польскай дзіцячай паэзіі» – я прыйшла ў нейкую школу, а там сядзеў Генадзь Лойка. Мяне гэта ўразіла, я адразу сказала, што тут сядзіць чалавек, дзякуючы якому я пераклала гэты верш. Ён мяне натхніў яшчэ ў тыя «старажытныя» 1980-я гады.

## ПАЛЬШЧЫЗНА

Я прыходзіла ў Майстроўню, дрэнна ведаючы беларускую культуру і мову. Я адчувала комплекс непаўнавартасьці. Нават бацькі мае ўжо даўно не размаўлялі па-беларуску, хоць былі зь беларускіх сем'яў. Матуля са Смаленшчыны, але ўсё роўна там былі свае дыялекты. І хацелася сваю беларускасьць, можна сказаць, аднавіць.

І вельмі зьдзівіла тое, што заменай майму няведаньню беларускай мовы стала польская. Майстроўцы нават хацелі, каб я размаўляла зь імі па-польску. І я зьняла зь сябе гэты комплекс. Калі мне цяжка было знаходзіць словы па-беларуску, я проста гаварыла па-польску. І захавала гэтую думку: сапраўдны беларус адчувае нейкую інтэлігенцкую патрэбу ведаць польскую мову.

У Курасоўшчыне было Купальле, 1983 год... з коламі паленымі, і карагоды, і вялікія лагі. І вялікія натоўпы народу. Я ня ведаю, адкуль майстроўцы зьбіралі столькі ахвотных удзельнічаць у Купальлі. Хтосьці зноў: а чаму я ўжо не гавару па-польску...

*Польская была найбольш даступная, і Польшча была нам найлепей вядомая і блізкая з заходніх краінаў. Але цікаўнасьць майстроўцаў разьбягалася далёка па сьвеце. Пальшчызнай не абмяжоўвалася.*

**Інэса**: Што да шматмоўя ў Майстроўні, то, памятаю, усе з гонарам казалі, што спадар Сяргей Запрудзкі бароніць працу, дзе піша пра сэрбскія моўныя факты, і што ён фрагмэнт ці нават усю абарону рабіў па-сэрбску. Шматмоўе лунала па Майстроўні.

# Віктар Івашкевіч



*У гісторыі Віктара Івашкевіча ўсё вызначылася аднойчы і назаўжды. Напачатку 1980-х Віктар сьвядома ішоў у палітыку (натуральна, падпольную), а прыйшоў у Майстроўню. Уплыў атрымаўся ўзаемным. Віктар стаў беларусам, а Майстроўня зь ягоным прыходам разгледзела ў сабе патэнцыял палітычнага руху.*
*Адкуль што ўзьнікала ў тыя часы? Напэўна, грамадзкая атмасфэра была больш простай, жорсткай і фальшывай, што схіляла тагачасных школьнікаў, нагуляўшыся ў вайну, перайсьці да гульні ў шпіёнаў або ў падпольле, дзе найважнейшай была форма гэтай гульні. Бо зьмест любой не санкцыянаванай уладамі ініцыятывы ўжо праз гэта мог быць толькі антысавецкім, а значыць, нелегальным.*

**Івашкевіч**: Мы ў шостай клясе ўтварылі Нацыянал-камуністычную партыю Беларусі. Статут я напісаў. Гэта 79-я школа, бульвар Шаўчэнкі. Нас было чатыры чалавекі. Хлопцы, якія са мной партыю стварылі, паставіліся да гэтага несур’ёзна і сказалі: давай грошы нам на акцыю, мы пойдзем улёткі разьвешваць. Я кажу: грошай няма, трэба складкі плаціць. Яны кажуць: не, ты шэф, ты кіраўнік нашай партыі, вынь ды пакладзі нам грошы на ўлёткі. А насамрэч хацелі пайсьці піва піць. Тады я сказаў: раз так, я партыю распускаю.

## ЧАЛАВЕК ВАЙНЫ

Я знайшоў верш Сыса, які ён прысьвяціў мне. Верш адлюстроўвае розныя тыпы людзей, якія аб’ядналіся ў тым пачатковым маладзёвым руху:

...І мяне натхняе воля,
Быццам птушку вецер з поля,
А бязь ветру ёй ня жыць
І над полем не кружыць.
А цябе натхняе зброя.
«Зброя, – кажаш, – гэта воля!
А бяз волі нам ня жыць
І Радзіме не служыць».

Усіх яднае воля, толькі яму як паэту трэба было як птушка лётаць. А мне трэба была вайна. За Радзіму. Так і ваюю.

*Вайна – гэта тое, што ў крыві, у характары, у генах. У гэтым сэнсе палітыка Віктара Івашкевіча падобная да паэтыкі Віктара Цоя, які ўсё жыцьцё сьпяваў пра вайну, але пры тым «не хацеў нікому ставіць нагу на грудзі». Вайна – такі сабе сынонім песьні, прарыў да таемных сэнсаў жыцьця, вайна як гульня, і гульня як жыцьцё. Віктар Івашкевіч так-*

*сама кажа пра вайну без агрэсіі і ваяўнічасьці. І калі б мне спатрэбілася адным словам акрэсьліць яго як чалавека, я, напэўна, выбраў бы слова «добры».*

**Івашкевіч**: Зь дзяцінства мой асяродак быў увесь антысавецкі. І бацькі ў мяне – ніхто камуністам ня быў, і вельмі крытычна ставіліся да савецкай улады. І дзед з аднаго боку, і з другога. Адзін дзед шляхцюк, у мяне нават грамата ёсьць. Другі дзед зь сялянаў, але за Калчака ваяваў у грамадзянскую вайну. Івашкевіч шляхцюк, а Пятрушын – з-пад Вільні гаспадар. Дзед Пятрушын, пасьля таго як чарговы раз прыйшлі бальшавікі ў 1944-45 годзе, сядзеў на прызьбе й казаў: мужыкі, гэта ўсё ня тое, хутка амэрыканцы прыйдуць, тады будзе парадак. І мне было вельмі дзіўна, чаму яго ніхто не заклаў. А потым мне маці растлумачыла, што казаў ён гэта ў пасёлку Зялёны Луг, там, дзе былі курапацкія расстрэлы. І ўжо да 1945 году ўсе, хто засталіся там жывыя, разумелі, што з уладай нават у якасьці даносчыка мець кантакты небясьпечна. Таму ён так беспакарана на сваёй прызьбе палітыканстваваў.

Бацькі нас не штурхалі да антысавецкай дзейнасьці. Мала таго, яны страшэнна баяліся, што мы туды залезем і падвядзем усіх пад рэпрэсіі. Але сам падыход, калі яны глядзелі тэлевізар ці ў газэтах матэрыялы, іхнае хмыканьне, чмыханьне, выраз твару стваралі крытычную аўру. І ў мяне яшчэ перад войскам было жаданьне далучыцца да нейкай антысавецкай суполкі.

## ТРЫ ПАХОДЫ ГЕРОЯ

*Жыцьцё Віктара падобнае да жыцьця казачнага героя, які шукае месца свайму геройству.*

**Івашкевіч**: Калі я з войска прыйшоў (у 1981 годзе)

і пачаў ва ўсіх пытацца: а дзе тут антысавецкае падпольле, мне б знайсьці яго, – мая аднаклясьніца, якая працавала ў кнігарні «Сьветач», кажа: а ёсьць такія нацыяналісты, яны ладзяць сьвяты, Гуканьне Вясны, ходзяць песенькі сьпяваюць... напэўна, там табе трэба шукаць. Але я ня ведаў, і яна не магла мне падказаць, дзе ж гэтых нацыяналістаў знайсьці.

*Такім чынам, першы паход героя скончыўся безвынікова. Але ён ужо ведаў, прынамсі, што нейкае месца для ягонага геройства ў прыродзе існуе. І пачалося другое кола пошукаў. Яно нечакана супала з жанімствам.*

**Івашкевіч**: Я пабраўся шлюбам з Аленай Радкевіч, і калі яна прыйшла на журфак, там Алесь Суша пачаў яе вэрбаваць у нацыяналісты. Гэта 1982 год. Яна сказала: што я, я дык «за», але ў мяне муж ёсьць, вельмі вам карысны кадар. І тады прыйшлі да нас дахаты Суша Алесь, Вінцук і Сокалаў-Воюш.

*Другі падыход да Майстроўні таксама скончыўся нічым. Але Віктар ведаў цяпер і месца для геройства, і тое, што яму трэба зрабіць, каб да таго месца дастацца.*

**Івашкевіч**: Суша, Вячорка і Сокалаў-Воюш пайшлі ня надта задаволеныя, бо я расейскамоўны быў. І я не зусім быў задаволены чыста культурніцкімі размовамі. Мне тады Алена кажа: ну што ж, калі ты хочаш свае ідэйкі палітычнай барацьбы прапіхваць у нацыяналістычным асяродку, трэба мове навучыцца, каб успрымалі як свайго. І я тады прыняў рашэньне навучыцца мове. Паўгоду чытаў тэксты, у хаце размаўляў, і калі адчуў, што мая мова хоць і трасянка, але ўжо чуваць, што не расейская трасянка, пачаў карыстацца беларускай мовай паўсюдна. Прыйшоў на працу, на чыгунцы я тады

працаваў, і сказаў: я зь сёньняшняга дня буду з вамі размаўляць па-беларуску. Яны: Чіво эта ты? – Я стаў беларускім нацыяналістам. – А, ну зразумела.

*Усе майстроўскія гісторыі так ці інакш зьвязаныя з выпадковым зьбегам абставінаў, што правакуе на размовы ва ўмоўным ладзе – а што калі б ня здарылася, калі б не сустрэліся, калі б не паразумеліся. У гісторыі Віктара Івашкевіча ўсё тое самае, толькі тут снарад падаў у адну варонку тройчы.*

**Івашкевіч**: Я адпаведныя кніжкі чытаў, я ўвесь час шукаў ідэалягічную альтэрнатыву саўку ці камуністычнай ідэалёгіі. І ва ўсякія бакі мяне гэты пошук штурхаў. А калі сустрэўся з нацыяналістамі, убачыў, што гэта якраз такая комплексная ідэалёгія, якая паўнавартасна можа быць альтэрнатываю ідэалёгіі камуністычнай. І далучыўся. Потым паступіў на журфак завочна. Калі сэсія была, я там сустрэў Алеся Сушу, які пачуў, што я зь ім размаўляю па-беларуску. Ён прыбег у сваю суполку і распавёў, што, памятаеце, гаварылі з адным такім, дык вось ён ужо па-беларуску размаўляе.

І тады яны ўзялі мяне ў вандроўку на выходныя. Вогнішча паліць, песьні сьпяваць. Прычым мы сьпявалі песьні, прыладзіўшыся побач зь нейкімі турыстамі. Турысты пачулі беларускую песьню, падышлі да нас, селі, мы яшчэ песьню прасьпявалі. І маўчаньне. Усе маўчаць. Я кажу: а вы думаеце, чаму мы па-беларуску сьпяваем? Яны кажуць: ну чаму? І я ім ужо пачаў антысавецкую прапаганду.

Гэта быў мой пэрыяд нэафіцтва, калі я даведаўся страшную ваенную тайну беларускага нацыяналізму, і мяне гэта расьпірала. А людзі, пачуўшы мову, нічога не пыталіся. І я выдаваў увесь комп-

лекс, джэнтэльмэнскі набор нацыяналіста. Пра Вялікае Княства, пра БНР, партызанку антысавецкую беларускую. Я людзям распавядаў, а яны казалі: ух ты, а мы пра гэта нічога ня ведалі.

*Перш чым распавядаць іншым, трэба было пра ўсё гэта даведацца самому, а гэта напачатку 1980-х было ня так проста, бо інфармацыю даводзілася вычытваць паміж радкоў і нават чытаючы афіцыйную прапагандысцкую літаратуру «задам наперад».*

**Івашкевіч**: Чалавек, як лякатар, атрымлівае тую інфармацыю, на якую настроіўся. Я настроіўся ўспрымаць беларускую інфармацыю, і яна раптам мне адкрылася. У розных кніжках, контрапрапагандысцкіх у тым ліку. Сташкевіч такі быў, пісаў пра беларускіх нацыяналістаў-свалачэй, якія выступаюць супраць свайго народу. Я гэта ўсё вычытваў, выпісваў, вылучаў канструктыўную інфармацыю. Бажко пасквілі пісаў, праз яго таксама можна было даведацца нешта з гісторыі беларускага нацыяналізму. Беларуская энцыкляпэдыя давала інфармацыю. Пачаў рэгулярна хадзіць у кнігарню, глядзець беларускі аддзел, нейкія вершыкі...

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

*Знаёмства з Майстроўняй і ўваход у яе нашага героя нарэшце адбыліся. Івашкевіч пачаў хадзіць на паседжаньні й сьвяты, сьпяваў песьні, але ўвесь час разважаў, як прыладзіць гэта ўсё да свайго палітычнага змаганьня.*

**Івашкевіч**: Я прыйшоў у Майстроўню і пабачыў сьпеўкі, сам там гудзеў: ой, дубе мой, дубе, кучаравы дубе...

Але мне хацелася нейкага «экшну», і я прапа-



Нарада ў «Беларускай хатцы». Маладэчна, 1984 год. Міхась Талочка, аўтар, Міхась Казлоўскі, ... , Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў-Воюш, справа Віктар Івашкевіч, Алесь Суша

наваў – давайце створым Таварыства беларускай школы і пойдзем у народ зьбіраць подпісы за навучаньне на беларускай мове. Да маёй ідэйкі спачатку паставіліся крытычна. І Сокалаў-Воюш кажа: ты выйшаў з ідэяй, дык ідзі і паспрабуй.

Я ўзяў сшытачак школьны, разьлінаваў, зрабіў тэкст: патрабуем, каб беларускіх школаў было гэтульківі, колькі беларусаў паводле перапісу, гэта значыць 76%. І пайшоў на завулак Багратыёна, там высотны дом, і пачаў абыходзіць кватэру за кватэрай. Васіль Сёмуха адчыніў дзьверы, а я ня ведаў, хто гэта, і кажу: вось Таварыства беларускай

школы пры Майстроўні праводзіць збор подпісаў. І Васіль Сёмуха сказаў: о, няўжо Майстроўня ў народ пайшла?

Атрымалася, што працэнтаў 80 падпісалі. Кажу: я правёў экспэрымэнт, апытаў сто кватэраў, эфэкт татальнай падтрымкі, давайце ўсе разам. І тады было вырашана стварыць пры Майстроўні аб'яднаньне ТБШ. Гэта 1983 год.

*Таварыства беларускай школы ў тыя часы было ўжо адкрытай палітыкай. Арганізаваная праца з насельніцтвам, ня толькі не інсьпіраваная ўладамі, але і скіраваная супраць афіцыйнае палітыкі русіфікацыі, не магла зараз жа не натыкнуцца на супраціў сыстэмы.*

**Івашкевіч**: І тады ўсе пайшлі зьбіраць подпісы. Назьбіралася некалькі тысячаў. ГБ пачало затрымліваць майстроўцаў падчас апытаньня. Сказалі, што гэтага нельга рабіць. На пытаньне, чаму нельга, гэта ж не забаронена, нам было сказана: усё, што спэцыяльна не дазволена, усё забаронена. Я памятаю гэтую фразу. І мы спынілі абыход, а подпісы перадалі ў газэту «Літаратура і Мастацтва», якая ў той час якраз пачала дыскусію пра лёс мовы.

*У выніку акцыі Майстроўні ў Сьляпянцы ўлады пайшлі на стварэньне першай за шмат гадоў у Менску беларускай школы – № 108 на вуліцы Сталетава.*

**Івашкевіч**: Я лічу, што хаджэньне з апытаньнем людзей наконт мовы і папярэднія сутыкненьні з уладай, якія ў прынцыпе нічога страшнага за сабой не пацягнулі, зрабілі такую прышчэпку, што людзі ўжо здолелі выйсьці і на пікет.

А пасьля пікету ў абарону першага беларускага тэатру вельмі хутка Майстроўню прыкрылі.

## ДЫСКУСІЯ ПРА МОВУ

У нас у Майстроўні была вялікая дыскусія, ці трэба паўсюдна карыстацца беларускай мовай, ці можна толькі ў сваім асяродку. Некаторыя выказваліся: мне брыдка размаўляць на чысьцюткай сьвятой беларускай мове зь непадрыхтаванымі людзьмі, зь імі я размаўляю на паганай расейскай мове. А беларуская мова для элітнай суполкі. Але іншыя падтрымалі маю пазыцыю, што трэба рабіць інтэрвэнцыю ў грамадзтва.

Раней я вельмі катэгарычна выказваўся наконт людзей, якія займаюць такую дваістую пазыцыю, а цяпер разумею, чаму гэта адбываецца. Таму што гэта стан няспыннай псыхалягічнай вайны. Ты зьвяртаесься ў газэтны кіёск і кажаш: мне, калі ласка, агульны сшытак. І адразу ведаеш, што зараз табе скажуць: чі-і-іво? Гаваріце па-рускі ці па-чэлавеческі. А ты ўжо настройваесься даць у адказ нейкую фразу. Ці сядаеш у таксоўку і кажаш: мне на вуліцу Ўсходнюю. Не, гэта Ўсходняя, Васточная ў Тамбове... І ведаеш пытаньне, якое табе зададуць, і што ты адкажаш. Ня кожны хоча псыхалягічна знаходзіцца ўвесь час у стане вайны. Ці трэба настроіцца так, каб сам стан вайны табе быў прыемны. Чаго няма нават у мяне.

*Але вернемся да пошукаў месца ўласнаму геройству. Як мы памятаем, шукаў Віктар альтэрнатыву камуністычнай ідэалёгіі.*

**Івашкевіч**: Фактычна я знайшоў гэта ў Майстроўні. Знайшоў назаўсёды, бо гэта пазыцыя да сёньняшняга дня, якая перадалася і сыну.

Дагэтуль былі розныя варыянты антысавецкай дзейнасьці, яны насілі знак мінус. Супраць ка-

муністаў, Беларусь бяз «расава чуждых» – былі й такія суполкі. Але толькі беларушчына дала комплексны сьветапогляд.

*Сапраўды, Майстроўня нічога не адмаўляла, не разбурала, не вынішчала, а толькі сьцьвярджала, будавала, стварала. Таму як рух яна не магла завяршыцца, зьнікнуць, растаць у паветры бяз сьледу, як гэта было з суполкамі з прыдомкам «анты-». І ў наступных трансфармацыях Майстроўні Віктар Івашкевіч браў ужо самы непасрэдны ўдзел.*

**Івашкевіч**: У прынцыпе далей было ўсё перадвызначана, таму што і «Талака», і Народны Фронт – гэта ўсё адбылося таму, што я быў тады ў 1982 годзе завэрбаваны адэптамі нацыяналізму. Гэта вызначыла мой далейшы лёс. Я чалавек вайны, я змагаюся. За беларускае адраджэньне, за беларускую дзяржаву, за тое, каб была беларуская Беларусь.

Тады было зусім глуха. Едзеш у тралейбусе, пачуеш беларускую мову, кажаш сябрам: хлопец адзін размаўляў. – А як ён выглядаў? – А, дык я ж яго ведаю. Мы ўсе адзін аднаго ведалі, хто мог у горадзе размаўляць па-беларуску. А цяпер вялікая колькасьць моладзі, сотні нейкіх аб'яднаньняў, і гэта ўжо не інсьпірацыя групы зь дзесяці чалавек, а сапраўды рух, плынь, жыцьцё. І ты ўжо толькі частка гэтай шырокай плыні. Што мяне радуе. Беларускі рух стаў настолькі масавым, каб быць самаразьвівальным, незалежна ад волі асобнага чалавека.

## БРАТ

*Віктараў брат Яўген у сярэдзіне 1980-х браў удзел у палітычных акцыях побач зь ім. Віктар прыгадвае тагачасны верш Алега Бембеля.*

**Івашкевіч**: Ёсьць верш, які Бембель напісаў, ня думаючы пра майго брата, але пра яго. Адна з акцыяў, якія мы рабілі, – расьпісвалі сьцены лёзунгамі «Беларусы, дзе ваша мова?» І мой брат у пераходзе пад праспэктам Машэрава насупраць кнігарні «Сьветач» напісаў гэта. У чатыры раніцы. А Бембель ішоў на сваю працу ў восем раніцы і ўбачыў, як цёткі мылі, шкраблі гэты лёзунг. І вось ягоны верш:

*Пад Машэравам як нанова*
*партызанская йдзе вайна.*
*«Беларусы, дзе ваша мова?» –*
*патаемна пытае сьцяна…*

Брат маладзейшы на пяць гадоў. І ён быў таксама жаўнер. Сказалі расьпісваць сьцены, ён расьпісваў. Сказалі разносіць падпольны часопіс «Бурачок», ён яго разносіў.

*Сёньня сапраўды шмат хто з майстроўцаў ня ўдзельнічае ў палітыцы, але тыя, хто ў яе пайшоў, сталі палітыкамі агульнанацыянальнага маштабу. Як Віктар Івашкевіч.*

**Івашкевіч**: Я трымаю сьцяг. Бачылі фатаздымак – стаіць Івашкевіч на плошчы і трымае сьцяг, адзін бел-чырвона-белы, другі эўрапейскі? І людзі сьмяюцца – во, выйшаў адзін, ну і што ты адзін выйшаў? Герой знайшоўся. А каго ж ты за сабой павёў? А я кажу: нікога нікуды не завядзеш, калі ён таго ня хоча. Але павінен хтосьці трымаць сьцяг. Каб заўсёды быў арыенцір, што калі захочацца, я далучуся.

*Віктар Івашкевіч прафэсійны палітык, але часам гаворыць ён як паэт.*

**Івашкевіч**: А рэч у тым, што ў Беларусі не настаў час палітыкі – чыстай прагматыкі.

Калі свабоды няма, натхняць можа толькі пэўны рамантызм. Калі беларускае грамадзтва зробіць чарговы крок і свабода будзе атрыманая, прыйдзе час беларускіх палітыкаў, якія не паэты, а тэхнолягі. Але каб спрацоўвалі іхныя тэхналёгіі, якія яны вывучаюць у Штатах, Англіі ці Нямеччыне, трэба, каб перадумовы свабоды былі такія, як яны ёсьць там.

Зычу ўсім маладым людзям патрапіць у сваёй маладосьці ў такія суполкі, як Майстроўня, дзе яны маглі б адчуць магчымасьць жыць так, як ты хочаш.

# Волкавы



*Югася Волкава, якую ў Майстроўні ведалі з прозьвішчам Касянюк, ня лічыць яе цудам. Мяркуе, што гэта проста нармальна. Затое Валодзя Волкаў, калі прыгадвае той час, не стамляецца паўтараць слова «цудоўна».*

**Валодзя**: Я ўбачыў прыгожую дзяўчыну, якая цудоўна сьпявала, цудоўна танчыла. І ў мяне абудзілася пачуцьцё, што трэба больш ведаць пра Беларусь, пра тых людзей, якія цудоўна валодаюць мовай. Майстроўня – школа жыцьця, вялікі шлях да самаўдасканаленьня. І гэта было цудоўна.

*Валодзя працуе ў фірме, якая спэцыялізуецца на сродках пажаратушэньня і выдае нотную літаратуру. Інакш кажучы, гасіць жарсьці матэрыяльныя і запальвае духоўныя.*

**Валодзя**: Я на першае месца ня стаўлю бізнэс, бо мы павінны перадаць нашым дзецям нешта большае. Я знайшоў фармулёўку – творчы бізнэс.

*І ў Майстроўню і да беларушчыны Валодзю прывяла Югася ці, можа быць, больш дакладна – цікавасьць да Югасі. А ў самой Югасі ўсё атрымалася ня так проста і зразумела.*

## САМА

**Югася**: Адкуль да мяне прыйшла беларуская мова? Да гарадзкой дзяўчынкі з расейскамоўнай сям'і? Такое ўражаньне, што яна была са мной заўсёды. Я ўвечары сядала каля радыё і слухала «Калыханку»: «Мой маленькі дружа…». І не ўзьнікала пытаньня, што там нейкія незразумелыя словы. Кніжкі на беларускай мове: пераклады замежных пісьменьнікаў, дзіцячая літаратура.

Я была вызваленая ў школе ад беларускай мовы па стане здароўя. Ад беларускай мовы, ад фізкультуры, ад урокаў працы і сьпеваў. Але на ўроках мовы я ўсё адно сядзела. А ў сёмай клясе настаўніца расейскай мовы прыйшла радасная й паведаміла: дзеці, хутка ніякіх моваў ужо ня будзе, будзе адна расейская. І ўсе радасна закрычалі «ура!» А я ад злосьці заплакала. І пайшла да настаўніцы беларускай мовы і сказала, што хачу вывучаць беларускую.

І яна сказала: ты мусіш напісаць заяву. Чамусьці не бацькі. І я пісала заяву на імя дырэктара. І памятаю, якая была натхнёная, калі за першую дыктоўку атрымала чатыры.

*Я такую гісторыю чую ўпершыню. Амаль заўсёды чалавека да беларушчыны вёў нехта іншы ці нешта іншае. А Югася прыйшла ў Майстроўню сама, гатовая.*

**Югася**: Было непрыемнае ўражаньне. Мы пераходзілі ў чацьвертую клясу, стала шмат настаўнікаў. Першы ўрок беларускай мовы, я кажу, што я вызваленая. І яна досыць агрэсіўна, як мне падалося, паставілася да гэтага, і сказала: «Сала беларускае любіш?» Я сказала: «Не люблю». Чыстая праўда, я ніякае сала не люблю. І я адчула сябе незаслужана пакрыўджанай, таму што ня я ж сама сябе вызваляла... Але настаўніца добрая была, і гэтае ўражаньне пакрысе сплыло.

*Варта згадаць ня раз бачаную ў кнігарні сцэнку, калі дзіця просіць у маці нейкую прывабную кніжку, а радзіцелька абсякае дзіцячую цікаўнасьць кароткім: «Не нада, эта на беларускам!» У выніку дома не аказваецца ніводнай беларускай кніжкі, і шанцы, што нехта паўторыць Югасін шлях, зводзяцца да нуля. Цяпер можна спадзявацца толькі на цікаўнасьць ад зваротнага, на прыродны дух пярэчаньня, на пратэст. Але ўявіць, каб цэлая генэрацыя беларусаў стала патрыётамі «ад зваротнага», немагчыма.*

*Югасі пашанцавала з маці. Мабыць, таму Югася і ўмацавалася ў думцы, што ўсё, што зь ёй адбылося, ня экстраардынарнае, а нармальнае.*

**Югася**: Маці ў мяне апазыцыянэрка па жыцьці. Усё сваё дзяцінства я засынала пад шум «варожых галасоў», якія слухала маці.

## СПАТКАНЬНЕ СА ЗЬНІЧОМ

Я была на трэцім курсе. Гэта быў пэдагагічны інстытут, я вучылася на настаўніцу пачатковых клясаў з музыкай. І ад Ігара Міклашэвіча даведалася пра сустрэчу са Зьнічом і прыйшла.

Ігар Міклашэвіч быў вучань маёй маці ў школе,

дзе яна выкладала гісторыю, і пасьля школы зь ёй кантактаваў.

І я пачала хадзіць, і маці была ня радая, што мяне туды загітавала. Яна вельмі турбавалася, дзе я позна хаджу.

Не менавіта на Зьніча. Мне тады слова «зьніч» нічога не казала, я па натуры сваёй цікаўны чалавек. І я пайшла паслухаць, і мне спадабалася. І сама сустрэча, і гэтая суполка моладзі.

Зьніч нешта апавядаў, чытаў вершы, а пад канец – я запомніла – ён сказаў:

*Скрозь хмары сьвеціцца як поўня,*
*культур-шабашнікам ня роўня, –*
*Майстроўня!..*

І пасьля перапынак – і сьпеўкі. Нехта з залі гукнуў: Віялета, пачынай. І зь першага шэрагу павярнулася дзяўчына і сказала: во, заўсёды Віялета!..

*Вызваленая ў школе ад урокаў беларускай мовы і сьпеваў Югася стала сьпявачкай у адзіным на той час беларускамоўным аб'яднаньні моладзі.*

**Югася**: Я не ўспрымала гэтага і цяпер не ўспрымаю як цуд. Але глыбока не капала. Шчыра сказаць, моладзі ўласьцівы эгацэнтрызм. Я ўспрымала сябе ў Майстроўні.

Нехта сказаў: вы там зьбіраецеся, гэта можа быць небясьпечна. Я сказала: каму мы нясем пагрозу? Я страшна зьдзівілася. І можа ад гэтага была адсутнасьць страху.

Дзьве мае сяброўкі прыйшлі на адну з сустрэчаў. Ім было вельмі цікава, але яны ня сталі хадзіць. Адна сказала: неяк тут у вас занадта... пашукала слова... свабодна. Я ня стала ў яе распытваць, а чым гэта кепска.

*Каб быць свабодным, трэба спачатку стаць*

*кімсьці, назвацца, абазначыць сябе. Адзінка насельніцтва не патрабуе свабоды, ня ведае сваіх правоў чалавека і ня мае клопату зь іх абмежаваньнем. Калі ж я – беларус, я адразу натыкаюся на абмежаваньне маіх правоў з усіх бакоў. Мая «мера свабоды» ператвараецца ў «меру несвабоды» – у абмежаваньне маіх моўных, інтэлектуальных, пэдагагічных магчымасьцяў – а свабода становіцца пры гэтым абсалютнай каштоўнасьцю. Бо варта мне самаідэнтыфікавацца, як для мяне страчваюць першаступенную важнасьць такія рэчы, як апека з боку дзяржавы, як статкавая ўтульнасьць «быць як усе», як прадпісаны кімсьці распарадак майго ўласнага існаваньня.*

## КАМАРЫН – АРЭНБУРГ – МЕНСК

*Напачатку 1980-х Валодзя Волкаў, напэўна, пра такія рэчы не задумляўся. Ён пераадольваў вялікія адлегласьці і высокія этнічныя бар'еры, а ў Беларускую Майстроўню, як я ўжо казаў, яго прывяла цікавасьць да Югасі Касянюк.*

**Валодзя**: Я ўраджэнец Камарына Брагінскага раёну. Але вырас у Арэнбургу. Сюды прыехаў, на жаль, непісьменным беларусам. Дзякуючы Майстроўні я далучыўся да культуры, да традыцыі.

Спачатку я ўбачыў Югасю ў сваёй стрыечнай сястры Марыны Лычкоўскай. Пасьля чаго ў мяне абудзіліся інтарэсы, якія дазволілі мне пазнаёміцца з цудоўнымі людзьмі, якіх па сёньня памятаю, люблю і зь якімі шчасьлівы сустракацца і цяпер.

Згадваю Вінцука Вячорку, Сяргея Шупу... Гэтая пляяда маладых людзей уразіла мяне нейкай сталасьцю, і запалам, і ўзроўнем ведаў, якія мяне, напрыклад, прывялі да таго, што я пяць гадоў пісаў

работу пра Вялікае княства Літоўскае. У Юхо Язэпа Аляксандравіча.

Я быў студэнтам юрыдычнага факультэту і ўжо зь першых момантаў запомніўся аднакурсьнікам песенным рэпэртуарам з Майстроўні. Нават цяпер – было 30 гадоў нашаму курсу, і ўсе патрабуюць ад мяне тых песень.

## МАЙСТРОЎНЯ ЯК ШКОЛА

*І Югася, і Валодзя прыйшлі ў Майстроўню напрыканцы. І калі неўзабаве стварылася сьпеўная суполка «Дзяньніца», туды перайшлі і Волкавы. Але калі для Валодзі Майстроўня была шчасьлівым эпізодам маладосьці, дык Югасю яна правяла праз яшчэ адну мэтамарфозу жыцьця.*

**Югася**: Майстроўская школа маўленьня. Нязмушана недзе папраўляюць, нешта падказваюць, бо адразу не атрымліваецца. Мы рассаджваліся на стале на сьпеўках, і я падышла і сказала «падзьвінься»... і стаяў побач хлопец і сказаў: пасунься. Як бы сам сабе, ня тое што ён мяне паправіў. Гэта быў Мікола Сасноўскі.

У Майстроўні я адназначна зразумела, што мяне цікавіць. Мяне цікавіць мова. Пачалося зь цікавасьці да беларускай мовы як да нейкага арганізму. З канчаткамі, суфіксамі. У школе гэта я больш за ўсё ненавідзела. Канчаткі-суфіксы, усе гэтыя склоны і ўсякую гэтую трасцу пачварную. І я пасьля школы не пайшла на філфак. А ў Майстроўні зразумела, што якраз гэта мяне й цікавіць.

Пасьля пэдагагічнага я яшчэ закончыла ўнівэрсытэт, філялягічны факультэт. У 1995-м прыйшла працаваць у Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук,



Сям'я Волкавых у нацыянальных строях

у аддзел славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства, і з таго часу там і працую.

*Югасі давялося папрацаваць і ў першым у Менску беларускамоўным садку.*

**Югася**: Віялета мяне парэкамэндавала. Я яшчэ студэнткай была чацьвертага курсу. Гэта садок

«Заранка» на вуліцы Някрасава. Загадчыца Галіна Прыма стварыла там беларускамоўныя групы, і ім патрэбны быў беларускамоўны музычны кіраўнік. Мы зь дзецьмі рабілі беларускамоўныя сьвяты. Ніколі не было праблемаў у камунікацыі. Зь ясельнымі трохгадовымі дзецьмі вельмі ўразілася. Прыйшла да іх першы раз, у іх занятк і паводле санітарных нормаў ня больш за 20 хвілін. Узяла нейкіх лялек, калыханак ім пасьпявала, карагодзікі спрабавалі. У мяне каза была на руцэ, лялька-рукавічка. І ў канцы «каза» ім кажа: да пабачэньня. І я ледзь ня ўпала, калі мне ўсе гэтыя дзеці закрычалі: «да пабацэньня!»

*Яшчэ адноператварэньне, што адбылося ў Майстроўні зь Югасяй. Гэта набыцьцё імя.*

**Югася**: У Югасю мяне «пахрысьціў» Вінцук. Ён, відаць, выпісваў у бібліятэцы і, як хросны бацька, даваў кожнаму ягонае імя. І я спытала, як майго імя будзе нейкая беларуская форма. І, мусіць, атрымалася нейкая памылка, бо потым, калі мне ў рукі трапіў слоўнік Ластоўскага, там на расейскае Евгенія няма формы Югася. Там гэтая форма на імя Жанна. Ён можа тады недачуў, што я ня Жанна, а Жэня. Але я асабліва не афішую гэтую гісторыю, таму што Югася мне страшна падабаецца.

Хтосьці мне тэлефануе, маці кліча; калі кажа, што Югасю, то я ведаю, што гэта нехта свой. А калі там Жэню ці яшчэ Яўгенію Вітальеўну, то гэта значыць, хтосьці староньні, чужы.

# Яўген Валасевіч



*Як вядома, моладзь заўсёды горшая за пакаленьне сваіх бацькоў, што, аднак, ніколі не пацьвярджаецца ў гістарычнай пэрспэктыве. Моладзь і горшая, і лепшая. Хоць у цэлым яна такая самая. Дызайнэр і будаўнік Яўген Валасевіч лічыць, што самае галоўнае для моладзі – асяродзьдзе, а ў цяперашніх юнакоў яго значна менш, чым было ў нашыя часы.*

## КАМПУТАР І АСЯРОДЗЬДЗЕ

**Валасевіч**: Асяродзьдзе – гэта аснова. Кампутар – гэта машына для пажыраньня мазгоў. А ў іх усё жыцьцё праз кампутар ідзе. І зь сябрамі, са знаёмымі, з вучобай. Скайп замяняе жыцьцё. А можа, нам гэта здаецца проста...

У мяне такая праца – будаўнічая. Я праектую і будую дамы. З дызайнам, ляндшафтам і ўсім астатнім. Даводзіцца шмат езьдзіць. Аўтарскі нагляд, карэктывы... Спачатку мы крыху займаліся рэстаўрацыяй, а там будаўнічыя работы пайшлі, архітэктурныя, адно за адно... і ўсё прыйшло да будаўніцтва і архітэктуры.

Калі ўдзень праяжджаеш трыста-чатырыста кілямэтраў, за кампутар ужо цяжка сядаць.

*Яўген Валасевіч увесь час у руху, даводзіцца самому рабіць таксама і цяжкую работу. Але яна мусіць быць цікавай, каб аб'ядноўвала і бізнэс і творчасьць.*

*Свайго 14-гадовага сына Яўген называе піянэрам. А завуць меншага Валасевіча Адамам. І пакуль што ягоны жыцьцёвы шлях ідзе той самай сьцяжынай, па якой некалі ішоў бацька. Адам – парнатавец. Розьніца ў тым, што ўлетку Яўген, сам мянчук, адпраўляе сына на вёску.*

**Валасевіч**: Там няма кампутараў. Там ёсьць мапэды, матацыклы, равары. Целіка таксама няма. І натоўп такіх самых дзяцей. Там нармальна. Падалей ад гораду і кампутарных мазгоў.

## АД «ПАРНАТУ» ДА МАЙСТРОЎНІ

*У Майстроўню трыццаць гадоў таму Яўген прыйшоў з «Парнату», разам з Гэнікам Лойкам, якога звалі Зюня, Андрэем Радзівонавым ды іншымі аднаклясьнікамі.*

**Валасевіч**: Мы прыйшлі разам – Зюня, я, Радзівон, Медзьвядзёў Янка, адна кляса. Амаль усе былі спачатку разам, пасьля ўжо паразьбягаліся.

Мяне тата і мама ў «Парнат» здалі, што называ-

ецца (*сьмяецца*). У камандзіроўкі часта езьдзілі, не было куды падзець. Маці працавала ў Міністэрстве адукацыі, наглядала за раённымі школамі.

*Яўген ня кажа, што «здалі» б туды ня кожнага. У «Парнат» бралі адораных дзяцей. З «Парнату» Яўген выйшаў ня толькі мастаком, але й беларускамоўным чалавекам.*

**Валасевіч**: Гэта са школы, з «Парнату». Ад Сокалава-Кубая ўсё пайшло. Ён выкладаў у нас. Спачатку гістарычную частку, а пасьля моўную. І ўся гэтая кагорта дайшла да Майстроўні. Яна была падрыхтаваная.

Быў замкнёны калектыў. Клясаў было многа, а гэтае кола было практычна адно. Так што склалася шмат, каб гэта ўсё ў адно сышлося.

## САМО САБОЙ

*Можа быць, калі-небудзь мне і ўдасца разгадаць, чаму ўсё сплылося менавіта ў гэтай клясе, а не ў якой іншай ці не ва ўсіх адразу. Я ўжо прыгадваў свой курс на факультэце журналістыкі, дзе вучыліся вядомыя паэты, грамадзкія дзеячы, пісьменьнікі. Буду палову курсу пералічваць, і вы скажаце, што гэтыя імёны вам знаёмыя. Але гэта быў унікальны курс. Гэтаксама як унікальнай была тая парнатаўская кляса, у якой вучыўся Валасевіч. У самай рэчы, яны й сустрэліся і аб'ядналіся ў Майстроўні, але не ў «Парнаце» і не на факультэце журналістыкі, а на філфаку, дзе была ўжо свая група студэнтаў, гатовых да аб'яднаньня, і дзе вучыўся Вінцук Вячорка.*

*З гледзішча лёгікі, прычынаў і наступстваў тое, пра што я распавёў, было ланцужком выпадковасьцяў. Усё сталася само.*

**Валасевіч**: Сябры мае ўсе з Майстроўні. Зь сяб-



Купальле ў Вязынцы. 4 ліпеня 1982 году. Яўген Валасевіч і Вераніка Надтачэева. На заднім пляне Ігар Марачкін

рамі зьбіраемся, успамінаем, песьні сьпяваем. У кола маіх сяброў уваходзяць Істомін і Міклашэвіч.

*Уявіць сабе, што ў ягоным жыцьці не было Майстроўні, Яўген Валасевіч ня можа. Сапраўды, нават мэханічна – ці сталі б на ўсё жыцьцё найлепшымі*

*сябрамі дызайнэра Валасевіча фізык Міклашэвіч і лінгвіст Істомін? І ці зьбіраліся б яны разам і ці сьпявалі б супольныя, трыццаць гадоў таму засвоеныя песьні?*

**Валасевіч**: У мяне былі яшчэ свае зацікаўленасьці. Але Майстроўня, відаць, – гэта асноўная калектыўная падзея маладосьці. Я быў чалавек актыўны, займаўся і турызмам, і спортам. Але Майстроўняй найбольш. Непараўнальна. Гэта ж асяродзьдзе, у якім ты жывеш.

## МЭДАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

*У Майстроўні Яўген быў унівэрсальным удзельнікам, бо рабіў кожную патрэбную справу – і калі выпраўляліся займацца зь дзецьмі, і калі ладзілі масавыя сьвяты, і калі сьпявалі.*

**Валасевіч**: Дык жа аснова і была сьпеўная. Нейкія чатыры клясы музычнай адукацыі я меў, можа адтуль крыху нешта атрымлівалася. Хаця голасу не было.

*Але ня толькі гэта. Мне ня памятаецца аніводнага масавага сьвята з тых, што ладзіла Майстроўня, на якім не відаць было б Яўгена. Ён – з тых маладых людзей, што складалі аблічча грамады. Але й ня толькі гэта.*

*Яўген першы пачаў да кожнага сьвята рабіць гліняныя мэдалі, якія раздаваліся і майстроўцам, і публіцы. Пазьней таксама рабіў мэдалі Алесь Костка. Калі-небудзь зьбярэм поўную калекцыю майстроўскіх мэдалёў, і атрымаецца нешта неверагоднае – пачаткі найноўшага беларускага руху, адлюстраваныя ў гліне.*

**Валасевіч**: Я ўвогуле зацікавіўся мэдалямі, а пад гэта пачаў і да сьвятаў рабіць. Я ў інстытуце гэтым

займаўся. Хобі ў мяне было – з гліны ляпіць, хоць я і дызайнэр.

Мэдаль – гэта памяць. Калі сьвята праходзіць, ва ўсіх застаецца нешта. А пасьля... Вось зараз можна паглядзець на мэдалі і ўспомніць, пад што яны рабіліся і што было на гэтых сьвятах.

*На кожным мэдалі, апроч малюнку, ёсьць назва сьвята і дата, калі яно праводзілася. Разглядаючы здымкі майстроўскіх сьвятаў, вы заўважыце на грудзёх майстроўцаў гэтыя самыя мэдалі, кожнага разу іншыя.*

**Валасевіч**: Я думаю, што цудам Майстроўня не была дакладна. Я б не сказаў, што яна была не падрыхтаваная. Проста так усё гэта не магло зьліцца ў адно.

Гэта хутчэй крынічка, якая праз каменьчыкі прабілася, а пасьля нешта мокрае можа й засталося, а крыніцы той ужо няма... Яно ўсё з намі, але цяпер гэта ўжо іншае.

Піянэр мне сказаў: якое сьвята можа быць бяз спонсара? А ў Майстроўні спонсара не было. Гэта было сьвята бяз спонсара. А цяпер бяз спонсара, бээрэсэма сьвята не бывае. І сканчаецца гарэлкай, паленьнем гумовых шынаў і ўсё.

*Ці можа сёньня, праз трыццаць гадоў, Майстроўня зладзіць Купальле? Каб гэта не нагадвала закрытую сэкту ці гурток нацыянальнай меншасьці, а так, як гэта было тады, напачатку 1980-х? Адкрыта, на людзі, захоплена?..*

**Валасевіч**: Можам. Чаму не? Мы самі цяпер спонсары. Чаму мы ня можам арганізаваць? Усё можна. Тады былі вольныя, і цяпер больш-менш.

# Марына Лычкоўская



*У Майстроўні мы былі зарыентаваныя на пашырэньне ведаў, на разьвіцьцё культуры, на адкрытасьць. Мы імкнуліся засьцерагаць сваё кола ад антысэмітызму. Наадварот, далучэньне да Майстроўні этнічных небеларусаў толькі віталася і пераконвала нас саміх у прывабнасьці нашай ідэі.*

## НАЗВЫ НАТУРАЛЬНЫЯ І АБРАЗЬЛІВЫЯ

*Тэма жыдоўства магла ўзьнімацца ў Майстроўні хіба што ў зьвязку з самім гэтым словам – жыд. Мы сьцьвярджалі, што «жыд» – спрадвечная ў беларускай мове нэўтральная назва народу, якая стала абразьлівай у выніку русіфікацыі, а мы павінны вяртаць у мову свае спрадвечныя словы.*

*Малады максымалізм выяўляўся ў тым, што*

*паміж нашымі жаданьнямі й рэальнай сытуацыяй у грамадзтве пралягала прорва, і слова «жыд» успрымалася вуліцай як абразьлівае. Гэта добра запомніла Марына Лычкоўская, майстроўка, якая шмат гадоў жыве ў Ізраілі і там сутыкаецца з падобнай праблемай.*

**Марына**: У Ізраілі майстроўскі досьвед дапамагае мне ацэньваць некаторыя падзеі інакш, чым тым, хто такога досьведу ня меў.

У майстроўскія часы казалі: жыды – гэта ж беларуская назва габрэяў. Але на той момант слова «жыд» успрымалася габрэямі вельмі канкрэтна. І за гэтае слова тыя, хто мог, білі морды. І можа слушна рабілі, бо далёка ня кожны гэтае слова казаў нэўтральна. І я тады яшчэ спрачалася зь некім, казала – ну чаму, калі чалавека перасмыкае ад гэтага слова, нельга яму сказаць «яўрэй»? Ці «габрэй», калі ўжо знайшлі нейкую кампрамісную форму.

А пасьля ў Ізраілі я сутыкнулася з тым, што там таксама тлумачаць усім негабрэям, што «гой» – гэта ня крыўдна, гэта проста назва іншага народу. А ёсьць людзі, якія гэтыя «гой» ці «гойка» ўспрымаюць як абразу. То я ўжо там кажу – што вам, цяжка? Мне дык, калі ласка, кажыце «гойка». Мяне гэта не чапае. Я ведаю гісторыю слова зь філялягічнага боку.

Сытуацыя адзін у адзін.

## СКРЫЖАВАНЬНІ ЛЁСАЎ

Мужа клічуць Аркадзь. Нарадзіўся ў Менску, да ад'езду тут і жыў. Скончаў унівэрсытэт, факультэт радыёфізыкі.

Гісторыя зьвязаная з Майстроўняй. Люда Мату-

севіч, вельмі актыўная, энэргічная – яе і на Майстроўню занесла – ладзіла краязнаўча-гістарычныя вандроўкі. Да вандровак мелі дачыненьне Міклашэвічы. Ігар быў згодны ўзяць мяне ў вандроўку на Каўказ, другой катэгорыі складанасьці. І дзеля гэтага мне трэба было мець вандроўку першай катэгорыі. І Люда прывезла мяне на турыстычны зьлёт, дзе я пазнаёмілася з будучым мужам і ягоным братам, і дамовілася, што яны мяне бяруць у зімовую вандроўку. Люда ішла туды афіцыйным кіраўніком, а кіраўніком сапраўдным, які ведаў мясцовасьць, ішоў Аркадзь.

Ён тады стаў маёй «найлепшай сяброўкай», мая маці казала – ідзі, там «твая сяброўка» на тэлефоне. Ён на той час быў ужо сямейны, вельмі рана ажаніўся першы раз. Такім чынам, я неяк патрапляла ў габрэйскі асяродак. І даведалася, як няпроста быць у гэтым сьвеце габрэем.

У канцы 1980-х – пачатку 1990-х габрэйскі народ пачаў рэзка ехаць у Ізраіль з усіх куткоў Савецкага саюзу. І вось ён паехаў у Ізраіль са сваёй першай сям’ёй, і бацькі ягоныя таксама зьяжджалі, і сям’я першай жонкі. А мы надалей зь ім перапісваліся. І ў нейкі момант высьветлілася, што дачыненьні зь першай жонкай распаліся. І ён мяне запрасіў... Запрасілі мяне спачатку ў госьці, а потым паступіла прапанова, ці не завяршыць нам наша сяброўства шлюбам.

Я доўга думала, мне было балюча прымаць гэтае рашэньне. А зь іншага боку – чым я рызыкую? Бо гэта сапраўды быў вельмі блізкі мне чалавек. Я ня надта веру ў шлюбы зь вялікага і палкага каханьня. Твая сям’я – гэта твая каманда, зь якой ты ідзеш па жыцьці. Гэта чалавек, які цябе падтрымлівае, ты

яго падтрымліваеш, і вам разам добра. Тое, што грэе, а не пячэ.

Прыехала туды, афармілі шлюб. Атрымалася, што я замуж выйшла турысткаю. Мара жыцьця стаць хатняй гаспадыняй урэшце спраўдзілася.

Працятая сваёй беларускай ідэяй, я вельмі добра разумела ягонае жаданьне жыць у Ізраілі, на зямлі продкаў.

Не, я не габрэйская жонка, я беларуская жонка. Мне сапраўды было цяжка пакінуць Беларусь. Выбар зроблены на карысьць сям'і, але тое нікуды не падзелася. І сябры і сваякі. Калі давялося адмовіцца ад грамадзянства, таксама было балюча. Радзіма не дазваляе табе застацца сваім грамадзянінам. Ізраіль таксама не ад добрага жыцьця прымае ўсе гэтыя законы, калі ён мусіць абараняць габрэйскасьць сваёй дзяржавы сярод арабскіх краінаў, якія хацелі б яшчэ й гэтую зямлю пад сябе падабраць.

Калі лічыць, што я таксама кавалачак Беларусі, то Беларусь зь мяне нікуды не падзелася.

*Кожны прыезд у Беларусь Марына зь сямейнікамі наведваюць магілы сваякоў і ходзяць у тэатры. Сёлета за месяц паглядзелі больш за дваццаць спэктакляў. Марына бясконца фатаграфуе. Імкнецца назапасіць чым болей уражаньняў, бо ў Ізраілі беларускага жыцьця як такога няма.*

## БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НЯМА

**Марына**: Ізраіль – спэцыфічная краіна. Для габрэяў гэта не эміграцыя, гэта рэпатрыяцыя. Яны вярнуліся на сваю гістарычную радзіму. Каб нарэшце мець зямлю, дзе ім ніхто ня тыцне, што ты жыдоўская морда. Таму там беларус можа апы-

нуцца, як я, напрыклад. І габрэйская супольнасьць гэтага ня ўхваліць, бо міжнацыянальныя шлюбы там не вітаюцца, яны нават тут не вітаюцца.

Гаварыць пра нейкае беларускае жыцьцё ў Ізраілі – трошкі сьмешна.

## ГІСТОРЫЯ РОДУ

*Перад адʼездам Марына працавала ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук, а перад тым вучылася на філфаку, а яшчэ раней гадавалася то ў Менску, то на Палесьсі...*

**Марына**: Я нарадзілася ў Гомельскай вобласьці. Хаця бацькі жылі на той час пад Менскам, але маці хацела, каб я нарадзілася ў ейнай вёсцы. І ехала туды нараджаць мяне па веснавой бездаражы. І нарадзілася я ў Камарыне, гэта недалёка ад Чарнобыльскай зоны.

Кожнае лета я праводзіла там, на мяжы з Украінай. Цяпер туды пускаюць на Радуніцу, каб людзі прывялі ў парадак магілы. Дзесяць гадоў таму, яшчэ мама была жывая, мы езьдзілі туды, якраз Радуніца пападала. Такім чынам маё дзіця пабачыла Чарнобыльскую зону і хату сваёй прабабкі.

Увогуле сумная гісторыя. У мяне стрыечная сястра, родная сястра Валодзі Волкава, жыла ў Прыпяці, якая абслугоўвала Чарнобыльскую станцыю, дык мы даведаліся пра аварыю, калі ўранку ў нас раздаўся званок. Стаіць мая сястра ў тапачках, у чым былі беглі, яны яшчэ бачылі гэтага грыба. Мы ведалі раней за іншых, што там адбылося.

Бацька мой з Узды, зямляк Крапівы. А маці карані з-пад Полацку, з Захарнічаў. Я была на той радзіме пару разоў да адʼезду, а пасьля ўжо не

даяжджалі туды. Так што тры кропкі ў Беларусі – Полаччына, Гомельшчына і Меншчына.

Бацька ў Маскве скончыў МГУ, вучыўся на геафізыка. А маці ў Кіеве геалягічную адукацыю атрымлівала.

А пазнаёміліся як. Так здарылася, што ў маці і ў бацькі памерлі іхныя ба́цькі. Я ніводнага дзеда свайго ня бачыла. Адзін быў дырэктарам саўгасу, а другі быў заслужаны настаўнік Беларусі. Абодва памерлі ад сэрца. Адзін і другі не прачнуўся. Перапрацаваліся. Трэба было падтрымаць мацярок, якія засталіся адны. І такім чынам яны затрымаліся на працы ў Беларусі. І пазнаёміліся.

## БЕЛАРУШЧЫНА

Беларуская мова для мяне была не чужая з маленства. На пяць гадоў мне падарылі дзьве кніжкі, адна зь іх была «Сказки народов СССР», а другая – казкі Ўладзімера Дубоўкі. Таму чытала я як па-расейску, так і па-беларуску з маленства.

Ідэя беларуская – натуральна, гэта Караткевіч. «Хрыстос» мяне проста напавал паклаў. Пасьля былі здабытыя ў бібліятэцы «Каласы», і пасьля ўжо ўсё, што трaплялася.

Да Менску мы жылі ў Калодзішчах, у геафізычным гарадку. І сусед наш Васіль Ульянавіч Протчанка, выкладчык, размаўляў па-беларуску ў жыцьці. Для мяне не было праблемы перайсьці на беларускую мову, калі чалавек размаўляе.

Было дзіўна, калі, як трапіла ў Майстроўню, нехта спытаўся: маўляў, мы цябе ня ведаем, а ты размаўляеш. Адкуль?..



Алесь Істомін і Марына Лычкоўская на Калядах у менскай школе № 108. Канец 1983 году

## У МАЙСТРОЎНІ

*Прыход Марыны ў Майстроўню адбыўся пасьля таго, як яна паступіла на філфак БДУ.*

**Марына**: На «бульбе» пазнаёмілася з Наткай Лазоўскай і з Аленкай Клімовіч. Натка ўжо была ў Майстроўні. І мова ў яе беларуская была не такая, як у вёсцы. І для мяне, калі Натка мяне прывяла на Майстроўню, было – о, гэта людзі, якія ведаюць жывога Караткевіча!

І памятаю, як да Караткевіча хадзілі калядаваць. Ён тады не выходзіў сам, жонка яго выйшла да нас. І нас разганялі. Гэта была зіма з 1982 на 1983 год.

*У Майстроўні Марына сьпявала, брала ўдзел у*

*рэпэтыцыях «Лысай сьпявачкі», а таксама занатоўвала песьні ды імпрэзы.*

**Марына**: Нататкі я рабіла вельмі ашчадна, называлася падзея, дата і час. У мяне быў сшытак зь песьнямі. Я, мусіць, адзіная запісвала ў сшытак усе песьні, што ў Майстроўні сьпявалі.

*Давялося Марыне паўдзельнічаць і ў першым пікеце пратэсту супраць разбурэньня будынку старога менскага тэатру.*

**Марына**: Былі сьпеўкі і прайшла чутка, што руйнуюць. Былі людзі, якія пайшлі, былі, якія не пайшлі. Былі, што праходзілі міма адводзячы вочы, таксама майстроўцы. Мае сябры пайшлі туды. І я мушу быць зь імі. І калі бяруць у мянтоўку, дык усіх разам. Здраджваць нельга.

*Калі Марына прыйшла ў Майстроўню, тая ўжо разраслася і пачала разгаліноўвацца ды падзяляцца па розных больш вузкіх інтарэсах.*

**Марына**: У мяне таксама сваё адгалінаваньне зьявілася. Я выйшла на турыстаў, на габрэйскае кола. У выніку ў мяне атрымаўся беларуска-габрэйскі шлюб, з нашым беларуска-габрэйскім шчасьцем. Бо сытуацыі шмат у чым падобныя. З той розьніцай, што беларуса кожны рады асыміляваць і зрабіць небеларусам. А габрэяў наадварот: часам і хацеў бы асымілявацца, але яму не дадуць.

*Пасьля Майстроўні Марына сьпявала ў суполцы «Дзяньніца», хадзіла на «Талаку». А маладзёвы рух тымчасам якраз пачаў імкліва палітызавацца.*

**Марына**: Я ад палітыкі заўсёды старалася трымацца як далей. Напрыклад, пакуль «Талака» хадзіла на суботнікі па помніках, яна мне вельмі нават падабалася. А калі там запахла палітыкай...

# Алесь Шпакоўскі



Здымак Сьвятланы Драздоўскай

*Брат Алеся Шпакоўскага працаваў машыністам на чыгунцы. І калі трыццаць гадоў таму ў Майстроўні шэптам перадавалі показку пра тое, што браты Шпакоўскія, заціятыя антысаветчыкі, зьбіраюцца «ўгнаць паравоз у Штаты», усе разумелі, што ў гэтым жарце толькі доля жарту.*

*Алесь нават з выгляду быў увасабленьнем несавецкага чалавека. Але кожны радок ягонай характарыстыкі быццам пярэчыў таму, што ён такі можа быць у прынцыпе. Смалявіцкі раён, торфараспрацоўкі, электрык на камбінаце – кожны радок выглядаў парадаксальна побач з абліччам героя О.Генры, марамі пра Амэрыку і нейкімі зусім нетутэйшымі манэрамі, рухамі, голасам.*

## ДРАЗДОЎСКІ – ШПАКОЎСКІ

*Барда, філёзафа і антысаветчыка Алеся Шпакоўскага ў Майстроўні ведалі як Алеся Драздоўскага. Пасьля Драздоўскі стаў Шпакоўскім.*

**Шпакоўскі**: Драздоўскі – гэта прозьвішча айчыма майго бацькі. А па каранях, па крыві я Шпакоўскі. Рэальны дзед быў Шпакоўскі. І ён пахаваны там, дзе цяпер ужо і мой бацька ляжыць, у Шып’янах.

*Філёзаф Шпакоўскі за ідэнтычнасьцю разглядаў адказнасьць. Падобныя пошукі ўласнай ідэнтычнасьці адбываліся і па ўсіх іншых кірунках – нацыянальным, сацыяльным, палітычным...*

**Шпакоўскі**: О, для мяне гэта глыбокі і трагічны працэс. Уяві сабе такія матэрыі... Ты жывеш на сьвеце, ты нават складаеш песьні «на русском языке», і цябе паважаюць за гэта. І потым аказваецца, што ўсё гэта павeрхнева.

Мой бацька на сцэне нешта беларускае чытаў, выступаў у самадзейнасьці. Ён быў электрык. Вельмі добры сем’янін. Ён быў такім вось, здаецца, простым чалавекам, але. Як яго другое, сапраўднае дно адкрылася?

У 1944 годзе ён быў у Чырвонай арміі ва Ўсходняй Прусіі ды на палітзанятках заявіў, што Беларусь можа аддзяліцца ад Савецкага саюзу. Да таго ён быў цяжка паранены, служыў у запасным палку. І яго засунулі за гэта ў псыхушку.

І гэта было сказана мне толькі пасьля маіх 21 году, калі я вярнуўся з арміі. Гэта аказалася нашым сямейным сакрэтам. А чаму расказаў? Таму што я стаў дапытвацца: бацька, чаму мы жывем тут, а ня ў Менску? Чаму ты не камуніст?

А мы жылі ў пасёлку Чарніцкі Востраў. Паміж Жодзінам і Смалявічамі.

У 19 гадоў зь ім так зрабілі. Цяпер я разумею, што яго проста псыхалягічна зламалі. Разламалі. Бо ён стаў цішэй вады, ніжэй травы. І мне казаў: ай, ня буду слухаць (хоць часам слухаў) Радыё Свабода і Бі-Бі-Сі. Казаў: мне і так зразумела, што будзе.

Мне – а я ж быў новы на сьвеце – здавалася, як можна пражыць без інфармацыі Бі-Бі-Сі й Радыё Свабода? А для яго гэта было мага. Унутры ён гэта меў, а навонкі ня мог гэта рэалізаваць.

*Але адкуль у электрыка са Смалявіцкага раёну тая несавецкасьць, якая перадасца і сыну?*

## ДЗЯДЗЯ ЯГАНЭС

**Шпакоўскі**: Ягоныя сябры былі немцы павол-скія. І ён сябраваў з адным зь іх, аднагодкам, яны ўсё жыцьцё перапісваліся. І я зь дзядзем Яганэсам сустракаўся, і я сустрэў гэты ясны розум, як у майго бацькі. Але паколькі ў немцаў было тэкставанае жыцьцё, дзядзя Яганэс змог мне шмат расказаць, дапоўніць тое, што бацька ня мог. І тое, што ён стаў такім, напэўна ідзе ад таго, што ў яго былі найлеп-шыя сябры дзядзя Яганэс Файт, яшчэ Калінгеры былі, іншыя прозьвішчы – у Шып’янах. У нашых прыгожых Шып’янах, дзе быў вялікі панскі парк, які цяпер чэзьне без дагляду.

Якім чынам яны папалі з Паволжа на Смалявіч-чыну, я ня ведаю. І яны проста побач жылі-былі, суседзі. І ён толькі зь імі сябраваў і быў у нейкай ступені часткаю іхнай сям’і. Ён прыходзіў да іх, і яны яго частавалі. А ён быў зь вялікай сям’і, часам бываў галодны. Яму было хараша з гэтымі культур-нымі людзьмі, і ён адчуваў сябе зь імі сваім.

## БЕЛАРУСКАЯ ШЛЯХОТНАСЬЦЬ

А яшчэ мне казалі, што нашыя нейкія продкі былі... гэта называлася «ўваходзіць у пакоі». Гэта значыць, былі сябрамі нейкіх паноў ці каго там. Нейкая была шляхотнасьць. І гэтае пачуцьцё шляхотнасьці я потым сустракаю, дзякуй Богу, у бальшыні нашых беларусаў. І калі прыяжджаеш на Захад, гэта толькі ўмацоўваецца. Гэта ня проста нейкая там славянская ці неславянская нацыя, а проста прыгожая нацыя беларусаў. Расстралялі сотні нацыянальных пісьменьнікаў. І таму гэтая нетэкставаная шляхотнасьць была неўсьвядомленая, але яна прысутнічала ў маёй сям'і.

*Калі вальнадумства Алесь пераняў ад бацькі, дык філязофскі склад розуму ў яго, хутчэй за ўсё, ад маці.*

**Шпакоўскі**: Як яе сёстры кажуць, маці была самая мудрая сярод іх.

Якраз учора я праводзіў сваіх дзьвюх сясьцёр адсюль, з Бэльгіі, у Беларусь. І вось мы знаходзім, што дачыненьні паміж маці нашай і бацькам, гэты дзіўны містычны здаровы сэнс, ён паміж намі і застаецца. Паміж імі была гэтая дыстанцыя, адлегласьць, здаровы сэнс.

Маці была з бацькам заадно. Старалася па-беларуску размаўляць, хоць сама была недзе з ускрайку беларускага этнасу. Паміж Курскам і Арлом. І дзед казаў, што «ў нас суседняя вёска была Беларусы».

## «СУКІ ВЭРБОВАНЫЯ»

*Хлопчык з гарадзкога пасёлку, які ўзьнік толькі ў трыццатыя гады мінулага стагодзьдзя і куды на торфараспрацоўкі зьяжджалася публіка з усёй Бела-*

*русі, увесь час думае пра Штаты. Але калі ўлічыць, што ўся гэтая прыежджая публіка называла свой Чарніцкі Востраў «вольным горадам» і сама была спрэс мігрантамі, усё становіцца не такім ужо парадаксальным.*

**Шпакоўскі**: У пасёлку нашым быў збор усёй усходняй Беларусі, ад Палесься да Віцебскай вобласьці. І была супярэчнасьць – хто мы? У нас усе размаўлялі па-беларуску.

Торфараспрацоўкі. Наш пасёлак быў галаўным прадпрыемствам у сыстэме пасёлкаў у Жодзінска-Чэрвеньска-вялікім рэгіёне. Тут быў гарадзкі пасёлак, так бы мовіць, сталіца, торфапрадпрыемства «Чырвоны сьцяг». І суседнія вёскі, а гэта Пліса, тыя ж Шып'яны, Студзёнка, нас называлі «сукі вэрбаваныя». Як гэта ні сумна. За што? За тое, што людзі зьехаліся.

*У такіх «бескаранёвых» сытуацыях, бывае, жаданьне адшукаць сваю ідэнтычнасьць абвастраецца. У падобных абставінах і ў тыя ж часы ў новазаселеным Наваполацку, а зусім не ў суседнім старажытным Полацку, нараджаюцца адразу некалькі беларускіх літаратараў, у творчасьці якіх тэма нацыянальнае спадчыны зойме першае месца.*

## БЕЛАРУШЧЫНА

**Шпакоўскі**: Я пачаў пісаць песьні, калі мне было 16-17 гадоў, у тэхнікуме вучыўся. І першыя песьні на расейскай, а хочацца на роднай, а ня ўмееш, няма соцыюму. Калі я сустрэў наша беларускае асяродзьдзе ў выглядзе Майстроўні, тады мая беларушчына стала на месца.

Я працаваў электрыкам. У Савецкім саюзе мне

было магчыма маральна і падабалася быць болей свабодным – працаваць электрыкам.

*Паэту або філёзафу або барду даводзілася выбіраць паміж немастацкіх прафэсіяў, і ці ня самай індывідуальнай і вольнай аказвалася прафэсія электрыка. З электрыкаў выйшлі паэты Галубовіч і Мінкін... А яшчэ Лех Валэнса...*

**Шпакоўскі**: І вось я працаваў электрыкам на хлебакамбінаце на вуліцы Сьлясарнай у Менску. І дырэктар, спадар Арыненка, украінец, кажа: слухай, што ты навокал размаўляеш па-беларуску, а на працы па-расейску? Мой брат ва Ўкраіне такі самы нацыяналіст, як і ты. Давай ты і на працы размаўляй па-беларуску. Вы ж хочаце выйграць, вам трэба ўсіх забіраць....

*Зацяты антысаветчык Шпакоўскі таксама ж некалі быў піянэрам і камсамольцам...*

## ЧУЖЫ СЯРОД СВАІХ

**Шпакоўскі**: Я нават быў кандыдатам у члены партыі. З-за чаго? З-за таго, што я быў правільны. А папросту шляхотны.

Пасьля арміі цётка кажа: прыяжджай у Вільню жыць. Маці ўжо не было. І я паехаў. Працаваў на заводзе радыётэхнічных прыладаў на вуліцы Шаўчэнкі.

І я дзяліўся сваімі думкамі: маўляў, камсамол павінен такія мерапрыемствы рабіць, каб было цікава, і тады маладыя людзі будуць ісьці, і гэтак далей. Натуральна, мяне заўважылі. І прызначылі... я працаваў у Кастрычніцкім райкаме камсамолу гораду Вільні трэцім сакратаром.

*І пры гэтым сьпяліў у грудзях «гадзюку» антысаветызму...*

**Шпакоўскі**: Гэта ня я сьпяліў. Гэта ўва мне прабівалася сапраўдная карціна. І я настолькі маральна вырас, што стаў чужым сярод сваіх, сваім сярод чужых. І сышоў.

Я сваёй душой зьмерыў усю іхную дваістасьць. Я быў на сходах, дзе чуў гэтае глупства, амбіцыі, я карыстаўся гэтымі льготамі... чэскае піва, асобыя крамы і г.д. І вярнуўся ў Беларусь. Я ўжо меў у сабе спартыўную злосьць на беларушчыну. Мая адказнасьць ужо была на парадкі вышэй, чым да таго.

*Пра сваю «правільнасьць» распавядалі й іншыя майстроўцы. Як яны правільна думалі, паводзіліся, і гэта патроху штурхала іх па кар'ернай лесьвіцы, аж пакуль не здаралася нешта незразумелае. Каб ісьці далей, ім трэба было адмовіцца ад свае правільнасьці і прыняць супрацьлеглыя правілы гульні. Ім адкрываліся тайны сыстэмы зь яе цынізмам, двухаблічнасьцю і хлусьлівасьцю. Але нашыя «правільныя» былі правільнымі не на словах, а насамрэч. І не маглі стаць іншымі, няправільнымі. У выніку іхная правільнасьць разварочвала іх да сыстэмы роўна на сто восемдзесят градусаў.*

## МАЙСТРОЎНЯ

*У 1978 годзе Шпакоўскі паступае завочна на філязофію ў БДУ. Яму выкладаў Генадзь Грушавы, разам зь ім вучыўся Раман Якаўлеўскі, а паралельна зь ім сканчаў навучаньне Алесь Камоцкі. У Майстроўню Шпакоўскі прыйшоў, будучы электрыкам на хлебакамбінаце і студэнтам-завочнікам на філязофіі.*

**Шпакоўскі**: У Менску ўжо існавала дастатковая колькасьць інфармацыі, і людзі мне сказалі: а, ты нацыяналіст, а вунь твае нацыяналісты зьбіраюцца. І мне сказалі: прыходзь, будзе сьвяткаваньне Янкі

Купалы. Стогадовае. Прыходзь туды й туды. Я прыходжу. Ну, я там і «расплавіўся». Таму што я ўбачыў сам сябе, я ўбачыў свой народ.

Гэта ў Вязынцы было. Тады выступаў спадар старэйшы Марачкін, і ён эзопавай мовай усе нашыя праблемы выкладаў, а КГБ выконвалі сваю працу і запісвалі гэта, павесіўшы торбы на вецьці над нашай кампаніяй.

## «УГНАЦЬ У ШТАТЫ ПАРАВОЗ»

*Алесь хадзіў на працу, на вучобу, на паседжаньні Майстроўні, а думаў найбольш пра гэта – як уцячы за мяжу.*

**Шпакоўскі**: Я хацеў і так зьехаць, і сяк. І хацеў у адпачынак да дзядзі Яганэса, і дзядзя Яганэс мне ўсе выклікі даваў. А мясцовая савецкая адміністрацыя не пускала за мяжу. І я настолькі ўпаў у роспач, што проста напісаў у КГБ: адпусьціце мяне, я ўсё роўна не савецкі чалавек.

20 траўня 1985 году КГБ прыехала на работу, схапілі мяне проста ў рабочым адзеньні, засунулі ў вялікую «Волгу». З бакоў сядзелі два ахоўнікі, сьпераду сядзеў сьледчы Хіжняк Віктар Міхалавіч, які мяне потым сушыў допытамі. За тое, што мы сапраўды плянавалі з маім братам пераплысьці Чорнае мора да Турцыі з дапамогай аквалянгаў і г.д. І праводзілі трэніроўкі, як праплываць пад паверхняй мора.

На паравозе не ўцякалі, нікога страляць не зьбіраліся. Але ўцячы хацелі. У мяне быў сантымэнт. У Віетнаме адзін паляк ваяваў на баку амэрыканцаў, і апошнія свае словы сказаў: калі загіну, прашу прыняць у грамадзянства Штатаў. І загінуў. Вось у мяне былі падобныя адчуваньні.




Паездка ў Кушляны на сядзібу Францішка Багушэвіча. 1984 год.
Зьлева направа: Міхась Казлоўскі, Вінцук Вячорка, Алесь Бяляцкі, Віктар Зубкоў, аўтар, Сяргей Сыс, Вінцэсь Мудроў, Алег Бембель і Кёні Кім, Алесь Шпакоўскі.

*Як і трэба было меркаваць, цягнік да Штатаў не даехаў.*

**Шпакоўскі**: Я апынуўся ў Бэльгіі ў 1999 годзе. Я мог зьехаць у сваю родную, так бы мовіць, Амэрыку, і забыцца на ўсе праблемы. У мяне ж усё наадварот. Я служу сваім праблемам. Карацей, зараз я і не хацеў бы зьяжджаць, хоць па-ранейшаму люблю Амэрыку. Але я лічу, што калі чалавек ведае столькі, колькі я, то ягонае асабістае жыцьцё ўжо няважнае.

## БАРД

*Яшчэ ў Майстроўні Алеся Шпакоўскага ведалі як барда. Быццам у супрацьвагу напорыстаму Сокалаву-Воюшу, песьні Шпакоўскага былі нібы зь неабавязковай праграмы – мэлянхалічныя, абстрактныя, філязофскія. Некаторыя былі ўжо па-беларуску, а адну, яна была па-расейску, я тады ж пераклаў на беларускую мову:*

Я стаміўся, сябры, я зьнямог,
Зьнемагае ад ног парог,
Нават сонца зьняможана йдзе на заход,
На Каляды стамляецца год.

*Як філёзаф Алесь гаварыў у Майстроўні сэнтэнцыямі. Адну я тады запісаў у дзёньнік: «Нашыя людзі ня маюць рэлігійных ідэалаў, таму яны ня вераць у свае абстракцыі». Асабіста мне гэта многае тлумачыць і ў дачыненьнях людзей да Беларусі, да мовы, і ў дачыненьнях міжсобку. Сапраўды, адцягненыя паняткі ня маюць ніякае вагі, калі вагі ў сьвядомасьці ня мае Бог.*

## ЦЯГНІК ВЕРНЕЦЦА Ў ДЭПО

**Шпакоўскі**: Як толькі дапрацоўваю да пэнсіі, я кідаю гэта і працягваю творчасьць. І жыву дзесьці там, дзе – не скажу. Дзе ўжо ня будзе мне пагрозы жыць. Пад Менскам. У Шпакоўшчыне. І тварыць нашу нацыянальную фантазію, якая разьвіваецца ў вечнасьць, у бясконцасьць. Карацей, я мару жыць дома.

# Алена Клімовіч



*Напачатку 1980-х у кожнага з нас была ўнутраная ўстаноўка – прыводзіць у Майстроўню новых людзей. І кожны цягнуў каго мог – аднакурсьнікаў, сяброў, сваякоў... Можна сабе ўявіць, як разрасьліся гэтыя прыватныя асяродкі майстроўцаў за мінулыя трыццаць гадоў і колькі б народу кожны прывёў у Майстроўню сёньня. Зразумела, што сёньня для гэтага ня самы спрыяльны грамадзка-палітычны клімат. Але патэнцыял захоўвае сваю сілу. Незалежна ад таго, дзе жывуць ягоныя носьбіты – у Бэльгіі, у Ізраілі, у Канадзе ці, як Алена Клімовіч, у Каліфорніі.*

## НАТАЛЯ

**Алена**: У мяне як у дзіцячай кніжцы пра Гары Потэра. Калі Потэр ехаў у сваю школу, ён сустрэўся на пэроне з правільным чалавекам. Я паступала на філфак з мэдалём. Мне трэба было здаць адзін іспыт, і я яго здала на выдатна. І вось такіх выдатнікаў сабралі ў групу – памыць вокны. Нас было, мусіць, чалавек дваццаць, і там аказалася дзяўчына, якая размаўляла па-беларуску. Гэта была Ната Лазоўская. І калі мы даведаліся, што яна зь Менску, гэта было вельмі-вельмі незвычайна. І я адразу адчула прыцягненьне, бо мне хацелася зразумець, чаму. Марынка Лычкоўская таксама была. І мы ўтрох пачалі сябраваць. Але мы яшчэ ня ведалі, што Ната ў нейкай Майстроўні, яна не казала.

*У гісторыі Алены Клімовіч зноў узьнікае той самы парадокс – абсалютна правільныя дзяўчаткі-выдатніцы прыходзяць сваім шляхам да абсалютна правільных рэчаў – да сваіх каранёў, да роднае мовы, да патрыятычных пачуцьцяў і самаадукацыі, але ў выніку аказваюцца ў вачах атачэньня абсалютна няправільнымі. Яны й самі ня могуць зразумець, чаму так, бо хада іхных развагаў таксама правільная. Яны занадта добра выхаваныя, каб прымаць цынізм сыстэмы і двухаблічнасьць асяродзьдзя за дадзенасьць. А аказваецца, што бяз гэтага сыстэма і асяродзьдзе не прымаюць іх.*

**Алена**: На «бульбе» Наталя сьпявала беларускія песьні й вучыла ўсю групу. Сьпявалі мы і «Пагоню». Песьняй групы ў нас была «Басота». Сталі пытацца, адкуль яна ведае столькі песень. І калі ўжо вярнуліся на філфак, яна запрасіла мяне й Марынку ў актавую залю філфаку, і там была Ларыса Сімаковіч,

і яна вяла сьпеўкі. Я дагэтуль памятаю тую песьню. Гэта быў кастрычнік 1982 году. І Ларыса настаяла, што мы павінны ведаць восеньскі цыкль песень. А ня толькі сьвяточныя. «А ці выйшла асеньняя тучка з-за цёмнага лесу...» У мяне ёсьць сшытак дома ў Каліфорніі, там усе песьні сабраныя...

Пасьля мы і з Вэрцяй пазнаёміліся і падумалі, што ў іх уся сям'я такая беларускамоўная. У нас Аліна Садоўская таксама вучылася. Гэта не было такім вялікім дзівам, калі мы ўжо ў філфак уліліся. Хаця на філфаку мала людзей размаўляла па-беларуску. Алінка Садоўская казала, што толькі мы ўчатырох. Трошкі больш. Яшчэ быў Алег Дышлевіч, пазьней далучыўся Зьміцер Саўка. І потым яны так ці інакш аказаліся ў Майстроўні. Хтосьці, як Дышлевіч, адзін раз прыйшоў, а Саўка ж актыўна ўдзельнічаў.

## «ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК»

*У Майстроўні зьбіраліся пераважна менчукі ў другім і першым пакаленьні – гэта была асаблівасьць таго часу. У навакольным грамадзтве такі падзел на «сталых» і «прыежджых» жыхароў сталіцы адчуваўся даволі моцна, бо дзеці ўчорашніх вяскоўцаў былі ўжо амаль зусім «рускія» і пасьпявалі крыху задзіраць насы перад дзецьмі вяскоўцаў сёньняшніх. У Майстроўні такога падзелу не магло быць. Наадварот, там з большым піетэтам ставіліся да раўналеткаў, што былі жывымі носьбітамі традыцыйнай народнай культуры, якая складала для майстроўцаў прадмет культу.*

**Алена**: Я прыехала зь вёскі. Гэта Палесьсе, на Століншчыне, мяжа з Гомельшчынай. Там стварыўся «Тураўскі слоўнік». Там вельмі своеасаблівы

дыялект. І я размаўляла на гэтым дыялекце і вывучала беларускую мову гэтаксама, як і расейскую. Што адна, што другая былі мовамі быццам афіцыйнымі, ня тымі, на якіх размаўляеш у жыцьці.

З аднагодкамі я размаўляла окаючы, скарачаючы прыметнікавыя канчаткі... Як у «Тураўскім слоўніку» апісана. Шмат лексыкі, якой няма ў літаратурнай мове. Беларускую мову я набірала са школы, у мяне мама была настаўніца беларускай мовы. Потым з тэлевізара, з кніжак.

*Самы вялікі ў Беларусі Столінскі раён таму самы вялікі, што большыню ягонае тэрыторыі займаюць агромністыя балаты. Там яшчэ да Чарнобыля здарылася першая ў беларускай гісторыі радыяцыйная катастрофа, там захаваліся архаічныя промыслы, і прырода – сапраўдны рай на зямлі. Адтуль, дарэчы, паходзіць род Вінцука Вячоркі. Там на краі бясконцых лясоў стаіць вялікая вёска Аздамічы.*

**Алена**: Я аздаміцкая. Там рэкі Сцьвіга і Льва. І мы плавалі там зь Міклашэвічамі. Гэта быў 1991 год, мы ў траўні там плавалі на байдарках, вельмі цікавы паход быў зь Міклямі – зь Ігарам, з Рытай і са Стахам.

*Міклямі майстроўцы называюць Міклашэвічаў.*

**Алена**: Я прыехала ў вялікі горад не каб заваяваць яго, а каб навучыцца. І калі прыйшла ў Майстроўню, убачыла такую групу людзей, кожны – як зорка. Такое сузор’е. Так хацелася вучыцца ад кожнага. І кожны нешта прыносіў і дзяліўся гэтым. Кожны па-свойму быў настолькі багаты... Вось Вінцук, напрыклад, адукаваны, эрудаваны, столькі моваў ведае. Гэнік бясконца прыносіў песьні на ўсіх мовах, якія толькі можна прыдумаць, на эспэранта сьпяваў. Шупа – таксама ўсе мовы, прычым на такім

глыбокім узроўні. Істомін прынёс некалькі песень, кожны прыносіў ня толькі песьні...

Харэўскі ўлетку, у 1983 годзе, калі мы ўжо ў палац Белсаўпрафу перайшлі, зрабіў даклад. І гэты даклад мяне закрануў моцна. Ён даказаў, што Беларусь можа быць самастойнай краінай. Нават думкі, што Савецкі саюз можа разваліцца і краіны могуць існаваць асобна, не было. А ён лічбачкі склаў, працэнты прывёў, разгледзеў прамысловасьць, сельскую гаспадарку... і выснову зрабіў. Гэта было як адкрыцьцё.

*Мне ўяўляецца, што і для самога Сяргея Харэўскага, і для ўсіх астатніх гэта было адкрыцьцё. Ня тое, што Беларусь можа існаваць самастойна, а тое, што пра гэта можна вось так публічна сказаць. Памятаеце правільныя рэчы і правільную хаду думкі ў галовах правільных юнакоў і дзяўчат? Пра тое, што Беларусь самастойная краіна, казала ўся савецкая прапаганда, як і пра тое, што Каліноўскі – наш нацыянальны герой, як і пра тое, што трэба берагчы помнікі культуры. Але самастойнасьць Беларусі лягічна натыкалася на патрэбу выхаду яе з СССР. Гераізм Каліноўскага штурхаў да ягоных тэкстаў пра галоўнага ворага – маскаля. А спроба абараніць помнік прывяла майстроўцаў у міліцэйскі пастарунак.*

**Алена**: Пасьля нашага выхаду, калі разбуралі першы беларускі тэатар, мы былі выкліканыя паразмаўляць з кагэбістамі. І яны давалі зразумець, што нас разглядаюць менавіта як сілу, якая разбурае еднасьць Савецкага саюзу. Хаця асабіста ў мяне такіх думак не было, што я нешта разбураю. Цяпер я разумею, што тое стаяньне каля дому, можа, на-

радзіла і Курапаты. Можа і Плошчу яно нарадзіла нават. Усе наступныя падзеі. Яно было першае.

Цяпер у камэнтарах пішуць: вы не сядзелі ў турме, вы ня ведаеце... Я ўвогуле не лічу, што гэта нейкая заслуга ці незаслуга – пасядзець у турме. Але мы адсядзелі сваё. Адну ноч.

## ВЫМУШАНАЕ ЗНАЁМСТВА

*Правільным давалі канчаткова зразумець, чаго можа ім каштаваць іхная правільнасьць.*

**Алена**: Мы здавалі сэсію, праз два дні быў іспыт. Зь філфаку мы былі ўтраёх: Марынка Лычкоўская, Ната Лазоўская і я. І мы вырашылі, што павінны сэсію здаць толькі на выдатна. Калі нас выганяць зь філфаку, гэта будзе не за адзнакі. Толькі па палітычных меркаваньнях.

Размовы з кагэбістамі былі пасьля сэсіі. Я ў той час жыла на кватэры, і прыходзіў міліцыянт, калі мяне не было, і апытваў усіх суседзяў і гаспадыню, хто я такая, як я сябе паводжу. Мне было непрыемна, я думала, што яны будуць і да бацькоў хадзіць. Бацькі ў прынцыпе падтрымлівалі мяне. І я перажывала, што яны пацерпяць. Таму што яны школьныя настаўнікі і «павінны выхоўваць маладое пакаленьне»... Я за бацькоў больш перажывала.

## УСХОДАЗНАЎЦА Ў ЦЫВІЛЬНЫМ

Не, яны ня страшылі. З намі размаўляў цікавы чалавек, сказаў, што скончыў Інстытут усходазнаўства ў Маскве, што ён спэцыяліст па арабскай мове. І ўвесь час як бы паказваў, што ён таксама зь філфаку. Вельмі мякка размаўляў і як

бы папярэджваў па-бацькоўску нас, казаў: не туды, так ня трэба.

У прынцыпе я ня памятаю, каб былі нейкія пагрозы. Адзінае, калі ўдзел у Майстроўні перашкодзіў... У нас заўсёды пасьля чацьвертага курсу група людзей ехала на месяц у Нямеччыну па абмене студэнтаў.

Мы з Марынкай Лычкоўскай былі выдатніцы. Натка была блізкая да гэтага, у яе, па-мойму, чырвоны дыплём. Алінка Садоўская таксама. І канфліктаў з аднакурсьнікамі ў нас ніколі не было. Але ніхто з нас не паехаў. Тады быў на філфаку старшынём парткаму Прыгодзіч. Пасьля я паступіла ў асьпірантуру і на катэдры гісторыі беларускай мовы працавала, ён быў загадчыкам катэдры. Дык ён сказаў, што мы й не маглі паехаць.

*Правільныя дзяўчаты, не пачуваючыся антысаветчыцамі, усё адно былі нядобранадзейныя ў вачах атачэньня.*

*Алена Клімовіч падкрэсьлівае, што не дзеля ідэйных меркаваньняў апынулася ў Амэрыцы. А мне бачыцца, як яе правільнасьць выдатніцы менавіта там урэшце перастала натыкацца на сьцяну падвойнае маралі.*

**Алена**: У кастрычніку будзе 10 гадоў, як мы там. Гэта была эканамічная эміграцыя. Мой муж як бы жартам згуляў у лятарэю Green Card і выгуляў. І знайшоў працу па спэцыяльнасьці, ён праграміст, літаральна праз 20 дзён пасьля таго, як ён ступіў на тую зямлю. І зразумеў, што там у яго лепшыя пэрспэктывы. І мы ўсё ўзважылі і вырашылі, што паедзем туды.

*Пераезд у Амэрыку, вядома ж, каштаваў. І першай каштоўнасьцю, якую давялося пакласьці*

*на шалі вагаў, Алена называе ўлюбёную працу мовазнаўцы на філфаку БДУ. Тут яна пісала кандыдацкую дысэртацыю...*

**Алена**: Я, дарэчы, і цяпер працую настаўніцай, але расейскай мовы. Як гэта ні іранічна гучыць. І кожны раз, калі мы прыяжджаем сюды, сябра майго мужа Юры Зісэр жартуе: ай-яй-яй, беларуская нацыяналістка – і выкладае расейскую мову. А я яму кажу: а я яшчэ й Дастаеўскага люблю.

*У Каліфорніі з Аленай жывуць яе муж і дзьве дачкі.*

**Алена**: Старэйшую завуць Вольга, а малодшую Рута.

Муж загаварыў па-беларуску менавіта ў нашай кампаніі. Ён быў вызвалены ад беларускай мовы ў школе. Але калі мы пажаніліся, то працягвалі сустракацца нашым блізкім колам. Гэта Волкавы, Міклашэвічы, Істаміны, Валасевічы, Віялетка. І яны яго перацягнулі. І ён прыстойна размаўляе па-беларуску.

## СЬВЯТОЧНЫ БЕЛАРУСКІ СТРОЙ

*Калі сёньня ў Менску я сустракаю вясельле, цалкам апранутае ў нацыянальныя строі, а гэта ўжо бывае нярэдка, я згадваю тытанічную працу Міхася Раманюка, які даказаў, што строй – гэта наша, і гэта каштоўнасьць, і згадваю Майстроўню, дзе ў дыскусіях нараджаліся многія звыклыя сёньня рэчы, напрыклад, пра тое, што нацыянальны строй можа быць сьвяточнай вопраткай гарадзкога беларуса.*

**Алена**: Калі быў «Клемэнс», і мы на другі спэктакль усёй Майстроўняй пайшлі разам, узьнік такі матыў. Ці прыйшлі б вы ў тэатар у нацыянальным



Алена Клімовіч і Марына Лычкоўская. Купальле. 1984 год

строі як у сьвяточным адзеньні? І ўсе жыва абмяркоўвалі гэта.

*У тэатар ці на вясельле. Каб адказаць станоўча, патрэбная была эвалюцыя ўяўленьняў. Такім эвалюцыйным крокам стала вясельле майстроўцаў Ірыны й Ігара Марачкіных, першае ў Менску вясельле ў нацыянальных строях. Далей стала прасьцей.*

**Алена**: Калі Югася замуж выходзіла, яна была ў звычайнай белай сукенцы, але ўсе вакол яе былі ў строях. Міклашэвіч быў сватам, ён быў у кашулі і перавязаны ручніком. Я ў яе была сьведкай, і ў мяне была стылізацыя. Вітка была ў поўным строі. Мы дамовіліся, што ў Югасі будзе сьвята ў строях.

Я памятаю імпрэзы, якія Майстроўня ладзіла, абсалютна разнаплянавыя. Гэта былі сьвяты. Вечарына Каліноўскага ў палацы Белсаўпрафу. Мы змагаліся за першую беларускую школу: хадзілі па дамах і зьбіралі подпісы...

Ніхто з майстроўцаў, каго я ведаю, ня стаў нейкім п'яніцам ці дрэнным чалавекам. Усе рэалізаваліся. І ў кожнага дзеці, якія таксама нармальныя людзі, нармальныя грамадзяне, якія ведаюць, хто яны, і годнасьць маюць.

# Сяржук Цімохаў



*Напачатку 1980-х яшчэ гаварыла па-беларуску вёска, але на сталіцу тое не ўплывала, бо вёска рабіла гэта натуральна, несьвядома і была ў моўным сэнсе асуджаная. А ў Менску гаварэньне па-беларуску міжволі вынікала з жаданьня справядлівасьці і выглядала як пратэст супраць афіцыйнай палітыкі, скіраванай на заняпад беларушчыны. Атрымалася, што найбольш трывалае і гатовае для такога пратэсту прафэсійнае асяродзьдзе – гэта мастакі.*

## МАСТАКІ-ФІЛЁЛЯГІ

*Чаму ня тыя, для каго мова – прафэсія, а жывапісцы, графікі, скульптары, часьцяком ня самыя гаваркія ды красамоўныя людзі? Адно можна ска-*

*заць, што гэта беларуская заканамернасьць. З мастакоўскага дбаньня пра мову і ўзьнікла трыццаць гадоў таму Беларуская Майстроўня. Гэта было ўжо новае пакаленьне мастакоў, яшчэ студэнтаў, якія прыйшлі не куды-небудзь, а на філфак БДУ. Захоўваецца гэтая заканамернасьць і сёньня ў Беларускім саюзе мастакоў, дзе майстровец Сяржук Цімохаў намесьнік старшыні.*

**Цімохаў**: Майстроўня ўзгадваецца. Па-першае, таму што гэта юнацтва, калі ўсе пэрспэктывы наперадзе. Па-другое, тое, што рабілася ў Майстроўні, – гэта своеасаблівая гульня, можа быць, месцамі і адпачынак. А справа пры тым была зробленая вялікая. Быў закладзены падмурак нацыянальных традыцыяў, найперш культурных.

Мяне найбольш цікавіла праблема мовы. Я ведаў, што калі 10-20 чалавек створаць сьпеўны гурток, прасьпяваюць песьні ці пакалядуюць, пэўна што вялікіх зьменаў не адбудзецца. Але я для сябе такое правіла вынайшаў, што калі нашай нацыянальнай мове наканавана загінуць, я пастараюся, каб гэта было не па маёй віне. Я буду размаўляць па-беларуску. Каб не гняло мяне потым, што я нешта мог зрабіць, але не зрабіў.

*Сяржук Цімохаў у Менск прыехаў зь вёскі Кротаў (гэта Калінкавіцкі раён) і паступіў у мастацкую вучэльню.*

**Цімохаў**: У вёсцы я скончыў беларускую васьмігадовую школу. Быў выбар: ці ісьці ў суседнюю вёску вучыцца, дзявятая, дзясятая кляса. Ці ехаць у белы сьвет, паступаць і рупіцца пра сваю будучыню.

І калі я прыехаў у Менск, мне давялося практычна асвойваць расейскую мову. Каб ня быць

белай варонай. У мяне быў страшэнны акцэнт. Я ўрэшце гэты акцэнт адшліфаваў і потым, калі казаў, што я вучыўся ў беларускай школе, зьдзіўляліся, таму што акцэнт быў сярэднестатыстычны гарадзкі. Але ўнутры ў мяне сядзела, што – не, гэта не маё. Мне прасьцей думаць, і мэлядычнасьць мовы, і пабудова сказа, і пісьмова... Граматыка расейская – гэта была проста катастрофа.

Было інстынктыўнае разуменьне, што беларуская мова – гэта наша. Хоць я не ўсьведамляў, наколькі гэта істотна для дзяржавы, для краіны, для грамадзтва, для культуры. Потым, калі ў вучэльні сутыкнуўся зь сябрамі, з Генадзем Мацурам, з Генадзем Драздовым, мы пачалі задумвацца пра гісторыю, пра спадчыну. У нас выкладаў Маркавец. Мы даведаліся, што ёсьць такія людзі, якія ладзяць выставы... Ну а на першых курсах тады мастацкага інстытуту мы састыкаваліся з унівэрсытэтам, і тады стварылася Майстроўня. Аб'яднալі намаганьні – мастакі, журналісты, лінгвісты, усе разам.

### ІВАН ЛУЦКЕВІЧ І «ЦАР МАКСІМІЛЯН»

*Мастакі-студэнты, якія ўваходзілі ў Майстроўню, ужо тады апыналіся на самым версе мастацкага жыцьця краіны. Дзякуючы старэйшым мастакам, якія ладзілі выставы гістарычнай тэматыкі і запрашалі да ўдзелу маладзейшых. Напэўна ж, таленты былі розныя, але ў тыя часы ўсе нашыя майстроўскія мастакі ўспрымаліся як абсалютна адораныя прафэсіяналы. Здавалася, што няма такіх задачаў, якіх бы яны ня выканалі.*

*Сяржук Цімохаў быў у гэтым сэнсе вельмі заўважны. Ён ня толькі сьпяваў ды танчыў, ня толькі выконваў ролю казы на Калядах, але паказваў свае*

*жывапісныя творы адпаведнай тэматыкі. Мне запомніўся партрэт Івана Луцкевіча, напісаны да стагодзьдзя героя.*

*А яшчэ Сяржук Цімохаў рабіў дэкарацыі да майстроўскай пастаноўкі «Цара Максіміляна».*

**Цімохаў**: Я займаўся аздабленьнем сцэны. Дэкарацыі выконваў. Я ж манумэнталіст, гэта мой кірунак быў.

## НОВАЕ МАЙСТРОЎСКАЕ ВЯСЕЛЬЛЕ

Мы з Рытай, Рыбачок яна была тады, вучылася ў Львоўскім паліграфічным інстытуце, пазнаёміліся праз Майстроўню. Ладзіліся купальскія сьвяты тут у Менску, а яна прыехала на практыку ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». А яе аднаклясьнікі былі з «Парнату» – Лойка, Радзівонаў, Кныш, Медзьвядзёў...

Мы сустрэліся так – якраз былі скокі ў парку Купалы каля помніку. Потым пазнаёміліся бліжэй. Вясельле было на маёй радзіме, у вёсцы. Сябры прыехалі. Усе таксоўкі з Калінкавічаў ішлі ў адным кірунку – вёска Кротаў. Ужо ўсе на вакзале ведалі. І сапраўды, прыехаў цэлы шэраг – з Майстроўні, мастакоў. Былі і скокі зь «медзьвядзём», прыйшла ўся вёска дзівіцца на гэты цуд. Маладыя людзі сьпявалі народныя песьні, танчылі, вадзілі карагод. Тыя, хто з Майстроўні, выконвалі свае абрады, але вясельле ішло паводле звычайнага, вясковага сцэнара. І адно другое дапаўняла.

*Скончыліся вучоба й Майстроўня, пачаліся выпрабаваньні. Спачатку Цімохавы пераехалі ў Гомель, а потым на доўгія гады пасяліліся ў Полацку. З самых вяршыняў мастацкага жыцьця краіны Сяржук патрапіў на зямлю, дзе цуды юнацтва ўжо*



Майстроўцы на другі дзень вясельля Цімохавых у вёсцы Кротаве Калінкавіцкага раёну, 1984 год. Алена Каравай, Марына Война, Тацяна Храмянкова, Рыта Цімохава, Сяржук Цімохаў, Юля Лыскова

*не адбываліся самі сабою, а новыя цуды – ці будуць яны здарацца? – залежалі толькі ад цябе. У Полацку давялося шмат разважаць пра гэта, пра сваё месца ў культуры, пра розьніцу паміж сталіцай і правінцыяй. Няўжо й сапраўды калі цябе як творцы няма ў Менску, дык няма і наагул?*

## СТАЛІЦА / ПРАВІНЦЫЯ

**Цімохаў**: Існуе думка, што ў творчасьці няма правінцыі. Гэта так, але гледзячы на якой стадыі творчасьці. Калі чалавек, не заявіўшы пра сябе,

жыве ў правінцыі, пачуцьцё правінцыі можа прысутнічаць, і вырвацца з гэтай катэгорыі значна складаней як для сябе, так і для іншых: ты так выглядаеш. У правінцыі іншыя праблемы, пэўнае кола людзей, зь якімі ты кантактуеш. І людзі, якія прыйдуць на тваю выставу, могуць цябе проста не зразумець. І гэтая выстава можа па-іншаму ўспрымацца нават у Менску, Бэрліне, ці Варшаве, ці Маскве. Але калі ты становісься знаным, калі выпрацоўваеш свой стыль, сваё крэда творчае і жыцьцёвае, тады можаш ехаць у любую вёску працаваць. І ўжо не выпадаеш з кантэксту. Таму што ты запатрабаваны. Галоўнае, каб ты працаваў.

*Інакш кажучы, трэба быць вядомым у культуры і падтрымліваць гэтую сваю вядомасьць. Сяржук Цімохаў вядомым стаў яшчэ ў майстроўскія часы. А вось станаўленьне творцы супала з патрэбаю падтрымліваць сваю вядомасьць.*

**Цімохаў**: Полацак для мяне стварыў такі асяродак, дзе я адчуў, што я хачу рабіць у творчасьці. Гэта наша тэматыка дахрысьціянская, паганская, якая мяне вабіць да сёньняшняга дня. Ня ў лоб, у лоб я ня йду. Я проста захапляюся той філязофіяй.

А чаму пераехаў? Жыцьцё прымусіла. Па-першае, падрасьлі дзеці, дачка вырасла, і ёй трэба было паступаць сюды, у Менск. (Дачку завуць Вальжына, а сына Глеб.) Па-другое, жонцы паўстала неабходнасьць, таму што езьдзіць амаль штотыдзень у Менск у выдавецкай справе было цяжка.

## НАТУРАЛЬНАЯ БЕЛАРУШЧЫНА

*Беларушчына не была для Сержука Цімохава азарэньнем, як тое выглядала для многіх майстроўцаў – дзяцей гораду. Тое, што было натуральна ў*

*вёсцы і для яго асобы, ён у горадзе захаваў і сьцьвердзіў. На жаль, гэта зусім нетыповая гісторыя. Адкуль Цімохаў такі незвычайны ўзяўся, невядома.*

**Цімохаў**: Бацькі – беларусы, сяляне, маці зусім непісьменная, бацька шафёр быў. Простыя людзі. Мяне што зьдзіўляе. Бываюць людзі непісьменныя, неадукаваныя, але далікатнасьць, такт, разуменьне пачуцьця паводзінаў зь іншымі людзьмі на такім высокім узроўні, чаго часта не хапае людзям начытаным. Пра літаратуру, мастацтва могуць распавядаць, а элемэнтарных рэчаў не выконваюць. Вось што парадаксальна.

Нельга напінаць і гнаць штучна людзей, што давай, мусіш размаўляць па-беларуску. Але ёсьць другі момант. Ёсьць законы. Законы, якімі можна далікатна, спакваля павярнуць хаду падзеяў. Я неаднойчы пераконваўся, што беларусы – вельмі законапаслухмяная нацыя. У крыві сядзіць, што раз ёсьць закон, значыць яго трэба выконваць. І менавіта законам мы можам вярнуць нашу гісторыю, вярнуць нашу мову, вярнуць Беларусь на свае харошыя колы.

*Словам, нестае толькі адпаведнага закону. Тое, што трыццаць гадоў таму выглядала амаль неверагодным, сёньня выглядае рэальным. Напэўна ў зьмене гэтага стаўленьня немалую ролю адыгралі і Майстроўня, і майстроўцы, і канкрэтна Сяржук Цімохаў.*

**Цімохаў**: Маладым людзям таго часу было цяжка пазіраць на тое, што адбывалася з нашай культурай. Мірскі замак быў у заняпадзе, і там здарыўся пажар. Мы студэнтамі зрабілі насьценную газэту і павесілі яе ў інстытуце. Фатаздымкі пажару... Трэба было завастрыць праблему. Бо ў той час помнікі

разбураліся і – хай сабе разбураюцца. Цяпер мы абураемся, што нешта ня так робіцца ў Нясьвіскім замку, у Мірскім, але гэта ўжо дэталі. Але ёсьць тэндэнцыя, каб аднавіць гэта ўсё.

Тады Ігар Чарняўскі быў з намі ў знаёмстве і з нагоды гэтага здарэньня ў Мірскім замку мы газэту рабілі разам.

Майстроўня мела працяг. Парасткі пачалі пускацца. Раней практычна ўсіх людзей, якія карысталіся мовай, я ведаў. Калі ня ў твар, дык з прозьвішчаў. Праз гадоў якіх пяць ці дзесяць сустракаў людзей, якія размаўлялі па-беларуску, а я іх ня ведаў... І гэта так цешыла душу! Гэта потым зноў заняпад пачаўся...

# Тацяна Козік (Храмянкова)



Здымак Яраслава Ванюкевіча

*Майстроўня існавала насуперак сыстэме, падмануўшы на нейкі час пільнасьць уладаў, спэцслужбаў і цэнзуры. Што там, маўляў, культура нейкая, Гуканьне Вясны, песенькі, мова... Але раптам стала зразумела, што гэта ў нас і ёсьць – палітыка. Бо яно робіць нас прысутнымі, заўважнымі, суб'ектамі. Майстроўня адчувала на сабе ціск як звонку, так і знутры. Ледзь не галоўнай тэмай кулюараў тут паступова станавіўся перасьлед з боку КГБ. Каго цягалі, каго не цягалі і чаму, хто каго «заклаў». «Закладаць» было за што. Рызыкоўныя выказваньні, забароненая літаратура, заклікі да нефармальных дзеяньняў – усяго гэтага ў Майстроўні хапала.*

## КРЫЎДА І ПРАЎДА

*Псыхалягічна атмасфэра стала б крызіснай, калі б у аснове аб'яднаньня не ляжалі ідэалы зусім чыстыя і вечныя. Але «стромапацыя» рабіла сваю справу. Вось як запомніла гэтую сытуацыю мастачка Таццяна Козік, тады – Храмянкова.*

**Таццяна**: Не асабліва нам што даручалі. Даручалі, можа быць, Гену Лойку ці яшчэ каму. А астатніх – нас ня вельмі заўважалі. Можа нам так здавалася. Шчыра кажучы, было крыўдна на Майстроўню пасьля таго, як Купальле зрабілі асобна. Я кажу: Гена, дык дзе мы сустракаемся? А ён кажа: ну, гэта не для ўсіх. І мы чамусьці не былі ўсе. Што Лена Каравай, што я... Нехта некага заклаў у КГБ. І таму рабілі асобна. Мы зразумелі гэта так – бо гэта не свае, ім нельга давяраць. Ну, і пасьля гэтага... Я вольны чалавек, я не люблю, калі са мной так.

*Маладыя людзі, якія стваралі беларускі рух, былі не анёламі, а звычайнымі людзьмі. Іншая рэч, што ў майстроўскім полі тушавалася ўсё, што магло замінаць адзінству. Ціск звонку і выкліканая ім «стромапацыя» правакавалі раскол. Але Майстроўня не раскалолася, яна падзялілася па кірунках. Аб'яднаўчая сіла ідэалаў беларушчыны аказалася мацнейшай, чым той «чалавечы фактар», на які толькі й магло разьлічваць КГБ.*

*У Таццяны Козік на шалях яе майстроўскага досьведу пераважвае песьня.*

## ШЧАСЬЦЕ СЬПЯВАЦЬ

**Таццяна**: Я вельмі ўдзячная Ларысе Сімаковіч. Гэта проста супэрасоба, самая прыгожая жанчына для мяне. Калі б я была багатай, я б зрабіла ўсё, што

яна хоча, што ёй трэба для нармальнага жыцьця, для здароўя. Яна як была цуд, такая і засталася.

Гэта асоба, якая ўсіх аб'яднала і навучыла сьпяваць. Магла заўважыць у кожным тое, што ў ім ёсьць каштоўнага. Таму для мяне гэта была галоўная асоба, дзеля каго я хадзіла на Майстроўню.

*Напачатку 1980-х у афіцыйнай культуры фальклёр прысутнічаў толькі ў сувэнірным выглядзе, аўтэнтычныя сьпевы цікавілі хіба што спэцыялістаў, а ўжо сучасныя апрацоўкі народных песень і ўвогуле лічыліся навацыяй неверагоднай. Кампазытарка Ларыса Сімаковіч была піянэркаю, якой зусім няпроста было існаваць у тым музычным асяродзьдзі.*

**Тацяна**: Прыйшлі акадэмісты нейкія. Цёткі ўжо ва ўзросьце. Там сьпявалі песьні Ларысіны і яе як асобу прадстаўлялі. Дык тыя казалі: гэта не народнае, яна ж па-свойму апрацоўвае... І пачалі раскладаць, што ня так, ня тое... Я ўрэшце ня вытрывала: як вы можаце такое гаварыць? Па-першае, гэта асоба, яна яшчэ толькі пачынае працаваць. Яна падае народную песьню са сваім падыходам. І ёй трэба даць волю, каб гэта ўсё гучала і разьвівалася... Неяк абаранілі.

Сёньня мне бракуе такой тусоўкі, дзе б я магла сьпяваць. Такое шчасьце, калі ты сьпяваеш разам зь некім ды яшчэ на той мове, якая табе падабаецца! Мы сустракаемся, калі прыяжджае Цімохаў, калі прыяжджаў Марачкін. Тады песьня гучыць. Або вось прыяжджаў Латышонак; прыходзіў Юра Маліноўскі, ён якраз тут адкрываў росьпісы; і Андрэй Радзівонаў. О, як мы класна сьпявалі! Тыя сваё, мы сваё, потым разам. І хто каго перасьпявае. І менавіта майстроўскія песьні. Гэта самыя шчасьлівыя хвіліны.



Сустрэча на Гуканьне Вясны, 1982 год. Алена Каравай, Сяргей Коршун, Алена Зуева, Андрэй Радзівонаў, Рыта Рыбачок зь сяброўкай са Львова, Сяргей Кныш, Тацяна Храмянкова

*...Прыяжджалі да Тацяны ў Полацак, дзе яна жыве і дзе яна – вольная мастачка. Яе муж паэт Алесь Аркуш працуе ў Беластоку на «Радыё Рацыя» і дома бывае наездамі. У майстроўскую супольнасьць Тацяна патрапіла яшчэ да Майстроўні. Яна вучылася ў «Парнаце», у клясе, вучні якой потым складуць ладную частку Майстроўні.*

**Тацяна**: З былых аднаклясьнікаў я сябрую амаль з усімі. Амаль усе былі ў мяне ў гасьцях. І Саня Костка, і Гена Лойка, і Алена Каравай. Усе, хто едзе ў Полацак, бываюць у мяне ў гасьцях. Больш цесна сябрую з Аленай Каравай, з Аленай Вашчанкай. З Марынай Безбародавай, яна ў Арэнбургу цяпер, кожны год прыяжджае да нас. Мне здаецца, я з усімі сябрую.

Пасьля «Парнату» я не паступіла першы год і пайшла працаваць мастаком-афарміцелем. А ўсе мае аднаклясьнікі вучыліся ў Акадэміі мастацтваў. Я й жыла недалёка, на Бялінскага. Прыехала Сьвета Слуцкая, жыла ў мяне, і мы разам хадзілі на Майстроўню.

Не магу сказаць, што я прыйшла на Майстроўню – і палюбіла мову. Я мову любіла зь дзяцінства. У школе, хоць школа лічылася расейская, рабіла палітынфармацыі на беларускай мове. Сяброўка маёй мамы, настаўніца (як і мама, якая выкладала расейскую мову), кажа ёй: дзіўна, твая Тацяна робіць на беларускай мове. А мама: ну робіць і робіць. Гэта першае.

Па-другое, у «Парнаце» быў выкладчык беларускай мовы вельмі добры. Мы сядзелі з Рытай Рыбачок на першай парце і заўсёды на беларускай мове крычалі: «вызавіце Рыту» ці «вызавіце Таню».

Мы вельмі паважалі старэйшых вучняў альбо тых, хто прыходзіў з Тэатральна-мастацкага, мастакі-студэнты. Гэта ж малым здавалася – студэнты, о! І яны размаўлялі па-беларуску.

## ГІСТОРЫІ РОДУ

*У «Парнат» Тацяна патрапіла з роднага Хоцімску, калі мела ўсяго адзінаццаць гадоў. Яшчэ зусім малая, але ўжо гатовая ўспрымаць і беларушчыну, і інтэлігенцкае асяродзьдзе.*

**Тацяна**: Маміна сям'я была вельмі інтэлігентная. Бабуля ўвесь час чытала. Увесь час хадзіла ў царкву. Пра вёску, дзе мама жыла, казалі, што там жыве шляхта. Ня простыя людзі. Вёска Ельня. А прозьвішча Саковічы.

У часе вайны расстралялі дзедаву сястру, а дзед

Антон жывы застаўся выпадкова. Яго павінны былі расстраляць «нашы», ня немцы. Чаму, ня ведаю, але заможна яны жылі. Вярнуўся ягоны дзядзька стрыечны і абараніў яго, бо служыў у «органах».

Цёця расказвала, што наша прабабка служыла ў пана. Пан не жаніўся. І ўсе дзеці былі незаконнанароджаныя. Ён ёй прапанаваў жаніцца, а яна сказала: лапаць сапагу ня пара. І ён жыў зь ёй, яна нараджала яму дзяцей. Гэта з бабулінага роду.

Усе мае цёткі былі настаўніцы, як і мама. Абсалютна інтэлігентныя ў жыцьці.

Бацька – Храмянкоў. Больш простыя людзі, але вельмі добрыя. Ведаю, што ў часе вайны яны хавалі габрэйскіх дзетак.

Мама была вельмі хворая. Мне выкладчык маляваньня ў школе прапанаваў зьезьдзіць і паступіць у такую школу – «Парнат». Ён добра ведаў Кірыла Ўладзімеравіча Зеляноя, які быў загадчыкам мастацкага аддзяленьня. І накіроўваў дзяцей, якіх лічыў патрэбным. Але мама казала: пакуль я жывая, яна нікуды не паедзе. Вось атрымалася, што паехала. Так лёс склаўся. Памерла маці, і праз два дні я паехала здаваць іспыты. Таму што трэба было некуды ехаць.

*Пасьля Майстроўні Таццяна паступіла ў Віцебскі тэхналягічны інстытут, які цяпер называецца ўнівэрсытэтам.*

**Таццяна**: Я любіла ўнівэрсытэт, у мяне быў добры асяродак. Мяне любілі выкладчыкі. Таму вучыцца было лёгка.

Я хацела разьмеркавацца ў мастацкі камбінат. А ў Наваполацку быў мастацкі камбінат як частка Віцебскага. І тут маглі спакойна прыняць мастакоў.

## МЫ НІХТО. МЫ АСОБЫ

Пашанцавала, бо ў мяне адразу быў вельмі добры заказ – габэлены. Але пазьней усё «ляснула» – і камбінат, і ўсё... І на сёньня я беспрацоўны чалавек.

Раблю творчыя працы, калі ёсьць на гэта вольны час. Мадэлі зь лёну. Вяжу шмат. Вельмі люблю жывапіс. Выхоўваю сына.

*Складана быць вольным мастаком і вольным чалавекам. Можна мець у Полацку мноства сяброў, быць таленавітым і ахвочым да працы, пазытыўным і эмацыйным чалавекам... І пры гэтым увесь час атрымліваць сыгналы, што менавіта такі ты тут і непажаданы.*

**Тацяна**: Шмат што прасьцей рабіць у сталіцы. І людзі там усё роўна больш вольныя. А ў правінцыі сёньня адзін-два вольныя, тыя, хто на сваім рахунку.

Хоць мы не займаемся палітыкай, але ў мінулы раз перад выбарамі мы адчувалі, што многія чамусьці баяцца вітацца. Сачылі за Алесем, за мной. Мы ніхто, мы проста асобы, калі разабрацца. На правінцыі я асоба сярод музыкаў, сярод супрацоўнікаў музэяў. І ўсё роўна на ўліку. Вельмі моцна адчуваеш – уладам непатрэбны, гораду непатрэбны.

*Складаецца ўражаньне, што многія майстроўцы сёньня імкнуцца сьцьвердзіцца, усяляк сыгналізуючы, што іхная праца і творчасьць ня мае дачыненьня да палітыкі. Але прывід гэтай самай палітыкі даганяе іх і ў сталіцы, і ў правінцыі. Зрэшты, і сама Майстроўня, што існавала на ідэалах, некаторыя зь якіх сёньня фармальна падзяляе дзяржаўная ідэалёгія, выглядае па-ранейшаму апазыцыйнай арганізацыяй.*

**Тацяна**: Трэба ўвесь час даказваць, што ты беларус. Любое духоўнае сёньня ў Беларусі палітычнае. Усё нацыянальнае сёньня палітычнае.

*У жыцьці Тацяны ёсьць ціск, але ёсьць і характар, які дазваляе выстойваць. А ўрэшце, застаюцца творчасьць і сям'я, якую яны стварылі з Алесем Аркушам.*

## ІНТЭЛІГЕНТНЫ І БАРАДАТЫ

**Тацяна**: На літаратурнае аб'яднаньне «Крыніцы» хадзілі Цімохавы, калі пераехалі ў Наваполацак. Там былі Сяржук Сокалаў-Воюш, якога я ведала яшчэ з Майстроўні, Уладзімер Арлоў. Дзякуючы Майстроўні я любіла гэты беларускі інтэлігенцкі асяродак. Мне прапаноўвалі замуж у Расею, я казала – не, я беларуска, мне трэба муж беларус. І атрымалася выпадкова. Гадоў праз пяць як мы ажаніліся, Аркуш мне расказаў, як гэта было.

Сяржук Сокалаў-Воюш пусьціў такую цыдулку, калі мы былі на «Крыніцах», што Аркушу ёсьць добрая магчымасьць ажаніцца. І пусьціў яе колам. І народ падпісаўся. Гэта так нас знаёмілі. Я сыходзіла дадому, Аркуш сустрэў мяне на калідоры, кажа: можна я цябе правяду? Узяў парасон, і мы пайшлі.

Яшчэ калі была малая, я думала, што мой муж павінен быць барадаты. Інтэлігентны і барадаты. Але я вельмі палюбіла ягоныя вершы, гэта было асноўнае, што мне ў ім падабалася, акрамя барады.

Я заўсёды цікавілася паэзіяй. Мама нас не выхоўвала, нас было трое, а яна працавала дзень і ноч у сваёй школцы за шэсьць кілямэтраў. Але яна чытала мне вершы ўвесь час.

# Лявон Вашко



*Трыццаць гадоў таму ў Беларусі была толькі адна журналістыка – дзяржаўная. Незалежныя, кажучы сёньняшняй мовай, і праўладныя журналісты працавалі ў адных і тых выданьнях, а перад тым вучыліся на адным факультэце журналістыкі. Як і сёньня, журналістыка збольшага выконвала ролю прапаганды, але, адрозна ад сёньняшняй, у той маналітнай сьцяне часьцяком зьяўляліся шчыліны эзопавай мовы і таго, што чыталася «паміж радкоў», а выхад артыкулаў, напрыклад, у абарону помнікаў архітэктуры ўспрымаўся як агульная перамога ўсіх, хто ўжо тады лічыў сябе незалежным.*

*Менавіта на журфаку БДУ напачатку 1980-х склалася група маладых людзей, якія зьвязвалі свой лёс не з прапагандаю, а з творчасьцю. Вальналюбства гэтых людзей нібы аблачынай ахутвала іх. І гэты настрой яны прынесьлі ў Майстроўню. Для Лявона Вашка патрапляньне ў гэты настрой і ў Майстроўню супала з паступленьнем на журфак.*

**Вашко**: На журфаку зьявілася такая добрая зазвычайка – размаўляць па-беларуску. Гэта ўсё ішло ад старэйшага курсу: Ігар Гермянчук, Сяргей Дубавец, Тацяна Сапач... Тэндэнцыя перакінулася і на наш курс. І Алесь Суша пачаў размаўляць, і Віталь Вашкевіч. Ну, і для мяне пытаньне беларускасьці было... Хацелася сябе вызначыць, знайсьці.

На курсе другім Галя Пахолка неяк у мяне запыталася: а ты быў на Майстроўні? Я зацікавіўся, што гэта такое. А хто прывёў? Напэўна, Алесь Суша. Не сказаць, што я актыўны быў сябра. Можа, цераз раз хадзіў.

*У вобразе Лявона Вашка спалучаюцца рысы сьціплага і незлаблівага правінцыйнага хлопца і адзінокага ваўка, які выклікае позіркам поўню. Гэты позірк мэдытацыйны й скіраваны ў сярэдзіну сябе. Чым тлумачыцца Лявонава непублічнасьць у паводзінах і публічнасьць у самарэалізацыі як журналіста, празаіка, драматурга.*

**Вашко**: Я з характару такі, як Юнґ казаў, інтравэрт. Мне цікава знайсьці падставовыя рэчы, якія ува мне. Размова па-беларуску многімі ўспрымалася як нешта скіраванае навонкі, на эпатаж. І гэта мяне бянтэжыла, бо я ня з мэтай публічнага эфэкту гэта рабіў. А таму што лічыў, што гэта мая сутнасьць. У Майстроўні ніхто не сьмяяўся, не падколваў. Я прыходзіў у сваё асяродзьдзе.

## «ПОЙДЁМ, ДУНЯ, В ОГОРОД»

Бо сьпяваць я не сьпяваў. Убачыў, як Алесь Суша рот раскрывае, і я стаў раскрываць. Сьпяваць у мяне не атрымлівалася.

У хоры тройчы я спрабаваў. Першы раз у школе. Там сьпявалі «Единственный друг, дорогой комсомол, ты можешь на нас положиться». Я ў прынцыпе нічога супраць камсамолу ня меў, але чаму «единственный» друг? Незразумелы патас. Меў быць агляд самадзейнасьці ў сельгастэхніцы. Прыйшла завуч і патрабавала, каб я пакляўся. Я кажу: што я буду клясьціся? Ну, і мяне выдалілі з хору.

А другі раз на журфаку. Сьпявалі добрую расейскую песьню, зь севяроў, відаць, бо там прымушалі окаць. «Во ку, во кузнице, во кузнице молодые кузнецы». Яна кажа: окайце! Можа для якіх вяцкіх гэта арганічна. І валагодзкіх. Але гэта журфакаўскі хор БДУ, і я сябе няёмка адчуваў. Акрамя таго, сьпяваць ня ўмеў. Тады неяк засьпявалі, і яна кажа: ціха! І на мяне. А там яны Дуню ў агарод вядуць: «Пойдём, пойдём, Дуня»... Кажа, ну ўсё, больш не прыходзь.

І я патрапіў на Майстроўню. Там, вядома, ніхто не выганяў. Але патрабаваньні былі – чаму не сьпяваеш? А я як той Макарэвіч: «петь меня никто не мог заставить»...

Але там жа была й другая частка пасьля сьпевак, абмяркоўваліся беларускія пытаньні. Аб'явы рабіліся, пра кніжкі расказвалі, дыскусіі йшлі. І мне другая частка больш падабалася.

*Журфак – інтэрнат – Майстроўня. Для Лявона і ягоных сяброў тады гэта былі тры сталыя пункты існаваньня. І разам зь імі перамяшчалася вальнадумная аблачына. У кожным месцы яна набіралася моцы і ахутвала новых прыхільнікаў.*

## ВАЛЬНАДУМСТВА НА ЖУРФАКУ

**Вашко**: Журфак быў вальнейшы. Калі я да аднаклясьнікаў прыходзіў у палітэх, гэта адчувалася. І выкладчыкі больш сабе дазвалялі. Юшкевіч эканоміку чытаў, ягоныя фразы і анэкдоты палітычныя, пра Карла Маркса... Не сказаць, што гэта было нейкае дысыдэнцтва, але... Пётра Садоўскі цудоўныя лекцыі чытаў па артаэпіі. Таксама і ягоны ўплыў. І пасьля лекцыі, і на перапынку, і ў Вязынку ён прыяжджаў. Адчувалася разьняволенасьць, нефармальнасьць. Ня так, як у палітэху ці ў інʼязе.

І Радкевіч Яўген, і Барыс Стральцоў – заўсёды па-беларуску лекцыі ў яго былі. Мікола Каваленка наш куратар быў, ён нават зь нейкай рэўнасьцю: калі што няправільна скажаш, аж закіпаў. Наркевіч Аркадзь Восіпавіч беларускую мову чытаў. Можа, змагарамі-барацьбітамі яны не былі, але была годнасьць, што – беларус, што на сваёй мове размаўляе.

І ўвогуле свабода, нават не зьвязаная зь беларушчынай... Бондарава Еўфрасіня Леанідаўна паказы нам рабіла, фільмы мы глядзелі, і эратычныя сцэны там былі, і нязмушана пасьля гэта абмяркоўвалі. І Тацяна Зьмітраўна Арлова... Вадзіла ў тэатры. Усе гэтыя фізыкі сядзелі, формулы рашалі, сохлі... помню, перад Новым годам сядзяць зялёныя ўсе, рашаюць, а мы – па тэатрах...

*Зразумела, што вальнадумства было несанкцыянаваным і зыходзіла ад канкрэтных людзей, а не ад сыстэмы. Ад сыстэмы зыходзіў перасьлед гэтага вальнадумства, якое рана ці позна выяўлялася ва ўчынках. Лявон Вашко быў сярод першых агітатараў за беларускую школу, калі ў Майстроўні задумалі зьбіраць подпісы за яе, абыходзячы кватэры.*

## КАБІНЭТ МАШЫНАПІСУ

Мы зьбіралі подпісы за беларускую школу ў доме, дзе жыў Яўген Радкевіч, і хтосьці выклікаў міліцыю, і прывезьлі мяне ў міліцыю.

Можа, я і сам дзесьці справакаваў. Я кажу: вы ж самі бачыце, у мяне сумленьне чыстае – ня краў, не забіваў, не гвалтаваў. Ну, хадзіў... Хочацца, каб школа была ў Менску. Міліцыянт і кажа – ідзі. А я кажу: тут ні КГБ, ніхто да мяне не прыкапаецца. Я выйшаў, ён у вакно: зайдзі яшчэ. І хвілін праз дзесяць чалавек з КГБ прыехаў. Таксама ніякага допыту, ён цікавіўся: што, чаму, як. І папрасіў нічога не казаць. То мне ўжо неяк і няёмка, я паабяцаў, што ня буду расказваць.

Пасьля пачалося. Кагэбісты на журфак наляцелі. Прыйшлі ў кабінэт машынапісу правяраць, хто друкаваў падпісныя лісты. Мяне запрасілі, ну я і кажу, што я там надрукаваў, у кабінэце. Ня буду ж казаць, што Вінцук надрукаваў. Тым ня менш я без спагнаньняў застаўся камсамольскіх, а маглі ж і прафсаюзы падключыць, жансаветы – як заўсёды. Дэкан Ткачоў выклікаў, даў прачуханца, і на гэтым скончылася. Казаў, што ходу ня дам, але вы глядзіце. Можа, гэта ён як для будучага зяця *(сьмяецца)*.

Зразумела, дэкан і бацьку паведаміў, што нас трасуць. І бацька мне даў прачуханца, каб ня лез у такія крымінальныя, зь ягонага пункту гледжаньня, справы. Але супраць самой беларускасьці ён ніколі не выступаў. Наадварот.

## ТАВАРЫШ КІМ ІР СЭН ДУМАЕ ПРА НАРОД

Бацька старшынём Мастоўскага райвыканкаму шмат гадоў працаваў. Маці настаўніца.

*Сям’я была пасіўна беларуская, гэта значыць,*

*што сына наўмысна не выхоўвалі сьвядомым беларусам, але й антыбеларусам не выхоўвалі таксама. Як у большыні беларускіх сем’яў. Чаму?*

**Вашко**: Мяне гэтае пытаньне хвалявала заўсёды: хто я такі, і чаму я жыву ў Беларусі, і няма ў нас нашай мовы, а калі й ёсьць, дык толькі ў дэкаратыўных формах. Прыходзяць людзі – перапіс насельніцтва, пытаюцца: хто ты? Кажаш: беларус. А якая мова... Звоніш маці, якую мову назваць? Ну, скажы, што беларуская. Пачынаеш думаць: а чаму беларуская, калі зрусіфікавана ўсё?

Мяне хвалявала ня так каб «товарищ Ким Ир Сен в детстве думает о счастье народа». Гэта было пытаньне пра сваю ўласную сутнасьць. Хто я такі, і чаму павінен размаўляць на чужой мове, калі ёсьць свая? Патрэба быць самім сабою.

*Сапраўды, калі гэта не фэнамэнальна, а заканамерна, дык і пытаньне трэба ставіць па-іншаму. Не «Адкуль у табе гэты флюід беларушчыны?», а «Чаму нас гэта хвалюе?» ці «Чаму гэта не хвалюе большыню нашых супляменьнікаў?»*

## ШКОЛА ДЛЯ ЛІТАРАТАРА

*У пэўным сэнсе Майстроўня была паралельным унівэрсытэтам, які даваў чалавеку неабходную інфармацыю пра сябе самога, тую, якую паляк ці француз пра сябе атрымліваюць у звычайнай школе.*

**Вашко**: Я ад Майстроўні больш браў, чым даваў. Зьвесткі ўзбуджалі думку. У мяне ў паліцы стаіць слоўнік Насовіча. Вінцук выйшаў, кажа: вось зьявіўся слоўнік Насовіча, факсымільнае выданьне. І я пайшоў, набыў. І да гэтага часу чытаю, не стамляюся.



Характэрны для Лявона здымак. Майстроўня з тортам і гарбатай адзначае народзіны Аліны Садоўскай. Менск, Палац прафсаюзаў, чэрвень 1983 году. Тварам да нас справа налева: Яўген Валасевіч, Міхал Анемпадыстаў, Сяргей Харэўскі, Сяргей Шупа, Алесь Шпакоўскі, Лявон Вашко, аўтар, Аліна Садоўская, Віталь Вашкевіч, Таня Лаўрыновіч

Што яшчэ... Праца са словам. Я памятаю, Вінцук прыдумляў, усе сьмяяліся. Ён казаў: шрубакрут. Сьмяяліся: адвёртка – гэта шрубакрут... Тады ў газэце гляджу – «прадам шрубавёрт». Гэта значыць, апярэджвала... Тады гэта здавалася сьмешным, а яно зьявілася.

І калі ўжо стаў літаратурным майстрам сярэдняй рукі, я бачу прыкладны, утылітарны сэнс у Майстроўні. І пошукі беларускай мовы, словатворчасьць, я думаю, што гэта адтуль ідзе. Як натхненьне.

Туды і Адам Глёбус прыходзіў, і з Уладзімерам Сьцяпанам мы там пазнаёміліся. Сяргей Астравец прыходзіў са сваёй жонкай Сьвятланай. Алег Бембель прыходзіў з Разанавым. І пытаньні нават помню, і пра што яны гаварылі. Разанаў расказваў

будысцкую прыпавесьць. Што маленькі верабей пераважыў у руках Буды кавалак мёртвага мяса. Жыцьцё пераважыла.

*Лявон працаваў у рэдакцыях, выдаў некалькі кніг, ягоную п’есу паставілі некалькі тэатраў.*

**Вашко**: Папісваю, выдаю гэты свой «Дзеячас», лісток самвыдаўскі. Гэта таксама, думаю, з Майстроўні. Самвыдавецтва – з таго часу. Тады, вядома, не было рызографаў. З дапамогай фотаапарату рабілася ці машынкі друкавальнай.

Я цяпер сам па сабе. Я ж казаў, што інтравэрт, я не смуткую, калі адзін, наадварот. Мне п’есу ставілі, дык самы пакутлівы момант быў – хадзіць на выхад, калі клічуць аўтара.

*Лявон Вашко зьвяртае ўвагу на тое, што дзякуючы Майстроўні многія рэчы быццам непрыкметна ўвайшлі ў масавую сьвядомасьць – на сваё месца, туды, дзе трыццаць гадоў таму іх не было. Таму й здаецца, што ўсё адбылося само сабой, бо гэта нармальна – называцца беларусам, цаніць сваю спадчыну, культуру і незалежнасьць свае краіны.*

**Вашко**: Тады гэта ўсё інакш успрымалася і гаварылася зь іншым акцэнтам. У інтуітыўных памкненьнях, якія потым эвалюцыянавалі ў сёньняшні сьветапогляд людзей.

Выказваньні, якія тады рабілі майстроўцы, – бліжэйшыя не да тога часу, а да сёньняшняга. Не сказаць, што гэта прамы вынік, маўляў, мы сказалі: «Незалежнасьць» – і вось так. Але гэта ўсё ў ідэі прысутнічала. І з тога часу яна эвалюцыю ў сёньня і зрабіла. Ня трэба даказваць, спрачацца пра незалежнасьць, пра карыснасьць беларускай мовы. Пра школу – хоць гэта зьнішчаецца, але ўсе ўжо разумеюць, што школу рабіць трэба.

# Сяргей Шупа



Здымак Весны Вашко

*У расповедах пра Майстроўню і ў камэнтарах да іх іншы раз сустракаецца параўнаньне гэтай арганізацыі з сэктай.*

**Шупа**: Пра сэкту мне таксама ў галаву прыходзіла. Падобна было. І па кайфу было ў гэтай сэкце быць. Была такая паралель – зь першымі хрысьціянамі. Завальваем у нейкі тралейбус і пачынаем сьпяваць. Уяві сабе рэакцыю. Я б ужо цяпер ня змог. Гэта трэба быць маладым, трэба такую сытуацыю, трэба... Ты гэтым усім як трошкі п'яны. І табе напляваць на тое, як гэтая сытуацыя збоку ўспрымаецца. Галоўнае кайф адчуць.

*У Майстроўні Шупа быў адным з тых, каго называлі душой гэтага згуртаваньня, для каго майстроўскае адзінства вышэйшае за ўсякія міжчалавечыя бар'еры.*

**Шупа**: Забаўна: пра Майстроўню кажуць – от, дзеці перабудовы... Ха-ха. Яна ўзьнікла ў самыя дрымучыя часы позьняга брэжневізму, і гісторыкам будзе цяжка высмактаць з пальца прычыны, чаму менавіта тады.

## ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ РАДЫКАЛ

*У 1983 годзе, калі Сяргей Шупа зьявіўся ў Майстроўні, аб'яднаньне ўжо было настолькі вялікім, што асобныя сябры пачыналі акрэсьліваць для сябе праграму на заўтра. Хтосьці проста любіў сьпяваць, а хтосьці патрабаваў радыкалізацыі руху і вываду яго ў палітычную плоскасьць.*

**Шупа**: Мяне непрыемна ўразіў Віця Івашкевіч, калі я яго першы раз пабачыў. Ён прыходзіць, прачытаў верш Бураўкіна пра кампрамісы і куды яны вядуць. І што трэба толькі па-беларуску гаварыць, а калі не, дык няма чаго тут рабіць!.. І дзяўчаты ледзьве ня плакалі. Мне гэта страшна не спадабалася. Хоць мне зь беларускай мовай там, дзе я вучыўся ці працаваў, не было праблемаў. А вось ім гэта ўжо складала нейкія вялікія праблемы. Не маглі падмануць і сказаць – так, вядома, а павярнуўшыся – па-расейску. Цяпер Віця пра гэта кажа з гумарам. А тады гэта было страшна сур'ёзна.

## «У КРАІНАХ САПРАЎДНАЙ ДЭМАКРАТЫІ»

Харэўскі быў яшчэ школьнік і пра эканоміку Беларусі расказваў. І сядзіць разнашэрсная кампанія, ты ня ведаеш, хто тут і што, давяраеш – не давяраеш... А ён кажа: «у краінах сапраўднай дэмакратыі»... Мы з Мурашкам пераглянуліся, вочы на лоб вылезьлі. Такія словы тады пачуць публічна было вельмі дзіўна.

А яшчэ раз я прывёў аднаго свайго таварыша, шкада, ён згубіўся недзе, такі быў Шура Апановіч, была ў яго мянушка «дысыдэнт». Ён быў сапраўдны дысыдэнт. Ён недзе ў годзе 1980-м азнаёміў нас падрабязна са зьместам кніжкі Оруэла «1984». І расказаў, якія высновы можна зрабіць з гэтай кніжкі.

Тады антыфашызм быў тэмай. І я кажу Вінцуку: о, клас. Я прывяду аднаго антыфашыста, ён пра фашызм усё раскажа. І Шура Апановіч пачаў расказваць пра рысы фашызму ці таталітарызму. І Вінцук, я бачу, сядзіць і чарнее, чарнее, чарнее. На перапынку выходзіць: ты каго прывёў? Нас жа заўтра ўсіх выкінуць адсюль і павяжуць. Гэта лета 1983-га. Хоць бы папярэдзіў, кажа. Такая была бомба. Першы раз я бачыў, каб Вінцук спалохаўся нечага.

## ЧАЙНА-ТАЎН НА ДОЎГІМ БРОДЗЕ

Я зь Менску. Доўгі час мала куды й выяжджаў. Ну толькі да адных бабкі-дзеда ў Барысаў, да другіх на Бярэзіншчыну. Раён кінатэатру «Зьмена» замкнёны й самадастатковы. Там фактычна можна было, як у Нью-Ёрку ў Чайна-таўне, жыць і нікуды не выходзіць. Там былі крамы, кінатэатар, аптэкі, гастраномы, вельмі мала што табе было патрэбна ў астатнім горадзе. І адчуваньне малой радзімы ў мяне ў гэтым месцы. Мая вёска – гэта раён, які мы называлі Брод. Даўгабродзкая вуліца. Мяне кранула вельмі песьня гурта «Уліс» пра Доўгі Брод. «Завулак кветак і траў». Так яно там і было, завулак кветак і траў, і нашай рэчкі маленькай, на якой мы правялі ўсё дзяцінства.

Першы кантакт зь беларускай мовай – у дзіцячым садочку. Былі дзеці, якія гаварылі на трасянцы або

на амаль што такой ужо нармальнай беларускай мове. І нейкая нянечка гаварыла такой мовай. Маё вуха лавіла розьніцу, але ж такое маўленьне не было яшчэ тады стыгматызаванае.

Пасьля – вёска, бабуля. Яны гаворацць няправільна, па-вясковаму, а па-гарадзкому трэба так...

## СЛУХАЦЬ РАДЫЁ

Ува мне вялікую рэвалюцыю зрабіла і ўвогуле страшна важнае месца ў маім жыцьці ад адзінаццатага году жыцьця заняло радыё. Я аднойчы сеў і ўжо ня памятаю, калі я ўстаў ад яго. Гэта быў акіян абсалютна адкрытай, незацуглянай інфармацыі. І радыё – адкрытая крыніца любых моваў. Курсы мовы перадаюць, я гэта вучу, бо мне гэта па кайфу.

І пасьля слухаеш ня толькі музыку, ня толькі мовы, а і нейкія разумнейшыя рэчы. Пачынаеш з канцэртаў папулярнай музыкі Юрыя Асмалоўскага на «Голасе Амэрыкі», пасьля навіны слухаеш, і пасьля інакш трохі на сьвет вакол сябе глядзіш. Радыё дапамагло ўзрасьці майму нонканфармізму. Не скажу дысыдэнцтву. Штосьці тут навокал ня так. Але нейкае яно было абстрактнае.

Быў у Крыме, мне гадоў 14, паглядзеў фільм «Патоп» паводле Сянкевіча. І чамусьці мне стрэльнула: халера, гэта ж наша, гэта ж зусім каля нас усё. І нейкія там былі хлопцы з Расеі, і я ўжо казаў: мы і па-польску разумеем. А яны не разумеюць. І мы разумеем усё, што там адбываецца. Бо я пачаў шукаць нейкую асобнасьць, апрычонасьць, на якую можна абаперціся, якую можна прадставіць перад сьветам.

Пасьля – Літва. Ага, яны такія, а чаму мы ня можам быць?.. Мы ж не Расея, так? А фактычна Расея. І ўсё ж не Расея. Але за афіцыйную беларушчыну ўчапіцца ў тыя гады нават у галаву не прыходзіла. Бо яна нейкая такая была, ведаеш... А іншай мы ня ведалі. Школа там, дыктары. Беларуская літаратура ў школьнай праграме... Дык яна толькі адаб'е табе ахвоту.

## ІНСТЫТУТ ЗАМЕЖНЫХ МОВАЎ

У мяне быў такі выбар. Сорак працэнтаў на электроніку, радыётэхніку. Сорак працэнтаў на замежныя мовы: мая мама выкладчыца замежных моваў, мне гэта цікава й лёгка. І дваццаць працэнтаў на музыку пакідалася. І я пайшоў самым простым шляхам. Адзін экзамэн здаў з мэдалём – францускую мову. І паступіў. А галоўны стымул быў, што на чацьвертым курсе могуць паслаць на стажыроўку ў Францыю. І гэта была ці не галоўная прычына, з-за якой я паступіў. Каб вырвацца з гэтага.

На першым курсе я пачытаў Караткевіча «Дзікае паляваньне караля Стаха». Закранула за ўсе эмацыйныя нэрвы. І стала ясна – вось яно. Зусім іншая беларушчына, зусім іншая літаратура, зусім іншы погляд на гісторыю і на ўсё. Хаця сёньня трошкі сьмешнавата чытаць Караткевіча. Маім дзецям гэта ўжо нецікава. Ім адкрываць нічога ня трэба было. А нам трэба было першую баразну самім сабе пракладаць, мы лічылі, што мы першаадкрывальнікі. У Сянкевіча знаходзіш нешта крэсовае, пасьля цікавісься такімі кніжкамі, як Мацкевіч, Бажко, і там чытаеш пра такую Беларусь, пра якую й не здагадваесься. Задам наперад і дагары нагамі гэтыя кніжкі чытаеш. Фактычна на другім-трэцім

курсе базавая інфармацыя пра іншую Беларусь ужо склалася. І думаеш: гэта маё. Я сабе трошкі такі нонканфарміст, а гэта аснова майго нонканфармізму.

## ЖЫЦЬЦЁ З МАЙСТРОЎНЯЙ

*У Шупавай майстроўскай гісторыі ёсьць інтрыга. Сяргей быццам бы мусіў патрапіць у аб'яднаньне нашмат раней, чым патрапіў.*

**Шупа**: Паехаў-такі я ў Францыю, перачытаў усе кніжкі забароненыя ў славянскім аддзеле бібліятэкі, паглядзеў той сьвет, параўнаў, усё было ясна. Не хапала яшчэ аднаго элемэнту – адчуць, што ты не адзін такі. Кантакт з Майстроўняй мог ужо адбыцца прынамсі некалькі разоў. У майго сябра мама настаўніца, і ў яе з клясы дзяўчына, і яна расказвала, што такія ёсьць і такія, і яна туды ходзіць. Гэта была Ірына Крук. Але так мы за гэтую нітку й не пацягнулі тады.

Тады яшчэ былі ў кампаніі, новы год сустракалі. Зь нейкай дзяўчынай гаварылі, яна ў мэдынстытуце вучылася. І гаворкі зайшлі пра радыё – Радыё Ватыкан, Радыё Свабода... Яна кажа: табе можа цікава было б, я з хлопцам у школе вучылася, дык ён такі самы быў, як ты. Гэта быў Вінцук Вячорка.

А мы паміж сабой хадзілі-шушукаліся зь Сяргеем Мурашкам, з Алесем Істоміным. З Істоміным на другім курсе паехалі ў Вільню. І калі туды ехалі, дамовіліся – ад гэтага моманту гаворым толькі па-беларуску. І гаварылі між сабой. Навонкі гэта трошкі хавалі, бо ў нас быў такі заідэалягізаваны інстытут, дык там маглі адразу к парадку прызваць.

Але на чацьвертым курсе, калі трэба было тэму дыплёму выбіраць, я сказаў: буду пісаць дыплём

«Пераклад на беларускую мову». Хацеў Барыса Віяна, а мне сказалі: мы ня ведаем, ён за нас ці не за нас. Далі мне Эрвэ Базэна – праверанага. Ну, няважна. Не было з кім параіцца абсалютна, мая кіраўніца ні ў зуб нагой з гэтым не сутыкалася і не магла мне нічым дапамагчы. А ў нас такі быў Зьміцер Колас. Ён ужо вярнуўся са свайго Альжыру і выкладаў францускую на першых курсах і спэцкурс у нас.

І ён пачаў кансультаваць. А пасьля кажа: Ёнэско ведаеш? Вось такая «Лысая сьпявачка» перакладзеная, і яе тут некаторыя ставяць. Прыйдзеце, паглядзеце, можа, зацікавіцеся. Я памятаю гэтую дату, гэта было 10 сакавіка 1983 году, – Зьміцер Колас прывёў нас на Беларускую сьпеўна-драматычную майстроўню. Мы з Мурашкам прыйшлі – і адразу стала ясна: мы такія не адныя, а такіх о-ё-ёй. І з кожным днём выяўлялася, што такіх усё больш і больш.

Як электрашок праз мазгі прайшоў. Жывеш як у сьне. Я ведаў, што 1 жніўня пайду ў войска. Значыць, ад сакавіка да жніўня – увесь мой час. А што будзе далей, невядома. І так хацелася чым больш бачыцца і напоўніць сваю прастору вось гэтым жыцьцём, што лавіўся кожны момант, кожныя сьпеўкі і паходы. Жыцьцё з Майстроўняй.

Чалавек, якога мне дала непасрэдна Майстроўня, зь якім я пазнаёміўся дзякуючы Майстроўні, быў Садоўскі. Гэта для мяне было штосьці... Разявіўшы рот, сядзіш і слухаеш. Такіх людзей я да таго яшчэ ня бачыў. Мой вялікі аўтарытэт цішча быў Васіль Сёмуха ў той самы час. Паўдня мы сядзелі ў Майстроўні, а паўдня ў Сёмухі, там можна было таксама дняваць і начаваць. Васіль Сёмуха і Валянцін Раб-



У Зоські Верас у “лясной хатцы”. Вільня, лета 1983 году. Стаяць Лявон Луцкевіч, Пётра Садоўскі, Сяргей Шупа і Сяргей Мурашка. Сядзяць Тацяна Сапач і Зоська Верас

кевіч сядзелі ў сваім кабінэце – і проста такі быў бэнэфіс. Калі я чамусьці калісьці й навучыўся ў мове, у рэдактарскай практыцы, у стылістыцы, дык вось гэта два вялікія настаўнікі былі.

## ІСТОМІН, МУРАШКА, ЖАЛЕЗКА

Істомін быў сярод маіх аднакурсьнікаў фактычна першы беларускі чалавек, натуральны, ён шмат увабраў зь вёскі сваёй на Клеччыне – вёска Сіняўка. Адтуль яго мама паходзіць, і ён там гадаваўся ў бабулі. У мяне яно прайшло ўжо праз гарадзкі асфальт, а ў яго прыродная беларушчына. Хоць

ён сын двух інтэлігентаў, настаўнікаў, гадаваўся ў расейскай атмасфэры. І на другім курсе ў нас ужо была як бы таемная група з двух чалавек.

Пасьля зь нейкай юнацкай дурасьці мы пасварыліся, я пакрыўдзіў яго. Такія эмацыйныя гарачыя беларускія хлопцы, не размаўлялі столькі часу. Зноў зблізіліся празь нейкія пару гадоў, і яго ўжо не прывесьці туды было немагчыма.

Калі мы трошкі разышліся з Істоміным, мы больш зблізіліся з Мурашкам. Той як бы прыродны, а гэты ўжо больш інтэлектуальны, прыйшоў да беларускасьці праз інтэлектуалізм. Праз культуру, мастацтва, літаратуру. Вышуквалі ўсё, чым можна ганарыцца ў гэтых галінах. Мы з Мурашкам шмат аб'езьдзілі. У нядзелю сядаеш і кудысьці едзеш. Рубяжэвічы, Івянцы, Нясьвіжы. Разынкаю было наведаньне мясцовай кнігарні. Там кніжкі не выкідаліся дзесяцігодзьдзямі. І яны там набіраліся торбамі. Кудысьці едзем, глядзім помнікі гісторыі і архітэктуры, фоткаем, а заадно награбаем літаратуры.

І мы зь ім прыйшлі першыя. Істомін трошкі збоку быў. Мы кажам: Істомін, а чаго ты ня прыйдзеш? Ну, і прыйшоў, і вельмі натуральна ўліўся. А трошкі пазьней і Жалезку прывялі. Ён мовамі цікавіўся, беларускай. І таксама штосьці там знайшоў для сябе.

*Фэномэн тых местачковых кнігарняў варты асобнае гаворкі. Там мы папаўнялі свае бібліятэкі зборнікамі паэзіі й кнігамі філялягічнага пакаленьня – Александровіча, Каханоўскага, Кісялёва, Мальдзіса, Ліса. А пра фэномэн я кажу таму, што спрабую ўявіць сабе, каб гэтых кнігарняў не было, як няма іх такіх сёньня. Наколькі гэта зьбядніла*

*б майстроўскае існаваньне, звузіла абсяг самаадукацыі і пазбавіла шчасьця знаходак, а можа быць, і нейкім чынам скарэктавала б саму Майстроўню.*

**Шупа**: Майстроўня была не пачынальніцай, а неабходным зьвяном. Бо з гэтых Паддашкаў, з мастакоўскіх тусовак напрасткі БНФ мог і ня ўзьнікнуць. Патрэбная была фэрмэнтацыя. Майстроўня дала імпульс шырэйшым нефармальным аб'яднаньням. «Талака» – гэта ўжо нешта больш масавае. «Тутэйшыя» – пісьменьніцкая маса. Майстроўня была разнастайная паводле людзей. Мастакі, філёлягі, і журналісты і перакладнікі, і фізыкі і лірыкі... усе хто хочаш. Ня тое каб мадэль грамадзтва, але яны былі шматвэктарныя. Папярэднія гурткі былі больш замкнёныя ў сабе. А тут была большая разнастайнасьць і больш магчымасьцяў расьцячыся на больш плыняў. І яно пайшло ўшыркі. Майстроўня стала такой сыстэмай... Як у душы. Ва ўсе бакі. Абліць можна значна большую колькасьць людзей, чым калі адзін струмень цурчыць. І дзякуючы гэтаму была «аблітая» максымальная колькасьць людзей, якія пад тую мастакоўскую ваду й ня трапілі б.

# Наталя Лаўрэцкая (Рудак)



*Мы цяпер, спаткаўшыся, можам не пазнаць адзін аднаго з аблічча, але пазнаем па нечым іншым, невідавочным, магчыма, па духу. Гэнік Лойка прыйшоў у Камітэт архітэктуры на плошчы Незалежнасьці, дзе працуе Наталя, і – пазнаў.*

**Наталя**: Мы зь ім ня бачыліся з маладосьці. Ён дык праўда не зьмяніўся абсалютна. Але ён неяк і мяне пазнаў. Ён свае скульптурныя працы прыйшоў да нас узгадняць. Кажа: ой, пэўна што Наталя. Я кажу: так, я Наталя і ёсьць.

Як пачала працаваць у рэстаўрацыйных майстэрнях, годзе ў 1983-м пазнаёмілася з Вэрцяй Лазоўскай, і яна мяне да гэтай справы спрычыніла. Але я сьпяваць не магу.

Вэрця прыйшла працаваць адразу пасьля інсты-

туту, а я ўжо папрацавала перад гэтым. У мяне дыплём быў рэстаўрацыйны, і мне хацелася ў рэстаўрацыю. Яны маладзейшыя былі – яна і Вадзім Гліньнік. І сышліся, бо ня так многа нас там было, маладых людзей.

Вэрця па-беларуску гаварыла, а я зь вёскі. І таму для мяне як бы звычайная сытуацыя, але... Калі я паехала пасьля школы ў горад, вакол, вядома, усё парасейску. А Вэрця гаворыць па-беларуску. Спрабую зь ёй гаварыць – і адчуваю, што мне ўжо не хапае словаў. Думаю, чаму так, для мяне ж гэта павінна быць звыкла, а не атрымліваецца.

## СУСТРАКАЕМСЯ Ў РАДАВОДАХ

*Максім Танк у першыя дні 1983 году запісаў у сваім дзёньніку:*

«*Захапленьне, якое цяпер заўважаецца ва ўсім сьвеце фальклёрам, мінуўшчынай у нашай атамнай, касьмічнай, тэхнічнай эпосе, уяўляецца пошукам свайго радаводу. Наіўнымі і безаглянымі аказаліся ўсе тэорыі і ўяўленьні аб хуткім зьліцьці ўсіх моў і нацый у адну*».

*У тыя часы падобныя думкі прыходзілі ў галаву і літаратурнаму мэтру, і студэнтам розных менскіх ВНУ, што аб'ядналіся ў Майстроўню менавіта для пошукаў радаводу.*

**Наталя**: Гэта 1984-ы, мусіць. Езьдзілі ў Малама-жэйкава. Тады гэтая царква была закінутая зусім. Колькі нас там было, можа чалавек 12. Царква адчыненая насьцеж і сьмецьцем заваленая ўсярэдзіне. Трохі там расчышчалі. Запалілі вогнішча – каб і пагрэцца, і сьмецьце папаліць, і яду зрабіць. І парадак навялі вакол на паляне, і народ песьні пасьпяваў.

## СУСТРАКАЕМСЯ Ў АСОБАХ

У Вільню езьдзілі, калі там якраз было сьпеўнае сьвята. Гэта лета было. Можа, таксама 1984 год. Вялікая кампанія, ехалі рознымі шляхамі. З намі экскурсію праводзіў Лявон Луцкевіч. Ён мне прапаноўваў уступіць у перапіску. Пэўне, я нешта там сказала, калі хадзілі-гаварылі. Мы былі рэстаўратары, у нас свае нейкія погляды былі. А маладосьць, яна ж звычайна думае, што ўсё ведае лепш за іншых.

*Перапіска зь Лявонам Луцкевічам не завязалася, але застаўся адрас Дзядзькі Лявона ў старым нататніку, напісаны ягонай рукой.*

**Наталя**: Цяпер я разумею, што былі пагубляныя такія моманты. Я ў гэтым годзе страціла бацькоў. І толькі калі іх ня стала, я зразумела, які я дурань. Нават у маім сёньняшнім узросьце не хапіла розуму дагаварыць зь людзьмі ўсё да канца – пра гісторыю сям'і й родных.

Бацька з Глыбокага, там возера Пліса ёсьць. Як маці казала, «западнік». А яна з-пад Менску, пад Рудзенскам вёска Кабылічы. Іх прозьвішча Агейчыкі. Яно там надта пашыранае.

Мама памерла першая. І я ўжо стала ў бацькі пытацца. Мы зь ім яшчэ справіліся скласьці радаслоўную.

Бацькі жылі ў Даўгінаве, калі я нарадзілася. Настаўнікамі працавалі ў школе. І калі я пайшла ў школу, іх перавялі: у тым жа раёне ёсьць вёска Мацькаўцы. Школа была беларуская, і бацька беларускую мову выкладаў, а маці матэматыку. Але апошнія гады мы разумелі, што пойдзем вучыцца ў горад і там ужо трэба расейская мова, таму нават нейкія кніжкі падбіралі па-расейску.

## МІКАЛАЙ АГЕЙЧЫК

Быў яшчэ важны ў маім жыцьці чалавек – дзядзька, брат маці. Я б сама не прыдумала, у вёсцы седзячы, што нейкая ёсьць архітэктура. Але ён паглядзеў, што я крышку малюю, што мастака зь мяне ня выйдзе, а на архітэктара здольнасьцяў хопіць, і стаў са мной займацца. На нейкі момант я ўвогуле на праблемы... па-беларуску ці па-расейску... не зьвяртала ўвагі. А ён зьвярнуў.

Яго звалі Мікалай Агейчык. Ён хацеў быць мастаком, але трошкі недавучыўся. Вучыўся ў вучэльні. Але ён быў выбуховага характару чалавек. Яму падалося, што тут нецікавая адукацыя, кінуў, паехаў у Ленінград, у Акадэмію мастацтваў. Але ў Ленінградзе было цяжка з грашмі пасьля вайны. І ён кажа: ня справіўся, не было за што есьці. Прыйшлося кінуць, і ён вярнуўся сюды.

Я думаю, паколькі ён быў мастак, гэткія думкі сярод мастакоў больш высьпявалі нават у тыя часы.

## СУСТРАКАЕМСЯ Ў КНІГАХ

Як сталі выходзіць кніжкі Ермаловіча, я іх прывозіла дамоў ці проста бацькам расказвала. А яны калісьці адукацыю пачыналі атрымліваць у Маладэчне, у вучэльні для настаўнікаў. Маці і бацька там і пазнаёміліся. І яны кажуць: Ермаловіч у нас выкладаў, такі быў з дрэнным зрокам чалавек, хадзіў, за сьценку трымаўся. Але ён шмат працаваў і ў архівы езьдзіў, і яны памятаюць, што ён займаўся навукай нават у той далёкі час.

Для мяне Ермаловіч – гэта быў чалавек, які напісаў кнігу. А для іх гэта жывы чалавек зь іхнае маладосьці. Яны былі маладыя, і ён даволі малады.



Наталя ў майстроўскія часы. Здымак Вэрці Лазоўскай

Маці кажа: ён і за дзеўкамі любіў бегаць, але дрэнна бачыў і, бывае, нейкую дзеўку спрабуе схапіць, а яна высьлізьне, бо ён недабачыць яе.

## СУСТРАКАЕМСЯ Ў ДЗЕЦЯХ

*Самая ўдзячная зьява, калі кругі па вадзе распаўсюджваюцца ў часе, калі клопаты і мроі майстроўцаў перадаюцца іхным дзецям, і калі ўжо гэтыя дзеці знаходзяць адзін аднога ў жыцьці ня з волі бацькоў.*

**Наталя**: Стала я глядзець сайт з майстроўскімі інтэрвію, і Мікіта, мой сын, кажа: ой, дык гэта ж Міхасёвыя бацькі. Волкавы. Я прозьвішча ня ведаю і ня памятаю іх з Майстроўні. Але мой хлапец вучыўся ў 75-й архітэктурнай школе з хлопчыкам Міхасём. Яны да гэтага часу сябруюць. Аказалася, што ягоныя бацькі былі ў Майстроўні.

Калі мы былі ў адным коле, не сустрэліся непа-

срэдна. Прайшоў час – і дзеці сустрэліся ў абсалютна іншай сытуацыі. Нешта ёсьць такое, што адзін да аднаго хінецца нават на асацыятыўным узроўні.

## СУСТРАКАЕМСЯ НА ПОМНІКАХ

Мой муж, Лаўрэцкі Генадзь, таксама архітэктар, працуе выкладчыкам і займаецца рэстаўрацыяй. Ён цяпер займаецца менавіта гэтымі помнікамі – Сынковічы і Маламажэйкава. Мы зь ім туды езьдзілі, і я стала ўспамінаць тую даўнейшую паездку, калі зусім іншы стан у царквы быў... Усё выходзіць адно з другога, так проста нічога не здараецца.

*Сёньняшняя праца Наталі вынікае з колішніх майстроўскіх вандровак і захапленьняў.*

**Наталя**: Аддзел гістарычнай забудовы. Робім прапановы, каб яшчэ будынкі ўзяць пад ахову. Калісьці мы рабілі праект рэгенэрацыі ў Віцебску. І праз нейкі час я зрабіла ў майстэрні архітэктара Багласава аналягічны праект для Менску. Гэта быў, можа, 1992–93 год. У Менску ўсе раней працавалі зь гістарычным цэнтрам, зь сярэдзінкай вакол плошчы Свабоды. А мы яшчэ дабавілі кавалак, што называўся Новае Места, зь беларускім тэатрам і вуліцай Карла Маркса, увесь гэты раён.

Ёсьць, вядома, праблемы, і страты бываюць. Але калі хоць трошкі можаш дапамагчы, дык дзякуй Богу і на гэтым.

# Сяржук Сокалаў-Воюш



Здымак Славаміра Сокалава

*Зараз мы атрымаем доступ да некаторых таямніцаў Беларускай Майстроўні, як той казаў, зь першых вуснаў. Сяржук прыгадвае, што Майстроўня напрыканцы 1980 году была створаная ў выніку палітычнага рашэньня.*

**Сокалаў-Воюш**: Пачыналася ўсё ў прынцыпе з палітыкі. Была нашая палітычная група, якая ў тых савецкіх умовах непасрэдна палітычна працаваць не магла, і патрэбнае было выйсьце на шырэйшыя масы праз нешта іншае.

*На маю думку, трэба адрозьніваць гучаньне слова «палітыка» сёньня і трыццаць гадоў таму. Сёньня палітыка – толькі адна са сфэраў жыцьця, а тады палітыкі ў жыцьці звычайнага чалавека папросту не было, і адначасова ўсё навокал, калі да яго дакрануцца без дазволу, станавілася палітыкай.*

*У першую чаргу гэта тычылася беларускай мовы, якой дзяржава адвяла адмысловы рэзэрват. Несанкцыянаванае гаварэньне па-беларуску было палітыкай. Большай ці меншай, залежна ад таго, пра што гаварылася. Калі пра незалежнасьць і русіфікацыю – узровень палітычнасьці дасягаў крымінальнага напалу. Калі пра фальклёр і традыцыі продкаў, можна было застацца беспакараным.*

## ПАЛІТЫЧНАЕ КОЛА

*Калі ўлічыць, што нашая палітычная група, пра якую кажа Сяржук, называлася «Незалежнасьць», будзе зразумела, што дзейнічаць яна магла толькі нелегальна.*

**Сокалаў-Воюш**: Гэта найперш Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, да іх далучыўся я. Мы выпускалі часопіс «Люстра Дзён», розныя іншыя матэрыялы распаўсюджвалі. Да групы таксама Ігар Гермянчук належаў, Сяргей Запрудзкі. І паколькі ў тых умовах набіраць шмат палітычных людзей было небясьпечна, і адкрыта няможна было такім фронтам ісьці, то трэба было пашырацца ў іншы спосаб. Зрабіць тое, што можна. А можна рабіць што? Фальклёр. Зрэшты, пазьней высьветлілася, што яго таксама няможна.

Мы вырашылі падрыхтаваць Каляды. За пару тыдняў, трэба было хуценька ўсяму навучыцца. Дзякуй Богу, была Ларыса Сімаковіч, якая ведала фальклёр, умела сьпяваць і магла гэтаму навучыць іншых. І мы ўвечары сабраліся невялікай групай у адной з пустых аўдыторыяў на філфаку. А потым зьвязаліся з мастакамі ў Тэатральна-мастацкім інстытуце, і ўжо на другія сьпеўкі, я думаю,

было чалавек трыццаць-сорак. Вялікая грамада прыйшла. І так зьявілася Майстроўня.

*Мне самому яна памятаецца як цуд. Між іншым, эксцэнтрычны Сяржук Сокалаў-Воюш зь ягонай заўсёднай торбай жартаў ды імправізацыяў запомніўся мне як ці ня самы непалітызаваны майстровец.*

**Сокалаў-Воюш**: Які цуд, якая паэзія... У тых нашых маладых уяўленьнях мы маглі выратаваць Беларусь. Выглядае, што сёньня нават шырэйшае, непамерна шырэйшае кола беларусаў ня можа ўратаваць Беларусь. Але тады мы разьлічвалі толькі на свае сілы. І ніякай паэзіі, трэба было працаваць. Паэзія была для тых, хто прыходзіў, хто ўключаўся ў гэты рух у магчымы для яго спосаб. А для нас была праца. Прыемная праца, пажаданая, тая, якой хацелася, каб рэалізаваць свае ідэі, але пакуль толькі ў такі спосаб гэта ўдавалася.

## «ЛЮСТРА ДЗЁН»

«Люстра Дзён» – антысавецкі самвыдавецкі часопіс, які друкаваў Сяргей Дубавец, а ў рэдакцыйную калегію ўваходзіў Вінцук Вячорка. І вось яны знайшлі мяне, які пісаў вершы. Акрамя таго, былі іншыя друкаваныя матэрыялы. Мы распаўсюджвалі іх у цягніках, падкідвалі ў паштовыя скрынкі. Гэта быў пачатак, які прывёў да Майстроўні нас, а потым і згуртаваў людзей.

*Зь Вінцуком Вячоркам мы былі знаёмыя некалькі гадоў да таго, яшчэ са школы. А з Сокалавым Вінцук запазнаўся падчас вучобы на філфаку БДУ.*

**Сокалаў-Воюш**: Я думаю, што нармальныя беларусы – усе радня паміж сабой. Да мяне падышоў Вінцук на філфаку. Са ста чалавек на маім курсе

заўсёды і паўсюль па-беларуску размаўляў я адзін. Плюс я ўжо недзе выступаў зь вершамі, і, напэўна, адчувалася, што ёсьць нешта большае, чым тое, што выносіцца да слухачоў. Гэта быў самы пачатак маёй беларускамоўнай літаратурнай дзейнасьці, бо ў школе я пачынаў пісаць па-беларуску і па-расейску.

Вінцук падышоў і сказаў: трэба нашыя вершы. І ня трэба было ніякіх тлумачэньняў, якія нашыя вершы, якія нянашыя. Наступны раз я яму прынёс некалькі вершаў. І я зразумеў, што «нашыя» павінны быць яшчэ больш радыкальныя. Потым зьявіліся і радыкальныя. Ён мяне пазнаёміў зь Сяргеем Дубаўцом, які служыў у Белпалку і зь якім мы размаўлялі праз ваконныя краты. Ён там друкаваў часопіс, а мы прыносілі матэрыялы. Калі матэрыял патрабаваўся зараз жа, трэба было адысьці ў бок, сабраць увесь свой талент, калі ён быў, і напісаць.

*Яшчэ за год перад тым у нашую групу ўваходзіў Ігар Гермянчук. Калі стварылася Майстроўня і Ігар прыйшоў з войска, ён вярнуўся ў палітычную групу і далучыўся да Майстроўні.*

**Сокалаў-Воюш**: Гермянчук у той час, калі я ўвайшоў у групу, служыў у войску. У Архангельску, ягоная мянушка была адпаведна Архангел. І каб ён не выпадаў зь беларускага жыцьця, Вінцук і Сяргей часта адсылалі яму беларускую прэсу. Набывалі ўсё, што выдаецца ў Беларусі, і пасылалі яму туды.

Гэта цяпер, здаецца, усё так проста: узяў, імэйлам адправіў. А тады... Гэта каштавала грошай, студэнцкіх грошай, ніхто зь іх ня быў багаты, каб раскідацца. Плюс трэба было пасылку ці бандэроль сабраць, адправіць. Пастаянная падтрымка адзін аднаго была вельмі важная.

## ВІНЦУК

*Палітычная група існавала ў Майстроўні і паралельна з Майстроўняй, часта гэта было проста адно аб'яднаньне, бо ідэя нацыянальнага адраджэньня і эўфарыя самаўсьведамленьня – гэта лучыла ўсіх. Тым больш, што лідэрам і ў групе і ў Майстроўні стаў адзін чалавек – Вінцук Вячорка.*

**Сокалаў-Воюш**: Я думаю, гэта адбылося ў нейкім сэнсе аўтаматычна. Па-першае, таму што Вінцук быў добры прамоўца – і тады, і цяпер. Па-другое, ягоная самаадукацыя стаяла на вельмі высокім узроўні – і тады, і цяпер. Гэта апрача афіцыйнай адукацыі. Плюс ён напэўна мог больш даходліва выказаць тое, што мы думаем, і ў больш прымальны для іншых спосаб. Хаця многія не прымалі гэты спосаб ягоных выказваньняў. Нехта баяўся радыкалізму, нехта нечага яшчэ.

*Для мяне лідэрства Вінцука тлумачыцца найперш тым, што ён рабіў у Майстроўні ўсю каардынацыю. Гэта быў цалкам нефармальны рух. Але каб ён быў, каб усё круцілася і працавала, нехта мусіў гэта ўсё арганізоўваць, плянаваць, дамаўляцца, шукаць магчымасьці. Роля быццам ня надта заўважная для астатніх, але вызначальная. Ты мог прыйсьці або не прыйсьці – ад гэтага парадак дня не зьмяняўся. І каб так было, каб ён не зьмяняўся, Вінцук не прыйсьці ня мог.*

**Сокалаў-Воюш**: Згадваецца мне момант, калі мы пашылі першы наш сьцяг. І калі мы яго разгарнулі ў лесе. І мы ўсе, прысутныя, склалі прысягу прысьвяціць жыцьцё беларускай справе. Гэта было вогнішча ў лесе. Мы заехалі туды на электрычцы. 10-15 чалавек было. Ірына Крук была, Вінцук Вячорка,

Сяргей Дубавец, Арына Вячорка была, яна, дарэчы, пашыла той сьцяг. Была мая першая жонка Алена. Запрудзкі быў, напэўна. Памятаю саму падзею: як мы разгарнулі гэты сьцяг і ўбачылі, як ён выглядае на вольным ветры. Гэта не перадаць. Гэта была ноч, гэта было вогнішча, і гэта было цудоўна.

Раўналежна фальклёру ішла іншая праца. Была легальная частка – Майстроўня, а мы складалі пляны барацьбы нелегальнай. Іншая справа, што рэалізаваць іх у той час было вельмі складана або немагчыма, але гэта не азначае, што мы жылі толькі Майстроўняй.

Нашая група выяжджала на Птыч пад Менскам, тады ўжо далучаўся і Віктар Івашкевіч, раз быў нават Алесь Камоцкі з Касяй Камоцкай. Калі зьяўляліся нейкія іншыя вандроўныя групы, мы стараліся на іх паўплываць у беларускім сэнсе, і часам гэта ўдавалася.

## ВЕЧАРЫНА БАГДАНОВІЧА НА ФІЛФАКУ

Першыя гады былі зорныя, але іншыя гады таксама былі зорныя ў тым сэнсе, што выйшлі нармальныя, сьвядомыя, нашыя людзі.

Юбілей Максіма Багдановіча. Памятаю, калі мы зрабілі вечарыну Багдановіча на філфаку, недазволеную практычна вечарыну. Сяргей Запрудзкі, Ірына Крук сядзелі ў бібліятэцы, рыхтаваліся. Трэба была п’еса, я напісаў п’есу пра Багдановіча. І напярэдадні вечарыны дэканат сарваў афішу. Чаму? «Удзел бяруць» – гэта няправільная форма. Зачэпкі розныя-ўсякія. Была афіцыйная вечарына падрыхтаваная. А мы ведаем, як адбываюцца афіцыйныя вечарыны. У нас так не было. Тое, што мы паказвалі, ішло не ад таго, што ў Багдановіча



Прэм'ера «Цара Максіміляна» на філялягічным факультэце БДУ, 1981 год. Сяржук Сокалаў-Воюш і Сяргей Запрудзкі

юбілей, а ад таго, што мы любім Багдановіча. Гэта вялікая розьніца.

Дзякуючы таму што дэканат зрываў афішу, у нас была поўная заля. Людзі прыйшлі паглядзець, што ж там такое адбываецца. Пасьля той вечарыны нехта зацікавіўся і можа нават далучыўся да нас.

Пасьля выйшлі на вуліцу. Вялікі сьнег. Трамваі, тралейбусы не ідуць. А мы ведалі, што ў майстэрні Алеся Марачкіна сабралася кампанія і нас там чакаюць. Мы туды прыйшлі, там быў Караткевіч. Караткевіч чытаў свае вершы. Поўныя тэксты. Ён

браў кніжку і дачытваў з памяці тое, што не пайшло ў друк. І часам нават нешта дапісваў. Гэтая кніжка ў Алеся Марачкіна павінна быць, дапісаная рукой Караткевіча.

Наагул, нічога правальнага ў Майстроўні не было. Мы людзі выйгрышныя. Само па сабе беларускае слова ня можа быць правальным. А сказанае ў тых умовах – яно было толькі выйгрышным.

## АПОШНЯЕ МАЙСТРОЎСКАЕ КУПАЛЬЛЕ

*Нельга лічыць правальным і Купальле 1985 году, пасьля якога Майстроўня трансфармавалася ў іншыя аб'яднаньні. Ладзілася тое Купальле на радзіме Якуба Коласа, у Смольні, дзе Сяржук зьбіраўся пачаць працаваць дырэктарам філіі музэю народнага паэта.*

**Сокалаў-Воюш**: Дырэктар мусіў сысьці на пэнсію, а я – заняць ягонае месца. Мы вырашылі адсьвяткаваць Купальле ў Мікалаеўшчыне. Знайшлі месца адпаведнае. Сабралася досыць шмат народу. І пачалося Купальле. Як яно і павінна быць. Са сваім палітычным падтэкстам. Былі, безумоўна, і тыя, хто быў зацікаўлены «накрыць» гэтую антысавецкую групу.

На наступны дзень у Ракуцёўшчыне адбывалася сьвята Максіма Багдановіча, і мне трэба было там выступаць. Нас некалькі чалавек сышло раней, бо мы мусілі дабрацца да электрычкі, даехаць да Менску і паехаць у бок Ракуцёўшчыны. Таму, калі людзей забіралі ў пастарунак, мяне там ужо не было. А людзей усіх забралі. Потым выпусьцілі.

Было сказана, што мы там высеклі лес, яшчэ нешта... Мяне выгналі з працы. Я быў аштрафаваны. Палітычнае нашае кола мела сваю касу, і часткова

мой штраф быў аплочаны з гэтай касы. Складкі былі. Былі і выдаткі. Складкі былі разьлічаныя на палітычныя рэчы. Не на сьвяткаваньне Купальля, не на набыцьцё дроваў ці ежы. Гэта кожны рабіў сам.

*Палітычнае кола канчаткова зьліецца з астатнім народам пазьней, калі зьявіцца Канфэдэрацыя беларускіх суполак і палітызуецца ўсё жыцьцё ў краіне. А да таго, у майстроўскія часы, яно вырашала многія задачы аўтаномна.*

**Сокалаў-Воюш**: Мы хацелі пашырыць палітычнае кола. І тады зьявіліся людзі зь іншых месцаў, узьнік Алесь Бяляцкі ў Гомелі, які, можна сказаць, быў палітычна заангажаваны ў дзейнасьці Майстроўні. Хаця ён ня быў на майстроўскіх акцыях, але гэта ўжо была сувязь. Наша палітычнае кола пашыралася па Беларусі. Такія людзі былі і ў Наваполацку, і ў іншых месцах. Мы стараліся зь імі знайсьці кантакт.

У што вылілася дзейнасьць нашай палітычнай групы? У Канфэдэрацыю беларускіх суполак. Гэта вылілася ўрэшце ў выхад на Дзяды і ў стварэньне Народнага Фронту. Сярод першых фронтаўцаў майстроўцы адыгралі не апошнюю ролю. І сярод тых, хто ламаў камуністычную сыстэму, таксама майстроўцы былі не на апошнім месцы. Мы ўзялі на сябе адказнасьць.

## ТРЫЦЦАЦЬ МАЙСТРОЎЦАЎ

*Крыху ідэалізаваць наша колішняе аб'яднаньне ўласьціва сёньня многім майстроўцам. Усё ж гэта была маладосьць, і яна была прадвесьнем вялікага зруху ў беларускай гісторыі – перабудовы, а пасьля й незалежнасьці. Як шмат людзей у Беларусі трыц-*

*цаць гадоў таму марылі пра незалежнасьць сваёй краіны ды рупіліся пра яе набліжэньне? Дзякуючы Майстроўні мы можам казаць, што іх былі сотні й тысячы. А гэта галоўны аргумэнт, што незалежнасьць ня ўпала зь неба.*

**Сокалаў-Воюш**: Мы сёньня маем шмат больш, чым тое, на што спадзяваліся. Бо мы думалі, што нашыя дзеці будуць працягваць нашую справу амаль на тым самым узроўні, на якім мы былі.

Але наагул, калі б тыя самыя майстроўцы ў тым самым узросьце зьявіліся б сёньня, я думаю, што трох дзясяткаў чалавек дастаткова было б, каб ведаць, што рабіць з гэтай дыктатурай. Проста мы пастарэлі ўсе. А людзей з такім імпэтам ня так ужо й шмат, на жаль. Ёсьць палітычна актыўныя людзі, але гэта нейкія ня тыя людзі, якія былі ў той час.

# Ігар Запрудзкі



*Браты Запрудзкія зьявіліся ў Майстроўні ад самага пачатку, у 1980-м. Старэйшы Сяргей быў адным з заснавальнікаў аб’яднаньня і прывёў туды Ігара. Абодва бачылі росквіт Майстроўні, абодва перасталі наведвацца ў яе яшчэ да яе сканчэньня. Але, мяркуючы па іх сёньняшніх занятках, абодва на ўсё жыцьцё засталіся ў коле зацікаўленьняў, якія трыццаць гадоў таму аб’яднalі майстроўцаў. Сяргей – мовазнаўца. Ігар выкладае літаратуру XIX ст. Абодва працуюць на філфаку БДУ.*

*Сяргей Запрудзкі вылучаўся паміж майстроўцаў сталасьцю. Узросту ўсе былі блізкага, але іншых, найперш хлапцоў, у поўным сэнсе дарослымі людзьмі*

*назваць не выходзіла. Гэта была пара юнацтва, якая яшчэ дазваляе сабе крыху больш дурасьлівасьці, нематываваных учынкаў, безадказных паводзінаў, чым у дарослым веку. Але ў вёсцы часьцяком чалавек з малых гадоў далучаны да працы разам з дарослымі і таму зь дзіцяці адразу ператвараецца ў мужчыну. Юнацтва аказваецца за рамкамі гэтага пераходу.*

*Ігар быў маладзейшы і яшчэ ня «выкачаўся» ў гатовага дзядзьку, але ж і ад дзяцінства ў ім ужо не засталося нічога. Гэта значыць, што ў вясковай рабоце ён лічыўся за дарослага.*

**ДАРАСЬЛЕЙШЫЯ ЗА ІНШЫХ**

*Варта заўважыць, што такі, можа быць, архаічны кшталт незрэалізаванага юнацтва панаваў ня дзесьці ў глухім кутку Беларусі. Патрыярхальны кшталт панаваў пад самым Менскам.*

**Запрудзкі**: Бацькі вяскоўцы. Звычайныя калгасьнікі. Бацька шафёрам працаваў. Маці пэўны час, пакуль выхоўвала дзяцей, была хатняй гаспадыняй, затым на пошце працавала. Менскі раён са слуцкага боку, 18 км ад гораду, вёска Калініна – Ігнатычы. Колісь там жыў пляменьнік вядомага пісьменьніка Аляксандра Ельскага. Займаўся дэкаратыўнымі расьлінамі. Вельмі цікавая постаць. Цяпер мала што там засталося. Будынак ягоны застаўся. А сама вёска фармавалася ўжо ў савецкі час.

*Да спэцыфікі вёскі дадаецца й спэцыфіка роду. Як дапытлівы гуманітар Ігар шукаў свае карані і знайшоў гэтую самую спэцыфіку.*

**Запрудзкі**: Слаўная вёска Міраслаўка ёсьць у Бярэзінскім раёне. Там трацiна насельніцтва Запрудзкія. Я займаўся нашым радаводам, і мне пашэнціла. Высьветлілася, што пачынальнікам

нашага роду быў канкрэтны чалавек Апанас і ягоная жонка Ганна. Яны зьявіліся, хутчэй за ўсё, пасьля 1806 году. Там быў фальварак Барацічы. Ён належаў Шэмэшам (з гэтага роду мастак), а затым Сьвятарэцкія (адзін з паўстанцаў) у пачатку XIX ст. набылі гэты фальварак. Хутчэй за ўсё, мае продкі прыехалі разам зь імі. З сабой паны прывезьлі іх або з Запрудаў, або з Запрудзьдзя, так нарадзілася прозьвішча. Паводле інвэнтара 1844 году, у Барацічах і вёсцы былі толькі адны Запрудзкія. Астатнія насілі іншыя прозьвішчы – Карнет, Валевіч, Чайка. А ў канцы стагодзьдзя там Запрудзкіх ужо палова была. Выснова: шмат хлопчыкаў нараджалася. У майго бацькі было чатыры сыны. У майго старэйшага брата два сыны. У мяне два сыны. У майго дзеда былі чатыры браты. Ніводнай сястрычкі.

*Пра сыноў Ігар кажа, што старэйшы пра Майстроўню ўжо ведае, а малодшы любіць слухаць казкі, якія складае яму бацька. Вось жа каб і малодшы даведаўся пра Майстроўню, бацьку давядзецца прыдумаць пра яе казку.*

## ФІЗЫК, ЯКОГА МАЙСТРОЎНЯ ЗРАБІЛА ЛІРЫКАМ

*Я назваў Ігара дапытлівым гуманітарам, але якраз у майстроўскія часы Ігар паступіў быў на фізфак БДУ. Як высьветлілася, зрабіў памылку.*

**Запрудзкі**: Меркавалася, што я буду астраномам. А як было за савецкім часам – ангельская мова выкладалася ў школе ніяк. І я цудоўна разумеў, што паступіць у Маскву ці Пецярбург з маім веданьнем замежнай мовы будзе нерэальна. Дырэктар школы напісала такую характарыстыку, што я вялікі фізык і па мне плача фізфак. Я на сваё няшчасьце паступіў. І зразумеў, што калі давучуся да першай сэсіі, зва-

ротнай дарогі ўжо ня будзе. І кінуў. Для бацькоў маіх, вядома, была драма сямейная. Але як цяпер, то і не шкадую.

Драма была не таму што ў войска забяруць, а таму што вось самастойна паступіў, безь ніякіх там платаў, пратэкцыяў, бяз клопатаў. Бацькі, вядома, хацелі, каб вывучылася дзіця. Для майго бацькі была драма нават ня ў гэтым. Ён да гуманітарнай сфэры ставіўся выключна нэгатыўна. Ён лічыў, што фізыка – гэта нешта рэальнае, а філялёгія – абстракцыя, нікому не патрэбная ў прынцыпе.

Не было б той Майстроўні, быў бы зь мяне вельмі пасрэдны астраном, калі б мне яшчэ пашанцавала. Мае ўяўленьні тады пра астраномію і рэальная астраномія – гэта вельмі вялікая розьніца. Уся астраномія – гэта формулы. Ніхто на зоры ўжо не глядзіць.

*На зоры глядзяць літаратары і літаратуразнаўцы, кім урэшце Ігар і стаў. Але важная дэталь. Паступіўшы на фізыку, ён зрабіў памылку, дзякуючы якой у Майстроўні апынуўся яшчэ адзін чалавек – Сяргей Санько.*

**Запрудзкі**: Я паступіў на фізфак, там Сяргей Санько. Мы зь ім вучыліся ў адной групе, езьдзілі ў Быхаўскі раён на лён.

Тады пачала ўтварацца гэтая структура на філфаку, гэта 1980 год, восень. Старэйшы брат мой меў да гэтага непасрэднае дачыненьне, а мы жылі зь ім разам. І я да гэтага таксама прыцягнуўся.

Памятаю Ларысу Сімаковіч, якая прыйшла і ўзяла ў свае невялікія прыгожыя, але цьвёрдыя рукі ўсю гэтую схему. Перад ёй стаяла грандыёзная задача, умоўна кажучы, зь нікога зрабіць штосьці. І яна з гэтай задачай справілася.



Майстроўня, 1981 год. Стаяць: Ігар Запрудзкі, Ларыса Сімаковіч, Вінцук і Арына Вячоркі, Гэнік Лойка, Сяргей Запрудзкі, Галя Кунцэвіч, аўтар, Сяргей Кныш. Сядзяць: Яўген Валасевіч, Наталя Лазоўская, Алена Амельчыц, Янка Медзьвядзёў, Ірына Крук

Было там кіраўнічае ядро, ясная рэч. Уваходзіў Вінцук, Арына, Сокалаў, брат Сяргей, Іра Марачкіна. І была завядзёнка: пасьля рэпэтыцыі зьбіраліся ў пад'езьдзе Вінцуковага дому і там абмяркоўвалі. Я, вядома, там быў выпадковы, старэйшы брат мой быў у гэтых размовах. Абмяркоўвалі самыя розныя аспэкты. Палітычны аспэкт там прысутнічаў. Як магчымая пэрспэктыва.

Наладзілася сувязь з Тэатральна-мастацкім інстытутам, уліўся творчы патэнцыял мастакоў. І былі Каляды. І, вядома, зрабілі фурор. У дэнацыяналізаваным Менску, які нібыта быў ужо абсалютна інтэрнацыянальным горадам, і такое сьвята! І яно не выклікае варожасьці, непрыняцьця. Як на Каляды і павінна быць, яно выклікае радасьць.

Але ўзровень падрыхтоўкі гэтых Калядаў... Гэта ж ня проста так. І салісты, якія сьпявалі, былі адмысловыя людзі. Рыгор Панцялееў, да прыкладу. Такі яркі выдатны голас меў. Гэта былі амаль што прафэсійныя калядоўнікі падрыхтаваныя.

### СЬПЯВАЦЬ!

*Заўважнымі сьпевакамі былі і браты Запрудзкія. «Там за садамі» – так называлася песьня, якую пачынаў старэйшы брат Сяргей.*

**Запрудзкі**: Сьпяваем на любых імпрэзах, дзе зьбіраюцца людзі. У мяне сям'я даволі сьпеўная, сёстры стрыечныя, браты стрыечныя асабліва. Гэта сьвятая справа. Якое б там вясельле ні было, «Кура» – фірменная песьня, якую сьпяваюць усе сваякі, а тыя, хто ня ведае, будуць, хочуць ці ня хочуць, падпяваць.

Мой рэпэртуар нават сёньняшні працэнтаў на 70-80 складаецца зь песень, засвоеных у Майстроўні, ён і цяпер базавы.

### ІЗНОЎ: ЦУД ЦІ НЯ ЦУД?

Цуд – гэта, вядома, патасна, мэтафарычна, я ніякім чынам не хачу прынізіць таго, што адбылося, але адбылося гэта ў пэўнай ступені заканамерна. Зь якіх прычынаў? Я ўсё ж такі як гісторык літаратуры мушу праводзіць нейкія аналёгіі з сацыяльнымі зьявамі і працэсамі.

Першы момант зьвязаны з тым, што потым абазвалі застоем. А беспэрспэктыўны стан грамадзтва найбольш адчувае моладзь. Вялікая колькасьць маладых людзей былі патэнцыйна ўжо... я б не сказаў, што яны апазыцыйна да ўладаў ставіліся, але ставіліся да такіх арганізацыйных структураў, як

камсамол, даволі скептычна. Гэта была глеба, якая ў значнай ступені згуртавала тых людзей. І патрэбны быў нейкі цэнтар, да якога людзі сталі цягнуцца.

Другі момант. Знаёмства маё з гэтай суполкай пачалося з таго, што старэйшы брат, які вучыўся на філфаку, прывёз нелегальнае выданьне «Люстра Дзён». Я пачытаў. У мяне скептычнае стаўленьне да ўладаў ужо сфармавалася пасьля таго, як я папрацаваў у калгасе на камбайне памочнікам. Я ўбачыў, што адна справа, што ў нас гаворыцца ў тэлевізары, і зусім іншая – рэальнае жыцьцё. Пераацэнка каштоўнасьцяў была.

А яшчэ да васьмідзясятых гадоў у нас кіроўныя эліты партыйныя памяняліся. У 1950-я гады кіраўнікі нашай рэспублікі ў асноўным прыехалі аднекуль. А ўжо да 1980-х былі такія, як бацька Вінцука. Ці той жа бацька Дубаўца. Эліта памянялася. Падсьвядома яны ўжо інačай глядзелі на ўсе гэтыя рэчы. І скепсіс да тых ідэалаў у грамадзтве набыў ужо іншыя формы. Яны маглі быць пасьпяховымі функцыянэрамі, і ў той жа час яны цудоўна разумелі наяўны стан рэчаў. Кіроўная эліта тут нарадзілася, выгадавалася, яна была тутэйшая. Яна не прыехала з Уралу, яе не прыслалі з Украіны. Яны настолькі агрэсіўна да беларускага, як той жа Цанава, не маглі ставіцца.

*Ігар Запрудзкі гаварыў пра самы пачатак Майстроўні, позьнюю восень 1980 году. У той час ён і наважыўся кінуць сваю фізыку. Да вясны папрацаваў у Менску, пасьля зьехаў у родную вёску да бацькоў і на Майстроўні бываў толькі наездамі. Але добра запомніў вясну 1981 году, калі Майстроўня ставіла народную драму «Цар Максімілян». Цара граў Ігараў брат Сяргей.*

**Запрудзкі**: Я брату нават карону рабіў. Яна з фольгі меднай была. А пастаноўка была, я б сказаў, авангардовая для таго часу.

Тады я глядзеў на гэта як на выключны шэдэўр. Шэдэўр тэатральнага мастацтва. Я быў гледачом. Затое прысутнічаў на рэпэтыцыях. Сутнасьць ідэі, выбар твору мне былі зразумелыя і блізкія. Хоць, баюся, далёка ня ўсе разумелі, пра што яна.

Такая кумірыцкая багіня хацела, каб маліліся яе багам. І як лёгка, аказваецца, можна здрадзіць сваім багам, сваёй культуры, свайму народу, сваёй гісторыі і пачаць маліцца на дыктатуру пралетарыяту, будучы мітычны камунізм.

## КАНЦЭПТУАЛЬНЫ ЎПЛЫЎ

*На кінахроніцы, якую здымаў Ігар Марачкін, я знаходжу Ігара Запрудзкага на майстроўскім сьвяце праводзінаў зімы на менскім стадыёне «Арляня». Гэта пачатак 1983 году. Пасьля Ігара забяруць у войска, а калі ён вернецца, Майстроўні ўжо ня будзе.*

**Запрудзкі**: Далёка ня кожны чалавек, жывучы ў штодзёншчыне, уяўляе ступень свайго ўплыву на будучыню. Так і з Майстроўняй. Можа ўяўляцца, што Майстроўня паўплывала толькі так, што ўтварыўся цэлы шэраг арганізацыйных структураў вакол яе. Я ж думаю, што яна канцэптуальна паўплывала на ўсё наша грамадзтва. Бо тое, што ўжо ў пачатку 1990-х гадоў зьдзейсьнілася, калі пачалася беларусізацыя... Я думаю, маладзёвая суполка Майстроўня зрабіла ў гэтым пляне больш за многіх уганараваных дзеячоў культуры. Проста гэта незаўважны ўплыў.

# Сяргей Санько



*У Беларускай Майстроўні гэта быў самы незвычайны зь яе ўдзельнікаў. Спачатку вы заўважалі сярод студэнцкае грамады ягоную сівую галаву. Потым дазнаваліся, што ён прастудыяваў увесь «Капітал» Карла Маркса, і нават, здаецца, у арыгінале. Далей высьвятлялі, што ён захоплены беларускім паганствам і этнакасмалёгіяй. А ўрэшце даведваліся, што ён – фізык з адпаведнага факультэту БДУ.*
*Гэты амаль касьмічны прышэлец сьпяваў разам з усімі «Куру-шчабятуру» і паводзіўся зусім па-таварыску.*

## ПРАДСТАЎНІК АНТЫЧНАГА ЭТНАСУ

**Санько**: Я пачаў сівець, напэўна, у пятай клясе. Вельмі пераймаўся з гэтай прычыны. Фарбаваўся нават. А потым кінуў. Хай так будзе. Пасьля прачытаў у Герадота, што недзе блізу нашых краёў жыў народ, людзі якога з маленства былі ўсе сівыя. Ну дык нармалёва! Прадстаўнік старажытнага тутэйшага антычнага этнасу.

Мне пашэнціла. Калі ў 1980 годзе я паступіў на першы курс фізфаку, у маёй групе быў малодшы Запрудзкі, Ігар. На «бульбе» нас пасялілі ў адной хаце. Я й да таго цікавіўся гісторыяй Беларусі. І мы натуральна зь ім адразу пасябрыліся. І, дзе-небудзь пад стажком прылёгшы, разважалі пра розныя цікавыя для нас рэчы.

Пазьней далучыўся Ігар Міклашэвіч. І прыехаўшы ў Менск, ужо калі пачаліся заняткі, мы зрабілі нахабны крок. Мы вырашылі наведаць Караткевіча.

## КАРАТКЕВІЧ І ФАНТАСТЫКА

Палічылі, што гэта дастатковая нагода – я з Воршы і Караткевіч аршанец. Прыйшлі. Ён хварэў вельмі моцна ў той момант. У ложку ляжаў. Мы пабылі, можа, з гадзіну. Караткевіч неяк ажывіўся. Калі даведаўся, што мы фізыкі, пачаў падбухторваць, каб мы заняліся стварэньнем жанру беларускай фантастыкі ў літаратуры. Уразіла, што ён смаліў беламор літаральна кожныя тры хвіліны. Адну за адной. Гэта пры тым, што ляжаў у ложку. Гэта 1980 год, кастрычнік.

А потым наша куратарка вырашыла зрабіць нам пазакляснае чытаньне. Што-небудзь з гісторыі

Беларусі. Я зрабіў невялікі рэфэрат пра Сымона Буднага, а Запрудзкі пра Скарыну. А потым Ігар і кажа: а ты ведаеш, што ёсьць такая Майстроўня? Кажа, у мяне брат вучыцца на філфаку, там народ зьбіраецца, песьні развучвае, там цікава. Ну і пайшлі.

Уразіла само асяродзьдзе. Вядома, я як фізык быў белай варонай, бо ў асноўным там былі мастакі, зь філфаку, журналісты.

### БЕЛАЯ ВАРОНА

*Белай варонай Сяргей быў і на сваім факультэце: фізык сярод лірыкаў, лірык сярод фізыкаў. Вучоба давалася яму лёгка, таму выкладчыкі даравалі пропускі. А ён тым часам сядзеў у бібліятэцы-«ленінцы» і захапіўся філязофіяй. Невядомая сіла цягнула яго да гуманістыкі, якая ўрэшце стане жыцьцёвым выбарам.*

**Санько**: Паралельна захапіўся філязофіяй, у тым ліку старагрэцкай ды індыйскай. З аднаго боку – фізыка, найперш цікавіўся астрафізыкай і касмалёгіяй, з другога боку – пачала зьяўляцца цікавасьць да народнай астраноміі і да міталёгіі, і яна ўрэшце ўзяла верх.

*Сфэра зацікаўленьняў уплывала на кола знаёмстваў. Найбольш часу Сяргей праводзіў не з сукурсьнікамі, а на гістарычным факультэце, зь філёзафамі.*

### МЕНСКАЯ ТУСОЎКА

**Санько**: З гісторыкамі мы ўжо пачалі займацца палітычнай гісторыяй і нават прадумвалі варыянты стварэньня апазыцыйнай палітычнай партыі. Гэтае пытаньне мы потым кулюарна абмяркоўвалі зь

Вінцуком, з Германчуком. Я тады даволі сур’ёзна закапаўся ў студыяваньне клясыкаў марксізму, увесь «Капітал» прастудыяваў, асабліва Марксавы раньнія філязофскія рукапісы, крытыку гэґелеўскае філязофіі права. Там такія пасажы пра бюракратыю! А гэта ж самы брэжнеўскі застой.

З гісторыкаў былі Толік Мінчанка, ён працуе дырэктарам школы ў Лоеўскім раёне, і Коля Новікаў, ён у Гомелі, у апазыцыйных партыях удзельнічаў, здаецца, і дэпутатам гарадзкога савету быў. Потым Кася Камоцкая. Гэта найбліжэйшае кола. Зь філёзафамі я пазнаёміўся. Сяргей Купцоў, ён памёр. Праз яго з Камоцкім пазнаёміліся. З Бабковым пазнаёміліся.

Мы рэгулярна хадзілі на каву з Купцовым. Насупраць цэнтральнага ўнівэрсаму. Цяпер там піцэрыя нейкая. А тады кавярня «Нёман», здаецца. Нармальная кавярня і цікавы бармэн працаваў. Мы заўсёднікі былі, бралі 50 грамаў каньяку, і ён рабіў нам каву нармальную. Часам далучаўся паслухаць, што мы там разумнае размаўлялі.

І туды ж Бабкоў хадзіў з адным літоўцам, які вучыўся на філязофскім аддзяленьні. Віктарас. Яны фанацелі ад Гайдэґера і ад дзэн-будызму. Ну а мы з Купцовым ужо, наадварот, заварочваліся на чыста беларускія справы.

Менская тусоўка была і шырокая, і ў той жа час камэрная. Як малыя сацыяльныя сьветы, якія цяпер вывучаюць псыхолягі, дзе хаця б праз аднаго чалавека кожны кожнага ведае. Вёска ў вялікай гэтай вёсцы, у Менску. І так яно й застаецца. Зь некаторымі гадамі ня бачымся, а потым бах, раптам дзе-небудзь сустрэліся – о!



Сяргей Санько вядзе астранамічны гурток у Менскім плянэтары. 1984 год

## НАРАДЖЭНЬНЕ «КРЫЎІ»

*Гаворку перарваў званок. Тэлефанаваў Тодар Кашкурэвіч. І пасьля размова доўжылася ўжо пра яго.*

**Санько**: Праз год, недзе ў 1986-м, мы з Тодарам пазнаёміліся. Але што цікава. Мы сустракаліся на рытуальных абыходах кавярных месцаў у цэнтры – «пад гадзіньнікам», цэнтральны ўнівэрсам, «пярцоўка» і... бясконцыя размовы пра ўсё на сьвеце, толькі не пра тое, чым займаліся таемна, кожны сам у сабе – міталёгіяй і гісторыяй Беларусі, у такім ключы, у якім мы цяпер займаемся. І атрымалася вельмі сьмешна. У нас быў агульны знаёмы Ігар Бабкоў. І мы з Бабковым стаялі на прыпынку і

размаўлялі. Я некалькі тэзаў пра сваё бачаньне крыўскай праблематыкі агучыў. А ён мне кажа: я гэта ўжо чуў. – Як ты мог гэта чуць, калі я нікому яшчэ не распавядаў? – А я, кажа, чуў, ведаеш такога Кашкурэвіча? – Вядома, ведаю. – Ну дык ад яго я й чуў.

І тады мы з Тодарам проста сустрэліся. Я яму распавёў гэтую гісторыю. Узялі бутэльку добрага віна, пайшлі да яго ў майстэрню, тады на Рэвалюцыйнай. І аказалася, думаем даволі сынхронна і паралельна. Потым прыйшла і назва гэтага цэнтру этнакасмалёгіі – «Крыўя». Сталі новыя людзі далучацца. Пачыналася гэта ў 1988 годзе, так і працягваецца. Гэта быў той імпульс, які ішоў ад Майстроўні, бо і Тодар, хоць ён у Майстроўні ня ўдзельнічаў непасрэдна, але быў з таго самага мастакоўскага асяродзьдзя.

Кола кантактаў увесь час пашыралася. Сяброўскія кампаніі зьбіраліся то ў Сушы, то ў Камоцкіх, то ў Вінцука, то яшчэ дзе-небудзь.

Калі мы пасканчалі свае ўнівэрсытэты, пачалася перабудова і нефармальныя рухі. З аднаго боку, паўсталі «Талака», «Тутэйшыя». З другога боку, утвараецца Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства, дзе мы з Генадзем Сагановічам блізка сышліся і вельмі актыўна працавалі. Гэта 1988 год. Сэрыя ішла: БНГТ, «Мартыралёг Беларусі», усе гэтыя новыя формы аб'яднаньня.

## АРШАНСКАЕ ДЗЯЦІНСТВА

Бацька з аднаго кута, маці – з цалкам супрацьлеглага. Бацька з заходняга Палесься, з Маларыцкага раёну. Там колькі кілямэтраў, і ўжо Ўкраіна пачынаецца. Маці з другога краю, паўночна-ўсход-

няга, Дубровенскі раён. Там літаральна кілямэтраў пятнаццаць – і Смаленская вобласьць.

Бацька быў чыгуначнік. Ён скончыў актыўную кар'еру галоўным інжынэрам дыстанцыі сыгналізацыі й сувязі. Стрэлкі, сьвятлафоры, усё такое. Дарэчы, я таксама пасьпеў год папрацаваць электраманцёрам сувязі. А маці працавала ў кінапракаце.

У першай клясе я выпрасіў у сястры, каб яна купіла мне падручнік астраноміі. І я сядзеў, гэты падручнік за 10-ю клясу чытаў. Таксама вельмі рана цікавасьць да этнаграфіі зьявілася. Праз кніжкі пра індзейцаў. У чацьвертай-пятай клясах у нас свая каманда была. Мы гулялі ў індзейцаў. Цікавасьць да археалёгіі зьявілася. Мы пачалі абсьледаваць Воршу.

Першае, што мы зрабілі... Нідзе ж не было напісана, дзе Куцеінскі манастыр. І мы зімой невялікім гуртом сяброў-аднаклясьнікаў сабраліся і пайшлі шукаць. Нехта падказаў, што, напэўна, недзе ў раёне ільнокамбінату. Прыехалі туды. І сапраўды, там мы хутчэй зарыентаваліся. Там быў склад аўтапарку нейкага. Мазута стаяла ў самым манастыры. Нядзеля. Народу не было, толькі вартаўнік. Мы дастаем пасьведчаньні, што мы члены Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (маркі ж куплялі). І дзеду, які вартаваў, пачынаем заліваць, што мы хацелі б абсьледаваць аб'ект. Дзед слухаў-слухаў і адчыніў нам гэты склад. Мы ўсё там паглядзелі, старанна ў блякноціках запісалі, што бачылі.

Мы знайшлі гэты манастыр. І пры першым наведваньні заўважылі, што ёсьць там скляпеньні і яўна падземныя хады. Сам гэты дзед распавёў нам, што ёсьць некалькі падземных хадоў. Адзін

ідзе туды, дзе на той момант стаяла ракетная частка. Туды, у лес, не пускалі наагул. Там разваліны Ўсьпенскага жаночага манастыра. А другі нібыта ішоў пад Дняпром і выходзіў у раёне гарадзішча, дзе стаяў Аршанскі замак. І яшчэ кудысьці.

Мы заўважылі, дзе гэтыя хады, і падрыхтаваліся. Звычайна я быў завадатарам, у мяне «маторчык» быў. Набралі ліхтарыкаў, сьвечкі, запас ежы (а раптам засыпле), даўгую вяроўку, каб не заблукаць. Прыйшлі, калі нікога не было, і пайшлі ў адзін з гэтых хадоў...

А фізыка ўвайшла ўва ўсе гэтыя мае зацікаўленьні неяк выпадкова. Я з паяльнікам дома сядзеў, прымачы прымітыўненькія паяў. Быў у школе гурток радыёаматарскі, настаўнік фізыкі вёў. У сёмай клясе пачалася фізыка, і на школьнай алімпіядзе я першае месца заняў. На наступны год неяк атрымалася, што першае месца ў школе, у горадзе, у вобласьці, ну і пасылалі «на рэспубліку». А паколькі я чалавек, які захапляецца, я й захапіўся.

## АПОШНЯЕ КУПАЛЬЛЕ

*Сяргей Санько – удзельнік самай апошняй майстроўскай акцыі: Купальля 1985 году на радзіме Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне.*

**Санько**: Гэта ў прынцыпе ўжо канец Майстроўні як Майстроўні, 1985 год, пачатак перабудовы, Купальле ў Коласа, калі аблава была. Там мяне, Камоцкага, нашых жонак, Касю і маю жонку, павязалі, Івашкевіча, пару левых нейкіх, мы нават падазравалі, што можа гэта нейкія стукачы. Якраз у траўні, здаецца, Гарбачоў выдае антыалькагольны ўказ, і паколькі нічога не змаглі інкрымінаваць, апошняе

абвінавачваньне было ў калектыўнай п'янцы на прыродзе. Там, вядома, па сто грам уначы было выпіта, але ніхто ж п'яны ня быў. Тым больш на сьвежым паветры і скакаўшы цэлую ноч.

Прывезьлі ў Стоўбцы ў аддзяленьне. Прыехаў нейкі палкоўнік зь Менску, кагэбіст. Мы з Камоцкім сядзелі і ўзгоднена пісалі тлумачэньне. Як мы патрапілі, што за сымболіка... Але іх найперш цікавіла ня гэта. Ім трэба быў кампрамат на Вінцука, на Сокалава-Воюша. Сяржук тады працаваў там у музэі, натуральна, яго пасьвілі. Яго абвінавацілі канкрэтна ў пасечцы лесу. Мы дык стараліся сушняк зьбіраць на вогнішча, але тым ня менш абвінавацілі ў гэтым.

А мы з Камоцкім прыкінуліся шлянгамі, і замест таго, каб пісаць на канкрэтныя пытаньні, я пачаў разьліваць ваду пра сымболіку, што гэта старажытная міталёгія... Цэлы трактат напісаў. Натуральна, мянтам гэта ўсё было нецікава. А перад тым яшчэ дамовіліся. Івашкевіч кажа: хлопцы, я чалавек рабочы, мне ўсё роўна нічога ня зробяць, мне апроч ланцугоў губляць няма чаго, так што кажыце, што я запрасіў вас. А я ўжо буду іх пасылаць. Ну мы й напісалі, што запрасіў Віктар Івашкевіч на традыцыйнае сьвяткаваньне. Зьвязана з сонцастаяньнем, такі момант у прыродзе...

Там былі моманты напружаньня, калі мянты хацелі праз Касю і маю жонку націскаць. Нібыта заводзілі іх у асобныя кабінэты. Мы адразу сказалі, што жонкі цяжарныя. Гэта была амаль што праўда. І мянты супакоіліся. Іх не чапалі, толькі нас з Алесем апытвалі. Пратрымалі, напэўна, гадзінаў да васьмі раніцы. (Аблава была гадзіне а чацьвертай.) І адпусьцілі.

*Шмат якія новыя для тагачаснай Беларусі справы і кірункі нарадзіліся ад Майстроўні.*

**Санько**: Такі прыклад. Рыхтуецца трэцяе выданьне слоўніка беларускай міталёгіі. Рэдактарамі я і Тацяна Валодзіна. Слоўнік значна пашыраны. Але імпульс ішоў ад курсавой працы Сокалава-Воюша, дзе ён даваў сьпісы міталягічных пэрсанажаў. Потым я пачаў гэтым займацца сыстэматычна, і працягваю займацца.

Апошнія пяць гадоў я працую ў Інстытуце філязофіі Акадэміі навук у групе, якая займаецца падрыхтоўкай шасьцітомнага выданьня Гісторыі філязофскай і грамадзка-палітычнай думкі Беларусі. У Інстытуце пераважна гэтым даводзіцца займацца. А ў астатні час – маё і Тодара Кашкурэвіча дзецішча – цэнтар этнакасмалёгіі «Крыўя». Які можна лічыць таксама і дзецішчам Майстроўні.

# Алена Каравай



*Мастачка Алена Каравай кажа, што ў апошнія гады стала задумвацца пра тыя сьветапоглядныя ўстаноўкі, якія раней уяўляліся непарушнымі.*

**Алена**: Быць самім сабой – сэнс. А вось што б гэта значыла канкрэтна для мяне, я цяпер ужо гады два думаю.

*З часоў Беларускай Майстроўні зьмянілася краіна, у якой мы жывем. Замест колішняга нефармальнага руху моладзі паўстала мноства ўсяго апазыцыйнага, альтэрнатыўнага і недзяржаўнага. Мы бываем на Захадзе, Расея для нас – іншая краіна і Масква больш не сталіца нашай радзімы. Выглядае, што фармальна зьдзейсьніліся ці амаль зьдзейсьніліся тыя жаданьні і задачы, якія калісьці майстроўцы ўпершыню вынесьлі ў публічнае поле.*

## БЫЦЬ САБОЮ

*Але вось загадка. Не зьмянілася толькі аблога русіфікацыі. Колісь насуперак ёй мы прабіваліся да разуменьня саміх сябе як беларусаў. Гэта былі неверагодныя адкрыцьці, так часта падобныя на цуд! Чаму ж сёньня, у незалежнай краіне, зь беларускім пашпартам у кішэні і наяўнасьцю прасторы для самавыяўленьня, яно даецца ніяк не лягчэй, а пры тым зусім не падобнае на цуд?*

**Алена**: Гэта было пасьля «Парнату». Мусіць, на першым курсе. І хто нас туды завалок, у Майстроўню? Мусіць, Геначка, Мядзіла і Радзівон. Сказана было: пайшлі сходзім, і мы пайшлі.

*Геначка – Гэнік Лойка, Мядзіла – Янка Медзьвядзёў і Радзівон – Андрэй Радзівонаў – з аднае клясы «Парнату». У 1980-м яны ўсе разам прыйшлі ў Беларускую Майстроўню.*

**Алена**: Чым там народ займаўся? Мне здавалася, лухтой. Я абсалютна не «даганяла» «Максіміляна», мяне гэта дзіка раздражняла. Такая саматужнасьць... Ну, але ж па-беларуску...

Я не тусовачная дзевачка была. Цікава народу гэтым займацца – хай займаецца, а мне трэба ў інстытут, «карцінкі красіць». А тое, што яны свае людзі, гэта было адназначна.

*У Майстроўню Алена прыходзіла і сыходзіла адтуль «красіць» – маляваць. Яна брала ўдзел у народных сьвятах, якія Майстроўня ладзіла для шырокае публікі, сьпявала ў карагодах, але наўмысна кантактаў не шукала.*

**Алена**: Паколькі я глыбокі інтравэрт, я пошукамі не займаюся. І я ніколі не шукала сабе ні гурта, ні працы. Мне само так звальвалася – бац! Бачыш – тваё.



Першае майстроўскае Гуканьне Вясны, 1981 год. Каля помніка Купалу. Тацяна Храмянкова, Алена Каравай, Гэнік Лойка

## КАЛЯДЫ Ў ШАРАНГОВІЧА

*Выглядала, што мы нясем да людзей сьвята, але пры тым робім нешта недазволенае, можа быць, нават антысавецкае, а таму наша народнае сьвята набывае ў вачах публікі крымінальнае адценьне. Людзі маглі паставіцца да нас па-рознаму, у тым ліку і нашыя куміры-мастакі. Асабліва прызнаныя мэтры, такія, як Васіль Шаранговіч. Праз ягоную кніжную графіку мы бачылі ў ім свайго чалавека. Але кніжная графіка знаходзілася ў межах адведзенай для беларушчыны культурнай рэзэрвацыі, а мы гэтыя межы разбуралі. Таму – хто яго ведае, як паставіцца да нашай акцыі канкрэтны чалавек.*

**Алена**: Помню, як мы на Каляды хадзілі. Калі б я ў той момант ведала, што Васілю Пятровічу спадабаецца, што да яго такі кагал завітае, я б ня стала вішчаць на пляцоўцы: ой, не! Давайце ня пойдзем

– Васіль Пятровіч мяне з графікі выганіць!.. І мы да Шаранговіча не зайшлі. Шкада. Таму што яму было б прыемна. Я ж ня ведала тады, які ён. Да Вашчанкі зайшлі, і там было здорава.

Пасьля яшчэ лавілі хлопцаў, такі быў інцыдэнт. Мы ходзім, за намі людзі ў форме ўвязаліся. Сталі за лакаткі хапаць, у варанок цягнуць, неяк адбілі... Мне было дзіка цікава – няўжо гэта каму-небудзь трэба адсочваць? Ну, але ж былі якія часы... Саюз стаяў цьвёрда.

*Сёньня Саюзу няма. Але, як і тады, Майстроўня, а нават і сама майстроўская тэма выклікаюць пільную ўвагу праваахоўнікаў.*

*Магчыма, мы хочам зашмат? Магчыма, трыццаць гадоў – зусім невялікі тэрмін для тых працэсаў, якія мы задумалі. І трэба радавацца таму, што колькасьць беларускамоўных павялічылася шматкроць з тых нядаўніх часоў, калі ніхто ня мог нават уявіць сабе, як хутка абрынецца Савецкі саюз.*

**Алена**: Гэта пасьля Сыс сказаў, што Саюз ня вечны. І для мяне такое было адкрыцьцё! Але тады ніякага разуменьня яшчэ не было. Было толькі разуменьне, што зь беларусамі нешта ня тое. Паколькі народ так сябе паводзіць. А значыць, той, хто размаўляе па-беларуску, – свой да канца.

Але гэта было тады. Пасьля аказалася, што ня ўсё так проста.

Той час прыпаў на маладосьць, і было так класна! *Ідэалы нашае маладосьці тым добрыя, што ніколі ня здраджваюць нам. У маладосьці з кожным здараецца свой цуд і свае адкрыцьці. З Аленай Каравай гэта адбылося ў тым самым «Парнаце» – школе для адораных дзяцей.*

## УДАРНЫ МОМАНТ

**Алена**: Я з гарадзкога пасёлку Гарадзея, Менская вобласьць, Нясьвіскі раён. Мамачка выпадкова прачытала абвестку, што ёсьць такая школа для «адуронных» дзяцей, як наша Нэла Абрамаўна казала. Ну, і паехала, здала экзамэны і паступіла да вялікай радасьці сваёй, таму што перастала хадзіць на скрыпку і мучыцца. І ня трэба было здаваць гербарый, якога я не сабрала за лета. Карацей, класна жыцьцё павярнулася. Зьняліся пытаньні – кім быць, куды ісьці.

*А заадно вырашылася і пытаньне – хто я? Гэта ж праўда, што адказ на яго ў кожнага з нас нехта калісьці «закінуў».*

**Алена**: У мяне канкрэтна – Сокалаў-Кубай за дзьве гадзіны гісторыі мастацтва. Гэта быў ударны момант. На дошцы напісана пару датаў, кшталту 1410. Зададзеныя пытаньні: што гэта? Ніхто нічога ня ведаў. Пасьля было сказана, што калі чалавеку тысячу разоў сказаць, што ён сьвіньня, то ён зарохкае. І праз дзьве гадзіны, калі я адтуль выйшла, мне ўсё было ясна.

*Цікава, а як гэта адбываецца ў якіх-небудзь фінаў ці гішпанцаў, ці тых жа расейцаў. Літовец пра дату Грунвальдзкае бітвы даведваецца яшчэ да школы, а пра тое, што ён літовец, – яшчэ да таго, мабыць, як пачынае хадзіць. Ёсьць нейкая негалосная мэтодыка першапачатковага ўсьведамленьня. Але ў беларусаў такой мэтодыкі няма. Тое, што нацыянальнасьць чалавека для яго ацэнкі неістотная – добра, але ж і быць нікім – не ацэнка.*

*Алена Каравай патрапіла ў фэнамэнальную сытуацыю. Выглядае, што ў Сокалава-Кубая ў той*

*дзень зрабіць цуд атрымалася. Можа і грубавата выйшла, але рохкаць не захацеў ніхто.*

**Алена**: Раней я пра гэта не задумвалася зусім. Мяне ўсё задавальняла, я была такая савецкая дзевачка.

*Важная рыса таго ўнікальнага ўроку Сокалава-Кубая – гэта прэцэдэнт пераемнасьці. Слушна заўважана, што іншыя народы, якія жывуць вакол Беларусі, не адраджаюцца, а проста разьвіваюцца ад пакаленьня да пакаленьня. І толькі ў беларусаў увесь час адраджэньне, што, між іншым, якраз і азначае абрыў сувязі пакаленьняў.*

**Алена**: Быў цікавы выпадак на першым курсе графікі. Усе графікі пазьбіраліся ў нашай майстэрні. Ня помню, хто там быў ініцыятарам, але многа было. І думка такая: давайце па-беларуску гаварыць. Ну добра, будзем. А дні праз два-тры Косьця Вашчанка кажа: «Вы что, думаете, что вы первые собрались и решили по-белорусски говорить? Нет, вы не первые, не будет у вас ничего, не выйдет». І я дзіка была ўражаная тым, што людзей гэта хвалявала пастаянна. Яны сыходзяць, а іх гэта хвалюе, быццам яны на нешта наступілі. І так, у прынцыпе, уся краіна. Сябе кожны прыціснуў... Гэта страшная рэч.

## МОВА ЯК АГОЛЕНЫ ДРОТ

*Пра тое, што кожнае асабістае судакрананьне з роднай мовай для беларуса – як дакрананьне да аголенага электрычнага дроту, Алена Каравай даведалася яшчэ ў дзяцінстве.*

**Алена**: У другой клясе быў жудасны выпадак. Я для мамачкі захацела зрабіць інсцэніроўку. У мяне была любімая кніжка «Беларускія народныя казкі».

Ну, і я ёй усё гэта чытаю, за герояў размаўляю. І мамачка кажа: «Неужели ты так плохо читаешь?» А я беларускую казку перакладала на рускі язык – «как надо». І я кажу: «Не, мамачка, тут по-белорусски, а я, чтоб уже хорошо было, так я по-русски». І яна, вядома, была страшна ўражаная.

Дарэчы, мамачка вучылася ў гімназіі з дачкой Галадзеда, і выкладала ў іх Ядвіга Бяганская, і мы пра ўсё гэта зь ёй пасьля ўжо, у перабудовачныя часы, шмат гаварылі. І яна, вядома, была абсалютны аднадумца. Яна лічыла ўсё гэта страшэнным гвалтам.

А ў дзяцінстве ніякіх такіх размоваў не было. Хоць яна ў сабе ўсё гэта несла. 1937 і 1939, калі забіралі іх любімых настаўнікаў. Пра гэта, калі мне было 7, 8 і 13 гадоў, ніхто не расказваў. Калі гэта ўсё было адкрыта, я даведалася, што мамачка гэта бачыла на свае ўласныя вочы.

*Алена не бярэцца адказваць на пытаньне, якую ролю Майстроўня адыграла ў яе жыцьці. На яе думку, пытаньне трэба ставіць па-іншаму.*

**Алена**: Майстроўня не для таго была, каб граць, ёлкі-палкі, ролю ў маім асабістым жыцьці. Яна была зусім для іншага. Для таго, каб пасьля было зроблена тое, што было зроблена. Гэта быў пачатак усяго. Вось як Геначка кажа, што было раней? Нехта размаўляе па-беларуску, значыць, я яго ведаю. А цяпер усё гэта так шырока, далёка, і ты ўжо ўсіх зусім ня ведаеш. Могуць стварацца беларускамоўныя чэргі дзе-небудзь у аптэцы ці на Камароўцы.

Гэта быў пачатак справы. Можа быць, ня самы пачатак. Былі ж там людзі да нас. Але тут каваліся кадры для наступнай працы.

Гэта павінна было здарыцца тады. Павінны былі сысьціся маладыя людзі, якія пасьля сталіся лідэ-

рамі. Сокалаў пакрыўдзіцца, калі сказаць, што ён наш Высоцкі. Але бярэш Сокалава любы вершык, абалдзенны ўзровень у хлопца, што хочаш кажы. Гэтыя людзі стварылі вялікія каштоўнасьці для Беларусі. Тыя, што скакалі з гэтым «Царом», выпендрываліся... Карацей, натуральная кузьня кадраў.

*Прафэсіяналізм для ўсіх, хто выйшаў з Майстроўні, стаў галоўным патрабаваньнем да сябе і сваіх заняткаў. Мы ўсе марылі пра неверагодныя зьдзяйсьненьні. Хоць і зразумела было, што перашкодаў не абмінуць.*

**Алена**: Перашкоды будуць – гэта мне было абсалютна ясна. Проста баяцца іх ня трэба. Я сябе цалкам спакойна адчувала. Страху за сваю шкуру не было. Былі Дзяды з Пазьняком на полі, калі сьнег ішоў. Пазьняк такі стаяў, народ пасядаў. А пасьля нас адтуль шмыганулі. І я ня бегла, а ішла. І апынулася – вакол мяне адныя міліцыянэры. Нармальна, нічога. Хаця, з другога боку, у нас таварыш, які працаваў у карных атрадах і сам удзельнічаў у гэтым разгоне, са страшным рогатам апісваў, як ён маніфэстантцы дубінкай трэснуў па джынсах. А ў яе джынсы лопнулі, «ха-ха-ха».

*Першае шэсьце на Курапаты ў 1988 годзе было масавым выхадам усіх культурніцкіх сілаў у палітыку. Пасьля была эўфарыя незалежнасьці. Пасьля яшчэ 20 гадоў творчасьці...*

**Алена**: Жыву я цяпер пошукамі сэнсу жыцьця. Так, сур’ёзна. Быць самім сабой – сэнс. А вось што б гэта значыла канкрэтна для мяне, я цяпер ужо гады два думаю.

# Клінаў і Саўка



*Калі б у Майстроўні сабраліся толькі філёлягі, ці толькі мастакі, ці толькі архітэктары, усё скончылася б навуковай канфэрэнцыяй, ці рэзананснай выставай, ці неверагодным праектам рэстаўрацыі старога храма, але ня больш за тое – гэты чын ня выйшаў бы ў публічную сфэру і ня стаў бы ўрэшце прадуктыўным палітычным дзеяньнем. Героі гэтага інтэрвію найлепш увасабляюць той майстроўскі сымбіёз. Гэта філёляг Зьміцер Саўка і мастак, літаратар і архітэктар Артур Клінаў. Аднаклясьнікі з 61-й менскай школы, якія патрапілі ў Майстроўню ў 1982 годзе.*

**Саўка**: Мы тады ўвогуле чуліся ў ізаляцыі. Артур быў, яшчэ некалькі хлопцаў. І мы чуліся адзінымі беларусамі ў сьвеце, якія ўсьведамляюць сваю беларускасьць. Гэта ў школе, дзясятая кляса.

## «САЛІДАРНАСЬЦЬ» ПАДШТУРХНУЛА

Цяпер гэта 3-я пэдагагічная гімназія, у якой не ўдалося нічога беларускага пасеяць, хоць яна і пэдагагічная... Там мы з 1980 году «муцілі ваду».

Для мяне, калі езьдзіў на вёску да маці, а потым вяртаўся, гэты расейска-беларускі кантраст быў абуральны. Чаму там гавораць па-беларуску, а ў горадзе па-расейску? У двары быў хлопец, яго дражнілі калхозьнікам. Ён ня так гаварыў па-расейску, як астатнія. І мне яго шчыра было шкада.

*Славутая беларуская талерантнасьць – асобная тэма. Мабыць, з усіх эўрапейскіх краінаў толькі ў нас азіраюцца на чалавека, які гаворыць па-іншаму, у тым ліку па-беларуску. Але рыса гэтая, так бы мовіць, «благоприобретенная», бо яшчэ да вайны ў БССР было ажно чатыры дзяржаўныя мовы, а на вуліцах гарадоў чуваць было і польскую, і ідыш, і, натуральна, беларускую. Водгульле тае шматмоўнасьці яшчэ можна было спаткаць у Менску ў 1980 годзе.*

**Клінаў**: Пачалося з польскай «Салідарнасьці». Яна скаталізавала сытуацыю. У нас былі нейкія антысавецкія настроі і да гэтага.

Я вырас у габрэйскім квартале. У нашай клясе шмат было габрэяў. І антысавецкі настрой лунаў. А як пачалася «Салідарнасьць», гэта стала выкрышталізоўвацца. Мы тады прыйшлі ў школу з чорнымі павязкамі. Памятаеш?

**Саўка**: Так. Абвесьцілі вайсковае становішча

ў Польшчы, і мы такім чынам пратэставалі. Так што Мар'я Ізрайлеўна, наша клясная кіраўнічка, ня ведала, што з намі рабіць. Настаўнікі хадзілі да яе, каб яна нас «урэзоніла». Да дырэктара гэта не дайшло.

Дарэчы. Калі быў рамонт у школе, то дзеці прынесьлі, каб засьцяліць падлогу, газэты. Нехта паклаў газэту з партрэцікамі – усім палітбюром ЦК КПСС – на падлогу, і Мар'я Ізрайлеўна падабрала тую газэту, і склала ціхенька. Чалавек ведаў, у якім сьвеце жыве. А можа, заўтра хтосьці стукне...

*Габрэйскія дзеці былі не зусім такія, як астатнія. І праз гэта ім даводзілася часьцяком цярпець зьдзекі й дыскрымінацыю. Але, разам з тым, ад іх і не патрабавалася такой адданасьці сыстэме, як ад правільных славяна-савецкіх дзетак. У кватэрах маіх габрэйскіх аднаклясьнікаў часьцяком панаваў скепсіс і дысыдэнцкі настрой. Напэўна, гэты настрой пранікаў і ў негабрэйскія сем'і, а дзе-нідзе набываў і беларускую нацыянальную афарбоўку.*

**Саўка**: Мой дзядзька Леанід Іванавіч Саўка быў перасьледаваны за саветамі, у тым ліку і так званаю карнаю псыхіятрыяй. Ён быў моцны інжынэр, начальнік лябараторыі на заводзе Арджанікідзэ – флягмане савецкага «эвээмабудаўніцтва». Дзядзька заўсёды меў антысавецкія погляды. Хаваў, відаць, недастаткова старанна. Яго выжылі з прадпрыемства, зламалі чалавеку жыцьцё. Але пры любой нагодзе ён мне на кухні, каб бацька ня чуў, казаў: ты разумееш, што гэтыя размовы пра камунізм – гэта ўсё лухта?.. Гэта быў чалавек, які расплюшчыў мне вочы на ўсё.

А наконт беларушчыны... З чацьвертай клясы я прыяжджаў да бабулі на вёску, я гаварыў па-

беларуску. Вёска Сенькавічы Івацэвіцкага раёну, Берасьцейская вобласьць. Вельмі хутка злучыліся дзьве плыні: беларуская і антысаветызм.

**Клінаў**: На мяне паўплываў бацька. Ён быў катэгарычна па-антысавецку настроены. І я пачаў зь ім бліжэй камунікаваць. Ён распавёў пра нашу сям'ю, як рэпрэсавалі прадзеда. А як спалучылася зь беларушчынай? Вельмі арганічна. Дысыдэнцтва маскоўскага ўзору ў нас не было. Гэта быў нацыянальны супраціў, наша беларускае дысыдэнцтва. І калі ты такі настрой маеш, то рана ці позна патрапляеш у нацыянальнае кола...

## ГУКАНЬНЕ ВЯСНЫ

**Саўка**: Да 1982 году мы ўжо пераварыліся ва ўласным соку і шукалі кантактаў. Павінны быць яшчэ людзі, якім гэта баліць у 10-мільённай краіне. І вось дайшло да нас, што будзе ў Заслаўі сьвята. Зьбяруцца беларускія нацыяналісты. Божа ты мой, дык мы самі беларускія нацыяналісты! У нас крылы вырасьлі. Так мы адной цудоўнай веснавой ранічкі і паехалі ў Заслаўе. Блукалі сярод валоў гарадзішча. І раптам маладыя людзі ідуць. І першы, каго я пабачыў, гэта Сокалаў-Воюш. Я кажу Артуру: вось паглядзі, які ідзе нацуга. Ён быў прыгожы, бялявы, у строі беларускім. Проста заглядзецца. І мы адразу падышлі, я падышоў і пачаў зь ім гутарку.

**Клінаў**: Той дзень на мяне зрабіў незабыўнае ўражаньне. Гэта была маніфэстацыя, нешта абсалютна іншае, я такога ніколі ня бачыў, такой колькасьці людзей, якія мысьляць, як і ты, ці блізка. Дзень быў звычайны, пахмурны, вільгаць ранішняя. Мы паехалі, такія загаворшчыкі, бо гэта ж было быццам нелегальна. Такая рамантычная інтрыга. І вось



Артур Клінаў у майстроўскія часы, пачатак 1980-х

яны зьяўляюцца, і ты бачыш, што гэта ж цудоўныя людзі, прыўкрасныя, гэта супэрскія людзі! Сьпяваюць па-беларуску і размаўляюць па-беларуску. Гэта было нешта неверагоднае.

Мы са Зьмітром сталі заходзіць у Майстроўню. На сцэну я, прынамсі, не вылазіў. Але мы пачалі кантактаваць. Прыходзілі да Вінцука на хату. Гэта быў унікальны чалавек, унікальных ведаў. Ён усё

ведаў, што датычыцца Беларусі, і мог распавесьці, і гэта было так захапляльна. Там і кніжачкі, прычым кніжачкі нелегальныя. Мы нават уключыліся ў друкарскую працу. Ён нам даваў нэгатывы, і мы ў мяне ў хаце ў ванным пакоі з гэтых стужак кніжачкі друкавалі на фотапаперы. Гэта было адкрыцьцё, гэта ўсё пераварочвала. Мы ж ведалі адну гісторыю, а тут аказваецца, што праўда іншая... Гэта была дзясятая кляса.

**Саўка**: І далей ужо чэрвень 1982-га, да Вінцука прыходзілі. Я прывёў Лявона Юрэвіча да Вінцука, пазнаёміў яго з Сокалавым.

Я сустрэў Лявона Юрэвіча якраз тою вясною. Пачуў, што хлопец з нашага раёну – пераможца алімпіяды па беларускай мове і літаратуры ў Менску... У яго была мянушка Пушкін, характэрная для літаратара.

Мы пачалі сябраваць. Я ня ведаў, куды паступаць. А ён кажа: я іду на філфак. І я за кампанію. Мы шчасьліва туды не паступілі.

Што да Лявона Юрэвіча, то яго мэтанакіравана завалілі свае ж. Ягоная мама працавала ў пэдагагічным унівэрсытэце, а ён пайшоў наўмысна ў БДУ, каб не сказалі, што чалавек скарыстаў магчымасьці...

Год я правучыўся ў школе-краме, вучыўся працаваць на касавым апараце. Наведваў падрыхтоўчыя курсы ў БДУ і, натуральна, зборкі, дзе прысутнічала Майстроўня. Найярчэй з нашых сьпевак, якія вяла спадарыня Ларыса Сімаковіч, памятаю ўніяцкі сьпеў нейкага стагодзьдзя «Алелюя». Там толькі адно слова «алелюя». Няпроста было. І мы зь Сяргеем Шупам рэпрэзэнтавалі барытоны...

Вельмі памятаюцца спробы закладаньня Таварыства беларускай школы. Івашкевіч зрабіў ура-



Зьміцер Саўка на занятках у школе-краме трэсту «Менскхлебгандаль». Вясна 1983 году

жаньне надзвычай суровага маладога чалавека. Напрыклад, дыскутавалі мы пытаньне: ці мусіць сябра ТБШ ужываць выключна беларускую мову. Віялета Ефіменка кажа: у мяне сваякі жывуць ва Ўкраіне, у Расеі. Яны проста не зразумеюць, ды й традыцыі такой няма. Ці Ігар Міклашэвіч таксама казаў: ці мы мусім быць адназначна беларускімі ў любой сытуацыі?.. Віктар Івашкевіч казаў: толькі і выключна, гэта адзіны шлях – быць няўхільным і непахісным. А Сокалаў Сяржук кажа: ну, калі ўжо так сталася, што яны не разумеюць па-беларуску, то на трасянцы....

*З 1983 году Зьміцер вучыўся на філфаку, удзельнічаў у Майстроўні. Потым пачалася перабудова, яны стварылі на факультэце суполку Фонду культуры.*

**Саўка**: Мы фарбавалі, прыбіралі магілы славутых беларусаў на Вайсковых могілках, у тым ліку магілу Ігнатоўскага. Адгукнуўся Славамір Адамовіч. І мы разам зь ім гэтую справу і рабілі.

**Клінаў**: Я зьбіраўся ў Тэатральна-мастацкі, бо хацеў быць мастаком. Да таго ж гэта быў самы моцны асяродак нацыянальнага супраціву. Не паступіў і, каб год не губляць, пайшоў на архітэктурны факультэт БПІ. І ўцягнуўся. Але потым у мяне настала паўза, пайшлі захапленьні авангардызмам, пацыфізмам, гіпі... Я на некалькі гадоў пайшоў у экзыстэнцыйны пошук. Празь нейкі час вярнуўся.

## КАРАНІ РОДУ

Маці мая была інжынэрам-праграмістам, партыйная. Працаголік. Усё жыцьцё аддала працы і мне. А бацька быў спартоўцам і мастаком. У маладосьці займаўся боксам, майстар спорту. Потым займаўся мастацтвам прыкладнога характару. Рабіў замовы для калгасаў, саўгасаў, нейкіх інстытуцыяў. Тое, што тады называлася халтурай. Але гэта давала вельмі на той час прыстойныя грошы.

**Саўка**: Тата нарадзіўся ў Менску ў 1931 годзе. Іхны дом – гэта былы панскі дом, які засялілі пасьля рэвалюцыі паспалітым людам. Сёньняшні двор Нацыянальнага банку. Туды трапіць немагчыма. Пасьля вайны дом не ацалеў. Бацька мой нарадзіўся ў сям’і камуністаў з 1924 году.

Дзед мой, Іван Маркавіч Саўка, прайшоў праз розныя выпрабаваньні. Паходзіць з Асіповіцкага

раёну, зь мястэчка Сьвіслач, зь сям'і плытагона. Сам мусіў з малога веку зарабляць на сябе. Быў у тракціры палавым. Калі трошкі грошай зьявілася, яшчэ за царскімі часамі, разам зь сябрам зрабілі буфэт у пажарным дэпо, інакш кажучы, спрабаваў зарабляць камэрцыяй. Удзельнічаў у першай усясьветнай вайне. Быў у графа-лётніка ад'ютантам. Граф вазіў яго з сабой, лічыў, што мой дзед – ягоны талісман. Як савецкія часы надышлі, ён, відаць, вырашыў, што найлепшыя пэрспэктывы дасьць партыйнасьць. Быў адным зь першых камсамольцаў у Бабруйску, там пазнаёміўся з маёй бабуляю, якая была ў дакумэнтах Яўгенія Адольфаўна, а ў сапраўднасьці Гэня Рыва.

Тату яе звалі Абэль. Яны паходзілі зь мястэчка Сянна. Бабуля мая дачка рабіна. Тыповая для тых часоў лучнасьць беларуса і габрэйкі. Яны перабраліся ў Менск, ужо ў Менску народжаны быў мой бацька. Скончыў у Маскве ўнівэрсытэт, вярнуўся да сваіх бацькоў і тут сустрэў маю маму. Мама прыехала ў Менск на вялікія будоўлі зь вёскі Сенькавічы Івацэвіцкага раёну. Дачка Радзівона Лася і Вульляны Лось (у дзявоцтве Кухцені). Расейская мова й гарадзкое жыцьцё для яе былі чужыя. І яны знайшлі адзін аднога, такія сышліся полюсы. Але, мне здаецца, так і будавалася беларуская нацыя.

## ПІКЕТ

*У чэрвені 1984 году Артур і Зьміцер сталі ўдзельнікамі першага пікету, які майстроўцы ладзілі на знак пратэсту супраць руйнаваньня будынку старога менскага тэатру.*

**Клінаў**: Я тады вучыўся на архітэктуры. Калі мы кажам пра адчуваньне востраў несправядлі-

васьці, тое самае было з архітэктурай, горад проста зьнішчалі. Ідзем мы са Зьмітром тым чэрвеньскім вечарам у бок вуліцы Леніна (а гэты будынак даўно быў агароджаны) і бачым, што яго зносяць.

**Саўка**: Сустракаем Алеся Костку. І ў выніку мы паўсталі на прыступках, якія вядуць да плошчы Свабоды ад скрыжаваньня Інтэрнацыянальнай і Леніна, і пачалі скандаваць «Руйнуецца помнік гісторыі». Доўга мы гэтым ня здолелі займацца. Дастаткова хутка, праз 5-10 хвілінаў, прыехаў «казёл», з «казла» міліцыянты выскачылі і пачалі выхопліваць хлопцаў. Па-мойму, першы, каго схапілі, быў Вінцук. Вінцук пачаў ім працягваць пашпарт. Маўляў, хочаце высьветліць асобу? – Калі ласка. Яны, не зважаючы на ягоны пашпарт, скруцілі яго і павялі. Неўзабаве прыйшла чарга і на нас з Артурам. Нас пасадзілі ў «казла» і завезьлі на вуліцу Інтэрнацыянальную, 13.

**Клінаў**: Далей быў пастарунак. Там сабралі ўсіх...

**Саўка**: Трынаццаць чалавек нас.

**Клінаў**: Мы там доўга сядзелі, бо адпусьцілі ўжо ноччу.

**Саўка**: І выпускалі па адным, па два. Мне здаецца, выпусьцілі гадзіны каля трэцяй. І мы яшчэ пачакалі Алену Клімовіч. Яна жыла на Азізава, у нашым раёне бульвару Шаўчэнкі. І правялі яе.

Нас дапытвалі, паралельна мяне і Артура, два сьледчыя. Нарэшце выпусьцілі, а пасьля для нас пачаліся дастаткова цяжкія часіны.

**Клінаў**: Розгалас быў вялікі ў горадзе. На той час такая акцыя... Гэта быў выключны прэцэдэнт. Тады такога проста яшчэ не было. Спусьцілі па навучальных установах – разабрацца. І было пыта-

ньне аб выключэньні. Але ня выключылі, бо тады на архітэктурным вельмі прыстойныя дзядзькі працавалі. І Ангелаў, і Трацэўскі. Яны ўсё разумелі і былі такіх самых настрояў, таму спусьцілі гэта... Карацей, я застаўся. Але ціск быў.

**Саўка**: Мне казалі так: стаіць пытаньне пра ваша выключэньне. Можа, Піпчанка казаў, намесьнік дэкана. Аднак для нас гэта скончылася дастаткова ціха.

*Гэтым разам ціха, але што да Зьмітра, дык зусім пазьбегнуць прэсінгу яму не ўдалося. Вось эпізод, зьвязаны з выдадзенай у Лёндане кніжкай Алега Бембеля «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс».*

## КАПІТАН КГБ ГАРКАВЫ

**Саўка**: Мяне выклікалі ў галоўны корпус, на другі паверх, у вельмі вялікі кабінэт, у якім чакалі два чалавекі. Гэта год, відаць, 1986. Адзін маёр КГБ, другі, мне здаецца, капітан КГБ. Яны назваліся. Адзін зь іх меў прозьвішча Гаркавы. Другое прозьвішча, расейскае, я не запомніў. І яны на мяне спрабавалі ажыцьцяўляць ціск, проста вэрбаваць.

Кніжка Алега Бембеля хадзіла тады па руках у перадруку. Я пры дапамозе Лявона Юрэвіча і ягонага брата, цяпер, на жаль, нябожчыка Юрася, гэтую кніжку перадрукоўваў, Юрась яе апраўляў. І ад мяне патрабавалі, каб я той асобнік, што маю, здаў у КГБ, інакш мяне чакае выключэньне. Я змушаны быў гэта зрабіць. Прыйшоў у будынак КГБ, на прахадную. Там мяне сустрэў капітан Гаркавы, чарнявы такі, і забраў гэтую кнігу. Гэта было маё выкупленьне за тое, што мяне пакінуць у спакоі. Доўга яны мяне схілялі да супрацы. Не схілілі, па-

ведамляю. Дакладаць на сваіх аднадумцаў і сяброў я не згадзіўся. І адразу была немінучая расплата. Па навуковым камунізьме я атрымаў «тры» на дзяржаўным іспыце і такім чынам аўтаматычна пазбыўся магчымасьці атрымаць чырвоны дыплём. Я займаўся выключна на пяцёркі.

Майстроўня – калі я скажу, што гэта была кузьня беларушчыны, можа будзе нават замала. Для мяне само знаёмства з Майстроўняй было сьведчаньнем таго, што пачуцьцё гістарычнай справядлівасьці ўласьцівае ня толькі мне. Я пачынаў праз Майстроўню бачыць, што ўся Беларусь абуджаецца, што мы сіла, мы заўтрашні дзень Беларусі.

**Клінаў**: Звычайна нейкае асяродзьдзе ёсьць, але няма кропачкі, вакол якой пачнецца нейкі рух. Вось Майстроўня й была кропкай крышталізацыі.

# Анатоль Бяляўскі



*Гісторыю трыццацігадовае даўніны – увогуле найноўшую гісторыю Беларусі – сёньня на агульнабеларускім узроўні ня піша, не стварае, не фіксуе ніхто. Гэта дыягназ для краінаў з аўтарытарным рэжымам кіраваньня. Адсутнасьць папярэдняй гісторыі – самая важная гарантыя доўгажыхарства аўтарытарнага кіраўніка. Гісторыя пачынаецца з прыходам гэтай самай першай асобы. Да яе ўсё было або дрэнна, або ніяк. Колькі разоў чалавечыя супольнасьці праходзілі праз гэтую схему, каб урэшце знайсьці адваротны прынцып: наяўнасьць найноўшай гісторыі – гарантыя ад аўтарытарызму. Калі ў школах будуць распавядаць, як у 1960–70-я гады ў краіне*

*дзейнічалі дысыдэнцкія асяродкі, як у 1980-м узьнікла Майстроўня і пачаў набіраць сілу нефармальны рух, як з гэтага руху паўстаў БНФ і як БНФ дамогся абвяшчэньня незалежнасьці, тады ў грамадзкім жыцьці не застанецца шанцаў для аўтарытарнага рэжыму кіраваньня.*
*Але ня так ужо й даўно былі тыя 1980-я. Іншая рэч, калі сёньня мы, сьведкі тых падзеяў, не распавядзем пра гэта, заўтра відавочныя факты ператворацца ў гіпотэзы, і сьвядомасьцю людзей стане маніпуляваць яшчэ лягчэй, бо ўсё безадноснае стане адносным.*

## ВЕЧАРЫНА КАРАТКЕВІЧА

*У Анатоля Бяляўскага свая вэрсія завязкі гэтага раману.*

**Бяляўскі**: Гэта быў вечар, прысьвечаны Караткевічу, у Доме літаратара. Пасьля такія адухоўленыя, не згаворваючыся, мы сабраліся ў інтэрнаце. І размаўлялі, што нядрэнна было б мастакам шчыльней сябраваць з унівэрсытэтам. Так яно, напэўна, пачыналася.

*У лістападзе 1980-га Ўладзімеру Караткевічу споўнілася 50 гадоў. На юбілейную вечарыну ў Доме літаратара заля была запоўненая пад завязку. Чыталі вершы юбіляра, сьпявалі, ставілі фрагмэнты ягоных п'есаў. Сам Караткевіч, выступу якога ўсе чакалі, раз-пораз выходзіў з-за свайго століка за сцэну, жэстамі просячы ў залі дазволу пакурыць. Урэшце, падышоў да мікрафону і сказаў: «Бяз вас я нішто!» У адказ, натуральна, была авацыя. Усіх проста*

*паглынула эўфарыя, прычынаю якой быў ён. Можа быць, той вечар, дзе сабраліся і студэнты-мастакі, і студэнты ўнівэрсытэту, і стаў храналягічным пачаткам Майстроўні, калі ўсе разам сабраліся пасьля ў мастакоў у інтэрнаце.*

**Бяляўскі**: У інтэрнаце гэта было, у нашым пакоі. Быў Сяргей Цімохаў, Генадзь Мацур, я быў, Сокалаў-Воюш, Вячорка, шмат было. Весела. Спачатку мы пагаварылі, што можна нечым аб'яднацца, і аб'ядналіся мы сьпеўкамі.

*Сьпеўкамі аб'ядналіся крыху пазьней. Спачатку аб'ядналіся Караткевічам. Гэтае імя ў гісторыі Анатоля Бяляўскага згадваецца ў самых розных сытуацыях. Што да беларушчыны, нацыянальнай сьвядомасьці і мовы, дык гэта набыткі Анатоля яшчэ зь дзяцінства, зь сям'і, зь вёскі.*

## БАЦЬКА

**Бяляўскі**: Гэта з хаты. Бацька выкладаў беларускую мову і літаратуру, ён вершы піша да сёньня. Яму 87 гадоў.

Я прыяжджаў дахаты і расказваў, што мы правялі Гуканьне Вясны, што Каляды сьвяткавалі, што «Го-го-го каза» скакалі. І бацькі казалі: о, у нас раней усё гэта было. Але ж вось ужо колькі гадоў няма нічога гэтага. Я кажу: дык зараз будзе. Мы былі ўпэўненыя, што цяпер такія сьвяты будуць штогод.

Мастакі рабілі строі, і казу, і кажухі надзявалі. І хадзілі мы ня толькі «па сцэнары», дзе нас чакаюць, але заходзілі і ў іншыя месцы. Глядзелі, як будуць рэагаваць людзі. Усе вельмі цёпла, шчыра і цікава прымалі нас. Было, што не разумелі. Мы ў канфлікт

не ўступалі, была такая дамова, што мы проста сыходзім туды, дзе разумеюць.

Мы былі такія задаволеныя, нават гордыя, што з нас гэта пачынае аднаўляцца. Пасьля далучыліся яшчэ з архітэктуры. Але аснова, касьцяк быў Тэатральна-мастацкі і ўнівэрсытэт, філялёгія... Мы былі ўпэўненыя, што гэта разаўецца і будзе вялікае аднаўленьне, вялікі пласт культуры падымецца. І так сталася.

*Аўтарытэт бацькі – выкладчыка, паэта і мастака – для Анатоля найважнейшы да сёньня. Ён лічыць, што й ня мог выйсьці са свайго мястэчка іншым, небеларускамоўным.*

**Бяляўскі:** Але ў жыцьці цяпер больш даводзіцца на расейскай мове размаўляць. Бо не хапае мне, папершае, свае актыўнасьці. А па-другое, цяпер акружэньне больш расейскае ў Менску. Такая праўда. Хоць хацелася б іншай...

Я нарадзіўся ў Дзенавішках, так у пашпарце напісана, але насамрэч – у Мядзельскім раддоме. У гэты час бацькі пераяжджалі ў Дзенавішкі, цяпер гэтай вёскі ўжо няма. Аб’ядналі. Цяпер Лылойці.

Польшчу добра ўзгадвала маці. Яна вырасла на Мядзельшчыне, вёска Чучаліцы. І там быў пан Сарока. Яны яго ўзгадвалі: выдатны пан, які займаўся тым, што лячыў людзей, ягоная жонка выкладала, там была польская школа. Вельмі было ім весела, і што ўспамінала маці – гэта пастаянныя сьпеўкі...

А пасьля пераехалі ў Вішнева.

*Гэта тое самае Вішнева, дзе ў тыя часы жыў і правіў касьцельную службу знакаміты ксёндз Чарняўскі, дзе жыў паэт Пятро Бітэль, да якіх, дарэчы, наведваўся і Ўладзімер Караткевіч.*

*На Вялікдзень 1982 году мы адправіліся ў Віш-*

*нева паслухаць слаўнага сьвятара. Дзе там! У мястэчку мы пабачылі сотні людзей, а Чарняўскі ўжо адслужыў, і нам давялося даганяць яго, бо ён адправіўся на службу ў іншыя мястэчкі. Дагналі толькі ў Трабах. І тут касьцёл быў поўны народу. А калі выходзілі на дарогу, каб галасаваць машыну назад у Менск, міма нас праехаў на «запарожцы» і памахаў нам рукой... Хто б вы думалі? Караткевіч.*

*Вішнева было мястэчкам асаблівым. У той самы час там у школе настаўнічаў Анатолеў бацька Іван Бяляўскі. Але Анатоль кажа, што ксёндз Чарняўскі на ягонае фармаваньне ўплыву ня меў. Сям'я Бяляўскіх была праваслаўная. І калі зь Менску такі падзел для сьвядомых беларусаў не выглядаў істотным, дык у самім мястэчку, напэўна, станавіўся іншы раз непераадольным. Нягледзячы на тое, што патрыятычны настрой і ў тым і ў тым асяродку грунтаваўся на аднолькавых каштоўнасьцях і, мякка кажучы, не заахвочваўся ўладамі.*

**Бяляўскі**: Мой бацька, акрамя таго што пісаў вершы і выкладаў беларускую мову, яшчэ й выдатна пісаў акварэлі і ў школе выкладаў маляваньне. А маці вышывала, так што, я думаю, гэта ў генах усё ж такі было закладзена. Яшчэ пра бабку магу сказаць, яна была краўчыхай, адзеньне рабіла. Была ў яе машынка. І помню сваё дзяцінства дашкольнае. Мне было цікава, як гэта атрымліваецца. Раз – і можна апрануць. Прыходзілі дзяўчаты, зь іх здымалі меркі. Кліентура была шырокая ў бабулі. Калі ўзгадаць Фэліні... дык я глядзеў на дзяўчат – прыгожая ці непрыгожая прыйшла. Паглядзелі, што хлопчык нешта ня тое робіць, і мяне – на вуліцу. Дык праз вакно ўжо глядзеў. Мне было цікава, які колер адзеты. Падглядаў троху. І падглядаў, якога

колеру адзеньне. Цёмнае мне не падабалася. Мне падабалася, каб былі разводы і каб вясёлка была на адзеньні.

## У МАСТАКОЎ НАЧЭЙ НЕ БЫЛО

Аказалася, што Шаранговіч Васіль Пятровіч, народны мастак, прафэсар, – зь Мядзельшчыны. І я вазіў да яго свае акварэлі. Недзе ў шостай клясе.

*У Тэатральна-мастацкі інстытут Анатоль паступіў пасьля школы, абмінуўшы «Парнат» або мастацкую вучэльню, адрозна ад іншых майстроўцаў-мастакоў. Сёньня ў Бяляўскага цэлая мастацкая біяграфія і вялікі даробак, перадусім краявіды. Але апошнім часам ён захапіўся партрэтам.*

**Бяляўскі**: Цяпер, я лічу, для мастака райскі час, таму што адкрыта ўсё. Раней за мяжу выехаць была вялікая праблема. Цяпер вучы мову і будзь у асяродзьдзі, у якім ты хочаш. І заставайся беларусам.

Раней можна было матэрыяльна лёгка пражыць. Можна было па трафарэце намаляваць Леніна. «Парція – ум, чэсьць і совесьць нашай эпохі». І штампуй гэта ў кожным калхозе. Будзеш зь вялікімі грашыма, але мастака з гэтага ж не атрымаецца. Цяпер цяжкі час у рэалізацыі, але затое – прафэсійны і больш цікавы.

Для мяне прыклад у шчырасьці – Леанід Дзьмітравіч Шчамялёў – цяпер я напісаў ягоны партрэт. Ён заставаўся самім сабой. Было, што ня ўсе яго ўспрымалі. Але гэта мастак, які адстаяў і даказаў усім сваім жыцьцём і творамі, што ён мастак сапраўдны, вялікі. Вядомы на ўвесь сьвет.

*Анатоль захапляецца ня толькі тымі, каго малюе, але й сваімі сябрамі са студэнцкіх часоў, зь якімі разам хадзіў у Майстроўню.*



Пастаноўка «Цара Максіміляна» ў Заслаўі. 17 траўня 1981 году. Анатоль Бяляўскі, Вінцук Вячорка

**Бяляўскі**: Генадзь Мацур быў ужо больш сур'ёзным студэнтам. Браў удзел у міжнародных выставах. Ён быў выдатным каліграфам, што мяне захапляла. Павал Апанасавіч Семчанка – пэдагог, але ён з Мацурам на роўных размаўляў. Было відаць, што расьце будучы майстар. Што ён цяпер і пацьвярджае.

Я жыў у інтэрнаце зь Сяргеем Цімохавым, дык і бачыў, што ён як мураш заўзяты сваёй працай. Да фанатызму ў нас вучоба даходзіла. Ноч маглі прасядзець у майстэрні, выконваючы працу перад праглядам. У мастакоў начэй не было.

Батлейку аднаўлялі з мастакамі. Зноў жа Генадзь Мацур, Цімохаў... Больш глыбока гэта зрабілі ў

мяне на радзіме, у Смаргоні, Ліс і Лось. А мы – на тэарэтычным узроўні – як яно павінна быць, эскізы. Тады быў Міхась Раманюк, выдатны гісторык і знаўца народнай традыцыі, ён нам выкладаў гэтыя веды ў інстытуце.

*Нядаўняя мінуўшчына па шкельцы зьбіраецца з падзеяў, твараў і думак трыццацігадовае даўніны.*

**Бяляўскі**: У Заслаўі вельмі добра помню Купальле. Калі прыехала маскоўскае тэлебачаньне. Там была добрая зьліва. Многія дзівіліся, што гэта такое робіцца і чаму ўсе толькі на беларускай мове размаўляюць.

Несьлі харугвы. Пасьля вогнішча было. Паходні. У мяне засталося ў памяці, што так ужо мы хочам прайсьці, не прывязваючыся да сцэнара. А тут ідзе такая зьліва! Мы ўжо добра празяблі, калі ж там наш выхад?

А так у жыцьці сцэнара жорсткага ў нас ніколі не было. Больш была імправізацыя. Але было выдатна.

# Эдвард Зайкоўскі



*Майстроўцы ня толькі ладзілі масавыя сьвяты, але й капалі. Гэта быў той выпадак, калі археалёгія, што называецца, пайшла ў народ. Майстроўцы выкопвалі зь зямлі сваю забытую беларускую гісторыю.*
*Найбольш прыахвоціў Майстроўню да адкопваньня гістарычнае праўды – у простым сэнсе – археоляг Эдвард Зайкоўскі.*

**Зайкоўскі**: Усё адбывалася паступова. Я патрапіў недзе вясной 1981 году на філфак ва ўнівэрсытэце. Яны ставілі «Цара Максіміляна». Ці то я афішу ўбачыў, ці нехта са знаёмых сказаў, але неяк даведаўся. Я па сваёй ініцыятыве пайшоў, але майстроўцамі былі запрошаны яшчэ Георгі Колас і Ўладзімер Караткевіч.

*Напэўна, кола запрошаных было шырэйшае. На*

*здымках залі ў часе прэм'еры можна пабачыць Васіля Сёмуху, Алеся Разанава, і гэта, відаць, з запрошаных ня ўсе.*

**Зайкоўскі**: Пастаноўка, вядома, была арыгінальная на той час. Можа, яна была непрафэсійная, але ж нічога казённага там не было. Жывы дух быў.

Тады я ўпершыню пабачыў майстроўцаў. Некаторых і запомніў з таго часу.

Напэўна, першым запомніўся Вінцук. Магчыма, таму, што на філфаку я адначасова ягоны здымак убачыў на дошцы гонару... У бібліятэцы, бывала, сустракаў, цяперашняй нацыянальнай.

Былі Каляды ў Заслаўі, таксама з удзелам майстроўцаў. І я туды езьдзіў глядзець. Толькі глядзець, таму што ўласна майстроўцам я стаў з восені 1983 году. Калі ўжо Майстроўня фактычна апошні год існавала.

## КАПАЦЬ!

Часамі наведвалі думкі, што працуеш-працуеш, а гэтым з народу ніхто практычна не цікавіцца. А тут упершыню сустрэў кола людзей, якім гэта ўсё было патрэбна.

*Эдвард працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук і выпраўляўся ў археалягічныя экспэдыцыі. Звычайна для раскопак набіраюцца «рабочыя рукі» – школьнікі або студэнты. У Майстроўні Эдвард знайшоў ня толькі паразуменьне, але і гэтыя самыя рукі.*

**Зайкоўскі**: У нейкай меры гэта сапраўды так. Амаль праз год, улетку 1984 году, некалькі ўдзельнікаў Майстроўні пагадзіліся працаваць са мной на раскопках у Дзісьне. У гэтым мая эксплюататарская сутнасьць праглядае...

Яны ня толькі ў мяне на раскопках працавалі. Больш майстроўцаў было на раскопках Мірскага замку, калі там Алег Трусаў і Ігар Чарняўскі раскопкі праводзілі.

Годам пазьней браў Зьмітра Саўку на раскопкі. Праўда, яго аднаго. Больш з Майстроўні ў той час ніхто ня змог паехаць. Ну а праз які год ужо й «Талака» зьявілася. Талакоўцы дык яшчэ часьцей на раскопкі да мяне езьдзілі. Асабліва калі я недалёка ад Менску Дзявочую гару раскопваў.

*Эдвардавы раскопкі ніколі не выглядалі на акадэмічную нудоту, а заўсёды ператвараліся ў прыгоду ці авантуру. У тыя часы мы ўпершыню прачыталі аповесьць Вацлава Ластоўскага «Лябірынты» – пра тое, што пад Беларусьсю існуе вечнае падземнае жыцьцё. І туды ёсьць некалькі ўваходаў – у Полацку, у Скрыгалаве на Палесьсі і на востраве Богінскага возера на Браслаўшчыне.*

*Аднойчы Эдвард паклікаў мяне капаць гэты самы востраў. Там, апрача ўсяго іншага, меў быць каменны стод са скрыжаванымі на грудзях рукамі. Удвох мы заехалі туды – хвілінаў сорак даграбалі ад берага да вострава на чаўне. Узышлі на высокі, парослы лесам узгорак і ўбачылі велізарны камень. Ён ляжаў пляскатым бокам дагары, а тая частка, што сыходзіла ў зямлю, адразу нагадала мне стодаў зь вядомай Велікоднай выспы ў Ціхім акіяне. Крануць камлыгу зь месца мы не маглі, заставалася толькі падкапацца. І мы пачалі абкопваць камень. Маё ўяўленьне з кожным рухам разыгрывалася ўсё мацней. Пачалася неверагодная зьліва. Яна ўрэшце й прагнала нас з вострава... Вярнуцца выпала гадоў праз дзесяць, у сярэдзіне 1990-х. Але каменя на востраве ўжо не было.*

## ПАХОДЖАНЬНЕ

*Мне здаецца, што бальшыня Эдвардавых экспэдыцыяў дакопвалася калі не да знаходак і адказаў, дык да прыгодаў і новых таямніцаў. І сам лёс ягоны часам нагадвае авантурную экспэдыцыю. У Майстроўні Эдвард быў старэйшым за бальшыню ўдзельнікаў. Але розьніцы ва ўзросьце для майстроўцаў не йснавала.*

**Зайкоўскі**: Там сябе сваім і Пётра Садоўскі адчуваў. Хоць ён быў значна старэйшы і за мяне.

*Эдвард паходзіць з-пад Ракава, зь вёскі Дубашы, гэта ўжо Заходняя Беларусь. Маці і бацька простыя сяляне. Сястра Фэля скончыла філфак, стала настаўніцай і працавала завучам Ракаўскай школы. Як вядома, беларусамі або нараджаюцца і неяк умудраюцца захавацца, або становяцца. Эдвард з тых, хто захаваўся, але калі ён упершыню пра гэта падумаў, ня памятае. Кажа, што і ўплыву сястры ў тым не было.*

**Зайкоўскі**: Яшчэ калі я паступаў ва ўнівэрсытэт у 1970 годзе, то іспыты здаваў па-беларуску, гэтаксама як мову і літаратуру, так і гісторыю. Першыя пару гадоў гэтую маю беларускасьць не было каму падтрымаць, толькі эпізадычна з нашага курсу хтоніхто мог трошкі паразмаўляць па-беларуску. Але на трэцім курсе ўжо сьвядома пачало афармляцца беларускае кола. Дзякуючы таму, што ў інтэрнаце ў адным пакоі апынуліся я, вядомы цяпер пісьменьнік Уладзімер Арлоў, Юрась Бандаровіч, які працуе настаўнікам, нябожчык Генадзь Кулажанка ды іншыя.

Пасьля школы я дастаткова добра валодаў расейскай мовай, мог з такім жа посьпехам здаваць

і па-расейску. Але ўнутраны голас падказаў, што лепш па-беларуску.

*Павароты біяграфіі ў Эдварда часта выглядаюць амаль містычна, хоць знаходзяцца і зусім яўныя таму прычыны. Як, да прыкладу, абарона кандыдацкай дысэртацыі ў сярэдзіне 1980-х, што адбылася ў Вільні.*

## ВІЛЬНЯ

**Зайкоўскі**: Нейк мяне пацягнула. Хаця тады ў нас у Менску сваёй навуковай рады для абароны ў археалёгіі не было. Для самастойнай рады патрэбныя былі трое дактароў навук. Бліжэйшая рада была ў Вільні. У яе ўваходзіў і наш тагачасны загадчык аддзелу Леанід Давыдавіч Побаль. Там былі двое сваіх дактароў, а ён трэці быў.

*Эдвард адправіўся ў Вільню – сапраўдную Мэку для майстроўцаў. Вільня тады была зусім блізка – не за мяжою, ніякіх табе візаў, зь Менску дзьве-тры гадзіны язды, і квіток каштаваў прымальна для студэнцкай кішэні. Ня дзіва, што новасьпечанага кандыдата навук у Вільні сустрэла грамада сяброў. Што зараз жа было адзначана агульным фатаздымкам.*

**Зайкоўскі**: Гэты фатаздымак зроблены праз некалькі дзён пасьля маёй абароны. Праз пару дзён прыехалі некалькі чалавек: Вінцук Вячорка, Генадзь Сагановіч, Сяржук Сокалаў-Воюш... Часткова – паглядзець Вільню, часткова меліся невялічкую талаку зрабіць. Адведалі Зоську Верас.

Было вельмі цікава ўбачыць такога аксакала, які яшчэ нашаніўскія часы памятаў. Купалу памятала, Максіма Багдановіча. Пра ўсё гэта зь цікавасьцю распавядала. Нягледзячы на свой больш чым



Пасьля абароны дысэртацыі ў Вільні. 1985 год. Стаяць Генадзь Сагановіч і Лявон Луцкевіч. Сядзяць Эдвард, Зоська Верас, Сяржук Сокалаў-Воюш

салідны ўзрост – ёй ужо тады пад сто гадоў было. Яна вельмі шмат памятала фактаў, галоўнае было яе разгаварыць. І потым яна магла распавядаць некалькі гадзін. Аж пакуль дачка не паказвала ёй на гадзіньнік, што заўтра трэба ўставаць і таму пара класьціся спаць.

Яна, напэўна, з даваенных часоў глухая была. Зьдзіўляла яе памяць. Калі я сваё пытаньне праз пэўны час паўтарыў, дык яна адказала: вы гэта пыталіся ўжо мінулы раз. Многія старыя людзі ня памятаюць літаральна, што было ўчора, а яна памятала, што я запытаўся месяц назад.

## ВЫЦЕЧКАКІР

Адна мая знаёмая пераклала слова экскурсавод – выцечкакір.

*Згадваецца падарожжа 1983 году ў Люцінку, Ракаў і Івенец, дзе майстроўцы пазнаёміліся са славутым народным мастаком, разьбяром па дрэве Апалінарам Пупкам.*

**Зайкоўскі**: Я не скажу дакладную храналёгію. Вандроўку арганізоўваў Язэп Янушкевіч, але значную частку ўдзельнікаў склалі майстроўцы. І я там па некаторых мясьцінах быў гідам. Пра Ракаў распавядаў, пра Івенец.

Апалінар Пупка больш распавядаў агульнавядомае. Як у яго на кватэры жыў Міхаіл Фрунзэ. Ну а потым даў магчымасьць сфатаграфаваць свае самыя цікавыя працы. У прыватнасьці, драўляную выяву Пагоні і драўляны барэльеф Дуніна-Марцінкевіча.

У сярэдзіне 1980-х Міхась Чарняўскі, Мікола Купава, таксама некаторыя з Маладэчна пэрыядычна ладзілі талокі ў Плябані, дзе незадоўга перад тым

Міхась Чарняўскі знайшоў магілу паўстанцаў Кастуся Каліноўскага. Дзе быў пахаваны Юльян Бакшанскі і яго таварышы, якія ў тых мясьцінах загінулі.

Там майстроўцаў досыць шмат апынулася тады. І ранейшае кола было, тых, хто талокі праводзіў. Таксама Зьніч туды патрапіў. Алесь Разанаў удзельнічаў.

*Мінула трыццаць гадоў. Ва ўсіх, пра каго згадвае Эдвард, былі ў жыцьці і ўзьлёты і ня ўзьлёты. Зьмяняліся абставіны і атачэньне. Але ўсе яны за гэтыя трыццаць гадоў нязьменна заставаліся і засталіся такімі, якімі сталі ў першую хвалю нацыянальнага адраджэньня.*

**Зайкоўскі**: Зь некаторымі па-ранейшаму сувязі падтрымліваю. Засталіся сувязі зь Вінцуком. Радзей бачу Алеся Сушу, але таксама падтрымліваю кантакты. Раней часта сустракаў Міколу Сасноўскага. Пэрыядычна бачуся зь Югасяй Волкавай...

*З маім ці то спакусьлівым, ці то правакацыйным вызначэньнем Майстроўні як цуду Эдвард пагаджаецца.*

**Зайкоўскі**: Пасьля таго застою ў нацыянальным жыцьці, які цягнуўся колькі дзесяцігодзьдзяў, сапраўды цуд, што сярод моладзі паўстала такая грамадзкая плынь.

# Сьвятлана Слуцкая



*«Нашыя часы – часы агульнай заблутанасьці», – пісаў Ігнат Абдзіраловіч. Звычайна ўсе часы такія: заблытаныя, непразрыстыя. Але аднойчы настае момант, калі ўсіхныя праўды сыходзяцца ў адной кропцы.*
*Здаецца, усе раптам настроіліся на адну хвалю, і ўсё, што адбываецца, разумеюць аднолькава. Момант настолькі дзівосны, што нагадвае цуд і перажываецца ў эўфарыі адзінства, прасьвятленьня і шчасьця.*
*У такія моманты звычайна гісторыя робіць свой паварот. Для нас гэта была ўспышка сьвятла. На тое яна і ўспышка, каб мы зьмяніліся і ўсё навокал зьмянілася – імгненна. Калі б успышка не згасала, мы проста выгаралі б да тла. Калі б цуд стаў рэальнасьцю, жыцьцё б страціла сэнс.*

*Успышка згасае, і зноў надыходзяць часы многіх праўдаў і «агульнай заблутанасьці». Тое, што ў момант цуду можа зрабіцца імгненна, іншай парою патрабуе працы доўгіх гадоў ці ўсяго жыцьця.*

## АДЧУВАЛАСЯ, ШТО НАМ НЕ ДАГАВОРВАЮЦЬ

*Гісторыя мастачкі Сьвятланы Слуцкай пачалася ў такія вось непразрыстыя часы. У 70-я гады Сьвятлана вучылася ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Ахрэмчыка.*

**Сьвятлана**: Мы прыйшлі ў школу ў 1972 годзе. Шасьцідзясятніцтва скончылася. І прыйшоў час боязі. Нас атачалі людзі, якія многае ведалі пра беларушчыну, якія на гэта «хварэлі» – і баяліся сказаць нам хоць слова.

У нас быў цудоўны настаўнік беларускай мовы Атраховіч, які быў у сваяцтве зь беларускімі клясыкамі. Шмат ведаў і мог бы нам перадаць. І казалі нам, што папярэднім вучням ён распавядаў... Гэта быў вельмі добры чалавек. Але здавалася, што ён сьпіць сам і дазваляе спаць нам. Такая была боязь сказаць нешта жывое.

Цудоўны настаўнік гісторыі мастацтва Кірыл Уладзімеравіч Зеляной. Усе, хто зь ім сутыкнуўся, яму абавязаныя. Ён ня проста выкладаў. Ён абавязкова распавядаў пра значныя падзеі, пра значных мастакоў, якія не ўваходзілі ў праграму, што было забаронена. Чалавек неверагодна цёплы. Але ён быў расейскай культуры. Ён цудоўна выкладаў гісторыю мастацтва, акрамя беларускага.

*Прытым малодшыя вучні пазіралі на старэйшых, і ім здавалася, што старэйшыя павязаныя таямні-*

*цай, якую адкрылі ім настаўнікі, а ім, малым, ужо не адкрылі. І ў гэтым адчувалася перамена часу.*

**Сьвятлана**: З аднаго боку стаяла Ларыса зь яе тады сябрам, нарачоным. А з другога боку другая дзяўчынка, таксама музыкант, са сваім таксама нарачоным, мастаком... Было бачна, што нешта такое адбываецца таямнічае, і яно неяк прайшло над нашымі галовамі.

Я памятаю Ларысу дзяўчынкай з кучаравымі сьветла-залацістымі валасамі, у вытанчаных акулярыках, з ружовым румянцам. Вельмі прыгожую... Мы, малыя, не маглі зразумець, але бачылі, што йдзе нейкае варушэньне, нешта таямнічае адбываецца. Ідуць размовы пра тое, што было нешта абсалютна неафіцыйнае ў нашай школе. Перад нашым прыходам.

Настаўнік беларускай мовы Барыс Жанчак быў звольнены. Мы пачулі, што ён быў звольнены за беларускасьць. І застаўся настаўнік Атраховіч, які баяўся.

*Гэта быў момант стагнацыі. Пазьней, калі Сьвятлана сама стане выкладчыцай, яна пабывае ў гэтым вобразе настаўніка, якому «не рэкамэндуюць» свавольнічаць, напрыклад, выкладаць па-беларуску. Адбудзецца гэта нібыта ў іншай сытуацыі і нават у фармальна іншай краіне – у незалежнай Беларусі. Мы на хвіліну зьдзівімся – як, няўжо нічога не зьмянілася зь сярэдзіны 1970-х, за трыццаць гадоў? Зьмянілася, натуральна. Але зноў прыйшлі «часы агульнай заблутанасьці».*

**Сьвятлана**: Я думала пра карані такой зьявы, як Майстроўня і адраджэнскі рух. Мы ведаем, што ў нас былі папярэднікі. Мы былі трэцім ці чацьвертым наборам мастакоў у Валянціны Міхалаўны

Сьвентахоўскай. І перад намі яна выпусьціла, і яе паплечнікі, людзей, якія сёньня ствараюць гонар нашага мастацтва.

Я цяпер ведаю, што Пётра Сьвентахоўскі, Валянціна Міхалаўна, Марачкін, Вашчанка, можна назваць яшчэ мастакоў, Шчамялёва трэба дадаць – людзі, якія заўсёды былі нераўнадушныя да беларускай культуры, нешта намагаліся зрабіць даўней. Хаця гэта ня так, што яны аднолькава ўзьнімалі беларускую ідэю. Нехта больш, нехта менш. Мы, малыя, не маглі ведаць усіх тонкасьцяў. Былі людзі, якія ведалі, але чамусьці не казалі нам усёй праўды.

## ШКОЛА

Мой бацька вайсковец, маці мэдсястра ў вайсковым шпіталі. І мы жылі ў закрытым на той час горадзе Берасьці на цудоўнай вуліцы імя Герояў абароны Брэсцкай крэпасьці. У нашу школу прыехала мастачка са школы Ахрэмчыка, якая адбірала дзяцей. І настаўніца сказала, што ты, ты і ты, вы добра малюеце, ідзіце і здайце экзамэн. Экзамэн быў здадзены, і прыйшоў выклік – прыяжджайце. І мой бацька сказаў: як гэта я аддам дзіцё немаведама куды? І паехаў глядзець гэтую школу. Усё абгледзеў, паразмаўляў з дырэктарам, з настаўнікамі, прыехаў дадому і сказаў: мне ўсё спадабалася. Узяў білеты. Мамы не было, яна была зьехаўшы ў нейкую санаторыю. А я схавалася (пад ложак, вядома) і сказала, што не паеду нікуды. Тады мой бацька, дзякуй яму, проста зьняў рэмень і сказаў: я набыў білеты, і пакуль ня позна, вылазь.

Так мяне прывезьлі ў Менск, які мне страшэнна не спадабаўся. Мяне прывезьлі ў вялікі шэры горад.

Бацька йшоў і казаў: як тут прыгожа, паглядзі направа, паглядзі налева. А што тут глядзець на гэтыя праспэкты, гэтую прастору пасьля Берасьця, утульнага, зараслага каштанамі, з маленькімі вулічкамі, з забудовай XIX стагодзьдзя, з крэпасьцю, з таямнічасьцю... Мне Менск здаўся монстрам. Пакуль мы не дайшлі да школы. Пераступілі парог – і я ўбачыла дзяцей, такіх самых, як я. Дасюль я была белай варонай. І вось я ўбачыла, што прыйшла дадому.

Мае аднаклясьнікі – гэта Алена Каравай, Тацяна Храмянкова, якую мы цяпер ведаем як Козік-Аркуш, Рыта Рыбачок, цяпер Цімохава, Андрэй Радзівонаў, Сяргей Коршун, Сяргей Кныш, Алесь Костка, Генадзь Лойка, Наталя Малаткова, Алена Зуева, цяпер яна Вашчанка, сястрычкі Лазіркі Ірына і Марына, Тося Алянцэвіч, керамістка, Іван Маркаў, які разам зь Сяргеем Кнышом пачынаў музычную плынь, а потым заснаваў свой гурт «Літл блюз бэнд». Вядома, Яўген Валасевіч. Ніводнага чалавека немагчыма прапусьціць. Ні Аліка Валько, ні Марыну Войну, ні Сьвятлану Мароз. Ні Максімку, як мы яго любоўна называлі, Максімава, хлопчыка, які сірата. Вучыўся з намі, а цяпер які лёс яго напаткаў, я ня ведаю. Яшчэ Марына Безбародава. Яна з Расеі, з намі вучылася, вельмі плённа працуе ў Арэнбургу.

І мы былі вельмі дружныя. Мы любілі адзін аднаго – прытым, што былі вельмі крэпкімі асобамі, не было такога «пусьці-павалюся», бесхарактарных у нас не было. Кожны са сваім цудам у душы.

*Цяпер мы ведаем тую атмасфэру прадчуваньня і тую фэнамэнальную клясу. Нарэшце, усё гатовае для таго, каб настаў момант праўды. Як заўсёды, надыходзіць гэты момант раптоўна.*

**Сьвятлана**: І тут... Балючы быў момант, што пайшоў са школы Кірыл Уладзімеравіч Зеляной. І на яго месца прыйшоў чалавек, які нам спачатку ня быў зразумелы й сымпатычны, таму што ён быў зусім іншы. Ня быў такі талерантны. Прыйшоў выкладаць частку праграмы, якая называецца гісторыя беларускага мастацтва. Гісторыя, пра якую мы нічога ня ведалі і не лічылі, што яна вартая нейкай увагі, ну, акрамя тых сучасьнікаў, якіх мы ведалі і паважалі, старэйшае пакаленьне. А ў старажытныя часы проста нічога не было. Што там вывучаць?..

І вось гэты чалавек пачаў з таго, што літаральна прымусіў нас даведацца сваю гісторыю. Адкуль ты? Зь Берасьця? Ану, вось табе часопіс, намалюй мне тыя цэрквы, такі кляштар. Потым – гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, потым... ён прыносіў нам кніжкі. Паступова закіпела жыцьцё, узьнік інтарэс. Гэта было і праз правакацыю, і празь нейкі «шкурны інтарэс». Я намалюю яму і ён ад мяне адчэпіцца. І ня буду я вучыць гэтае абсалютна нецікавае мне мастацтва XIX ст. А ён нас прымусіў убачыць гэтую культуру зусім інакш. Ён адкрыў нам Ваньковіча, напрыклад. Гэта быў Генадзь Сокалаў-Кубай.

Аднойчы Кубай прыйшоў і сказаў: а вы ведаеце, што ў нас усё было інакшым? Вы думаеце, што беларуская культура – гэта нейкія хусьцінкі, а вы паглядзіце на партрэты Радзівілаў – вось наша культура. Гарадзкі касьцюм быў такі... Ён нас прымушаў вывучаць і матэрыяльную культуру, і архітэктуру. Наводзіў на думку, што трэба ўсьвядоміць, хто мы ёсьць, і ганарыцца гэтым. Мы ўсе былі ўражаныя.

Мне хацелася «паспрабаваць на зуб», ці праўду ён кажа. Я нават пайшла ў музэй даведацца, ці

ёсьць гэта папраўдзе. І пераканалася, што ёсьць. Ён ня хлусіць. І паступова разам з гэтай культурай прыйшло разуменьне, што і мова патрэбная.

*Яшчэ да Майстроўні фэнамэнальная кляса пасьпела закончыць сваю школку. (Дарэчы, Сьвятлана не прымае прастамоўную назву гэтай навучальнай установы – «Парнат». Зьявілася яна пазьней.)*

**Сьвятлана**: Шмат маіх аднаклясьнікаў паступілі ў Акадэмію мастацтваў у Менску. Мы з Марынай Безбародавай-Ярылавай паступілі ў Ленінград. У Інстытут тэатру, музыкі і кінэматаграфіі. Мне хацелася быць удзельніцай імпрэзаў, бачылася нешта вялікае і грамадзкае.

Я вытрымала там толькі паўгоду. Таму што... Насеньне Сокалавым-Кубаём было кінутае. І прыехаўшы туды, я яшчэ больш пераканалася – беларуска. Там усё іншае. Нас адразу на слых адчувалі, вызначалі, што ты прыехаў зь Беларусі. Я перажыла сапраўдную настальгію. Я ня ведала, што савецкая дзяўчынка можа настолькі няўтульна пачувацца па-за межамі сваёй «малой радзімы». І вярнуўшыся адтуль, я была гатовым прадуктам для Майстроўні.

## У МАЙСТРОЎНІ

*Майстроўская гісторыя Сьвятланы – кароткая, але каштоўная, бо тычыцца самых пачаткаў аб'яднаньня.*

**Сьвятлана**: Я ў гэтым настроі вярнулася пасьля Новага году ў Менск, гэта быў пачатак 1981 году. Я прыехала да сваіх сяброў, шукала жыльлё, думала адшукаць працу. Мяне прытуліла Тацяна Храмянкова. Ну і кантактавала з Тацянай, Аленай Каравай, Галяй Кунцэвіч... Карацей, з тымі, якія ўжо



Гуканьне Вясны ў парку Янкі Купалы, 1981 год. Янка Медзьвядзёў, Алена Амельчыц, Тацяна Храмянкова, Сьвятлана Слуцкая

наведвалі Майстроўню. І неяк натуральна адбылося – а хадзем туды на сьпеўкі разам з намі.

Мне было вельмі прыемна пабачыць Ларысу, таму што мы ж яе ўжо ведалі. Усё было лёгка і цёпла, бо мы былі ўсе свае.

Я была сьведкай самага пачатку і толькі цягам некалькіх месяцаў. Бачыла рэпэтыцыі «Цара Максіміляна», сьпеўкі.

Мы прыйшлі падрыхтаваныя да таго, што гэта ня проста так і ня проста культурная арганізацыя. А гэта нешта палітычнае. Мы сьвядома ішлі перабудоўваць краіну, падымаць народ. Усьведамлялі сваю ў гэтым ролю. І мы ведалі, што ёсьць кіраўніцтва. Гэта ўспрымалася як арганізацыя.

Мы адчувалі, што з усімі намі ў краіне робіцца

нешта ня так. Атмасфэра другаснасьці навязвалася. Нейкая правінцыя забытая, у якой ніколі не было нічога свайго, вартаснага. Гэта, безумоўна, пачуцьцё справядлівасьці. Мы ў той час ужо думалі пра сувэрэнітэт.

## ТРАЛЕЙБУС НА КРАЙ МЕНСКУ

Вялікая падзея запомнілася – першае Гуканьне ў мікрараёне Зялёны Луг на школьным двары. Канец лютага, адліга, пахмурны дзень. Доўга ехалі, ішлі нейкімі завулкамі, прыйшлі на школьны двор. Бачым, там нейкі прадстаўнік школы, групка школьнікаў, мясцовыя жыхары. Топчуцца, ня ведаючы, што рабіць. І мы былі трошкі зьбянтэжаныя.

Пачалі сьпяваць. Набывала моц песьня, і неяк распраўляліся і душы і плечы. І ўсьмешкі зьявіліся. І людзі параскрывалі раты, слухалі гэта ўсё. І раптам мы сябе адчулі часткай народу. Ня проста прыйшла там Сьвета, Маша, Янка, Аленка, Сяржук, а... такая была еднасьць, адразу як бы сьвятлей стала.

Адсьпявалі мы песьні, адвадзілі карагоды. І назад усе разам ехалі ў тралейбусе. І сьпявалі. Я ўяўляю, наколькі было дзіўна ўвогуле пачуць беларускую гаворку і сьпевы. Але людзі азіраліся ня дзіка, а як быццам пазнаючы даўно нешта забытае і вельмі дарагое. Нашыя дзеяньні ўспрымаліся як дарагі ўспамін. Людзі былі ўдзячныя. Нехта спрабаваў далучыцца да гэтых сьпеваў. Усьмешкі расквітнелі. У гэтым тралейбусе было вельмі здорава.

*Той веснавы тралейбус пасьля ператворыцца ў цэлы тралейбусны парк. А пачыналася гэтае множаньне менавіта ў той дзень, на Гуканьні Вясны. Яе гукалі, і яна адгукалася. Ня толькі ў Менску, але і ў іншых гарадах.*

**Сьвятлана**: Маё спрычыненьне да Майстроўні было вельмі кароткім. Але сьвятло той справы разыходзілася далёка.

Пажыўшы два ці тры месяцы ў Менску і не знайшоўшы прапіскі, працы, я мусіла зьехаць дахаты, у Берасьце. На той час яшчэ закрыты памежны горад. Але ж і туды тое сьвятло дайшло. Пачаліся літаратурныя, мастацкія суполкі. Па ўсёй краіне на той час жыцьцё ўзрушылася і зьмянілася.

*24 сакавіка 1983 году газэта «Звязда» паведаміла, што пры Берасьцейскім палацы культуры ўтварылася сябрына «Дзівасіл». Прыблізна ў гэты самы час утвараюцца аб'яднаньні майстроўскага кшталту ў Горадні, Віцебску, Гомелі ды іншых гарадах. Гэта быў знак часу. І энэргія ўспышкі не прапала.*

**Сьвятлана**: Нікуды нішто ня дзелася. Так і справа Майстроўні. Яна пашырылася, як дождж, напітаўшы глебу і вынырнуўшы крынічкамі.

Мне не дазволілі выкладаць па-беларуску. Я магла зь дзецьмі толькі прыватна размаўляць. І распавядаць ім пра гісторыю, даваць гістарычныя тэмы для маляваньня, падштурхоўваць. Я правакавала – давайце пра сваю малую радзіму намалюем. Пра сваю сям'ю, свой род. А давайце мы пачытаем пра гісторыю Менску ці зьвернемся да пэўнага гістарычнага часу. Толькі так можна было працаваць пад тым негалосным уціскам.

Патрэбны час, каб вырасьціць чалавека. Яшчэ больш часу патрэбна, каб вырасьціць многа людзей. Гэты працэс, я лічу, толькі ў пачатку. Справа Майстроўні яшчэ будзе даваць свой плён.

# Вінцук Вячорка



**Вячорка**: Несуменна, што я быў дысыдэнтам, сам таго не ўсьведамляючы. Але, разам з тым, ані я, ані Сяржук Сокалаў ня ставілі сабе мэты сядзець у нары і культываваць там сваю ўнікальнасьць, праніклівасьць – мы ўсё зразумелі, а навакольле не зразумела. У нас ключавым словам нейкі час было слова «апрацоўка». Яно слова кепскае, з суфіксам «-ка», які азначае нейкі прамысловы працэс. Але мы яго ўжывалі ў значэньні «адшукаць аднадумцаў, пераканаць, далучыць».

Адкуль слова? На трэцім паверсе корпусу па вуліцы Кірава бібліятэкі тады Леніна быў беларускі аддзел, а на другім быў «аддзел апрацоўкі». Мы на гэтым другім паверсе, спусьціўшыся на адзін ровень зь беларускага аддзелу, вылавіўшы кагосьці зь сябрукоў-студэнтаў, вялі размовы і пра са-

праўдную беларушчыну, і пра начытанае ў аддзеле рэдкай кнігі або адшуканае ў Вільні й недаступнае ў Менску, і пра пачутае па радыё. І займаліся гэтым усюды.

Памятаю хаджэньне на зборкі нейкіх аматараў псыхалягічнай разгрузкі. Мы туды прыходзілі й гаварылі па-беларуску. Выезды разам з турыстамі ў лясы на фэстывалі аўтарскай песьні, разам зь Сержуком Сокалавым, які таксама сьпяваў пад гітару. Шукалі аднадумцаў у любых патэнцыйна нонканфармісцкіх асяродках. Вось такое «страляньне па плошчах» – чым мы ў гады перад Майстроўняй, дый пасьля зьяўленьня Майстроўні, займаліся. А Майстроўня была менавіта сваім полем, створанай сваімі рукамі пляцоўкай, але адкрытай.

## «МЫ ТОЛЬКІ СЬПЯВАЕМ НАРОДНЫЯ ПЕСЬНІ»

Прынцып адкрытасьці накладаў абмежаваньні. Так, у Майстроўні, на яе яўных публічных паседжаньнях, якія складаліся зь дзьвюх частак – сьпеўкі ці рэпэтыцыя тэатру, а потым лекцыя, – нельга было адкрыта агучваць палітычныя тэмы. Дзякуючы досьведу слуханьня радыё, чытаньня кніг пра ўкраінскіх дысыдэнтаў, якія нам вазілі патаемна кіеўскія сябры, ці, скажам, пра гішпанскае антыфранкісцкае падпольле, сёе-тое разумелася пра кансьпірацыю. Ёсьць закрытая палітычная група, якая пазьней назвалася Група Незалежнасьць, а ёсьць Майстроўня – адкрытая пляцоўка для любога чалавека, здольнага ўспрыняць ідэю. Найважнейшая – беларуская ідэя. Што да палітычнай ідэі, то да яе, лічылася, аб'ектыўна дойдзе кожны, хто дойдзе да ідэі беларускай. Працавала сама атмасфэра.

Гэты, па-цяперашняму кажучы, праект, відаць,

унікальны тым – у параўнаньні з папярэднімі праектамі, групай «На паддашку» ці групай унівэрсытэцкіх студэнтаў папярэдняга пакаленьня – што ён быў сьвядома скіраваны на пашырэньне. Яго па першым часе нельга падставіць пад наўпроставыя рэпрэсіі. Мы толькі сьпяваем народныя песьні. Гэта абяззбройвала ўсіх, хто за нас «нёс адказнасьць».

Памятаю размову з намесьнікам дэкана філялягічнага факультэту сп. Мікалаем Піпчанкам, які адказваў за расейскае аддзяленьне. Чамусьці менавіта яго прызначылі глядзець за намі. Я кажу: мы сьпяваем народныя песьні, ставім народныя спэктаклі, гатовыя рэпрэзэнтаваць факультэт на конкурсах мастацкай самадзейнасьці... Гэта яму спадабалася, самадзейнасьць яму была важная. І было заключана джэнтэльмэнскае пагадненьне, што нам даюць аўдыторыю. Бо на філфаку сьпяваць народныя песьні – рэч натуральная.

Відаць, гэтая адкрытасьць і дазволіла далучыцца да Майстроўні людзям, якія інтуітыўна адчувалі беларушчыну, але не былі палітызаваныя ад пачатку, як Сокалаў альбо я. Зь філфакаўскімі дзяўчатамі ў нас проста былі добрыя, сяброўскія дачыненьні. Яны былі адукаваныя, імкнуліся да ведаў, гаварылі па-беларуску. Быў пэўны супольна пераржыты канфлікт, зьвязаны з скандалам на так званай «бульбе», калі мы зь Сяргеем Запрудзкім выступілі на баку несправядліва пакрыўджаных дзяўчат.

## ПРАВІЛЬНЫЯ АНТЫСАВЕТЧЫКІ

Быў прынцып: мы ня маем права падставіцца перад сыстэмай паводле пэўных фармальных крытэраў. Калі будуць выганяць, то за погляды,

за дзейнасьць, а не за саму вучобу ці несумленную працу.

Гэта быў вельмі важны пункт у негалоснай хартыі паводзінаў маладых нацыяналістаў майстроўскага асяродку. Культываваліся веды, шанавалася сядзеньне ў бібліятэцы. І пасьля першых жа Калядаў, увесну, да рэгулярных сьпевак ці тэатральных рэпэтыцыяў – пасьля іх – мы далучылі лекцыі.

Лекцыі, творчыя сустрэчы, дыскусіі. Гісторыя ад Полацка да заходнебеларускай Вільні 20-х – 30-х, архітэктура, літаратура, фальклёр, музыка, выяўленчае мастацтва, археалёгія, этнагенэз… Зразумела, мова, культура мовы, імёны, тэрміналёгія, лацінка... Іншыя мовы… Бліжэй да 1984 году знахабелі да таго, што нават паліталягічныя рэчы сталі асьцярожна ўключаць. Што да нацыянальна-культурнага блёку, то мы за чатыры гады існаваньня Майстроўні здолелі зрэалізаваць някепскі паралельны ўнівэрсытэт.

## ІМІДЖ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ ЯК СТРАХОВАЧНЫ МАТРАС

Мяркую, што Майстроўня ўгнязьдзілася на філфаку і яе не прыхлопнулі адразу, сярод іншага, таму, што Беларусь мела рэпутацыю самай надзейнай савецкай рэспублікі. Гэтую рэпутацыю культываваў Машэраў. Які, дарэчы, разам з тым паціху вычысьціў кіроўны апарат ад прыхадняў і запоўніў яго беларусамі, найперш сваім клянам партызанаў. А ў Маскву экспартаваўся вобраз Беларусі як самай спакойнай, самай савецкай, самай паслухмянай.

Калі б штосьці падобнае зьявілася ў той час у Львоўскім унівэрсытэце, ці ў Віленскім, ці Тар-

тускім, то можна не сумнявацца, што ў той жа момант туды б і прыйшлі, і допыты, і прыхлопнулі б неадкладна.

Беларуская савецкая надзейнасьць была для нас пэўным страховачным матрасам, які дазволіў Майстроўні стаць на ногі й год-паўтара дзейнічаць безь вялікіх праблемаў.

І ўсё ж існавала ціхая нацыянальная фронда. Вось чаму яшчэ мы, сьвядомыя беларусы, не былі клясычнымі дысыдэнтамі ў стылі Кіма Хадзеева. Ды таму што мы бачылі рэальную падтрымку і, як цяпер модна казаць, ціхія сыгналы, якія пасылалі людзі з розных асяродкаў – навуковых, акадэмічных, журналісцкіх, якія давалі нам пэўныя магчымасьці, пісалі пра нас у дзяржаўных газэтах. Спачатку ў «Голасе Радзімы», а потым і ў «Знамени юности». З «Голасам Радзімы» нібыта ясна, гэта імідж беларускай Беларусі – на экспарт. Але зноў жа ніякі «Голас Радзімы» пра гэта б не пісаў, калі б там не было Валянціны Трыгубовіч, Ігара Герменчука. Таццяна Гаранская зрабіла Заслаўскі музэй нашым апірышчам. Усюды сьвядомыя людзі, якія ацанілі фэномэн Майстроўні, пачалі масьціць нам пункты апоры.

Потым гэтага ўжо не было. Мы мелі фармальны дах і пэўны статус. Гэта ж усё статусныя пункты. Чым болей іх маеш, тым цяжэй прыхлопнуць. Мусілі лічыцца. Ага, напісалі ў газэце ЦК камсамолу – «Знамени юности» або «Чырвонай зьмене», значыць, чыноўнік сярэдняга-ніжэйшага ўзроўню думае, што, відаць, гэта бласлаўлёна зьверху, і калі што ня так, то няхай яны зьверху і вырашаюць. Ну а зьверху, я думаю, спачатку гэтага ўвогуле не заўважылі, а потым дбалі пра імідж той самай ціхай

ненацыяналістычнай Беларусі. Таму мы і мелі гэтыя некалькі гадоў, пакуль ня сталі жаршчэй фармуляваць палітычныя погляды і пакуль не ўчынілі наўпроставую дэманстрацыю.

Такіх наўпроставых дэманстрацыяў было дзьве. Дэманстрацыя пратэсту супраць зносу дому Поляка, дому «Сялянкі» на пляцы Волі ў Менску. І Купальле, апошняе майстроўскае, над Нёмнам.

## АД КГБ БОГ БАРАНІЎ

Мяне Бог бараніў ад кантактаў зь імі. Можа яны ўсьведамлялі, што бессэнсоўна са мной гаварыць. Але мы мусім памятаць, што пасьля таго як быў схоплены швагра Сержука Сокалава-Воюша ў Наваполацку з выданьнем «Люстра Дзён», то самога Сержука так званы куратар КГБ па ўнівэрсытэце цягаў на допыты. І яны спрабавалі таксама дапытваць Сокалава-бацьку ў Наваполацку. Што, відаць, прысьпешыла сьмерць Анатоля Генадзевіча Сокалава. Пэўна, зьяўленьне ў публічнай прасторы самвыдавецтва іх падштурхнула да «актыўных мерапрыемстваў». Бо па першым часе вонкава не было ўражаньня, што кагосьці з нашых людзей прасуюць.

Вось бліжэй да лета 1984 году атмасфэра ў Майстроўні была сапраўды трывожная. І можна было здагадвацца, што кагосьці цягаюць, запалохваюць, раяць ня зьвязвацца. І гэта, думаю, адбывалася нарастальна. Але напачатку яны прахлопалі.

Мой бацька, які мусіў быць папярэджаны пра кепскія паводзіны сына альбо сваім кіраўніцтвам, альбо й тагачаснымі сілавікамі, – першы раз са мной трывожна размаўляў, маўляў, ты глядзі, не нарабеце глупстваў, толькі ў 1984 годзе. Яму сказалі,

што пасьля нашай дэманстрацыі ў абарону тэатру «Сялянкі» КГБ займаўся маёй справай у Інстытуце мовазнаўства, дзе я вучыўся ў асьпірантуры, і яны нават бралі чытаць тэкст маёй дысэртацыі, прысьвечанай гісторыі беларускае мовы.

Ня веру, што хтосьці нас у рэпрэсіўных структурах сьвядома прыкрываў. Калі хто й прыкрываў, то хутчэй людзі з цывільнага кіраўніцтва, не чужыя беларускай культуры. Ня будзем забывацца, што ў розныя часы ў тым жа ЦК і Бураўкін, і Законьнікаў, і Петрашкевіч, і Бутэвіч бывалі. Людзі, для якіх беларушчына не пусты гук. Дапускаю, што пры нагодзе маглі слова ў абарону казаць. Гэта я ня ў сувязі з Майстроўняй – ведаючы, як Бураўкін бараніў правы беларускай мовы на тэлевізіі ў ЦК, я думаю, што ён быў не самотны як мінімум.

Тыя, хто займаўся паралельна падземнай палітычнай дзейнасьцю, усьведамлялі, чым гэта можа пахнуць, і разумелі, што могуць быць праколы – у форме вэрбоўкі некага. Але, дзякуй Богу, нам хапіла інтуіцыі не ўвасабляць домыслы ў практычныя дзеяньні – у выгнаньне кагосьці, допыты, масавы распаўсюд нейкіх чутак-плётак. Толькі мы пачалі б гэтым займацца, было б пакончана з атмасфэрай Майстроўні – самым каштоўным, што там удалося стварыць. Сяброўства, беларушчына, давер, радасьць ад супольнае творчасьці.

Да канца існаваньня Майстроўні, да 1984 году даверу паменела, некаторыя людзі сышлі і, відаць, невыпадкова. Відаць, камусьці сказалі, што далейшыя паходы могуць адбіцца на вучобе, на кар'еры, на бацьках можа. Таму трэба было пераходзіць да іншых мэтадаў працы. Зрэшты, тады ўжо надыходзіў іншы час ува ўсім Савецкім саюзе.

## ЖЫЦЬЦЁ НА МЯЖЫ

Думаю, што на падсьвядомым роўні адчуваньне сябе беларусам мне ад бацькі перадалося. Нягледзячы на тое, што ён быў уключаны ў самую што ні на ёсьць савецкую сыстэму. Усё жыцьцё ён бярог у сабе велізарны сантымэнт да малой радзімы, да зьнішчаных бальшавікамі Мерлінскіх хутароў на ўсходзе Столінскага раёну. І ўжо пакінуўшы дзяржаўную працу, ён мне шмат чаго распавёў пра тое, як сябе паводзілі бальшавікі, калі прыйшлі ў іхныя мясьціны. Як людзі ставіліся да калгасаў, да новага ладу. Гэта не было як прыхаваць, нягледзячы на ўсе табу, што існавалі ў сямейнай традыцыі на такія тэмы.

Калі казаць пра рацыянальныя пачаткі майго нацыяналізму, то было некалькі імпульсаў. Вядома, палескія вёскі, дзе жылі родзічы пасьля высяленьня з хутароў. Далей – я рос у Берасьці, а гэта ўсьведамленьне памежнасьці. За Бугам, за непранікальнаю для бальшыні заслонаю, нейкі іншы сьвет, а лад, у якім мы жывем, банальны, абмежаваны, з элемэнтамі штучнасьці. Слухаў польскае, а потым усякае іншае радыё. І яшчэ вялікае ўражаньне на мяне, падлетка, зрабіла першае быцьцё ў Літве.

Усё гэта штурхала да пошукаў ідэнтычнасьці, і даволі лёгка было знайсьці пэўныя кнігі, пачуць пэўныя радыёхвалі, натрапіць на сьлед забароненай беларускай літаратуры. Я пераключыўся на беларускую мову яшчэ ў школе, якая, зразумела, была расейскай, таму што іншых у Менску, куды мы пераехалі, проста не было. Запаўняў дзёньнік па-беларуску, і клясная пісала: «Веди дневник как положено». Чацьвертая школа на рагу Чырвона-

армейскай і Кірава. Толькі цяпер я дазнаўся дзякуючы Міколу Пачкаеву, што карані тае школы ў XVI стагодзьдзі, у ёй вучыліся і Манюшка, і браты Луцкевічы.

Выбар унівэрсытэту быў абумоўлены ў роўнай ступені маім глыбокім інтарэсам да лінгвістыкі як навукі (а я даволі грунтоўна гэтым займаўся з падлеткавага ўзросту, шмат чаго перачытаў), так і нацыяналізмам. Вось чаму я выбраў беларускае... Дакладней, тады на філялягічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту не было беларускага аддзяленьня. Былі аддзяленьні «расейскай мовы і літаратуры» і «беларускай і расейскай мовы і літаратуры».

Нямала людзей на беларускім філфаку, якія заканчвалі, адрозна ад мяне, беларускія школы, пераважна вяскоўцы, трапіўшы ў галоўны ўнівэрсытэт краіны, пераключыліся на расейскую мову. Гэта было важным урокам нацыянальна-моўнай сацыялёгіі, я на практыцы ўцяміў, што такое піраміда прэстыжнасьці мовы.

Але само заснаваньне Майстроўні ў філфакоўскіх мурох паспрыяла, як бы гэта сказаць, рэбеларусізацыі многіх маіх філфакоўскіх калегаў.

Відаць, амальгама «гараджане/вяскоўцы», якая сфармавалася ў Майстроўні, была крэатыўная, плённая. Гэта было праектаваньне мадэрнай беларускай нацыі. У вельмі маленькай колбе-рэторце.

## ПАЛІТЫКА І ЭСТЭТЫКА

Першасны імпульс быў зьмешаны. Ён быў у роўнай ступені як палітычны, так і эстэтычны і маральны. Я разумеў, што беларушчына, як і крытыка існай савецкай сыстэмы – гэта ўсё па адзін бок, па

бок справядлівасьці. А беларушчына ёсьць інтэгратар непрыняцьця палітычнай сыстэмы, несправядлівасьці, паноўнай таталітарнай эстэтыкі. Усё гэта мела свае альтэрнатывы ў беларускай гісторыі, у мове, у нонканфармістычных мастаках ды іхных творах, у сапраўдным фальклёры, які, аказваецца, мала нагадваў чырвона-зялёны стэрэатып, які навязваўся праз радыё і г. д. – з балалайкамі і какошнікамі. Аказваецца, нашая народная творчасьць – аўтэнтычная – выглядала блізка да творства нашых эўрапейскіх суседзяў. Гэта было істотнае адкрыцьцё, якое для мяне паставіла адраджэньне аўтэнтычнага, нерусыфікаванага й несаветызаванага фальклёру ў адзін шэраг з самвыдавецтвам ці расьпісваньнем падземных пераходаў. Любая дзейнасьць, скіраваная на адраджэньне аўтэнтычнай беларушчыны, адначасова мысьлілася як палітычная, як антысавецкая. Зрэшты, яна такой і была.

### «ЛЮСТРА ДЗЁН»

Першыя нашыя захады былі зьвязаныя з самвыдавецтвам. Гэта быў перадрук «Лысай гары», якую мне дала пачытаць мая маці, блізкая да выдавецкіх колаў. Мы «Лысую гару» перадрукавалі, унёсшы адзіную зьмену. Там фігураваў «джаз бяздумны», я настаяў на тым, каб замест джазу быў усё ж такі «поп бяздумны», які сапраўды ёсьць бяздумны, а джазу было шкада. Зважаючы на тое, што я быў актывістам менскага джаз-клюбу, дзе, натуральна, таксама панавала палітычнае вальнадумства, а джаз як мастацтва вольнае ня самым прыхільным вокам бачыўся ўладам.

Патрабавалася штораз болей сейбітаў. І па

магчымасьці сейбітаў прафэсійных, абазнаных у розных галінах. Даробак у самвыдавецкай галіне штурхаў нас на пошукі аўдыторыі, якая б чытала гэтую прадукцыю. Усьлед за «Лысай гарой» былі передрукі Ермаловіча «Гутаркі аб усім, што баліць», заходнебеларускіх міжваенных выданьняў. Была свая ўласная прадукцыя – «Люстра Дзён». Мы гэта запускалі ў народ рознымі шляхамі. Скажам, праз Сержука Сокалава-Воюша і ягонага швагра – на наваполацкія заводы, што прывяло да ці не адзінага праколу ў той справе...

Разам з тым актыўная моладзь у Менску заставалася па-за абсягам гэтага палітычнага ўплыву. Мы абмяркоўвалі, як выйсьці на чытацкае кола. Праца проста з аднакурсьнікамі ці колішнімі сябрукамі – гэта не зусім тая каштоўнасная пляцоўка, якая дазволіць заангажаваць актыўных людзей, паяднаць іх, узаемна натхніць.

## ЧЫТАЦКАЯ МАЙСТРОЎНЯ

Іскра, якая прайшла паміж нашым філфакаўскім ці ўнівэрсытэцкім асяродкам, з аднаго боку, і мастакамі, з другога, зыркнула ў канкрэтны момант. Дзякуючы майму знаёмству з Марачкіным і ягоным асяродкам – гэта Сокалаў-Кубай, Кулік, Купава, Маркавец – мы даведаліся пра іхныя імпрэзы, выезды, вандроўкі. І я ў Вільні, у Троках, падчас адной з такіх вандровак, якой кіраваў Генадзь Сокалаў-Кубай, пазнаёміўся з парнатаўскімі мастакамі. Гэта было яшчэ да ўзьнікненьня Майстроўні, да першых Калядаў.

Наступнай ня менш важнай іскрай, калі гаварыць канкрэтна пра жанр Майстроўні, было знаёмства з Ларысай Сімаковіч, якая была на лек-

цыі Надзеі Высоцкай, ведамай мастацтвазнаўцы, укладальніцы раскошных альбомаў старабеларускага мастацтва. Яна чытала цыкль лекцыяў у Гістарычным музэі, і ёй задавалі пытаньні. Ну а індыкатар распазнаваньня «свой-чужы» ведама які быў – беларуская мова. Пабачыўшы ў першых шэрагах сьветлавалосую дзяўчыну, якая задавала пытаньні Надзеі Высоцкай па-беларуску, прычым пытаньні яўна матываваныя цывілізацыйным выбарам (выбачаюся за гучную фармулёўку), я зразумеў, што дзяўчына свая, наша. Так мы пазнаёміліся, разгаварыліся. Ідэя рыхтаваць Каляды ў нас зьявілася, па-мойму, пасьля размовы з мастакамі, якія вучыліся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце. Бальшыня з нас была перакананая, што нам слон на вуха наступіў і наўрад мы здолеем прыгожа і пераканаўча сьпяваць. І я падзяліўся гэтай ідэяй з Ларысай, і яна сказала, што навучыць сьпяваць можна любога мядзьведзя. І гэта мяне страшэнна натхніла. Так узьнікла ідэя першых сьпевак.

## ТОЕ, ШТО ТАДЫ, І ТОЕ, ШТО ЦЯПЕР

Калі параўноўваць тое, што тады, і тое, што цяпер, акрамя розьніцы ў палітычнай атмасфэры, ёсьць яшчэ адна істотная розьніца. Што такое Майстроўня паводле цяперашняй клясыфікацыі? Гэта няўрадавая арганізацыя, NGO. Але гэта найаўтэнтычнейшая з аўтэнтычных няўрадавых ініцыятываў. У тым сэнсе, што ўсё рабілася рукамі, галовамі і за сродкі саміх удзельнікаў. Толькі і выключна.

Хіба што давалі памяшканьне, зрэшты – то давалі, то не. Нейкі час жа і ў парку Купалы зьбіраліся, калі быў перапынак з памяшканьнем. А іншае ўсё...

Электрычкамі даяжджалі да месца Купальля або Гуканьня Вясны, бралі ссабойкі, цягалі свае магнітафоны, каб запісваць уласныя сьпеўкі альбо ілюстраваць музыкай пастаноўку «Цара Максіміляна». Я б дагэтуль праводзіў выразнае адрозьненьне паміж грамадзкімі ініцыятывамі аўтэнтычнымі ды прафэсіяналізаванымі. Тыя хто прайшоў тую школу, здольныя і цяпер адрозьніць сапраўднае ад штучнага, ад падказанага «фундатарамі».

Нам Палац прафсаюзаў запрапанаваў пляцоўку, Пётра Садоўскі дапамог, падказаўшы ідэю суседу – намесьніку дырэктара. Узялі, пабачыўшы, што мы можам рабіць, напрыклад, вулічныя сьвяты, на якія прыходзіць нямала народу. Мы спакусіліся прапановай, якая давала выхад на шырокае кола і ня толькі студэнтаў. Калі-нікалі гэта нават спраўджалася. Мы наладзілі вечарыну памяці Каліноўскага з паказам выяваў Андрыёлі ў вялікай залі-холе Палацу прафсаюзаў у самым цэнтры гораду і з папярэдняй рэклямай, расклеенай па ўнівэрсытэтах.

Але як толькі мы правялі акцыю пратэсту на пляцы Волі, тут жа нам было сказана: усё, хлопцы, дзяўчаты, надалей будуць праблемы...

## ВАКОЛ – НАРМАЛЬНЫЯ ЛЮДЗІ

Мы выйшлі на вуліцы і пабачылі, што да нас хінуцца людзі, хаця нікога гвалтам не зганяюць на нашыя Гуканьні Вясны або гарадзкія Купальлі. Аказалася, што на гарадзкім асфальце прапанаванае студэнцкай моладзьдзю відовішча па-беларуску можа быць прывабным. І я са зьдзіўленьнем пераканаўся, што гэтыя людзі, якія сядзяць па сваіх кватэрах, глядзяць тэлевізар з дваццаць трэцім-

чацьвертым зьездам, аказваецца, у душы сваёй нармальныя людзі і да іхнай душы і сэрца можна дагрукацца.

Гэта было важнае адкрыцьцё, якое радыкальна пераадолела, абвергла патэнцыйны дысыдэнцкі комплекс. І нездарма Павел Якубовіч, які тады быў журналістам «Знамени юности», на фоне станоўчых або нэўтральных інфармацыяў пра Майстроўню раптам выдаў пасквіль, дзе напісаў пра поўную дысгармонію паміж джынсамі гэтых гарадзкіх маладзёнаў і бабулінымі песьнямі, якія яны спрабуюць сьпяваць.

Гэта быў як бы першы прарыў, пераадоленьне страху перад выхадам у свой жа народ. А другі такі важны момант, нялёгкі, – гэта паход зьбіраць подпісы за беларускую школу. У Сьляпянцы.

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

Настойліва прапаноўваў не абмяжоўвацца пісаньнем лістоў Віктар Івашкевіч, які часьцяком быў маторам такіх вонкава грамадзкіх, але папраўдзе палітычных захадаў.

Ня ўсе напачатку падхапілі ідэю. Некаторыя баяліся: не таму што павяжуць, а як людзі ўспрымуць. І гэта было ачышчальным душам – пераканацца, што звычайныя простыя беларусы, рабочыя ды інжынэры, хатнія гаспадыні ставяць подпісы за беларускую школу або беларускі садок. Пад тысячу подпісаў было сабрана. Гэта быў 1983 год.

Быў і вынік – упершыню пасьля доўгага перапынку ў Менску афіцыйна стварылася беларуская школа. № 108, там, у Сьляпянцы. Майстроўцы нават спрабавалі «шэфстваваць», як тады казалі, над ёй, насуперак волі дырэктаркі.



Гэнік Лойка. «Студэнты». Сылюмін, 1983 год (курсавая праца).
Правобразы – Сяргей Дубавец, Вінцук Вячорка, Сяргей Запрудзкі

Тады ж, дарэчы, я сутыкнуўся з пэўным расчараваньнем. Аказалася, што людзі, якія «прафэсійна» займаюцца беларушчынай, некаторыя пісьменнікі тады сярэдняга ўзросту, адмаўляліся ставіць подпісы за беларускую школу. Ці яны хваляваліся, чым гэта для іх абернецца, ці чаму – ня ведаю. Так выявілася, што ня ўсе беларускамоўныя ёсьць апрыёры нашыя паплечнікі.

## АДКАЗНАСЬЦЮ НЕ ЗАРАЗІШ

Важная характарыстыка настрою – адкуль бралася адказнасьць. Кожны разумеў, што калі я не зраблю, ніхто ня зробіць. Гэта тычылася і нейкай дробнай справы – прынесьці тэхніку, скажам. Вось я не прынясу і праваляцца сёньняшнія сьпеўкі. Нельга было не прынесьці. Кожны з гэтага зыходзіў. Ты быў хворы ці яшчэ нешта, ты ўсё роўна ішоў, цягнуўся, таму што гэта ёсьць справа. Гэтым словам – «справа» – мы называлі тое, чым займаемся. Робім справу. Ня трэба было доўга тлумачыць. Ну і пра глябальнае таксама задумваліся: калі мы сёньня гэтага ня зробім, за нас гэтага ўжо ніколі ня зробіць ніхто.

Добра атрымалася, што ў нас былі старэйшыя мудрыя дараднікі, такія, як Аляксей Марачкін. Мы былі ўдзячнымі ўдзельнікамі іхных падпольных і публічных мастацкіх акцыяў, наведнікамі выдатных выставаў. Але мы былі аўтаномныя. Марачкін, Кулік, Пазьняк, – яны робяць сваё. А гэта наша дзялянка і тут, акрамя нас, падстрахоўшчыкаў, запасной лігі няма.

Можа быць, цяпер такое ўяўленьне, што я не зраблю, дык неяк будзе. ТБМ парупіцца, Трусаў напіша і праб’е. Шматстайнасьць розных быццам

нацыянальных арганізацыяў – грамадзкіх, палітычных – трошкі зьбівае з тропу. А папраўдзе, відаць, працэнт адказных людзей у грамадзтве ў кожны канкрэтны момант наўрад ці моцна мяняецца. Адказных за сябе й ня толькі заўсёды меншасьць. Адказнасьцю не заразіш, гэта праўда.

Зрэшты, адказнасьць – гэта традыцыя заходняй культуры. Калі ты нясеш індывідуальны груз. Усходняя – абшчынная традыцыя размытай адказнасьці, перадачы яе камусьці... Відаць, мы былі такімі беларускімі байцамі заходняй цывілізацыі – жарты на бок…

# Пасьляслоўе

Вось і ўсё, што мы хацелі вам расказаць...

Нам было мала проста рэканструяваць гісторыю, мы паспрабавалі дакрануцца да цуду – цуду нашае маладосьці, цуду сяброўства, цуду свайго беларускага самаўсьведамленьня.
За год мы з Таняй зрабілі сотні паездак па Беларусі і вакол яе, знаходзілі тых, каго ня бачылі дзясяткі гадоў, і ўвесь час адчувалі, быццам грукаемся ў нябёсы, дакранаемся да сьвету чароўнага і містычнага.
Нашы героі, якіх разгаворвала Таня, усе як адзін аказваліся незвычайнымі людзьмі, а перадачы пра іх нібы самі сабою складаліся ў дзівосны гарманічны парадак. І мы не баяліся бясконца прызнавацца сабе, што мы шчасьлівыя. Нас не спыняла тое, што цуд – гэта, перш за ўсё, сьвет неспазнанага, што шчасьце нельга трымаць за хвост, што самае светлае заўсёды мяжуе з самым цёмным. І той, хто пасягае на авалоданьне цудам, рызыкуе страціць усё. Там, дзе жывыя цуды, там дзейнічаюць законы казачнага, а не зямнога жыцьця. Шчасьце і гора там – два бакі аднае рэчаіснасьці.
Варта было мне запісаць і выпусьціць у этэр апошнюю перадачу – быццам і сапраўды авалодалі цудам – як рэчаіснасьць павярнулася іншым бокам. На Каляды 2010 мы разьбіліся на машыне, і Тані ня стала. Неспазнаны сьвет чароўнага забраў яе, і цяпер яна – частка таго аднаго цуду ўжо назаўжды. Разам зь Ігарам Герменчуком, Ладай Шчаснай, а

цяпер і Арынай Вячоркай, і ўсімі майстроўцамі, што далучацца да іх кожны ў свой час.
Тое, што праз сто гадоў так і будзе, не выклікае сумневаў. Праз сто гадоў у зямным жыцьці застанецца толькі гэтая кніга – як сьведчаньне неўміручасьці беларускай душы, нашае супольнае маладосьці і Танінага прафэсійнага подзьвігу. Ведаю, так, як яна ўмела браць інтэрвію, размаўляць і разгаворваць людзей, ня можа і больш ужо ня зможа ніхто.

# Паказьнік асобаў



* Ф = Фотаальбом.

**Б**

**Г**

### Ґ



### Д



### Е



### Ё

### Ж



### З



### І

## К

**Л**

### Н



### О



### П

**Р**



**С**

### Т



### У



### Ф



### Х

### Ц



### Ч



### Ш

# Пра аўтара

**Сяргей Дубавец,** пісьменьнік, літаратурны крытык, журналіст, выдавец. Нарадзіўся 17 верасьня 1959 году ў Мазыры. Гадаваўся й вучыўся ў Менску. Скончыў журфак БДУ (1984). Служыў у войску (1978–1980). Выдавец нелегальных часопісаў «Люстра Дзён» (1980), «Бурачок» (1986), незалежных пэрыёдыкаў «Кантроль» (1988), «Літаратура» (1999) і інш. Працаваў у выдавецтве БелСЭ (1984), газэце «Гомельская праўда» (1984–1987), часопісе «Нёман» (1987–1990). Галоўны рэдактар газэтаў «Свабода» (1990–91) і «Наша Ніва» (1991–2000), радыё «Балтыйскія Хвалі» (2000–2001), аўтар перадачаў на Радыё Свабода (з 1997). Выдаў кнігі: «Практыкаваньні» (1991), «Русская книга» (1997, другое выданьне 2009), «Дзёньнік прыватнага чалавека» (1998), «Вострая Брама» (2005), «Вершы» (2007), «Як?» (2009).

# Summary

"Atelier: The Story of One Miracle" is the unlikely tale of how a sparklingly unique Belarusian identity emerged from the drab everyday conformity of Soviet existence.

It is Christmas of 1980 and a group of Minsk students calling itself the "atelier" decides to revive an old folk tradition of door-to-door caroling and collection of donations. This, as it turns out, is merely the first in a series of boldly subversive steps. The group soon becomes the nucleus of an ever-broadening national movement which eventually gives rise to a newly independent nation...

Here is the tale of the magical beginnings of the Belarusian "atelier" and its founders, 50 people whose Belarusian journey started thirty years ago.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.



**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.



**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.



**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў передачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.



*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.



*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.